бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе

Уладзімер Арлоў

# Пакуль ляціць страла



радыё свабода

**Уладзімер Арлоў. Пакуль ляціць страла.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2012. 400 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*
Рэдактар *Аляксандра Макавік*

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі Генадзя Драздова, Міколы Кузьміча і Сяргея Шапрана.

Шчыры дзякуй Культурна-адукацыйнай Фундацыі Орса Рамана.



ISBN 978-0-929849-43-0

# Зьмест

Страла Адысэя. *А. Лукашук* ........ 9

**Было**

Вацлаў Гавэл супроць Пятра І ........ 12
Дзьвіна, згаданая Гамэрам ........16
Сёмая чарка ........ 20
На якой мове спрачаліся Вітаўт зь Ягайлам ........ 24
Сьцягі Грунвальду ........ 27
«Александрыя» й «Дзікае паляваньне» ........ 30
Ня трэба сьпісваць! ........ 34
Ці быў на рыцарскіх турнірах допінг-кантроль? ........ 39
Ліцьвінкі, вольныя ліцьвінкі ........ 44
Вазьмі зброю, сядзь на каня ........ 50
«Хрысьціянскі Гарацый» вярнуўся дадому ........ 53
Спадар і скрыня каньяку ........ 57
Карэц халоднага расолу ........ 62
Ці тыя званы слухаў Чарадзей? ........ 66
Наша родная Андора ........ 70
Ад Скарыны да Свабоды ........ 73
Саюзная дамова караля Станіслава Аўгуста ........ 78
Як шклоўскі карлік Лукашка здаў графа ........ 83
Ліцьвінскі легіён Вялікай арміі ........ 87
Хто навучыў Маскву чытаць ........ 91
Чаму ў нас не Бэрнадоты?.. ........ 94
Межы Радзімы пазначым крывёю! ........ 98
«Ім мураўёўскі б гальштук ўзьдзець...» ........ 102
Мурын Янка — беларускі інсургент ........ 109
Славу — Айчыне, гонар — нікому ........ 112
Ратуй нас ад сябе самога, «трэці Рым»! ........116

Краіна, дзе асьветай кіраваў Тарашкевіч ........................ 121
Хто выйграў ад пакту Молатава — Рыбэнтропа? ................ 125
Адраджэнец Рудольф Абіхт ................................................ 130
Мы адпомсьцілі за таварыша Кірава .................................. 133
Першыя грошы ...................................................................... 136
Я ўмею граць на балалайцы ................................................ 137
Заварылі прараба ў трубу .................................................... 141
Парыж, чарніла, бажале ....................................................... 147
Дваццаць пяць рулёнчыкаў Ластоўскага ............................ 151
Ля вытокаў нацыянальнага піваізму .................................. 154
Zykina — no, Beatles — yes! ................................................... 157
Прароцтва Акудовіча .............................................................161
Ніякіх «беларусаў»! ................................................................. 166
Замах на Ніла Гілевіча ........................................................... 170
Чацьвертая падзея — гэта… .................................................. 173

**Ёсьць**

Мама Марыя і тата Аляксей ....................................................176
А на дэсэрт — манэта Жыгімонта ......................................... 180
«Лазьня» стаіць непарушна ................................................... 183
Штучнае дыханьне для Ірачкі ................................................ 186
Прабачце, гэта мой пэрыяд .................................................... 189
Матэрыяльна-тэхнічная база Нінкі Марозавай .................. 192
Шушкевіч як удзельнік дзяржаўнага перавароту ................ 194
Што такое тэйгелэх? ................................................................ 198
Ножка першай каханай .......................................................... 201
Кілішак авантурызму ..............................................................204
Гэбісцкі грасбух і муж адной паэткі ......................................205
Вы пісалі на туалетнай паперы? ............................................211
Пошум анёльскіх крылаў ........................................................ 215
Пакуль што ............................................................................... 219
Гліняны Вялес і Задніца Эўропы ...........................................220

Загінуць пад слоўнікамі ........................................ 224
Тут — дахоўка і брук, там — бэтонны паркан ........................ 227
Раскажыце мне свой анэкдот ........................................ 231
Закуска да чаркі гарбаты ........................................ 234
Цэнзура адрэзала органы ........................................ 238
«Чемпионат СССР по академической (гр)ебле» ........................ 242
Садысты чытаюць Мазоха ........................................ 247
Ён такі вынаходнік,
адважны няўрымсьлівы вершнік... ........................................ 252
Вазьму і прываражу ........................................ 259
Пяць тысяч без уліку маркітантак ........................................ 260
Зялёны? Бел-чырвона-белы? ........................................ 263
Сэкс прыдумалі зулусы ........................................ 266
У крэсьле міністра ........................................ 270
Дзікае Поле нашай падсьвядомасьці ........................................ 271
Страшны выпадак у мэтро ........................................ 273
Зайдзіце ў кветкавую краму ........................................ 275
«Дарогі... Корчмы... Ліра за сьпіною…» ........................................ 280
Пачытаю сябе дарагога ........................................ 281

**Будзе**

Маё Люхава ........................................ 284
Пражыць жыцьцё гадзіньніка ........................................ 288
Полацкія настрадамусы ........................................ 292
«Юшка» Натальлі Арсеньневай ........................................ 295
Дзеці лябірынтаў ........................................ 300
Хто зь сьвечкай йшоў па гулкіх сутарэньнях? ........................ 304
Плошча вернецца ........................................ 309
Булачка для Напалеона ........................................ 310
Закаменаваньне сьвятога Стэфана ........................................ 314
Кастусь або Вікенці? ........................................ 318
Калі заўтра — канец сьвету ........................................ 321

Дзень герояў будзе выхадны ........ 325
Куплю сабе выспу ........ 329
Знак СВБ на грудзях у яго ........ 332
За высокімі гарамі, за глыбокімі марамі ........ 336
Трансвэстыт Вова Арлоў ........ 339
Маркес з намі ........ 342
Ці будзе ў кіраўніка Беларусі жаночае імя? ........ 345
Воля, Венера, Вяргіня... ........ 348
Яе запясьці ........ 351
Апошні палёт гімнасткі ........ 352
Прыемна выпіць з прэзыдэнтам ........ 355
Прывітаньне ад прыдзьвінскай ведзьмы ........ 359
На мачанку з Ігнатам Грынявіцкім ........ 362
Падпольныя аборты і помнік СССР ........ 366
Пайсьці, як зь вялікай балюшкі ........ 372
Пытаньне самому сабе ........ 373

Паказьнік асобаў ........ 374
Пра аўтара ........ 392
Summary ........ 393

# Страла Адысэя

Ἄνδρα μοι ἔννεπε, Μοῦσα, πολύτροπον, ὅς μάλα πολλὰ...

Гамэр

Пра мужа мне раскажы, Муза, які жыве ў дарозе
Ад часу, калі сьцяг яго любы чырвоны на белым
Барбар на стужкі ірваў і сьмяяўся, і паэт у гісторыку
Даў клятву: ніколі не адмовіць нікому, хто кліча і хоча
Пачуць зь першых вуснаў праўду пра ўсё, што было
На зямлі гэтай, пра герояў і юдаў яе, пра нядолю і славу,
Пра каханьне і здраду, балі і бітвы, перамогі і страты,
Якія ня страчаны конча, а ёсьць вечным скарбам,
Нашай казной невычэрпнай, пакуль мы шануем і помнім,
І келіх, і меч і пяро ўздымаем, бо ўсё гэта ёсьць,
Бо было, а, значыць, і будзе, і мова, і сьцяг, і пасад
Між народаў, і тое вясельле апошняе, калі Радзіма,
Як Пэнэлёпа, дасьць лук жаніхам і той, хто нацягне
Цяціву, мусіць пацэліць стралой праз тузін калец,
І першае зь іх — гэта гонар, другое — адвага,
Трэцяе — мужнасьць, чацьвертае — годнасьць,
Пятае — цьвёрдасьць, а шостае — мудрасьць,
Сёмае — гэта цярплівасьць, а восьмае — хітрасьць,
Дзявятае — шчырасьць, дзясятае ёсьць справядлівасьць,
І адзінаццатае — вернасьць сабе, й таямнічае самае
Дванаццатае — любоў узаемная, якая была, ёсьць і будзе
На берагах Дзьвіны, пад званамі Сафіі, у кельлі Еўфрасіньні
За часам чумы і ў снах імпэратара, на дзікіх палях
І паромах Ля-Маншу, у кавярнях Вільні і гасподах Прагі,
На хвалях свабоды, у ложках каханак і нетрах радаводу
Імёнаў, якія зьмяніліся і якія ніколі ня зьменяцца,
Пакуль ляціць страла кучаравага полацкага Адысэя.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# Вацлаў Гавэл супроць Пятра I

*Спадар Уладзімер! Мы часта чуем і гаворым, што Беларусь — эўрапейская краіна. А як, на вашую думку, ці сапраўды яна такая ўжо эўрапейская? Можа, пасьля двухсот гадоў у Расейскай, а потым у савецкай імпэрыі, мы ператварыліся ў эўразійцаў, а прызнацца ў гэтым мужнасьці не хапае?*

*Воля, студэнтка*

Гістарычна, культурна, мэнтальна Беларусь належыць да Эўропы.

Нашы гарады жылі паводле магдэбурскага права. Нашы студэнты вучыліся ў эўрапейскіх унівэрсытэтах. Беларуская архітэктура мае помнікі ўсіх эўрапейскіх стыляў, пачынаючы з раманскага і готыкі. Беларускія землі былі ўсходнім аванпостам Рэнэсансу і Рэфармацыі — зьяваў, якія на стагодзьдзі прадвызначылі рух эўрапейскай цывілізацыі. Дзякуючы Францішку Скарыну нашыя продкі ў тую эпоху чацьвертыя ў хрысьціянскім сьвеце атрымалі друкаваную Біблію на сваёй мове. Раней за ангельцаў, французаў, палякаў... Напісаны і выдадзены па-беларуску Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году быў самым перадавым зборам законаў у тагачаснай Эўропе.

На ўсход ад Смаленску пачынаўся іншы сьвет, дзе асоба мела нязьмерна менш правоў і магчымасьцяў.

Нават самыя знакамітыя баяры ў Масковіі былі «холопами государевыми». Там, на вялікі жаль, не было ні талерантнасьці, ні магдэбурскага права, ні Рэнэсансу...

Безумоўна, наша нацыянальная самасьвядомасьць за дзьвесьце гадоў пагрозьліва дэфармаваная. Велізарная колькасьць беларусаў працягвае жыць у расейскацэнтрычным, а значыць, эўразійскім гістарычным і культурным полі. Цяперашнюю ўладу гэта цалкам задавальняе.

Вобласьці сьвяткуюць свае юбілеі, грунтуючыся на датах стварэньня царскіх губэрняў, што ўтварыліся пасьля інкарпарацыі нашых земляў. Віцебская губэрня, да прыкладу, існавала ад 1802 году, а Віцебскае ваяводзтва — ад 1503-га. Як кажуць, адчуйце розьніцу.

Прафэсійныя сьвяты ў нас адзначаюцца, за невялікім выняткам, на расейскі ці на савецкі ўзор: маўляў, у такім і такім годзе Пётар I або Ленін падпісаў указ ці дэкрэт пра стварэньне адпаведных калегіі або наркамату. Ды Пётар жа ніколі ня быў нашым манархам! А ў часы Паўночнай вайны, калі, між іншым, быў саюзьнікам Рэчы Паспалітай, адзначыўся тым, што ўласнаручна забіваў у полацкай Сафіі вуніяцкіх сьвятароў. Потым ягоныя салдаты ўзарвалі і сам сабор.

Неяк уключыў адзін з гэтак званых нацыянальных тэлеканалаў, а менавіта — ОНТ зь іхняй праграмаю «Наше утро». Заўсёды адтуль даведаесься нешта істотнае з айчыннай гісторыі. Гэтым разам гледача пачаставалі навіной пра тое, што, каб не Расейская імпэрыя, чыгунка ў Беларусі, аказваецца, зьявілася б значна пазьней. (Мне адразу згадалася:

якраз тады, калі ў перадавой Расеі цар падмахнуў указ пра адмену прыгоннага рабства, у Лёндане пайшлі першыя цягнікі мэтро.)

Нядаўна дзяржаўная прэса ашчасьлівіла нас яшчэ адной цікавай весткаю. У гістарычным цэнтры Менску, у прыватнасьці, каля адноўленай ратушы, каб прываблівáць турыстаў, неўзабаве, маўляў, могуць пачаць службу... гарадавыя. Я сьпярша не паверыў вачам.

Што такое ратуша? Гэта сымбаль магдэбурскіх вольнасьцяў, якіх нашы гарады былі пазбаўленыя пасьля прыходу расейскіх калянізатараў (менскую ратушу зруйнавалі таксама яны). А хто такі гарадавы? Гэта найніжэйшы чын гарадзкой царскай паліцыі. У Менску сярод іншых сваіх клопатаў гарадавыя дапамагалі разганяць патрыятычныя маніфэстацыі месьцічаў у змагарныя 1860-я гады.

Расейскія літаратура і журналістыка знайшлі для гарадавых шмат азначэньняў. Самае трапнае — «держиморда».

Няўжо гэты атрыбут колішняга каляніяльнага мінулага зьявіцца ў цэнтры «эўрапейскага гораду», як любяць называць Менск нашыя начальнікі? Хто стаіць за такім праектам «аздабленьня» Менску? Відавочна той, хто бачыць яго не эўрапейскай сталіцаю, а цэнтрам расейскай губэрні. Ці чулі пра гарадавых у кабінэтах Міністэрства культуры? Ці, можа, іх там ужо з страхам чакаюць?

Думаю, што мужнасьць нам патрэбная найперш не для таго, каб прызнавацца, у каго мы можам ператварыцца, а каб бараніць сваё спрадвечнае, эўрапейскае. Захоўваць нацыянальныя сьвяты і традыцыі. Станавіцца на абарону гістарычных

цэнтраў гарадоў, на якія паўзуць з бульдозэрамі сучасныя гэрастраты...

Выбачайце, здаецца, я пачынаю казаць рэчы, якія вы разумееце і безь мяне.

Хачу згадаць напрыканцы словы сьветлай памяці Вацлава Гавэла пра тое, што без дэмакратычнай Беларусі ён ня лічыць канфігурацыю Эўропы завершанай.

Але наша эўрапейская будучыня найперш залежыць ад нас саміх.

# Дзьвіна, згаданая Гамэрам

*Ці існавала ў продкаў разьвітая міталёгія накшталт антычнай?*
*Спадар Васіль*

Напачатку зазначу, што антычная міталёгія ў дачыненьні беларускай ня ёсьць нечым бясконца далёкім і чужым. На нашыя землі самахоць ці з волі злога лёсу завітвалі старажытнагрэцкія і рымскія героі, тут разыгрываліся драмы і трагедыі, вартыя пёраў Эсхіла і Сафокла.

Вы памятаеце міт пра Фаэтона?

Юнак-прыгажун на дзянёк выпрасіў у бацькі, бога сонца Гэліёса, ягоную калясьніцу. Ну захацелася хлопцу шыкануць, як цяпер нехта ганяе на бацькавым «мэрсе». Гэліёс пагадзіўся зь неахвотаю, і змрочныя прадчуваньні не падманулі. Вогненная запрэжка, адчуўшы няўпэўненую руку, панеслася, не разьбіраючы дарогі, — то ўзьлятаючы высока ў неба, то неміласэрна палячы агнём зямлю. Раззлаваны Зэўс шпурнуў у Фаэтона сваю маланку, і небарака грымнуўся ў далёкую ад роднага Алімпу раку Эрыдан. Сёстры, што прыйшлі на ягоную магілу, застылі дрэвамі. Іхнія сьлёзы падалі ў рачныя хвалі ды ператвараліся ў бурштын, а плынь несла іх, як пісаў Авідый, па залатым пяску да мора, каб урэшце зрабіць аздобамі для рымскіх красуняў.

Вы запытаецеся, чаму я ні з пушчы, ні з поля ўспомніў міт пра Фаэтона. Ды таму што Эрыдан (які,

між іншым, згадвалі і Гамэр, і ягоны вучань Гэсіёд, і аўтар паэмы «Арганаўтыка» Апалёній Радоскі) — гэта, на думку шмат каго з вучоных, нашая Дзьвіна. Не забудзьцеся, калі будзеце даваць у яе нырца.

Багі продкаў, як і іхнія антычныя калегі, былі паміж сабою ў разгалінаваным сваяцтве і складаных стасунках. У браты Перуну лёс паслаў жорсткага бога холаду Зюзю. Жонкаю Перуна стала спагадлівая багіня жыцьця і лета Жыва, якую яшчэ называлі па мужу Грамавіцаю. Калі Зюзя зусім замучыў людзей маразамі, Грамавіца сышла на зямлю, каб нарадзіць бога сонца Хорса. Выведка данесла Зюзю пра ейныя намеры. Той — каб не дапусьціць зьяўленьня супраціўніка на сьвет, — перакінуўся ў мядзьведзя і разам зь пераменenымі ў ваўкоў злымі духамі — завеямі пачаў ганяцца за Грамавіцаю. Ратуючыся, янаператварылася ў белую козачку і, схаваўшыся ў хмызьняках, нарадзіла Хорса-Дажбога, які хутка падрос і разабраўся зь Зюзем. Менавіта таму беларускія калядоўшчыкі і водзяць з сабою Казу.

Гэты міт падае ў сваім грунтоўным і дасьціпным нарысе «Дахрысьціянская вера нашых продкаў» вядомы рэлігійны дзеяч і гісторык Леў Гарошка. На яго старонках, апрача ўжо вядомых нам, дзейнічаюць такія каляритныя і ўплывовыя багі, як, напрыклад, Кон, што вызначаў долю і простаму чалавеку, і самім багам. Альбо бог хваробаў Яшчар зь ягонымі прыяцелькамі, злымі духамі ночы начніцамі, што перадалі сваё імя аднаму зь відаў кажаноў. Альбо магільны дух Копша, пра якога прыказка кажа: «З грашыма і Копшу дагодзіш»…

Але хацелася б зірнуць на праблему зь іншага боку.

Кожны народ мае ці, прынамсі, мусіць мець уласны нацыянальны міт. Маецца на ўвазе не набор прыгожых казачак і легендаў, а выразнае ўяўленьне пра ўласную гісторыю. Гэты міт (адрозна ад гістарычнай навукі, у якой свае задачы) дае простыя, але абгрунтаваныя адказы на пытаньні мінулага і аб’ядноўвае нацыю на шляху ў будучыню. Якраз такога міту нам дагэтуль востра не стае.

Прыкладаў колькі заўгодна. Спытайце ў літоўца, чыёй дзяржаваю было Вялікае Княства Літоўскае, і абавязкова даведаецеся, што літоўскай. Задайце гэтае ж пытаньне беларусу, і вы часта пачуеце той самы адказ: літоўскай.

Нейкае беларускае тэледзяўчо чырыкае па-расейску зь Вільні для суайчыньнікаў: маўляў, сёньня Літва адзначае дзяржаўнае сьвята, бо ў гэты дзень калісьці адбылася каранацыя вялікага князя Міндаўгаса. Дзяўчо нават ведае, дзе ён атрымаў каралеўскую карону — у горадзе Наўгардукасе. Цікава, ці патлумачыў ёй хто-небудзь хоць потым, што Наўгардукас — гэта Наваградак, першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага.

Мы павінны ясна ўсьведамляць, што нашай дзяржаўнасьці і культуры больш за тысячу гадоў. Што да канца XVIII стагодзьдзя наша зямля была часткаю агульнаэўрапейскай цывілізацыі. Што прыход расейцаў быў акупацыяй. Што 25 сакавіка 1918 году мы зноў сталі народам дзяржаўным, гэтым разам пад ужо цяперашнім імем…

Гістарычная сьвядомасьць — магутная стваральная сіла. Сёньняшнюю ўладу гэта палохае. Улада

хацела б, каб айчынная гісторыя ў мазгах беларуса пачыналася ад «лініі Сталіна». Альбо ад тых часоў, калі піва каштавала 37 капеек. А найлепей — наогул ад 1994 году, калі над занядбанай роднай старонкаю ўзышло сонца новага сьветлага жыцьця.

Улада намагаецца стварыць свой міт. Ды нацыянальныя міты ўсё ж твораць ня ўлады, а народы. Вядома, што нейкі час можна падманваць усіх, увесь час можна падманваць некаторых, але немагчыма ўвесь час падманваць усіх.

Будзьма самі ствараць свае міты!

# Сёмая чарка

*Памятаю, як маці ўзімку, у моцныя маразы, палохала нас, малых з былой заходнебеларускай вёскі: «Не хадзіце на двор, Зюзя ўхопіць!» Значна пазьней я даведаўся, што Зюзя — гэта ня проста нейкі жахлівік, а старажытны бог. А ці багаты быў, вобразна кажучы, Алімп нашых продкаў? Ці знойдуцца ў беларускім дахрысьціянскім пантэоне багі, аналягічныя, да прыкладу, антычным Марсу, Афрадыце, Нэптуну ці Бахусу?*

*Антось Сланімскі,*
*кандыдат эканамічных навук*

Тэма вашага пытаньня вартая не адной манаграфіі.

Продкі жылі ў сьвеце, вельмі шчыльна населеным багамі і бажкамі рознага кшталту.

Бог-бацька, валадар нябёсаў і ўсяго Сусьвету, меў некалькі імёнаў: Сварог, Стрыбог, Сьвятавід, але найчасьцей яго менавалі Родам.

Роду падпарадкоўваліся божышчы нябеснай сфэры, зямлі ды падземнага сьвету. Багамі сонца лічыліся Дажбог, Ярыла, Хорс. У іхнім ведамстве былі цяпло, урадлівасьць зямлі, дабрабыт… Богам ураджаю і дастатку быў Купала. Надзвычай шанавалі на старажытнабеларускіх землях Вялеса, адказнага за свойскую жывёлу. Аднак ён цікавіўся і мастацтвам — у прыватнасьці, абрадавымі песьнямі

і паэзіяй. Баян з «Слова пра паход Ігаравы» (незалежна ад таго, зьяўляецца гэты твор літаратурнай містыфікацыяй альбо не) не выпадкова названы Вялесавым унукам. Штогадовая прэмія нашага Таварыства вольных літаратараў таксама, дарэчы, завецца не як-небудзь, а — «Гліняны Вялес».

Тым, хто зьбіраецца заглыбіцца ў праблему, магу параіць зазірнуць дзеля пачатку ў энцыкляпэдычны слоўнік «Беларуская міталёгія».

Ну а цяпер пашукаем сваіх, родных багоў, адпаведных антычным алімпійцам, якія названыя ў пытаньні.

Найпрасьцей з Марсам. Вайсковымі справамі ў нас займаўся Пярун — волат зь сівымі або вогненна-рудымі кучарамі, што трымаў у руцэ лук і стрэлы-маланкі.

На ролю Афрадыты-Вэнэры прэтэндуе багіня каханьня Лада. Побач зь ёю звычайна дзейнічала вясёлая спрытная троіца: апекуны закаханых Лель і Палель, а зь імі Любіч, заданьнем якога было давесьці маладых каханкаў да шлюбу. Цёплыя пачуцьці да згаданых багоў вякамі захоўваліся ў продкаў і пасьля прыняцьця хрысьціянства. Нават у XVII стагодзьдзі праваслаўныя багасловы з абурэньнем пісалі: «Шануюць старых бажкоў Леля і Палеля і агідныя Богу іхнія імёны крычаць на ігрышчах. Славяць на вясельлях і матку іх Ладу… І нячысьціка Купалу славяць, забыўшыся на імя Госпада нашага. І агонь раскладаюць на тым д’яблавым ігрышчы, і скачуць цераз яго…» Тое, што пачыналася потым, тагачасныя змагары за высокую маральнасьць называлі «отрокам — осквернение, девам — растление».

Больш складана выглядае справа з Нэптунам-Пасэйдонам. Адсутнасьць мора зьменшыла і маштаб божышча, адказнага за водную стыхію. У беларусаў гэтая роля належыць Вадзяніку, якога называлі яшчэ Вадзяным дзедам альбо Вірнікам. Затое вадзянікоў у нас — процьма, у кожнага возера ці ракі — свой. Як вядома, толькі азёраў у Беларусі 11 тысячаў. А рэкі, рэчкі, рачулкі… Уяўляеце гэтую армію вадзянікоў?

Варта дадаць, што жонкі вадзянікоў, русалкі, вядуць даволі вольнае жыцьцё. Але таму, хто адважыцца на блізкае знаёмства з русалкаю, трэба мець на ўвазе, што вадзянік — асоба раўнівая, агрэсіўная і помсьлівая, асабліва на Купальле і на Ільлю.

Цяпер што датычыць адпаведнікаў Бахуса-Вакха. Быў у продкаў такі бажок — гарэза і рагатун Пераплут, які падносіў чалавеку чару з хмельным мёдам і дарыў весялосьць. Аднак з-за яго плячэй вызіраў нячысьцік Апівень. Ён цягаўся па ўсіх бяседах, падпойваў застольнікаў і скідваў іх долу, ператвараючы, так бы мовіць, у падстольнікаў. Пабачыць Апіўня можна было толькі пад добрай чаркай, а перапіць нячысьціка ніхто ня мог.

Колькі гадоў таму выйшла кніжка «Чароўны сьвет. Зь беларускіх мітаў, паданьняў і казак». Аформіў яе знакаміты мастак Валеры Славук, наш галоўны знаўца аблічча ўсіх паганскіх багоў і нячысьцікаў. (У мяне такое ўражаньне, што ён безьліч разоў з усімі імі сустракаўся і наступнага разу можа завітаць на гасьціны ў кампаніі зь якім-небудзь Пахвістам ці Падвеем.) У аповедзе, прысьвечаным Апіўню, Славук, натуральна, намаляваў застоліцу. Але ня простую, а з сакрэтам.

Чаркі падымаюць пэрсанажы, надзіва падобныя да некаторых беларускіх мастакоў і нават кіраўнікоў іхняга творчага саюзу.

Трэба аддаць творцам належнае: ніхто зь іх паддавацца Апіўню (прынамсі, на малюнку) не зьбіраецца. А вось адгадаць, хто на ім ёсьць хто, магу прапанаваць у якасьці хатняга заданьня. Тым больш, што ў кнігарнях зьявілася новае выданьне «Чароўнага сьвету».

Такім чынам, сядаючы за стол, выбірайце, хто будзе вашым апекуном: Пераплут ці Апівень. А таксама памятайце, што сёмую чарку продкі лічылі «богагнявіцельнай».

## На якой мове спрачаліся Вітаўт зь Ягайлам

*Паважаны спадар Арлоў, ці можна адназначна сьцьвярджаць, што беларуская мова была ў Вялікім Княстве Літоўскім дзяржаўнай? На якой мове, напрыклад, размаўлялі нашыя князі?*
*Эдуард, Стоўпцы*

Будучы людзьмі цывілізаванымі ды кіраўнікамі поліэтнічнай дзяржавы, вялікія князі Гедзімін і Вітаўт, як і іхнія папярэднікі і бліжэйшыя наступнікі, ведалі некалькі моваў, у тым ліку маглі паразумецца і з сваімі падданымі-балтамі. (Паводле некаторых зьвестак, апошнім князем, які ведаў іхнюю мову, быў Казімер Ягайлавіч.) Аднак у палітычным, эканамічным і культурным жыцьці Княства дамінавалі беларускія землі. Цалкам заканамерна мова іх насельніцтва ў другой палове XIV стагодзьдзя зрабілася ў краіне дзяржаўнай і захоўвала гэты статус да 1696 году.

На старабеларускай мове тады гаварыў увесь віленскі вялікакняскі двор. На ёй працавала дзяржаўная канцылярыя. Захаваліся сьведчаньні, што Альгерд цудоўна валодаў нямецкай мовай, але з пасламі Тэўтонскага ордэну заўсёды размаўляў праз перакладчыка — «па-русінску», іншымі словамі — на тагачаснай беларускай мове. Нямецкі пасол запісаў у дзёньніку, што «па-русінску» гаварылі Вітаўт і ўсе прыдворныя. Выдатны прыклад для некаторых цяперашніх палітыкаў.

Наша мова — адна з найдаўнейшых дзяржаўных нацыянальных моваў у Эўропе. Ангельская сталася афіцыйнай у 1362 годзе, француская — у 1400-м.

Па-старабеларуску ствараліся і выдаваліся ўсе зборы законаў дзяржавы, сярод якіх і самы дасканалы ў Эўропе Статут 1588 году. На мове нашых продкаў пісалі соймавыя пастановы. Яна актыўна выкарыстоўвалася ў дыпляматычным ліставаньні з Масковіяй ды іншымі суседнімі краінамі. Не існуе ніводнага дзяржаўнага дакумэнту Вялікага Княства, які быў бы напісаны па-літоўску (у сучасным разуменьні гэтага слова). Яно й ня дзіва, бо мова, на якой размаўлялі продкі сёньняшніх літоўцаў — жамойты, да XVI стагодзьдзя яшчэ ня мела пісьменства. З гістарычных крыніцаў вядома і тое, што, выпраўляючыся ў які-небудзь населены жамойтамі куток дзяржавы, віленскія вялікакняскія службоўцы бралі з сабою перакладчыкаў на беларускую і зь беларускай.

Старабеларуская была таксама моваю летапісаў і хронік, шматлікіх мастацкіх твораў. Напэўна, вам будзе цікава даведацца, як гучала тая мова ў літаратурным варыянце. Падкрэсьліваючы яе значнасьць як дзяржаўнай, вялікі канцлер Леў Сапега з гонарам пісаў: «А еслі катораму народу ўстыд праў сваіх ня ўмеці, пагатоў нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы сьпісаныя маем і кождага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды, ведаці можам». Дарэчы, у Польскім каралеўстве ўсе ўстановы — як сьвецкія, так і духоўныя — вялі ў той пэрыяд справаводзтва на не зразумелай простым людзям лаціне.

Па-беларуску складзеная велізарная колькасьць

разнастайных матэрыялаў гэтак званай Літоўскай Мэтрыкі (архіву вялікакняскай канцылярыі), якая налічвае болей за 600 тамоў. Пераважная іх большасьць у XIX стагодзьдзі была вывезеная ў Расею. Калі ў 1920-м бальшавіцкі ўрад падпісаў мірную дамову зь незалежнай Літвой, тая, прэтэндуючы на гістарычную спадчыну Вялікага Княства, запатрабавала вярнуць Мэтрыку. Адзін з запрошаных экспэртаў, беларускі гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі, прапанаваў перадаць літоўцам усе дакумэнты на іхняй мове. Такіх у сотнях тамоў Мэтрыкі не знайшлося ніводнага.

У гэтай самай справе літоўцы зьвярталіся па дапамогу і да старшыні эміграцыйнага ўраду БНР Вацлава Ластоўскага. Той даручыў падрыхтаваць праект пагадненьня, дзе згаджаўся на перадачу Літве дакумэнтаў, складзеных на мове гэтай дзяржавы. У сваю чаргу, просьбіты мусілі назаўсёды адмовіцца ад дакумэнтаў, напісаных па-беларуску. Літоўскі ўрадовец узрадавана падпісаў пагадненьне і, як сьведчаць відавочцы, спрабаваў апэраваць ім у Маскве «на вялікі канфуз свайго начальства».

Бальшыня сучасных літоўскіх гістарыёграфаў, на жаль, яшчэ не сасьпела для таго, каб прызнаць старабеларускую дзяржаўнай моваю Вялікага Княства. Ня маючы ніякіх падставаў назваць яе літоўскаю, яны насуперак відавочным фактам упарта выназходзяць іншыя назовы — напрыклад, «афіцыйная славянская» ці нават проста «канцылярская».

Мо і ня варта зь імі спрачацца. Галоўнае — ведаць самім. Як казаў легендарны кітайскі мысьляр Лао Цзы, найбольш зацята спрачаецца той, хто альбо ня ведае, альбо прагне схаваць ісьціну.

## Сьцягі Грунвальду

*Нядаўна падарожнічалі зь сябрамі па Літве. Віленскі экскурсавод шмат казаў пра Грунвальдзкую перамогу, бо адзначалася яе 600-годзьдзе. Мы пачулі, што вырашальную ролю ў бітве адыграла літоўскае войска Вітаўта. Давялося заўважыць, што гэта было ўсё ж не літоўскае войска, а войска Вялікага Княства Літоўскага, і запытацца: колькі там было літоўскіх, а колькі беларускіх палкоў? Разгарэлася спрэчка, але, шчыра кажучы, аргумэнтаў нам не хапіла. Ці не маглі б вы ўнесьці яснасьць?*

*Уладзімер, выкладчык фізыкі*

Можна спрачацца пра агульную колькасьць ваяроў, што бралі ўдзел у бітве з боку Тэўтонскага ордэну і ад Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны. «Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі», да прыкладу, паведамляе, што крыжакі страцілі 40 тысяч забітымі ды 15 тысяч палоннымі, хоць большасьць сучасных дасьледнікаў мяркуе, што ўся выстаўленая Ордэнам армія наўрад ці магла складаць болей за 30 тысяч.

Можна дыскутаваць, хто меў лепшае ўзбраеньне. Можна весьці палеміку на тэму: хто кіраваў злучанымі сіламі Літвы (у гістарычным разуменьні гэтага назову) і Польшчы? Ягайла, як традыцыйна лічылася, ці Вітаўт, на карысьць чаго таксама існу-

юць важкія доказы? Можна іранізаваць над некаторымі татарскімі аўтарамі, якія сьцьвярджаюць, што кавалерыя хана Джэлал-ад-Дзіна не ўваходзіла ў склад Вітаўтавага войска, а, налічваючы 15 тысяч ваяроў (лічба абсалютна казачная), была самастойнай арміяй.

Асобныя гісторыкі наогул ставяць пад сумнеў гістарычную значнасьць разгрому тэўтонцаў.

Але ёсьць факты, якія цяжка аспрэчыць.

Крыніцы згадваюць ня проста «літоўскае войска», а канкрэтныя палкі-харугвы, якія прывёў на Грунвальдзкую (ці Дубровенскую, як называлі яе нашыя летапісы) бітву Вітаўт. Дарэчы, трыццаць зь іх мелі на сьцягах «Пагоню», а дзесяць — «Калюмны», іншы дзяржаўны сымбаль Вялікага Княства.

Польскі храніст XV стагодзьдзя Ян Длугаш піша, што пазыцыі на полі бітвы занялі харугвы: берасьцейская, ваўкавыская, віленская, віцебская, гарадзенская, дарагічынская, кіеўская, ковенская, крамянецкая, лідзкая, медніцкая, мельніцкая, наваградзкая, пінская, полацкая, смаленская, старадубская, троцкая ды іншыя.

Кіеўская і крамянецкая прыйшлі з украінскага абшару.

Што датычыць этнічна літоўскіх (у цяперашнім сэнсе) земляў, то хроніка Длугаша — галоўная крыніца для вывучэньня тых падзеяў — называе толькі ковенскую харугву. У віленскай, медніцкай і троцкай, як мяркуюць нашы гісторыкі, пераважалі славяне. Але нават калі гэта ня так, агульная карціна ўсё адно не патрабуе лішніх камэнтароў.

Хіба што некалькі словаў пра гэтак званыя «тры

русских смоленских полка» (азначэньне расейскай гістарыяграфіі), якія ледзьве не адны выйгралі бітву.

Гаворка ідзе пра амсьціслаўскую, аршанскую і ўласна смаленскую харугвы, выстаўленыя Смаленскай зямлёй, што на той час ужо была часткаю Вялікага Княства Літоўскага. Гэтыя харугвы, пакінутыя Вітаўтам для прыкрыцьця правага флянгу палякаў, сапраўды праявілі незвычайную мужнасьць і амаль цалкам палеглі.

Пытаньне этнічнага складу войска Вялікага Княства ўзьнікла і на навуковай канфэрэнцыі, прысьвечанай 600-годзьдзю Грунвальду. У адказ на агучаны сьпіс харугваў зь беларускіх земляў адзін зь літоўскіх навукоўцаў выставіў арыгінальны контраргумэнт: маўляў, у тыя часы войска не камплектавалася паводле этнічнага прынцыпу. Але хто тады жыў у Полацку, Віцебску, Менску, Воршы, Пінску, Горадні, Наваградку?..

Калі будзеце спрачацца зь літоўцамі на гэтую тэму наступны раз, папрасіце апанэнтаў назваць грунвальдзкія палкі, выстаўленыя іх этнічнымі землямі. Але зазначце, што аніякай ганьбы для літоўцаў у суадносінах славянскіх і балцкіх харугваў Княства, вядома, няма. Рэч у тым, што за часамі Вітаўта населеныя балтамі землі займалі ўсяго блізу $^{1}/_{15}$ часткі ягонае дзяржавы.

А найлепей з суседзямі ня чубіцца, а выпіць за агульную перамогу продкаў пляшку іхняга «Сукцінісу» ці нашае «Белавескай».

## «Александрыя» й «Дзікае паляваньне»

*Скажыце, калі ласка, якія кнігі ў нас чыталі гадоў пяцьсот назад? Ці існавала штосьці накшталт тагачасных бэстсэлераў? І, як вы думаеце, ці будуць нашыя нашчадкі чытаць кнігі яшчэ праз пяцьсот гадоў?*
*Леанід Гельфанд*

Калі я думаю пра чытаньне, заўсёды згадваю словы Эліяса Канэці: «Табе найбольш хацелася б неўміручасьці — якая сьціпласьць! — каб чытаць».

Падданыя вялікіх князёў Жыгімонта Старога альбо Жыгімонта Вазы працытаванага нобэлеўскага ляўрэата, відаць, не чыталі, але сярод іх, безумоўна, знайшліся б асобы, гатовыя падпісацца пад ягонымі словамі.

Напрыклад — паэт і філёзаф Саламон Рысінскі, што блізу 1600 году заняў пасаду прыдворнага вершатворцы і выхавальніка дзяцей у аднаго з князёў Радзівілаў. (Дарэчы, наш гісторык зь Беласточчыны Алег Латышонак лічыць спадара Саламона першым у гісторыі беларусам — на той падставе, што Рысінскі ў шматлікіх вандроўках па Эўропе нязьменна менаваў сябе «леўкарусус»: «леўкос» у перакладзе з грэцкай азначае «белы».) Пасьля сябе паэт пакінуў 1000-тамовую бібліятэку, дзе Гамэр, Гэрадот і Ювэнал суседзілі з Томасам Морам, Ульрыхам фон Гутэнам, Янам Кахаdebug ноўскім...

У зборы старэйшага Саламонавага сучасьніка Сімяона Полацкага, што зьдзейсьніў сапраўдную культурную рэвалюцыю ў Маскве, знаходзіліся творы Цыцэрона, Тамаша Аквінскага, Эразма Ратэрдамскага, айцоў хрысьціянскай царквы, граматыкі, слоўнікі, зельнікі. Хацеў бы я зазірнуць і ў трактат пад назовам «Книга преудивительная таинств женских, еще о силах трав, каменей, зверей, птиц и рыб…». Дзяку-маскоўцу, што рабіў вопіс Сімяонавай спадчыны, часта не ставала адукацыі, і ён проста пазначаў: «Книга всего мира описание» або «Творение Андриана Тулия, латинское».

Сьпісу кніг Скарынавай бібліятэкі не захавалася, аднак можна меркаваць, што яна шмат у чым нагадвала кнігазборы асьвечаных суайчыньнікаў.

Але мы вядзем гаворку пра асобаў выбітных. А які́м было кола чытаньня паспалітага люду?

Яно было абумоўленае ўлучанасьцю Літвы-Беларусі ў агульнаэўрапейскую культурную прастору.

Вялікай папулярнасьцю карысталіся беларускія пераклады «Гісторыі пра Атылу», «Аповесьці пра Баву» і «Аповесьці пра Трышчана і Іжоту». Згаданыя творы ўводзілі продкаў у рыцарскі сьвет Заходняй Эўропы.

Уладкаваўшыся ў доўгі зімовы вечар каля цёплай кафлянай грубкі з выявамі радавога ці гарадзкога гербу, шляхціч або заможны рамесьнік разгортваў прыгодніцкі раман «Александрыя», які карыстаўся ня меншай папулярнасьцю, чым праз пяцьсот гадоў «Дзікае паляваньне караля Стаха» Ўладзімера Караткевіча. Дачытаўшы апісаньне паходу Аляксандра Македонскага на загадкавы Ўсход,

такі чытач меў магчымасьць узяцца за «Аповесьць пра Трою».

Названыя вышэй кнігі і можна назваць тагачаснымі бэстсэлерамі. «Александрыю» і «Трою» згадвае ў адной з сваіх прадмоваў да біблійных кніг Скарына. Ягоную Біблію не рызыкну далучаць да бэстсэлераў, бо гэта будзе патыхаць блюзьнерствам.

Устойлівы попыт у вузкіх колах мела літаратура, якую можна назваць спэцыяльнай. Зьвездары-астролягі, напрыклад, штудыявалі «Шасьцікрыл», трактаты «О седми звездах великих яже ся нарицаются планеты» і «Двенадцать звезд, что владеют ко двенадцати частям человеческим». Будучыню спрабавалі расчытаць і рознымі іншымі мэтадамі, у тым ліку з дапамогаю авечай лапаткі. Настаўленьнем тут служыла кніга «Лапатачнік», што цалкам называлася «Книга от Петра египтянина, иже научаются ведати неисходимого плеча овец».

Ува ўсе часы адукаванага чалавека вабіла літаратура забароненая, якая тады (хоць інквізыцыя і праіснавала ў нас усяго некалькі дзесяцігодзьдзяў) патыхала дымком. Уначы, завесіўшы вокны ды замкнуўшы дзьверы на засаўкі, полацкі ці віленскі месьціч зь лёгкай вусьцішшу браў у рукі крамольную «Арыстотэлеву Браму», адкуль даведваўся «о премудростях особных и таиниц хованых, и о каменех дорогих, о премудрости порсунной, о белости, о власех, о бровех, о ноздрех, о челе, о устех, о лице, о ушию, о гласе, о шии, о чреве и о персех, о плечех и хребте».

Не выключаю, што нехта з тых чытачоў разважаў, ці будуць — калі, зразумела, ня здарыцца

канца сьвету, — чытаць кнігі ў XXI стагодзьдзі. Мы — чытаем. Будуць займацца гэтым і празь пяць вякоў. Можа, яшчэ й нашыя сёньняшнія бэстсэлеры перавыдадуць.

Выйшаў жа колькі гадоў таму беларускі «Трышчан», да якога прыклаў руку (і грошы) былы польскі амбасадар у Беларусі Марыюш Машкевіч. У сакавіку 2006-га ён сядзеў у турме на Акрэсьціна ў суседняй камэры з маім сынам Багданам, дык я заадно занес пару перадачак і Марыюшу. Як бачым, недарэмна.

А на заканчэньне яшчэ адна цытата з Канэці: «Чытаць, пакуль вейкі ціхенька не зазьвіняць ад стомы».

## Ня трэба сьпісваць!

*А як выглядаюць у роднай беларускай літаратуры справы з такой адвечнаю «творчаю» праблемай, як плягіят? Ці адбываліся нейкія гучныя скандалы, выкрыцьці, суды прафэсійнага гонару?*

*Марыя Сьмірнова, палачанка*

Для пачатку нагадаю, што слова «плягіят» паходзіць ад лацінскага *plagio*, што значыць «выкрадаю». Плягіят — гэта наўмыснае прысваеньне аўтарства чужога твору літаратуры, навукі ці мастацтва. За такі від крадзяжу, між іншым, прадугледжаная адказнасьць паводле артыкулу 201 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Але нягледзячы на пэрспэктыву маральнага, а то і крымінальнага асуджэньня, праблема, як вы слушна заўважылі, сапраўды адвечная.

Калі казаць пра даўняе мінулае, дык у нашай гісторыі самы вядомы прыклад плягіяту зьвязаны з імёнамі Аляксандра Гваніні ды ягонага сучасьніка Мацея Стрыйкоўскага.

Першы нарадзіўся ў Вэроне, але зь юнацтва служыў у войску Вялікага Княства Літоўскага. Зрабіў кар’еру і ў гады Інфлянцкай вайны займаў пасаду віцебскага камэнданта. Мацей Стрыйкоўскі, якога потым назавуць ліцьвінскім Гамэрам, таксама ваяваў тады з маскоўскімі захопнікамі, прычым якраз пад камандаваньнем колішняга вэронца.

Мацей быў выведнікам, альбо, як тады казалі, рыскуном. А ў вольны час складаў вершы і рабіў занатоўкі з гісторыі.

І вось аднойчы, выпраўляючы падначаленага на чарговае заданьне ў бок маскоўскай мяжы, камэндант папрасіў у Мацея пачытаць тое, што ён вечарамі панапісваў. Вершы Гваніні пагартаў без асаблівай увагі, а гістарычныя нататкі Стрыйкоўскага настолькі прыйшліся італійцу даспадобы, што ён іх хуценька перапісаў. А потым і выдаў пад назовам «Хроніка Эўрапейскай Сарматыі», пазначыўшы аўтарства ўласным імем.

Некаторыя сёньняшнія гісторыкі бяруць увішнага вэронца пад абарону. Але будзьма памятаць, што сам Мацей Стрыйкоўскі на старонках сваёй славутай «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» зноў і зноў нагадваў былому начальніку, што сьпісваць — ня добра.

Перанясемся з XVI у XX стагодзьдзе і пераканаемся, што маральнага прагрэсу, відаць, усё ж сапраўды не існуе.

Неяк на хвалях «Свабоды» патрыярх нашае літаратуры Мікола Аўрамчык згадваў, як калісьці паэт З. спрытна пераклаў на беларускую вершы расейскага паэта Льва Ашаніна і надрукаваў іх у часопісе «Маладосць».

А вось празаік Ш. сьпісаў у аднаго расейскага калегі цэлую дзіцячую кніжку. Пікантнасьць сытуацыі палягае ў тым, што спасылка на артыкул пра «творчы подзьвіг» Ш. — ці то праз недагляд, ці то наадварот праз прынцыповасьць укладальнікаў — трапіла ў шасьцітомны біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменьнікі». Можна сказаць, што

яна аздобіла сабою прысьвечаны гэтаму літаратару разьдзел. Артыкул немудрагеліста называецца «Копію зьняў Іван Ш.», і, маючы ахвоту, публікацыю можна знайсьці ў падшыўцы газэты «Літаратура і мастацтва» за 1968 год (вядома, калі празаік Ш. не прачытаў нумар ад 19 сакавіка, папярэдне ўзброіўшыся лязом).

Прыкладна ў тыя самыя часы літаратар К. перапісаў апавяданьне ў калегі зь Якутыі ды пераўвасобіў свой «твор» па-беларуску. Аднак геаграфічная аддаленасьць «першакрыніцы» не дапамагла схаваць канцы ў ваду.

Судом прафэсійнага гонару сталася паседжаньне Рады Саюзу пісьменьнікаў, на якім К. выключылі з афіцыйных літарацкіх шэрагаў. Аднак ён стаў на шлях выпраўленьня, пачаў менш чытаць чужых твораў, а больш пісаць сваіх і, урэшце, зноў папоўніў сабою згаданыя вышэй шэрагі.

Хачу сказаць, што я не называю прозьвішчаў герояў, шкадуючы пачуцьці іхніх дзяцей і ўнукаў. Саміх герояў ужо няма на гэтым сьвеце, а на тым займацца плягіятам, відаць, значна больш складана. Цікава, дарэчы, куды плягіятар там за свае грахі трапляе? У каталікоў пэрспэктывы, вядома, лепшыя, бо яны маюць чысьцец.

Што датычыць празаіка К., дык ён яшчэ тут ачышчаўся ад грахоў ня толькі сумленнай працаю за пісьмовым сталом, але і на іншым фронце. Напрыканцы мінулага стагодзьдзя К. працаваў вахцёрам у Маладэчанскім гарвыканкаме. Пасьля рэфэрэндуму 1995 году якраз падчас начных дзяжурстваў К. над давераным яму будынкам пачаў зноў і зноў зьяўляцца бел-чырвона-белы сьцяг.

Гадоў дзесяць таму адзін малады чалавек набыў нашую з Генадзем Сагановічам кнігу «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі». У асобе гэтага хлапца мы займелі ўнікальнага чытача. Ён амаль даслоўна перадзіраў старонку за старонкай і друкаваў іх, ставячы напрыканцы ня нашыя два прозьвішчы (ці хаця б тры, улучна з сваім), а толькі адно. Вы здагадаліся, чыё.

На добры лад, трэба было даць таму адмыслоўцу па руках, ды, пакуль тое, маладзён пасьпеў надрукаваць у розных выданьнях практычна ўсю кніжку. Урэшце я вырашыў заплюшчыць на гэта вочы, пагатоў нашыя тэксты нязьменна зьмяшчаліся пад рубрыкай «Ведай гісторыю сваёй краіны». Ну што тут запярэчыш! Ведай!

І апошняя гісторыя.

Выступаем мы зь вядомым бардам, журналістам і літаратарам Зьмітром Бартосікам у невялікім усходнебеларускім гарадку. Зьміцер сьпявае сваё «Разьвітаньне зь Вільняй». Памятаеце, там ёсьць рэфрэн:

*Такія месты проста так не пакідаюць...*

Я тым часам гартаю падараваныя нам нумары мясцовай газэты. І раптам на літаратурнай старонцы сустракаю такія самыя, як кажа знаёмы паэт, радочкі.

Не, усё ж крыху не такія, а творча перапрацаваныя:

*Такія ногі проста так не пакідаюць...*
*Такія вочы проста так не пакідаюць...*
*Такія грудзі проста так не пакідаюць...*

Цэлая паэма пра любоў.

Як выяўляецца, у зале прысутнічае і аўтар, і сама ўладальніца апетых ім вабнотаў. І праўда, скажу вам, такія грудзі, што адразу натхненьне накочваецца…

Бартосік паставіўся да здарэньня зь вялікадушнасьцю мэтра. А праз пару гадоў мы даведаліся, што тыя непаўторныя ногі разам з вачыма й грудзямі, але ўжо без паэта, узялі курс на братнюю Польшчу і не вярнуліся.

Хто ведае, ці не адыграў фатальнае ролі наш прыезд?

Паэта, вядома, крыху шкада. Але затое ён атрымаў добры ўрок: ня трэба сьпісваць!

Вы чуеце, плягіятары?

# Ці быў на рыцарскіх турнірах допінг-кантроль?

*Перапрашаю за, магчыма, наіўнае пытаньне. Але ўсё ж, ці можна казаць, што нашы далёкія продкі, да прыкладу, у часы Вялікага Княства Літоўскага, займаліся спортам ці нечым падобным? І колькі магло быць такіх «спартоўцаў»?*

*Чытач з спартовым мінулым*

А як вы думаеце, чаму беларусы традыцыйна ўдала выступаюць на спаборніцтвах у веславаньні, біятлёне альбо фэхтаваньні?

Яшчэ невядома, ці абагнаў бы наш алімпійскі чэмпіён Уладзімер Парфяновіч на сваёй байдарцы човен якога-небудзь зухаватага ліцьвіна часоў князя Вітаўта. І ці не перамог бы ўляўраных беларускіх фэхтавальнікаў знакаміты ўва ўсёй тагачаснай Эўропе дуэлянт Багуслаў Радзівіл. Дарэчы, за «спартовыя» посьпехі ён нават патрапіў на колькі дзён у камэру парыскай Бастыліі, дзе, трэба спадзявацца, уволю папіў турэмнага віна ды паеў камамбэраў з кумпякамі. (Гэта не мая фантазія, а пацьверджаны дакумэнтамі рацыён вязьняў.)

Ну а стваральнік «Песьні пра зубра» Мікола Гусоўскі ў юнацтве быў ня кім-небудзь, а, кажучы сучаснай мовай, біятляністам. Толькі атрымліваў ад свайго занятку значна больш адрэналіну, бо стра-

ляў па жывых мішэнях, і пакараньне мог заробіць істотнейшае, чым некалькі штрафных колаў.

Калі ж казаць сур'ёзна, то найбольшае падабенства з сучаснымі спаборніцтвамі мелі рыцарскія турніры, якія зьбіралі ўдзельнікаў з розных эўрапейскіх краінаў.

Уявіце, што вы — удзельнік турніру. Зьявіцца на яго трэба было за чатыры дні да пачатку. Невядома, як тады адбываўся допінг-кантроль, але праводзілі яго, відаць, ужо на другі дзень, бо першы прысьвячаўся ўрачыстай вячэры і танцам. Назаўтра судзьдзі абмяркоўвалі кандыдатуры спаборнікаў. Дзеля гэтага на ўсеагульны агляд выстаўляліся іхнія баявыя шаломы й сьцягі. Пасьля гучнага абвяшчэньня імя рыцара кожны з прысутных меў права сказаць сваё слова. Калі б пра вас даведаліся нешта благое, шалом скінулі б на зямлю, і заставалася толькі з пахіленай галавою ехаць дадому.

На трэці дзень рыцары ўрачыста прысягалі выконваць турнірныя правілы, якія для ўсёй Эўропы былі прыкладна аднолькавыя. Тым часам уздоўж рысталішча ладзіліся трыбуны для гледачоў. За паядынкамі, што адбываліся на гарадзкіх пляцах, можна было за плату назіраць з вокнаў блізкіх дамоў. Часам турнірныя гульні праходзілі і на закрытых арэнах — у вялікіх залях палацаў і замкаў.

Непасрэдна перад спаборніцтвамі судзьдзі правяралі якасьць і даўжыню зброі, найперш дзідаў. Яны мусілі мець аднолькавыя парамэтры. Коні таксама падбіраліся аднаго росту, каб праціўнікі мелі роўныя ўмовы і перамога залежала толькі ад майстэрства. Спаборнікі выпрабоўвалі сілу і ва-

ярскае ўмельства і камандамі, і, як цяпер кажуць, у індывідуальным заліку.

Самым доўгачаканым момантам, натуральна, было ўзнагароджаньне пераможцаў. Спачатку яны проста забіралі сабе каня і зброю суперніка. Потым зьявіліся іншыя ўзнагароды — срэбны панцыр, меч з залатым эфэсам, залаты рыцарскі пас і такія самыя астрогі-шпоры.

Прызы прысуджаліся і тым рыцарам, якія найдаўжэй пратрымаліся на рысталішчы і захавалі некранутымі аздобы на шаломах. Ушаноўвалі за самы трапны ўдар і самую вялікую колькасьць скрышаных дзідаў праціўніка. Адмысловы прыз чакаў рыцара, які прыехаў на спаборніцтвы з найбольш далёкай краіны.

Узнагароды ўручаліся на сьвяточнай застоліцы, дзе спаборніцтвы працягваліся ў выглядзе ўзаемных жартаў — часам бяскрыўдных, а, здаралася, і не.

Неяк на турніры ў Вене немцы ўзяліся пацяшацца над тым, што ў рыцараў зь Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы горшае ўзбраеньне. Хтосьці з нашых запытаўся, чаму ж тады вы, маўляў, з выдатнай зброяй ды прайгралі бітву пад Грунвальдам. Слова за словам, і ў паветры запахла навальніцаю. Дзеля большай крыўды немцы прапанавалі апанэнтам купіць за сто злотых свайго самага старога і маларослага каня. Ліцьвіны з палякамі, каб разрадзіць атмасфэру, пагадзіліся.

Наступнага дня яны запрасілі крыўдзіцеляў на абед, паабяцаўшы пачаставаць сьвежай алянінаю. Пры канцы абеду нямецкім рыцарам прынесьлі на вялікім падносе галаву і ногі з капытамі ад іхняга

каня. Зразумеўшы, якога «аленя» зьелі, немцы схапіліся за мячы, але пісаныя і няпісаныя правілы паводзінаў змусілі іх сесьці на месца і ўгамавацца.

Замежныя турнірныя кнігі мелі асобныя разьдзелы, прысьвечаныя Вялікаму Княству Літоўскаму. Там зьмяшчаліся гербы рыцараў-ліцьвінаў і кароткія аповеды пра іхнія перамогі.

У сваю чаргу ваяры з Францыі, Ангельшчыны, Італіі, Нямеччыны, Чэхіі, Вугоршчыны прыяжджалі на турніры ў нашую сталіцу Вільню. Асабліва часта рыцарскія гульні адбываліся ў нас у XVI стагодзьдзі за часамі вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. Колькасьць тагачасных заўзятараў можна суаднесьці зь сёньняшняй. Некалькі тысячаў гледачоў назіралі ў 1546 годзе ў Вільні за паядынкам, у якім сышліся ліцьвін Габрыель Тарла і прускі рыцар Лягендорф. Доўгае і зацятае адзінаборства выйграў, хоць і быў паранены, наш суайчыньнік.

Гісторыя маўчыць пра тое, ці ставіў вялікі князь перад сваімі рыцарамі задачу — што б там ні было — заваяваць пэўную колькасьць узнагародаў. А вось якім коштам яны здабываюцца, Жыгімонт Аўгуст ведаў, бо сам шмат разоў выходзіў у турнірным узбраеньні на рысталішча.

Дарэчы, усім аматарам гісторыі, а найперш — сябрам сучасных рыцарскіх клюбаў хачу параіць кніжку беларускага гісторыка Юрыя Бохана «Турнірныя традыцыі ў Вялікім Княстве Літоўскім ў XIV—XVI стагодзьдзях».

На пытаньне, колькі налічвалася ў тыя часы такіх спартоўцаў, дакладна адказаць немагчыма. Але можна зыходзіць з таго, што ў Вялікім Княстве Літоўскім да шляхецкага стану належала да 15 %

насельніцтва (у Масковіі, для параўнаньня — дваранства складала толькі 1 %). Уся шляхта лічыла сябе рыцарамі, і браць удзел у турнірах фармальна мог любы шляхціч. Вядома, маёмаснае становішча дазваляла гэта ня ўсім. Але кожны рыцар-ліцьвін і на турнірах, і наогул кіраваўся дэвізам «Славу — Айчыне, гонар — нікому!». Па-мойму, даўні дэвіз пасуе і сучасным спартоўцам.

Ну а заўзятарам, якім ня трэба захоўваць спартовага рэжыму, хачу нагадаць стары ліцьвінскі тост: «Каб дзеўка кахала, куля мінала, і шабля ня брала!» Можна адрэдагаваць яго ў сучасным духу. Адзін мой знаёмы апазыцыянэр, напрыклад, шаблю замяняе на дубінку.

Але гэта ўжо іншая гісторыя...

# Ліцьвінкі, вольныя ліцьвінкі

*Нядаўна ехала зь сяброўкай юнацтва ў Менск і ўсю дарогу мусіла слухаць, што мы, «рускіе жэншчыны», здаўна былі ў поўнай залежнасьці ад мужчынаў і жылі з часоў цара Івана Грознага паводле «Дамастрою». Інтуітыўна я ведала, што гэтая «руская», усе продкі якой да пятага калена з-пад Клецку, ня мае рацыі, але, каб запярэчыць, бракавала фактаў. Ці не маглі б вы дапамагчы падрыхтавацца да будучай дыскусіі?*

*Зінаіда Іванаўна Валасевіч*

Па-першае, можаце сказаць сяброўцы, што Іван Жахлівы на чале нашай дзяржавы ніколі не стаяў. А для сваіх маскоўскіх падданых, дарэчы, царом быў нелегітымным, бо проста прысвоіў сабе тытул, за што яго ня раз ушчуваў усяленскі канстантынопальскі патрыярх.

Там у іх, у Маскові, панавалі эўразійскія, а тады, можна сказаць, наагул азіяцкія парадкі ды звычаі. Невыпадкова ж крамлёўскіх уладароў на тагачасных гравюрах немагчыма адрозьніць ад татарскіх ханаў.

Краіна прадзедаў — Вялікае Княства Літоўскае — належала да іншай, эўрапейскай цывілізацыйнай прасторы, што, сярод усяго іншага, яскрава выяўлялася і ў становішчы, якое займалі ў сям'і ды грамадзтве жанчыны.

Іхнія правы рэгуляваліся Статутамі Вялікага

Княства, створанымі ў эпоху Адраджэньня пад уплывам рэнэсансава-гуманістычных ідэяў. Найбольш перадавым (прычым у маштабах усёй Эўропы) быў Трэці Статут, прыняты ў 1588 годзе. Нормы, датычныя шлюбна-сямейнага права і статусу жанчын, можна знайсьці там прынамсі ў палове з чатырнаццаці разьдзелаў.

Разгорнем, да прыкладу, разьдзел V. Артыкул 1 — «Якім звычаем бацька, выдаючы дачку сваю замуж, мусіць замацаваць запіс вена ад зяця» (вена — гэта гарантаванасьць жончынага пасагу маёмасьцю мужа). Артыкул 5 называецца «Аб такой удаве, якая, выходзячы замуж дзеўкай, а пасьля сьмерці мужа свайго з дарослымі дзецьмі застаецца». У наступным артыкуле ідзе гаворка аб правах кабеты, якой выпала быць бязьдзетнай удавой. Артыкул 16 — «Калі б якая ўдава замуж пайшла», артыкул 18 — «Аб крыўдах, якія чыняцца мужам з маёнтку, вянованага жонцы»...

Гарантаванае законам матэрыяльнае забесьпячэньне і права на атрыманьне нерухомай маёмасьці рабіла жанчыну актыўнай удзельніцаю грамадзкага і эканамічнага жыцьця, у тым ліку і ў сфэры абароны ўласных інтарэсаў.

Мой знаёмы гісторык Васіль Варонін знайшоў у дакумэнтах Літоўскай Мэтрыкі надзвычай красамоўныя дакумэнты пра тое, як у XVI стагодзьдзі бараніла свае і правы сваіх дзяцей жыхарка Полацку Вульляна Падбярэская. Пасьля сьмерці мужа яна пабралася шлюбам зь ягоным братам і нарадзіла трох сыноў. Прамінулі гады, і раптам высьветлілася, што царкоўнае права забараняе ўдаве выходзіць за роднага мужавага брата. Паўстала пытаньне

пра законнанароджанасьць дзяцей. Адстойваючы іхнія маёмасныя правы, Вульляна зьвярталася ў самыя розныя царкоўныя і сьвецкія інстанцыі, ажно да кіеўскага мітрапаліта і каралеўскага суда. Кропку ў згаданай гісторыі паставіў канстантынопальскі патрыярх. Атрымаўшы ад неўтаймоўнай палачанкі ліст, вярхоўны праваслаўны ўладыка ўрэшце пацьвердзіў законнасьць Вульлянінага вянчаньня, а значыць, і права ейных дзяцей на бацькаву спадчыну.

Падобны сюжэт проста немагчыма ўявіць у Масковіі.

Варта адзначыць, што ня ўсе нашы тагачасныя суайчыньнікі былі ад такога становішча жанчын у захапленьні. Сярод незадаволеных знаходзіліся, між іншым, філёзафы Андрэй Валян і Міхалон Літвін, аўтар выдадзенага ў 1615 годзе ў Базэлі славутага трактату «Аб норавах татараў, ліцьвінаў і маскоўцаў». Мысьляры не належалі да жанчынаненавісьнікаў. Іх турбавала тое, што, валодаючы вялікімі абшарамі, прадстаўніцы «слабой» часткі грамадзтва падрываюць асновы вайсковай службы зь зямлі, а багатыя пасагі нявестаў не найлепшым чынам уплываюць на мараль жаніхоў (якія, робячы выбар, могуць, маўляў, кіравацца зусім не жаданьнямі сэрца). Аднак большасьць шляхты — «палітычнага народу» дзяржавы — такіх меркаваньняў не падзяляла, а наадварот, лічыла шырокія правы жанчын дадатковай гарантыяй шляхецкіх вольнасьцяў.

Статут 1588 году ўтрымліваў і шэраг іншых прававых нормаў, якія абаранялі грамадзянак Вялікага Княства.

Забаранялася гвалтоўна браць дзяўчыну замуж. Калі шляхціч жаніўся зь мяшчанкаю ці сялянкай, яе дзеці атрымлівалі шляхецтва.

Законы не патрабавалі выходзіць замуж нявіньніцамі, не забаранялі інтымных зносінаў у сьвяточныя дні і падчас пастоў.

У крымінальным праве вельмі цяжкім злачынствам лічылася згвалтаваньне, за якое прадугледжвалася сьмяротная кара. Выратаваць гвалтаўніка ад сьмерці магла толькі згода пацярпелай выйсьці за яго замуж.

Але ахвяра мусіла даказаць, што сапраўды такой і зьяўляецца. Каб выключыць хітрыкі, артыкул «Аб згвалтаваньні дзяўчыны і жанчыны» адназначна патрабаваў у часе гвалту крычаць, што было потым на судзе галоўным доказам.

Безумоўна, тагачасных законаў ня трэба ідэалізаваць. Статут меў і адпаведныя эпосе жорсткія нормы накшталт пакараньня «горлам» за звоз замужняй жанчыны з дому, «няхай яна была б і сама згодная». На гарадзкіх вуліцах можна было спалохацца істоты з адрэзанымі вушамі, носам і вуснамі — так каралі зводніц.

Але ўсё пазнаецца ў параўнаньні. Нашыя прабабулі мелі правоў нязьмерна больш, чым жанчыны ў расейскай дзяржаве. Каб канчаткова ўпэўніцца ў гэтым, можаце пачытаць, апрача Трэцяга Статуту (яго беларускі пераклад выйшаў у 2002 годзе), яшчэ і манаграфію гісторыка права Галіны Дзербінай «Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнэсансу».

Ейны папярэднік А. Лявіцкі, які на стагодзьдзе раней дасьледаваў праблемы шлюбу і сям'і ў Вялікім Княстве Літоўскім, зрабіў выснову, што

там жанчына «была вельмі дзейным супольнікам грамадзтва, карысталася шырокай свабодай і незалежнасьцю і амаль не саступала мужчыну ў паўніне сваіх цывільных правоў, ня ведаючы ні турэмнага, ні манастырскага зьняволеньня, ні горкай дамастроеўскай няволі і прыгнёту, што выпалі на долю жанчыны ў Масковіі».

Лявіцкі захоплена пісаў пра жанчын, якія засноўвалі манастыры і друкарні, перакладалі з замежных моваў кнігі, уплывалі на дзяржаўныя справы. Грунтуючыся на актах гродзкіх судоў, ён падае амаль фантастычныя зьвесткі. Як вам падабаецца такі факт: кабета камандавала цэлай арміяй з 6000 пяхотнікаў і кавалерыстаў, зь якімі зьдзяйсьняла наезды на ўладаньні суседзяў. Адначасова ў Лявіцкага можна знайсьці і думку пра тое, што «адмоўныя тыпы жанчын XVI—XVII стагодзьдзяў вызначаюцца багацьцем і разнастайнасьцю». Таксама своеасаблівае сьведчаньне шырокіх правоў «прыўкраснай», як сказаў бы Караткевіч, паловы нашых продкаў.

Патрыярхальным расейскім «Дамастроем», які сьцьвярджаў поўную падначаленасьць жанчыны, у нас і ня пахла.

Праўда, гісторыя ведае адзін забаўны вынятак, зьвязаны зь імем літоўскага маршалка Крыштопа Мікалая Дарагастайскага. Гэты чалавек, вядомы ўсёй адукаванай Эўропе дзякуючы сваёй знакамітай «Гіпіцы» (першай у сьвеце энцыкляпэдыі, прысьвечанай коням), быў ня надта шчасьлівы ў асабістым жыцьці.

Карыстаючыся частымі адлучкамі мужа то на вайну, то на лекаваньне, ягоная жонка Соф’я

з Радзівілаў залішне прыхільна паглядала ў бок ахмістра Станіслава Тымінскага. У выніку перад чарговай паездкаю на курорт у Падую з-пад пяра аўтара «Гіпікі» выйшаў твор зусім іншага кшталту — «Парадак, паводле якога каб жонка мая і чэлядзь, якая пры ёй будзе, сябе паводзілі да майго вяртаньня...».

Ляйтматывам «парадку» была думка пра тое, што жонка ні на хвіліну не мусіць застацца без прыгляду надзейнага вока.

Спадзяюся, што ў вас, спадарыня аўтарка пытаньня, стасункі з мужам будуюцца абсалютна інача́й.

## Вазьмі зброю, сядзь на каня

*Ці біліся продкі на дуэлях?*
*Міхась Карповіч*

Ужо амаль стагодзьдзе такі сродак высьятленьня стасункаў у нашым грамадзтве не практыкуецца. А ў даўнейшыя часы ўсё было як у людзей.

У раньнім Сярэднявеччы дуэлі існавалі ў выглядзе судовых паядынкаў-ардаліяў. Іх удзельнікі ўступалі ў двубой у прысутнасьці сьвятароў і прадстаўнікоў улады. Пераможца ня толькі сьвяткаваў сваю перавагу ў дужасьці й спрыце, але і прызнаваўся невінаватым.

Яшчэ адным відам дуэляў былі паядынкі падчас ваенных дзеяньняў, калі бакі рабілі спробу вырашыць справу ня бітвай, а адзінаборствам ваяводаў ці выбраных ваяроў. У нас пад уплывам Заходняй Эўропы пачалі адбываліся рыцарскія двубоі. Вядома, да прыкладу, як у 1390 годзе сышліся памерацца сіламі брат Ягайлы пінскі князь Нарымунт і нямецкі рыцар з войска Вітаўта, што тады імкнуўся адваяваць у Ягайлы Вільню.

У XVI стагодзьдзі ў Вялікім Княстве Літоўскім надышла эпоха клясычных дуэляў. Знакаміты Статут 1588 году меў адмысловы артыкул, які двубоі сувора забараняў, пагражаючы неслухам адміністрацыйнымі й крымінальнымі санкцыямі ажно да пакараньня сьмерцю.

Тым ня менш, забарона не была поўная. Вялікі

князь і гетман маглі даць адпаведны дазвол, калі на тое будуць «прычыны вялікія і важныя». Прычыны знаходзіліся.

У 1581-м Сьцяпан Батура атрымаў абразьлівы ліст ад Івана Жахлівага. Наш манарх адказаў выклікам на двубой: «Вазьмі зброю, сядзь на каня, сыдзіся са мной у абраны час, пакажы, які ты муж і як давяраеш праўдзе сваёй. Рассудзім спрэчку мячом, каб меней крыві хрысьціянскай лілося». Крамлёўскі тыран праўдзе сваёй, відаць, зусім не давяраў, бо не знайшоў мужнасьці даць на выклік хаця б пісьмовы адказ.

Варты гаспадара быў і маскоўскі ваявода Шуйскі, якому ў тым самым годзе ў часе аблогі нашымі войскамі Пскова ўручылі абгрунтаваны выклік на паядынак ад кароннага гетмана Яна Замойскага. На прызначанае месца дуэлі масковец, парушыўшы слова гонару, не зьявіўся.

Ды, нягледзячы на *veto*, двубоі сярод шляхецкага стану рабіліся ўсё больш пашыраныя. На шаблях альбо пісталетах біліся дэпутаты соймаў і соймікаў. Хапала і тых, для каго бясконцыя дуэлі ператвараліся ў спосаб жыцьця. Сярод іх, напрыклад, князь Багуслаў Радзівіл, які ў маладосьці вандраваў па Эўропе, адзначыўшыся ў некалькіх краінах дзясяткамі двубояў.

Гарадзенскі сойм Рэчы Паспалітай у 1678 годзе прыняў яшчэ адну пастанову пра забарону дуэляў. Ды на яе мала зважалі — пагатоў, увайшлі ў моду паядынкі, прычынамі якіх былі красуні ліцьвінкі ды полькі. Паколькі іхняя прыгажосьць з кожным векам адно расьцьвітала, колькасьць дуэляў таксама расла. Ужо ў крыху пазьнейшыя часы прад-

стаўнікі знакамітых магнацкіх родаў Людвік Міхал Пац і Адам Юры Чартарыйскі двойчы выходзілі да бар’еру, каб высьветліць, хто мацней кахае Ганну Сапяжанку.

Наш суайчыньнік расейскі пісьменьнік Фадзей (Тадэвуш) Булгарын, што паходзіў з-пад Узды, пісаў пра тыя часы: «І на вайне, і ў мірныя гады мы шукалі небясьпекі, каб сьцьвердзіць сьмеласьць і зухаватасьць. Баляваць, біцца на шаблях, буяніць — усё гэта было зьместам вайсковага жыцьця. Буянства падлягала пакараньню, але ня пляміла афіцэрскага гонару... Страляліся рэдка, але секліся за любую драбніцу. А пасьля зазвычай было замірэньне, а потым балюшкі й сяброўства».

Найноўшая гісторыя Беларусі сьведчыць: шматвяковая традыцыя продкаў не зусім канула ў Лету. Гуляе паданьне, што ў сярэдзіне 1980-х пісьменьнік Уладзімер Дамашэвіч, вядомы выступамі ў абарону беларускай мовы, выклікаў на дуэль калегу па літаратурным цэху Івана Чыгрынава.

А мне, паглядзеўшы тутэйшыя тэлеканалы, часам хочацца паслаць выклік цэламу тузіну асобаў, у якіх даўно атрафавалася чалавечая якасьць, што называецца сумленьнем.

## «Хрысьціянскі Гарацый» вярнуўся дадому

*У гаворцы пра «эўрапейскасьць» Беларусі некаторыя вашы аргумэнты атрымаліся «кульгавымі». Ну і што з таго, што нехта зь беларускіх земляў вучыўся ў заходніх унівэрсытэтах? Сваіх не было, дык і ехалі туды, калі ў бацькі грошы вадзіліся…*

*Скептык*

Сьпярша, спадар скептык, пра тых, каго вы назвалі «некім зь беларускіх земляў». Калі вам здаецца, што гаворка ідзе пра адзінкавыя выпадкі ці, скажам, пра некалькі дзясяткаў маладзёнаў, дык, перапрашаю, «кульгаць» пачынае ўжо ваша пазыцыя.

Па навуку ўсьлед за сонцам ехалі сотні й тысячы юнакоў-ліцьвінаў. Сярод іх былі арыстакраты, аднак пераважную большасьць складалі дзеці мяшчанаў і шляхты.

Ужо ў часы Альгерда й Вітаўта нашая моладзь здабывала асьвету ўва ўнівэрсытэтах Прагі й Кракава. Мэтрычныя кнігі Карлавай *alma mater* толькі за XV — першую палову XVI стагодзьдзя захавалі імёны 33 студэнтаў зь Вялікага Княства Літоўскага. Ад 1364 году адлічвае сваю гісторыю Кракаўскі ўнівэрсытэт, які пасьля праведзенай Ягайлам рэформы стаў навучальнай установаю як Польшчы-Кароны, так і Княства. Для «ліцьвінаў» і «русінаў»

у Ягелёнскай *alma mater* дзеяла адмысловая студэнцкая бурса. На працягу XV—XVI стагодзьдзяў там вучыліся блізу 500 выхадцаў з нашых земляў, прычым прыкладна палова выпускнікоў атрымала ступень бакаляўра.

Вядома, што адначасова з Францішкам Скарынам у Кракаве авалодвалі навукамі Ян і Павал з Горадні, Станіслаў з Клецку, Вінцэсь з Слуцку, Мікола з Ашмяны, Марка зь Нямігі. Крыху пазьней туды паступіў Георгі з Забалоцьця. (Жлукцячы піва ў тамтэйшых корчмах, ён яшчэ не здагадваўся, што стане аўтарам жамойцкага «Катэхізісу», які потым Праспэр Мэрымэ згадае ў навэлі «Локіс», якую ўважліва прачытае, працуючы над фільмам «Масакра» ў вынайдзеным ім жанры бульба-хорар, рэжысэр Андрэй Кудзіненка.)

Магнатэрыя нярэдка пасылала сыноў у старажытныя прэстыжныя ўнівэрсытэты. Перавага аддавалася Італіі, асабліва Балёньні ды Падуі, што былі цэнтрамі рэнэсанснай думкі. Пазьней, у сувязі з пашырэньнем рэфармацыйных ідэяў, большую папулярнасьць набыло навучаньне ў пратэстанцкіх краінах.

Вы, спадар скептык, не зусім маеце рацыю і ў тым, што не было дзе вучыцца ў Айчыне. Першая акадэмія з унівэрсытэцкім статусам — Віленская — сапраўды прыняла студэнтаў толькі ў 1579 годзе. (Зрэшты, заснаваная з ініцыятывы Сімяона Полацкага маскоўская Славянска-грэка-лацінская акадэмія адчыніла дзьверы ў 1687-м.) Але і да таго Вялікае Княства было пакрытае густой сеткаю школаў і калегіюмаў розных роўняў.

Вышэйшыя калегіюмы давалі адукацыю, якая

мала чым адрозьнівалася ад унівэрсытэцкай. У Полацку, да прыкладу, некалькі сэмэстраў выкладаў унівэрсытэцкія курсы паэтыкі й рыторыкі выдатны паэт-лацініст і філёзаф першай паловы XVII стагодзьдзя Мацей Казімір Сарбеўскі. Менавіта там ён стварыў дасьледаваньне антычнай міталёгіі «Багі паганскіх народаў» і кнігу «Паэтыка», якім была наканаваная эўрапейская слава. Паэзію, дарэчы, ён лічыў сфэраю духоўнай свабоды, а створаны ёю мастацкі сьвет — ідэальнай рэальнасьцю, што існуе побач зь сьветам, які нарадзіла Божая воля.

Празь некалькі гадоў выкладаць рыторыку ў Полацак прыехаў Жыгімонт Лаўксьмін, кніга якога «Практычнае красамоўства» пасьля выданьня ў Вялікім Княстве Літоўскім адзінаццаць разоў выходзіла ў друкарнях Прагі, Вены, Мюнхэну, Франкфурту… Яе не зашкодзіла б пачытаць і дамарослым сучасным палітыкам. «Мова — гэта адлюстраваньне душы, — пісаў Лаўксьмін. — Па мове і нас пазнаюць, адкуль мы ёсьць, і мы пазнаем іншых».

Надзвычай цікава (і павучальна) прасочваць лёсы тых, хто атрымаў адукацыю ў заходніх унівэрсытэтах. Хтосьці заставаўся выкладаць. Пры канцы XV стагодзьдзя ў Кракаўскай *alma mater* чытаў курс паводле «Этыкі» ды «Мэтафізыкі» Арыстотэля магістар Ян з Мастоў. Вядомы мэмуарыст Хведар Еўлашоўскі з гонарам пісаў, што ягоны сын служыў у князёў Ганзага ў Мантуі. На жаль, невядома, што сталася зь вільнянінам Янам Філіповічам, што стаў у Балёньні доктарам права.

А вось згаданы ўжо Мацей Казімір Сарбеўскі падчас навучаньня й жыцьця ў Рыме заслужыў

найменьне «хрысьціянскага Гарацыя» і першы з славянаў атрымаў з рук папы Урбана VIII ляўровы вянок на Капіталійскім узгорку.

Здавалася б, жыві — не хачу. Ды, зьдзівіўшы сяброў і ўзрадаваўшы італійскіх паэтаў, Сарбеўскі выправіўся дадому. Засмучаны папа ўзнагародзіў яго перад ад’ездам залатым ланцугом з уласным партрэтам.

Падарунак зямнога намесьніка сьвятога Пятра не спыніў разбойнікаў, якія двойчы рабавалі й зьбівалі новага Гарацыя на эўрапейскіх дарогах. Але Сарбеўскі вярнуўся ў Полацак, потым заняў пасаду дэкана філязофскага й тэалягічнага факультэтаў Віленскай акадэміі. Дадамо, што адно з выданьняў ягоных вершаў — антвэрпэнскае — ілюстраваў Рубэнз.

Гістарычныя дакумэнты сьведчаць, што, набыўшы эўрапейскую адукацыю, маладыя ліцьвіны амаль заўсёды вярталіся дадому. У духу гуманістычных традыцыяў Рэнэсансу яны мелі на мэце служыць найперш сваёй дзяржаве й свайму народу. Як Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі… Выхаванец Ляйпцыгскага ўнівэрсытэту Леў Сапега стаў вялікім канцлерам. Мікалай Радзівіл Сіротка, што студыяваў навукі ў Страсбуры й Тубінгене, зрабіўся мэцэнатам і пісьменьнікам ды ператварыў родны Нясьвіж у маленькі Парыж…

А якое слова скажуць нашы сучасныя студэнты-«эўрапейцы»?

# Спадар і скрыня каньяку

*Паважаны Ўладзімер Аляксеевіч, даводзілася чуць, што даўнейшыя беларусы, а дакладней ліцьвіны, і вусна, і пісьмова называлі адзін аднаго толькі па імені, а калі трэба было, яшчэ, вядома, і па прозьвішчы, але без імя па бацьку. Ці праўда, што форму з усімі трыма гэтымі кампанэнтамі прынесьлі расейскія калянізатары? Альбо гэта сапраўды прыдумкі нацыянал-радыкалаў? Як, дарэчы, і слова «спадар».*

*Сяргей Уладзімеравіч Краўчук*

Пісьмовыя помнікі часоў Вялікага Княства Літоўскага даюць безьліч прыкладаў таго, якімі зваротамі карысталіся продкі і ў побыце, і ў прыватным ліставаньні, і ў афіцыйных дакумэнтах. Дыяпазон гэтых зваротаў быў вельмі шырокі.

Ліцьвіны часта называлі сябе і іншых проста на імя: князь Міхайла, пан Тамаш, карчмар Яраш, цясьляр Богуш. Царкоўныя імёны хутка і пасьпяхова адаптоўваліся да беларускай фанэтыкі. У граматах часоў вялікага князя Вітаўта ды ягоных наступнікаў ужо фігуруюць Апанасы, Ганны, Куліны, Лявоны, Надзеі, Піліпы, Ульляны, Юстыны... Жыхароў Княства нярэдка называлі таксама на мянушку-прозьвішча: пан Баркулаб, пісар Гарнастай, залатар Зязюля, шынкар Мокры.

Большае пашырэньне меў варыянт зь імем і про-

зьвішчам: Ігнат Губа, Міхал Рагоза, Антон Заўзей. Можна ўявіць, што гэты Антон быў не абы-які заўзятар на рыцарскіх турнірах.

Калі гаворка вялася пра людзей знатных, магло дадавацца імя па бацьку: князь Іван Васілевіч Астроскі, князь Януш Кузьміч Заслаўскі, княгіня Настасься Юр'еўна Гальшанская.

Што датычыць жанчын, дык іхняе ўласнае імя было звычайна «аздобленае» імёнамі бацькі і мужа. У выніку маглі атрымлівацца складаныя і мудрагелістыя формы найменьня. Аднаго разу давялося чытаць скаргу ў магістрат «земянки господарское повету менского пани Васильевое Данильевича пани Ганны Молоденовны». Часам проста падаваліся мужавы імя, прозьвішча і пасада: пані Мікалаевая, пані войтавая...

Тым, хто хоча зазірнуць у сьвет тагачасных імёнаў больш глыбока, раю адпаведны разьдзел з кнігі гістарычных эсэ Вольгі Бабковай «...І цуды, і страхі». «Імёны тагачасных людзей, — піша спадарыня Вольга, — своеасаблівая палітра сярэднявечча».

Як вядома, культура Княства дасягнула росквіту ў XVI стагодзьдзі.

Жыцьцё дзяржавы ў тую эпоху рэглямэнтавалася нашымі Статутамі. Грунтоўна распрацаваныя праўныя нормы вымагалі і пэўных канонаў напісаньня імёнаў. Тады ў якасьці асноўнага сьцьвердзіўся двухкампанэнтны ўзор: імя + прозьвішча. Гэта засьведчылі шматлікія акты вялікакняскай канцылярыі (Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага), судовыя паперы, помнікі пісьменства іншых жанраў. Пад Статутам 1588 году значыцца: «Лев

Сапега, подканцлерый Великого князьства Литовского, Кгабриель Война, писар».

Гэтак сама менаваліся ўсе знатныя асобы: Ян Кішка, Мікалай Пац, Януш Радзівіл, Раман Сангушка... Той жа формаю карысталіся прадстаўнікі ніжэйшых станаў грамадзтва. Не ўжывалі імя па бацьку, падпісваючы свае творы, і славутыя асьветнікі, пісьменьнікі, выдаўцы: Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Андрэй Рымша, Лаўрэн і Стафан Зізаніі. За межы правіла не выходзілі і выпадкі з падвойнымі імёнамі ці прозьвішчамі. Да прыкладу — Францішка Ўршуля Радзівіл, Андрэй Пачобут-Адляніцкі.

Працягвала раз-пораз сустракацца і напісаньне зь імем па бацьку, аднак статыстычны аналіз, зроблены калісьці нашым акадэмічным Інстытутам мовазнаўства, сьведчыць, што нормаю была якраз двухкампанэнтная форма. Скажам, у актавай кнізе Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага за 1596 год (адметны ў нашай гісторыі Берасьцейскай царкоўнай вуніяй) у загалоўкаў дакумэнтаў з 164 мужчынскіх найменьняў імя па бацьку маюць усяго 16, альбо менш за 10 адсоткаў.

Такім чынам, «нацыянал-радыкалы» пастарацца тут не пасьпелі. А вось царскія чыноўнікі-русіфікатары руку прыклалі.

А цяпер, дарэчы, пра словы «спадар» і «спадарыня». Некалі вядомы праваабаронца Валеры Шчукін пайшоў са мной у заклад, што гэтыя звароты насамрэч прыдумалі такія, як Арлоў і кампанія. Пераканаць яго ў адваротным маглі выключна, як выказаўся мой апанэнт-камуніст,

«первоисточники». Заклад ацэньваўся на скрынку каньяку.

Праз пару дзён я прапанаваў супярэчніку бліжэй пазнаёміцца з творчасьцю ўжо згаданага Андрэя Рымшы. А менавіта зь ягонай напісанай у XVI стагодзьдзі на старабеларускай мове одаю на герб Льва Сапегі:

*При которых з оружием конный воин стоить,*
*Знаком того иж ся з них ни один не боить.*
*Служить своим сподарем ку кождой потребе,*
*Не литуючи скарбов, ни самого себе.*

Наконт слова «спадарыня» знайшлася іншая цытата — з апісаньня голаду 1602 году ў Баркулабаўскім летапісе. Жабрак зьвяртаецца да кабеты ўжо, натуральна, ня кніжнай, а жывою мовай: «Матухна, зязюлюхна, утухна, панюшка, спадарыня, сонца, месяц, зьвёздухна, дай крошку хлеба».

На жаль, мой апанэнт заявіў, што перад ім ніякія не «первоисточники», да якіх ён, відаць, прылічае адно творы клясыкаў марксізму-ленінізму. Карацей, скрынкі каньяку я не дачакаўся. Але не лічу, што прайграў, бо ад таго часу Шчукін на зварот «спадар» заўсёды з гатовасьцю адгукаецца.

А на заканчэньне скажу, што ня бачу нічога страшнага і ў звароце зь імем па бацьку, які за столькі часу пасьпеў у нашай мове прыжыцца. Калі вы зьвернецеся да народнага паэта Барадуліна як да Рыгора Іванавіча, ён не пакрыўдзіцца. Але, дайце веры, «спадар Рыгор», «спадар Барадулін» ды і «дзядзька Рыгор» спадабаюцца яму болей.

У мяне зь імем па бацьку ёсьць і асабістыя ра-

хункі. Рэч у тым, што ў нашым клясе быў яшчэ адзін Уладзімер Арлоў. Таму ад першых школьных дзён нас выклікалі не на прозьвішча, як астатніх, а якраз на імя ды імя па бацьку. «Адказваць пойдзе Ўладзімер Аляксеевіч», — глянуўшы ў клясны журнал, казаў настаўнік.

Чуючы такі зварот, я дагэтуль унутрана сьціскаюся, міжволі рыхтуючыся выходзіць да дошкі ды адказваць нявывучаны ўрок.

Таму — пры ўсёй пашане да майго бацькі Аляксея — называйце мяне лепей спадаром Уладзімерам. На дзядзьку, як Барадулін, пакуль, здаецца, не цягну.

# Карэц халоднага расолу

*Якімі стравамі і напоямі сустракалі беларусы замежных гасьцей у даўнія часы, і чым бы вы пачаставалі іх сёньня?*

*Віталь Юрэвіч, Старыя Дарогі*

Не патрабуе доказу думка, што кухня заўсёды была важнай часткаю любой нацыянальнай культуры. Відаць, кожны згадае прыклады, калі пра нейкі народ ведае не праз ягоную літаратуру ці музыку, а толькі дзякуючы яго адметным стравам.

Аднак вернемся ў родныя шыроты і зьдзейсьнім невялікае падарожжа па розных эпохах і застоліцах.

Пачнем ад часоў нашай першай дзяржавы — Полацкага княства.

На жаль, трактаты, прысьвечаныя тагачаснай кулінарыі, да нас не дайшлі, але іншыя крыніцы — і пісьмовыя, і археалягічныя — дазваляюць даволі выразна ўявіць пачостку часоў Ізяслава ці Ўсяслава Чарадзея.

Багатыя сталы гнуліся ад самай рознай смажанкі, бо продкі палявалі на зуброў, ласёў, аленяў, тураў, лебедзяў, цецерукоў, гусей… Шчодрую застоліцу нельга было ўявіць бяз рыбы — зваранай у юшцы, смажанай, вяленай, салёнай. Добра ішлі пірагі з разнастайнай начынкаю — ад заечыны да мядзьведзіны. (Між іншым, царква забараняла есьці «даўляніну» — мяса зьвяроў і птушак, што трапілі ў сіло ці былі

задушаныя паляўнічым сабакам, лоўчым сокалам або ястрабам і не прырэзаныя чалавечай рукой.)

На дэсэрт падавалі мёд, ягады, каўрыжкі, пернікі з макам. Калі б сярод гасьцей трапіліся вэгетарыянцы, і яны не падняліся б з-за стала галодныя. На полацкіх гародах тады ўжо расьлі капуста, цыбуля, рэпа, боб, часнок, кроп, а грыбоў у лясах было — хоць касу закладай.

Бяседнікі, натуральна, не абыходзіліся без напояў — варанага перабрадзілага мёду, ячменнага піва, прывезенага з поўдня «рамейскага» віна. Калі была патрэба, назаўтра ўраньні можна было выпіць карэц халоднага бадзёрлівага расолу: у земляным слоі XIII стагодзьдзя ў Полацку знайшлі прыліплае да дна бочкі агуручнае зернейка.

Цяпер невялікі экскурс у часы Вітаўта. Пры канцы жыцьця, чакаючы каралеўскую карону, якую везьлі (шкада, што так і не давезьлі) з Рыму, наш манарх сабраў мноства гасьцей з сваіх уладаньняў ды іншых краінаў. Летапісец уражана занатоўваў: «И мешкали вси тыя гости у великого князя сем недель, а оброку им выходило на стравы на кожный день по пяти сот бочок меду, по пяти сот яловиц, по пяти сот баранов, по пяти сот вепров, по сту зубров, а по сту лосей, а иных речей и чысла не было».

Здаралася прадзедам частаваць замежных гасьцей і не па сваёй волі. Падчас Паўночнай вайны з Швэцыяй, калі расейцы былі хаўрусьнікамі Рэчы Паспалітай, але часта паводзіліся на нашых землях горш, чым захопнікі (згадаем, што вырабляў Пётар I з памагатымі ў полацкай Сафіі), вялікае саюзнае войска на чале з князем Меншыкавым стаяла ў Магілеве. Магістрат быў ашчасьліўлены загадам

штодня дастаўляць пятроўскаму фаварыту «віно вугорскае і французскае бочкамі, мёд і піва варамі, вала жывога, колькі дзясяткаў бараноў, гусей і курэй статкамі і чародкамі, хлеба сітнага і ружовага па сто булак, гарэлкі простай і наліўкі моцнай меркамі, рыбы вяленай пудамі, вострыя прыправы, разынкі, мігдал па колькі дзясяткаў фунтаў, рыбы асятрыны цэлымі асятрамі і пасечанымі, рыбы саміны па колькі дзясяткаў фунтаў, калачы печаныя, а таксама бліны грачаныя па колькі дзясяткаў і масла каровіна». Калі хоць нечым зь пераліку нахлебнікаў не частавалі, «магістрацкія асобы былі браны пад варту і экзэкаваны, штрафаваны».

І, нарэшце, завітаем на знакамітыя «абеды па чацьвяргах», што даваў наш апошні манарх, вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў Варшаўскім замку. Ён аддаваў перавагу французскай кухні, спалучаючы яе з найлепшымі рэцэптамі старапольскай і старабеларускай (тады яе называлі «літоўскай», але мы памятаем, што такое Літва ў гістарычнай рэтраспэктыве.)

На круглы стол, які падкрэсьліваў роўнасьць усіх прысутных, падаваліся сярод іншага буракі з вушкамі, кілбасы, вяндліна, пікантныя марынады. Гасьцей частавалі добрымі гішпанскімі вінамі, а гаспадар уздымаў келіх з крынічнай вадой. Ганаровае месца належала ўлюбёнай страве Панятоўскага — смажонцы з баранінай. Слуга выносіў яе на велізарным срэбным сподзе з радасным воклічам: «Баран!», у якім можна было пры жаданьні ўгледзець і нейкі падтэкст.

Ахвочым заглыбіцца ў сьвет даўнейшай айчыннай кухні рэкамэндую ўзяць у рукі кнігі «Літоўская

гаспадыня» альбо «Літоўская кухарка». Не зашкодзіць і грунтоўная «Наша страва» Алеся Белага.

Ну а сёньня госьці здалёк найчасьцей частуюцца ў нас дома дранікамі ў розных іпастасях — з шкваркамі й сьмятанай, зь лісічкамі ці баравікамі, з ікрой… Дранікі бываюць клясычныя і «задушэўныя», гэта значыць, з «душой», як у Прыдзьвіньні здавён называюць начынку.

Здаецца, першымі замежнымі гасьцямі ў нашай сям'і яшчэ ў Полацку былі сьпявак Данчык з мамаю Юляй. Ганьбы дранікам не далі. Тут, безумоўна, маглі спрацаваць беларускія гены. Але і астатнія візытанты з далёкіх і блізкіх краёў ніколі ня дзьмуліся, а елі дранікі, як сказала б мая бабуля, «за малінку».

Неяк завітаў малады нямецкі барон — з захапленьнем паядаў маладыя гуркі зь сьвежым мёдам.

А адзін ангелец выпіў славутае старадароскай і так натхніўся, што яшчэ й з сабою папрасіў.

Смачна вам усім есьці й соладка піць!

# Ці тыя званы слухаў Чарадзей?

*Адной з таямніцаў нашай гісторыі застаецца месца пахаваньня князя Ўсяслава Чарадзея. Што вы ведаеце пра пошукі ягонай магілы? Ці магчыма яе знайсьці?*

*Браты Грумандзі*

Калісьці нас імкнуліся пераканаць, што ў гісторыі ўсё вырашаюць народныя масы. Пры вялікай павазе й любові да іх трэба прызнаць, што гісторыю робяць усё ж ня гэтыя масы, але асобы, якіх масы — на шчасьце альбо на гора сабе — нараджаюць у сваіх нетрах. Вазьміце ў рукі тэлепульт, і перад вамі паўстануць жывыя прыклады.

Найзнакаміцейшага ў дынастыі Рагвалодавічаў, вялікага князя полацкага Ўсяслава Брачыславіча, ня менш вядомага як Чарадзей, у тэлевізары не паказвалі, але ён, бясспрэчна, належыць да творцаў гісторыі.

Тысячу гадоў таму яго дзейнасьць была скіраваная не на варагаваньне з Кіевам і Ноўгарадам, як камусьці, магчыма, здаецца, а на кансалідацыю нашых старажытных земляў.

У 1097 годзе ўсходнеславянскія князі сабраліся ў Любечы, каб дзяліць «Рускую зямлю». На зьезьдзе не было ні Ўсяслава, ні ягоных шасьцярых сыноў. Рагвалодавічы сваіх абшараў да той зямлі не прылічалі.

Калі верыць «Слову пра паход Ігаравы», славуты Баян склаў Усяславу такую прыказку:

*Ні хітраму,*
*ні спрытнаму,*
*ні чарадзею дасьціпнаму*
*суда Божага не мінуць.*

Час суда надышоў у 1101 годзе. Значнасьць асобы «падсуднага» ў славянскім сьвеце падкрэсьліваюць неверагодна дакладныя запісы ў летапісах: «Спачыў навекі Ўсяслаў, князь полацкі, месяца красавіка, на чатырнаццаты дзень, а дзявятай гадзіне дня, у сераду».

Чарадзея, безумоўна, пахавалі ў Полацку. Але дзе? Пакуль што адказу няма.

Лёгіка падказвае, што месцам апошняга прыстанку ўладара мог стаць збудаваны на ягоны загад Сафійскі сабор, што быў сэрцам Полацкай дзяржавы. Аднак храм шмат перажыў: цярпеў ад войнаў, гарэў, перабудоўваўся, узрываўся салдатамі Пятра І, аднаўляўся ўжо ў знаёмым нам сёньня абліччы помніка віленскага барока. Ні ў мурах Сафійкі, ні каля іх Чарадзеевага пахаваньня археолягі не знайшлі.

Сучасны гісторык, аўтар кнігі «Полацак і палачане (IX—XVIII стст.)» Дзяніс Дук мяркуе, што парэшткі Ўсяслава Брачыславіча маглі спачываць і ў царкве-пахавальні XII стагодзьдзя на стрэлцы Ніжняга замку. Сёньня на месцы храму — прыватная сядзіба. Праводзячы там у 1970-я гады раскопкі, расейскі навуковец Павел Рапапорт знайшоў фрагмэнты каменнага саркафагу (цяпер

у фондах Полацкага гістарычна-культурнага запаведніка), у якім Чарадзей мог сапраўды адплысьці ў Вечнасьць.

Мае поўнае права на існаваньне і іншая вэрсія — пахаваньне ў адным з храмаў Бельчыцкага манастыра — на левабярэжжы Дзьвіны, каля яе сутоку з рэчкай Бяльчанкай.

Пры самым канцы XI стагодзьдзя ніякім аўтарытарызмам у Полацку і ня тхнула. Веча набрала такую сілу, што ёсьць пэўныя падставы казаць пра баярска-вечавую рэспубліку, дзе ўлада належала вядомым зь летапісаў трыццаці «мужам» — своеасабліваму, перапрашаю за мадэрнізацыю, савету рэспублікі, але з рэальнай уладай.

Князі жылі ня ў хораме каля сафійскіх муроў, як раней, а менавіта ў Бельчыцкай загараднай рэзыдэнцыі, адкуль іх зручней было выпраўляць прочкі, пазбаўляючы ўлады. Пераплывае дэлегацыя ад веча Дзьвіну і абвяшчае князю: скончылася твая легітымнасьць, на выхад! (Усебеларускаму народнаму сходу такія паўнамоцтвы і ня сьніліся.)

Старэйшы Чарадзееў сын Барыс, як і іншыя Ўсяславічы, быў пахаваны, відаць, акурат у Бельчыцах, а дакладней — у Пятніцкай царкве, дзе існавала крыпта. У 1920-я гады навукоўцы яшчэ захапляліся цудоўнымі фрэскамі Барысаглебаўскага храму. Аднак уладам не хапала матэрыялаў на пабудову «новой счастливой жизни»... Месца, дзе некалі спачывалі Рагвалодавічы, у нашыя дні вам не заўсёды здолее паказаць і адмысловец. Падмуркі аднаго з старажытных храмаў наагул закатаныя пад асфальт.

Магчыма, калі-небудзь дарасьцем да нацыяналь-

нага пантэону і будзем мець прынамсі сымбалічную магілу Чарадзея. А пакуль суцяшаемся тым, што князь вярнуўся ў сваю сталіцу ў бронзе. Праўда, каня ягонага спынілі насупроць піўбару, якога, у адрозьненьне ад Сафіі, Усяслаў Брачыславіч не будаваў. Ды яшчэ мясцовыя праваслаўныя ідэолягі ў рызах забаранілі называць князя Чарадзеем (маўляў, «всякие чудеса от лукавого»), у выніку чаго дылетанцкі надпіс на помніку зрабіўся яшчэ больш, далікатна кажучы, недасканалы.

Цікава, а ці памаліліся б гэтыя сьвятыя айцы на магіле Ўсяслава, калі б яна знайшлася? Ці мо занатурыліся б: занадта сумнеўная асоба? Да прыкладу, ня мог ён званоў полацкай Сафіі ў Кіеве чуць. Увогуле, найперш маскоўскія званы трэба слухаць. Ды толькі тады яшчэ Масквы на сьвеце не было...

## Наша родная Андора

*Ці праўда, што на тэрыторыі Беларусі калісьці месьцілася карлікавая дзяржава накшталт Манака, Сан-Марына ці Андоры?*

*Аматар вандровак у прасторы й часе*

Гучыць крыху фантастычна, але такая краіна ў нашай мінуўшчыне напраўду існавала. Прычым гэта была не якая-небудзь бутафорская аднадзёнка, а дзяржава з усімі ейнымі атрыбутамі. Гісторыя адмерала ёй больш за паўстагодзьдзя. Мне не хацелася б карыстацца эпітэтам «карлікавая». У нечым тая дзяржава была для свайго часу нават значнай.

Паколькі гаворка ідзе пра рэспубліку, больш карэктна будзе параўноўваць яе не з канстытуцыйнай манархіяй — княствам Манака, а якраз з Андорай і Сан-Марына зь іхнімі рэспубліканскімі традыцыямі.

Гісторыя нашай міні-дзяржавы непарыўна зьвязаная зь імем графа Паўла Ксавэра Бжастоўскага (Берастоўскага), які займаў у Вялікім Княстве Літоўскім не абы-якія пасады вялікага пісара і духоўнага рэфэрэндарыя.

Здавалася, жыў бы сабе граф, як належыць асобам такога стану, і ў вус не дзьмуў. Аж не.

Нехта загадваў пасыпаць у сваіх уладаньнях дарогі сольлю і катаўся па іх з каханкамі на запрэжаных мядзьведзямі санях. А Павал Ксавэр штудыяваў сумнеўныя творы Жан-Жака Русо, утопіі ягоных суайчыньнікаў Анры Сэн-Сымона ды Шарля

Фур’е, а на дадатак яшчэ й ангельца Томаса Мора. Усё скончылася тым, што ў 1767 годзе Бжастоўскі ўзяўся за стварэньне справядлівага грамадзтва. Сьпярша — у сваім асобна ўзятым маёнтку Мерач на Віленшчыне.

Маёнтак быў абвешчаны рэспублікай. Пакуль заможныя суседзі, згадаўшы Бжастоўскага, шматзначна хіталі галовамі, той вызваліў сялянаў ад прыгону і перадаў заканадаўчую ўладу дзьвюхпалатнаму сялянскаму сойму, а выканаўчую — «міністэрствам», на чале якіх таксама стаялі сяляне. Усе пытаньні сойм дэмакратычна вырашаў большасьцю галасоў. Дзеля пачатку аднадушна прагаласавалі за перайменаваньне Мерачы ў Паўлава. Такім жа чынам і сама толькі што народжаная рэспубліка атрымала ў гонар «бацькі» назоў — Паўлаўская.

Нягледзячы на абвінавачаньні ў вар’яцтве, граф дамогся ад Сойму Рэчы Паспалітай прызнаньня канстытуцыі (статуту) сваёй рэспублікі. Кожны яе грамадзянін атрымаў зямлю і роўныя правы, у тым ліку і права быць абраным на любую пасаду, ажно да прэзыдэнцкай. Праўда, апошняя магчымасьць у паўлаўцаў была чыста намінальная, бо ўдзячныя дэпутаты зацьвердзілі Бжастоўскага пажыцьцёвым прэзыдэнтам.

Краіна (афіцыйна яна менавалася Паўлаўскай Рэччу Паспалітай) мела школу, шпіталь і банк, ня кажучы ўжо пра ўласныя сьцяг, герб і грошы. На варце сувэрэнітэту стаяла войска з адметнай формай. У выпадку небясьпекі склікалася паспалітае рушэньне. Побач зь вёскай-рэспублікай збудавалі фартэцу з арсэналам і гарматамі на абарончых валах.

Калі грымнула паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі, збройныя сілы дзяржавы праінспэктаваў сам палкоўнік Якуб Ясінскі, галоўнакамандуючы інсургентаў у Вялікім Княстве Літоўскім. (Ці трэба казаць, што Паўлаўская рэспубліка адразу падтрымала касьцюшкаўцаў?) Інспэктар высока ацаніў узбраеньне і баявы дух маленькага войска.

Гэта былі ня гульні ў жаўнерыкаў. Праз колькі дзён Паўлава ўжо штурмавалі расейскія карнікі. Два прыступы былі адбітыя, і акупаваць рэспубліку ўдалося адно празь месяц.

У 1795-м Літва-Беларусь канчаткова сталася часткаю Расейскай імпэрыі, дзе панаваў абсалютызм. Рэспубліканец Павал Ксавэр Бжастоўскі мусіў прадаць маёнтак, аднак абумовіў з новым гаспадаром захаваньне паўлаўскай канстытуцыі.

Неверагодна, але факт: Пецярбург глядзеў на існаваньне рэспублікі скрозь пальцы. Гэта тым больш дзіўна, калі ўлічыць, што Кацярыну II пачынала калаціць ад аднаго слова «канстытуцыя». Відаць, матухну-імпэратрыцу, а потым яе сына Паўла і ўнука Аляксандра II проста не насьмельваліся турбаваць такой «драбніцаю».

Што б там ні было, Паўлаўская рэспубліка дажыла да 1824 году, калі ў Пецярбургу запатрабавалі канчаткова выкараніць крамолу.

Карацей, мелі сваю Андору, ды не зьбераглі.

А калі ўявіць, што Паўлаўская рэспубліка праіснавала б да 1994-га? Як бы ёй жылося ў Рэспубліцы Беларусь? Ці выкопвалі б памежныя слупы, ці адбываліся б газавыя ды малочныя войны? Ці шпурлялі б паўлаўцы бутэлькі з «кактэйлямі Молатава» ў амбасаду братняй краіны?

# Ад Скарыны да Свабоды

*Ня раз чуў, нібыта гісторыя культурных і наватпалітычных сувязяў Беларусі з Чэхіяй налічвае шмат вякоў. Ну так, Скарына выдаваў там, у Празе, нашыя першыя кнігі, а потым — дзякаваць Богу, і па-беларуску — адтуль пачало вяшчаць Радыё Свабода. А што істотнае адбывалася паміж дзьвюма гэтымі падзеямі?*

*Юры Атрахімовіч*

Пачну ад часоў, у якія на сьвеце не было яшчэ ні радыё, ні Францішка Скарыны.

Праз тры гады пасьля Грунвальду, калі Вялікае Княства Літоўскае здабыло сапраўды вялікую вагу ў эўрапейскім сьвеце, на беларускія землі накіраваўся найбліжэйшы паплечнік Яна Гуса магістар Геранім Праскі. Ён прапаведаваў у Вільні, Віцебску (паводле некаторых зьвестак, і ў Полацку) і выклікаў, як сьведчаць гістарычныя крыніцы, «невядомае раней у гэтым краі хваляваньне сярод сьвятароў і вернікаў».

Калі ў Чэхіі пачаліся нацыянальна-вызвольныя і ўваднначас рэфармацыйныя гусіцкія войны, Вітаўт атрымаў ад чэхаў прапанову стаць іхным каралём. Пэрспэктыва непазьбежнага ў такім разе вострага канфлікту з каталіцкім сьветам нашаму манарху не падабалася. Але ён паслаў на дапамогу гусітам 5-тысячнае ліцьвінскае войска на чале з пляменьнікам Жыгімонтам Карыбутавічам. Той у 1424 годзе

на вачах у пражанаў прыняў прычасьце паводле гусіцкага абраду і быў абраны каралём.

Беларусы-ліцьвіны поплеч з чэхамі ваявалі больш за дзесяць гадоў і разграмілі чатыры нямецкія крыжовыя паходы. Нашыя продкі разам з братамі па зброі сьвяткавалі ў 1426 годзе бліскучую перамогу над немцамі пад Усьцем, гінулі праз восем гадоў у трагічнай для гусітаў бітве на Ліпанскім полі... У чэскіх энцыкляпэдыях гэтаму баявому пабрацімству прысьвечаныя цэлыя старонкі, у «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі» — роўна два радкі.

Напэўна, Прага гасьцінна прыняла Скарыну яшчэ й таму, што памятала, як некалі ліцьвіны працягнулі чэхам руку дапамогі. Будзеце ў чэскай сталіцы — не забудзьцеся наведацца на Градчанах да помніка гуманісту і першадрукару.

Калі казаць пра XX стагодзьдзе, дык тут імёнаў, падзеяў, дакумэнтаў набярэцца на некалькі манаграфіяў.

У Прагу ў 1923-м пераехаў урад Беларускай Народнай Рэспублікі. На тамтэйшых Альшанскіх могілках спачывае прах старшыняў Рады БНР Пётры Крачэўскага (сярод ягонай спадчыны ёсьць, дарэчы, і эсэ «Скарына і незалежнасьць») і Васіля Захаркі. Тамсама пахаваны наш усясьветна вядомы тэнар, доўгія гады саліст праскага Нацыянальнага тэатру Міхал Забэйда-Суміцкі.

У тагачаснай Чэхаславакіі атрымлівалі стыпэндыі й адукацыю сотні заходніх беларусаў. Філязофскі факультэт Карлавага ўнівэрсытэту, да прыкладу, скончыў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, будучы старшыня Рады БНР. У кавярнях Старамескай

плошчы бываў студэнт філялягічнага аддзяленьня згаданага факультэту Ўладзімер Жылка. У Праскай вышэйшай тэхнічнай школе вучыўся былы камісар Грозаўскага палка слуцкіх паўстанцаў, фундатар выдаванага ў чэскай сталіцы часопісу «Іскры Скарыны» Васіль Русак…

Сярод беларускіх студэнтаў быў Янка Геніюш, муж славутай паэткі. У Празе Геніюшы пражылі потым свае найлепшыя гады. Там, ужо ня ў лепшым 1943-м, выйшла першая кніга спадарыні Ларысы «Ад родных ніў», дзе не было ні слова пра «вялікага вызваліцеля Эўропы Адольфа Гітлера».

Жывучы ў Празе, лідэр беларускіх эсэраў, былы народны сакратар земляробства ў першым урадзе БНР Тамаш Грыб пісаў: «Я або прыеду ў Менск як вольны грамадзянін, або застануся на ўсё жыцьцё сваё эмігрантам». Выпала апошняе.

Гэта толькі самае істотнае й вядомае. А колькі за ім хаваецца іншых сюжэтаў і дэталяў — чульлівых, мілых, вусьцішных...

Малады беларускі пісьменьнік зь Дзьвінску-Даўгаўпілсу Віктар Вальтар, стаўшы праскім студэнтам, даведваецца, што хворы на невылечныя тады сухоты. Ён вяртаецца на радзіму і піша раман «Народжаныя пад Сатурнам», героі якога ходзяць па вуліцах Прагі.

У 1943-м хаваюць Васіля Захарку. Гестапа забараняе выступаць над магілай. Захаркаў пераемнік на пасадзе старшыні Рады БНР, таксама колішні праскі студэнт Мікола Абрамчык насуперак загаду кажа разьвітальнае слова. Прадстаўнік акупацыйных уладаў усчынае скандал. У гэты момант Ларыса Геніюш (якую Захарка нядаўна прызначыў

Генэральным сакратаром БНР) траціць прытомнасьць. На руках спадарыню Ларысу выносяць з могілак Васіль Русак і закаханы ў яе Міхал Забэйда-Суміцкі.

У тыя дні, рызыкуючы жыцьцём, Русак хавае ў сябе ад нацыстаў дзьве габрэйскія сям'і, а яшчэ некалькіх ратуе, выпісаўшы пасьведчаньні, што ўсе гэтыя людзі — беларусы. Потым адзін з выратаваных выдасьць Русака савецкай контравыведцы «Смерш»...

Гледзячы неяк на палітычную мапу сьвету, я думаў пра тое, якую ролю адыгрывалі ў беларускай гісторыі блізкія і далёкія сталіцы: Варшава, Масква, Бэрлін, Парыж... Атрымалася, што адназначна станоўчаю гэтая роля была, бадай, толькі ў Празе.

Ня буду таіцца: маю да чэскай сталіцы сантымэнт. Калісьці прысьвяціў ёй верш, дзе ёсьць такія вось радкі:

*...бэхераўка афарбуе вечар*
*зялёнай гамаю*
*чамусьці прынесшы згадкі*
*пра Гашэка і паручніка Лукаша*
*што лічыў усіх чэхаў*
*якія гавораць па-чэску*
*нечым накшталт карбанарыяў*
*набярэжная Вэлтавы*
*будзе філіялам*
*гэтага таемнага таварыства*
*прапанаваўшы багатыя магчымасьці*
*параўнаньня праскіх ножак*
*з тваімі*

*якія захочацца разбудзіць*
*у ранішнім нумары*
*цёплага восеньскага гатэлю*
*над кавярняй*
*з свойскаю назвай «Чартоўка»*
*дзе ў сьпісе заўсёдных кліентаў*
*значыцца пара лебедзяў*
*што будуць цярпліва чакаць*
*пакуль мы пакінем*
*яхту нашага ложка*
*спусьціўшыся на прыстань*
*дзе можна карміць белых птушак*
*замаўляючы віно*
*пакуль Градчаны*
*не паплывуць па-над местам*
*як славянскія думкі*
*Вэлтавы...*

# Саюзная дамова караля Станіслава Аўгуста

*У адным з інтэрвію вы казалі, што вас прываблівае асоба апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пэўна ж, ведаеце, што да гэтага пэрсанажа нашай агульнай з палякамі й літоўцамі гісторыі і першыя, і другія ставяцца досыць нэгатыўна. Нічога добрага не зрабіў Панятоўскі і для Беларусі. Ён і пахаваны не на Вавэлі ў Кракаве, як іншыя каралі, а ў Варшаве.Чым жа зацікавіў вас гэты палітычны лузэр, які, выбачайце, прас…ў дзяржаву?*

*Будучы гісторык*

Калі літаратар або гісторык кажа, што яго прыцягвае нейкі герой далёкага ці блізкага мінулага, гэта зусім не абавязкова азначае станоўчую ацэнку асобы. Натхніць на мастацкае альбо навуковае дасьледаваньне могуць і героі бясспрэчна адмоўныя, што пакінулі страшны сьлед у гісторыі цэлага чалавецтва. Мы з вамі ведаем, колькі разоў пісьменьнікі ды кінэматаграфісты, ня кажучы ўжо аб прафэсійных слугах Кліё, зьвярталіся, напрыклад, да жыцьцяў Гітлера і Сталіна.

Аднак нават аддаленае параўнаньне Панятоўскага з тыранамі і маньякамі, апанаванымі ідэяй усясьветнай улады, будзе абсалютна некарэктным. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі, апошні ма-

нарх радзімы нашых продкаў, Станіслаў Аўгуст для мяне — асоба перадусім трагічная і супярэчлівая. Ён быў закладнікам абставінаў, няўмольны вір якіх нязьменна спыняў ягоныя спробы кіравацца супроць плыні.

Вы, напэўна, ведаеце, што жыцьцёвы шлях Станіслава дзіўным чынам пераплёўся зь лёсам Кацярыны II. Калі тая яшчэ не займала трону, а Панятоўскі быў паслом у Пецярбургу, яны зрабіліся каханкамі. Абаіх натхняла, здаецца, сапраўднае пачуцьцё. Многія сучасьнікі не лічылі Кацярыну прыгожай, а вось Панятоўскі пакінуў у сваіх нататках такі яе партрэт, ад якога не адмовілася б любая красуня: «Яна брунэтка зь асьляпляльна белаю скурай. Бровы ў яе чорныя і вельмі доўгія, нос грэцкі, рот як быццам кліча да пацалунка, рост я назваў бы высокім, талія тонкая, лёгкая хада, мілагучны голас і вясёлы, як і характар, сьмех…» Малавядома тое, што будучая царыца, якая і дня не магла пражыць без свайго Стася, нарадзіла ад яго дзяўчынку, але дзіця неўзабаве памерла.

У 1764 годзе Кацярына, ужо імпэратрыца, зрабіла Станіслава каралём. Каб, крый божа, элекцыйны сойм Рэчы Паспалітай не памыліўся, у нашую дзяржаву былі ўведзеныя расейскія войскі. Як пісаў адзін з генэралаў, «дабы придавать здешним жителям правильное направление мыслей».

Панятоўскі паспрабуе пазбыцца поўнай залежнасьці ад Расеі і распачне рэформы. Расея адкажа новай інтэрвэнцыяй, а потым навяжа каралю і сойму гэтак званы «вечны трактат», альбо, на сучасны капыл, «саюзную дамову». Калі патрыёты-незалежнікі стварылі Барскую канфэдэрацыю

і ўзяліся за зброю, армія імпэратрыцы зноў перайшла мяжу.

Параза канфэдэратаў прывяла да першага падзелу Рэчы Паспалітай. Усходнебеларускія землі апынуліся ў кіпцюрах дзьвюхгаловага арла. Станіслаў Аўгуст спрабаваў пратэставаць, прасіў падтрымкі ў эўрапейскіх двароў, ды аніводная дзяржава на дапамогу былому кацярынінскаму каханку не прыйшла.

Новая спроба рэформаў скончылася тым, што Панятоўскі мусіў прызнаць над сабой апеку расейскага пасла фон Штакельбэрга.

Але ня будзем забывацца і на тое, што кароль спрыяў дзейнасьці Адукацыйнай камісіі, якая была першым у Эўропе міністэрствам адукацыі. Ён пайшоў на пагадненьне з рэфарматарамі, дзейнасьць якіх дала дзяржаве першую ў Эўропе і другую ў сьвеце пасьля ЗША Канстытуцыю 3 траўня 1791 году.

У заслугу Панятоўскаму трэба залічыць і абвяшчэньне вайны пашыранаму пры ягоных папярэдніках п'янству. Нельга сказаць, што змаганьне з Бахусам выклікала ўсеагульнае захапленьне падданых. Тагачасны паэт Ігнацы Красіцкі зьвярнуўся да манарха з такімі словамі:

*Ты адвучыў ліцьвінаў весяліцца…*
*А каб табе ні разу не напіцца!*

Аднак, з другога боку, знаўца і відавочца той эпохі Лукаш Галембёўскі з ухвалаю пісаў: «За цьвярозым Станіславам Аўгустам у выніку лепшага выхаваньня, высакароднейшых прыкладаў і ўзь-

нёслых пачуцьцяў п'янства спыняецца». На жаль, гэта была адзіная выйграная каралём бітва.

Час для ратаваньня дзяржавы быў незваротна страчаны. Праз год пасьля прыняцьця Канстытуцыі краіну акупавалі расейскія войскі. Яшчэ праз год адбыўся другі падзел дзяржавы, а пасьля задушэньня паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі — і трэці. У 1795-м гістарычны гадзіньнік Рэчы Паспалітай спыніўся. Як змрочна жартуе хтосьці ўва мне, інтэграцыйны працэс атрымаў лягічнае завяршэньне.

Ды ўстрымаемся ад аналёгіяў з сучаснасьцю, бо яны ўсё ж выглядаюць досыць прыблізнымі.

А вось адну красамоўную, пікантную і нават у нечым сымбалічную дэталь гэтай гісторыі згадаць варта. Пасьля адрачэньня Станіслава Аўгуста ад кароны на карысьць Кацярыны II трон былога манарха прывезьлі з Варшавы ў Пецярбург. Імпэратрыца распарадзілася набыткам надзвычай вынаходліва, загадаўшы прыстасаваць яго для сваіх штодзённых фізіялягічных патрэбаў. А калі без эўфэмізмаў — дык папросту ператварыла трон колішняга каханага ўва ўнітаз. На ім, дарэчы, Кацярыну неўзабаве і разьбіў паралюш.

Панятоўскі перажыў жанчыну, якую некалі назваў «уладаркаю свайго сэрца і лёсу» на паўтара году. Рэшту дзён ён прабавіў у Пецярбургу, дзе й пачынаў кар'еру. Без усялякіх урачыстасьцяў Станіслава Аўгуста пахавалі ў 1798 годзе ў касьцёле Сьвятой Кацярыны на Неўскім праспэкце.

У 1938-м прах быў перазахаваны на малой радзіме Панятоўскага — у Траецкім касьцёле мястэчка Воўчын, што паблізу Берасьця. Пасьля

Другой сусьветнай вайны касьцёл абрабавалі — ці то савецкія памежнікі, ці то мясцовыя пралетарыі. Шукаючы золата, злодзеі растрыбушылі ўсю каралеўскую магілу. Тамтэйшыя жыхары апавядаюць, нібыта мясцовы каваль забраў сабе пазалочаную карону і любіў нападпітку танцаваць у ёй на вясковых вясельлях…

У 1988 годзе парэшткі апошняга вялікага князя і караля перадалі Польшчы. Сярод удзельнікаў гэтага чыну зь беларускага боку быў тагачасны дацэнт фізычнага факультэту Гарадзенскага ўнівэрсытэту Аляксандар Мілінкевіч. Ужо зрабіўшыся вядомым палітыкам, ён выдаў пра тыя падзеі і пра самога Панятоўскага кніжку «Воўчынская гісторыя». Рэкамэндую пачытаць яе ня толькі будучым гісторыкам, але і цяперашнім палітычным дзеячам.

# Як шклоўскі карлік Лукашка здаў графа

*Ці згодныя вы з тым, што ў кожнай паўнавартаснай нацыянальнай гісторыі мусяць быць свае авантурысты?*
*Беларус Юры з Расонаў*

З вашым меркаваньнем абсалютна згодны. І хачу сказаць, што авантурыстаў, а па-беларуску, відаць, лепей будзе — авантурнікаў, у нашай мінуўшчыне ня менш, чым у іншых эўрапейскіх народаў.

Любую гісторыю ўпрыгожыла б, напрыклад, неверагодна калярытная асоба беларускай вандроўніцы і лекаркі XVIII стагодзьдзя Саламеі Рэгіны Пільштыновай (у дзявоцтве Русецкай). У чатырнаццаць гадоў гэтае наваградзкае дзяўчо — зрэшты, ужо не дзяўчо, а замужняя кабета — трапляе ў Стамбул, дзе адкрывае ў сабе мэдычны талент. Пакручасты лёс вядзе Саламею па дарогах Асманскай і Расейскай імпэрыяў, Рэчы Паспалітай і землях «Сьвятой Рымскай імпэрыі германскай нацыі». Яна выкупляе ў туркаў палонных хрысьціянаў, беспамылкова арыентуецца ў Вене, Сафіі і Пецярбургу, сядзіць за сталом з атаманамі разбойнікаў і імпэратрыцай Аннай Іаанаўнай. Яна круціць раманы, мае шырокую лекарскую практыку ў Нясьвіжы, трапляе на балі і ў вязьніцы, а завяршае сваю мэдычную кар'еру прыдворнай лекаркаю султанскага гарэму.

Вы не пашкадуеце, калі прачытаеце кніжку Валянціна Грыцкевіча «Адысэя наваградзкай лекаркі», што выйшла ў сэрыі «Нашы славутыя землякі». А потым знайдзіце беларускі пераклад славутых мэмуараў Пільштыноўвай «Авантуры майго жыцьця», выдадзены на пачатку 1990-х «Мастацкай літаратурай». Нягледзячы на 5-тысячны наклад, кніга імгненна (відаць, хацелі трохі падвучыцца сучасныя авантурніцы) зрабілася рарытэтам. Ведаю як рэдактар таго томіка.

Каб займеў машыну часу, адразу б выправіўся насустрач Саламеі. Зразумела, дзеля таго, каб здымаць рэдактарскія пытаньні.

Жыцьцё яшчэ аднаго нашага авантурніка Багуслава Радзівіла, што жыў за стагодзьдзе да Русецкай-Пільштыновай, магло б стаць асноваю для твору кшталту «Трох мушкетэраў». Шпагаю ён валодаў ня горш, чым героі Аляксандра Дзюма, і за свае подзьвігі аднойчы трапіў у парыскую вязьніцу. Хутка выйсьці на волю дапамагло знаёмства з французскім каралём. З ангельскім манархам генэрал каралеўскай гвардыі Рэчы Паспалітай Багуслаў Радзівіл паляваў, швэдзкаму — выратаваў жыцьцё. А яшчэ быў мэцэнатам і калекцыянэрам, дзякуючы чаму зьбярогся славуты Радзівілаўскі рукапіс. Пісаў песьні, нядрэнна маляваў і ўласнаручна зрабіў праект гарадзкіх умацаваньняў свайго Слуцку, пасьля пабудовы якіх горад пачалі называць «бастыёнам Літвы».

Нейкім дзівосным чынам лёс шмат якіх авантурнікаў зьвязаны з Шкловам.

Непрыкметным шклоўскім настаўнікам быў напачатку чалавек, якога расейская гістарыяграфія

называе Ілжэдзьмітрыем ІІ. Адзін з князёў Чартарыйскіх, валодаючы Шкловам, выславіўся такімі фінансавымі махінацыямі, што ад суда ўратаваўся адно дзякуючы магутнаму лобі ў расейскай сталіцы. Але гэта былі дзіцячыя забаўкі ў параўнаньні з тым, як разгарнуўся, атрымаўшы Шклоў, адстаўны фаварыт Кацярыны ІІ граф Сямён Зорыч.

Круты віраж фартуны не адбіў у графа жаданьня жыць па-царску. Апрача ўсяго іншага, ён завёў сабе тэатар з опэрнай, балетнай і драматычнай трупамі (яны яшчэ і забясьпечвалі адаліскамі графскі гарэм). Авантурная асоба сэрба Зорыча прыцягвала блізкіх духам людзей з усёй Эўропы. Камэндантам у яго служыў паляк, поштаю кіраваў саксонец, дняпроўскі перавоз належаў вэнэцыянцу, машыністам пры тэатры служыў былы жыхар Флярэнцыі, адказным за напоі да стала яго сіяцельства быў прызначаны малдаванін... Праз пяць гадоў кіраваньня Шкловам даўгі Зорыча складалі ўжо фантастычную для тых часоў лічбу — 800 000 рублёў. Тады ён выпісаў з сваёй далёкай радзімы двух спэцыялістаў, якія прытарабанілі з сабою набыты ў Брусэлі друкарскі варштат. Ніводнай кнігі зь яго не сышло, бо спэцыялісты былі іншага профілю. Сьледчай камісіі ўсіх здаў прыдворны карлік Лукашка, што ня раз бачыў скрынкі, дзе пад калодамі картаў ляжалі пачкі навюткіх буйных асыгнацыяў.

Як бачым, слава Шклова мае сумнеўнае адценьне, наводзячы на рызыкоўныя паралелі…

Авантурнікаў у нас хапала (ці, можа, усё ж крыху не хапала?) заўсёды. Вашыя Расоны таксама ня сталі ў гэтым сэнсе ціхай завоінай. У 1920-я гады сакратаром Расонскага райкаму партыі, а пэўны час і стар-

шынём камісіі праверкі беларусізацыі ў Расонскім раёне быў Паўлюк Шукайла, па сумяшчальніцтве — скандальны паэт, якому прыпісваецца замілавана-лірычны вершык такога зьместу:

*Выйду я на сенажаць*
*Ды з нагану ў жабу — бац!*

Шукайла выходзіў на жыцьцёвыя й творчыя сенажаці, надзеўшы «баярскую» бабровую шапку і паліто з заморскім кенгуровым каўняром ды захапіўшы цяжкую сукаватую кульбу. У сваім расонскім кабінэце побач з Марксам ён замест Леніна (мабыць, шукаючы ў адпаведнасьці з прозьвішчам усё новых і новых прыгодаў) павесіў на сьцяне ўласны партрэт, пад якім склаў яшчэ адзін славуты верш, дзе называў натхнёна апеты мноствам калегаў васілёк пустазельлем і «пагубнай кветкай палёў».

Але часы былі нялітасьцівыя і да такіх моцных натураў. Заканчэньне Камуністычнай акадэміі ў Маскве не ўратавала Шукайлу ў 1930-м ад арышту. Аднак неўзабаве ён ня проста вызваліўся, але нават атрымаў званьне прафэсара кінамастацтва. Пасьля другой адседкі, праўда, ужо быў бамжом-інвалідам. Трэці арышт стаўся фатальным.

Гадоў дзесяць таму мне давялося рэдагаваць кніжку маладога гісторыка, прысьвечаную якраз беларускім авантурнікам. Тая па-свойму ўнікальная праца ў сьвет дагэтуль ня выйшла. Калі ейны аўтар раптам чытае мяне цяпер, дык можа лішні раз пераканацца, што кніжка па-ранейшаму запатрабаваная. І ня толькі ў Расонах.

Можа, у XXI стагодзьдзі нам, беларусам, насамрэч бракуе авантурнасьці?

# Ліцьвінскі легіён Вялікай арміі

*Хутка будзе адзначацца 200-годзьдзе вайны 1812 году, якая для нас была, як вядома, не такой, як для Расеі. Скажыце, калі ласка, наколькі рэальным сталася аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага пад эгідаю Напалеона?*
*Казімір, настаўнік гісторыі*

Тая вайна ў нашай гісторыі насамрэч мела кардынальна іншы характар, чым ува ўсходніх суседзяў. Для Літвы-Беларусі, што зусім нядаўна патрапіла ў расейскую «турму народаў», яна не была айчыннаю. Аднак гэтае азначэньне, дадзенае царскай гістарыяграфіяй, дагэтуль тыражуецца беларускімі падручнікамі і энцыкляпэдыямі (на жаль, прысутнае яно і ў «Энцыкляпэдыі гісторыі»).

Ня толькі эліта, але і шырокія колы жыхарства былых земляў Вялікага Княства зьвязвалі з паходам Напалеона надзеі на адраджэньне дзяржавы. Сяляне спадзяваліся на вызваленьне ад прыгону.

Ужо праз чатыры дні пасьля пачатку баявых дзеяньняў французаў радасна вітала Вільня. Першы пад бел-чырвона-белымі сьцягамі ў колішнюю сталіцу ўвайшоў уланскі полк князя Дамініка Радзівіла.

Намер запісацца ў Вялікую армію Банапарта выказалі амаль усе студэнты Віленскага ўнівэрсытэту й сотні месьцічаў.

У Менску ўрачыста сустракалі маршала Даву. У Магілеве Напалеону прысягнуў праваслаўны япіскап Варлам. У Віцебску адбылася трагікамічная гісторыя. Ключы ад гораду францускаму імпэратару перадала дваранская дэпутацыя, ачоленая адстаўным армейскім брыгадзірам і былым кацярынінскім фаварытам графам Храпавіцкім. Ягоная жонка ўвесь дзень стаяла на парозе дому, частуючы афіцэраў і жаўнераў вінам. Праз тры дні граф ці то ад празьмернай радасьці, ці то ад старэчай рэўнасьці зьвіхнуўся з розуму…

Да жніўня Вялікая армія заняла амаль увесь беларускі абшар, які афіцыйна называўся «вызваленым ад расейскага прыгнёту».

Напалеон абвясьціў пра аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага з сталіцаю ў Вільні. Яго тэрыторыя складалася з Гарадзенскай, Віленскай, Менскай губэрняў і Беластоцкай вобласьці, перайменаваных у дэпартамэнты. Ваенная ўлада ў Княстве належала генэрал-губэрнатару, цывільная — Часоваму ўраду. У яго структуры было сем камітэтаў (харчаваньня і магазінаў, паліцыі, фінансаў, вайсковы, судовы, унутраных справаў, народнай асьветы і рэлігіі). Камітэты ўзначалілі вядомыя ў краі дзеячы: былы літоўскі маршалак Станіслаў Солтан, граф Язэп Серакоўскі, князь Аляксандар Сапега, рэктар Віленскага ўнівэрсытэту Ян Сьнядэцкі.

Дзеля падтрыманьня ў краіне парадку фармаваліся аддзелы нацыянальнай гвардыі і жандармэрыі, а затым пачалося стварэньне ўзброеных сілаў Княства. Шляхцічы-добраахвотнікі склалі ў імпэратарскай гвардыі кавалерыйскі полк. Пась-

пяхова дзейнічаў эскадрон выведнікаў зь беларускіх татараў.

У некаторых гісторыкаў існуе меркаваньне, што на выпадак палітычнага гандлю з Расеяй Банапарт меў намер стварыць у Прыдзьвіньні і Падняпроўі яшчэ адну падуладную яму дзяржаву пад назовам Беларусь.

Аднак рэальнае адраджэньне Княства валадара Эўропы цікавіла мала. Ён выкарыстоўваў патрыятычныя настроі ў сваіх мэтах. Назавем рэчы сапраўднымі імёнамі: Часовы ўрад быў марыянэткавы. Ён ня меў права прымаць пастановаў бяз згоды францускага камісара і мусіў займацца ў першую чаргу зборам падаткаў для Вялікай арміі. За абяцаньне вярнуць дзяржаўнасьць імпэратар вымагаў 100-тысячнага войска і велічэзных паставак фуражу і харчу. У жніўні ён падпісаў указ, паводле якога беларускія губэрні павінны былі даць 528 тысяч тонаў збожжа, 100 тысяч тонаў аўса і 53 тысячы кароваў. Гэта пагражала краіне голадам.

Настроі ў грамадзтве мяняліся. З Часовага ўраду выйшаў нядаўні заўзяты банапартыст Аляксандар Сапега, які ня раз выконваў асабістыя даручэньні францускага імпэратара. Дачакаўшыся не скасаваньня прыгоннага права, а рэквізыцыяў і рабункаў, сяляне стваралі партызанскія аддзелы…

Далейшыя падзеі добра вядомыя.

Ліцьвінскія палкі, у якіх налічвалася 25 тысяч нашых суайчыньнікаў, з баямі адступалі разам зь Вялікай арміяй праз Польшчу і Нямеччыну да самай Францыі. Забітымі й палоннымі яны страцілі пераважную большасьць жаўнераў і афіцэраў. Тыя гінулі не за свае інтарэсы. За чужую Айчыну склалі

галовы і дзясяткі тысяч ліцьвінаў, што служылі ў расейскім войску. На пачатку вайны іх было 130 тысяч. Братоў прымусілі біцца з братамі, і вайна набыла рысы грамадзянскай.

Часовы ўрад Княства пакінуў радзіму. Чатыры ягоныя паседжаньні адбыліся ў Варшаве, восем — у Кракаве, тры — у Дрэздэне. Там у ліпені 1813 году «міністры» сабраліся апошні раз.

Але ідэя адраджэньня Княства не загінула. Яна натхняла ўдзельнікаў вызвольных паўстаньняў XIX стагодзьдзя, дзеячоў нашага Адраджэньня братоў Луцкевічаў, якія ў 1915-м сталі ініцыятарамі стварэньня Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага…

А я, упершыню прыляцеўшы пятнаццаць гадоў таму ў ЗША, у картцы прыбыцьця адважна пазначыў родную краіну як VKL. І праз два тыдні вярнуўся дадому зусім не таму, што мяне дэпартавалі.

# Хто навучыў Маскву чытаць

*У адной з вашых кніг напісана, што мы (гэта значыць, беларусы) «вучылі рускіх чытаць і пісаць». Ці не здаецца вам, што гэта ўжо занадта? Відаць, і нас яны нечаму вучылі.*

*Віктар, Смаргонь*

Ня трэба ўспрымаць усё так літаральна і, пагатоў, вырываць цытаты з кантэксту. Гаворка ў мяне ішла пра тое, што пасьля захопу нашых земляў пры канцы XVIII стагодзьдзя каляніяльныя расейскія ўлады ўзяліся сьцьвярджаць, нібыта зь іхнім зьяўленьнем сюды прыйшло і сьвятло адукацыі ды сапраўднай культуры. Насамрэч жа якраз Літва-Беларусь вякамі была культурным мостам паміж Эўропай і адсталай Масковіяй.

Ня так даўно ў адным як быццам сур'ёзным расейскім часопісе я вычытаў, што ў 1667 годзе пад пастановамі сходаў у маскоўскай Мяшчанскай слабадзе стаяла 36 % уласнаручных подпісаў, а агульны адсотак пісьменных у згаданай частцы Масквы набліжаўся да 50. Затым ішлі навуковападобныя разважаньні, што, маўляў, ужо за царом-бацюхнам Аляксеем Міхайлавічам ды ягоным сынам Фёдарам амаль палова жыхароў расейскай сталіцы без праблемаў умела расьпісацца на казённай паперыне. Ну, а з такімі дасягненьнямі, натуральна, можна было заняцца і асьветаю розных «малодшых братоў».

Сустрэўшы названую «цифирь», расейскі патрыёт будзе прыемна зьдзіўлены і з гонарам выпіша яе ў свой нататнік. Але хтосьці дасьведчаны ў гісторыі адно скептычна хмыкне. Бо ён ведае, колькі ўсяго слабодаў было ў тагачаснай Маскве і хто жыў у слабадзе Мяшчанскай. Яму вядома, што апошнюю ўтварылі не для каго-небудзь, а адмыслова для перасяленцаў з нашых краёў. А беларусам-ліцьвінам у тыя гады быў кожны пяты жыхар «первопрестольной», якая менавіта тады і пачала па-наску «акаць», хоць вакол яе дагэтуль «окають».

Тут у неабазнанага чалавека ўзьнікаюць прынамсі два пытаньні: што гэта за нашэсьце беларусаў і чаму яны такія пісьменныя?

Рэч у тым, што ў 1654—1667 гады Рэч Паспалітая мусіла весьці чарговую вайну з Маскоўскай дзяржавай. Мэта ўва ўсходняга суседа была ранейшая — беларускія землі. Тактыка таксама не вызначалася арыгінальнасьцю. Былі спаленыя Бабруйск, Глуск, Копысь, Сьвіслач, Чавусы, амаль цалкам выразаны Амсьціслаў...

Ваенныя дзеяньні суправаджаліся масавым і, зразумела, зусім ня добраахвотным перасяленьнем нашых продкаў на ўсход. У Крамлі нарадзіўся грандыёзны плян: засяліць беларусамі «изрядную часть домов в столице и обезлюдевшие от морового поветрия веси». Ішла гаворка пра 300 тысяч «беларусцаў», і найперш пра людзей, «науки всякие и ремесла знающих». (Не забывайма, што сам назоў Мяшчанскай слабады паходзіць ад старабеларускага слова «места» — горад.)

Архіўныя дакумэнты сьведчаць: дзеці слабадчанаў вучыліся ў той час у школе «литовца» Якуба

Якаўлева. Іншы «літовец», полацкі манах Варлам, у 1665 годзе распачаў навучаньне юных маскоўцаў «польской и латинской грамоте».

Паколькі ў Вялікім Княстве Літоўскім існавала даўняя тэатральная традыцыя, 26 жыхароў слабады былі запісаныя акторамі першага ў Расеі прыдворнага тэатру, створанага ў 1672-м Сімяонам Полацкім.

Нават пасьля інкарпарацыі Беларусі ў царскую імпэрыю разрыў з суседзямі ўва ўзроўні адукацыі яшчэ колькі дзесяцігодзьдзяў заставаўся такі значны, што расейскія арыстакраты нярэдка адпраўлялі «отпрысков» па навуку якраз да нас. У Полацкім калегіюме, да прыкладу, вучыўся будучы знакаміты мэдальер, скульптар і гравёр Фёдар Талстой. А дзесяць выхаванцаў калегіюму, адкрытага полацкімі езуітамі ў Санкт-Пецярбургу, сталі ўдзельнікамі паўстаньня на Сэнацкім пляцы.

Зрэшты, ужо ў 1820-м калянізатары павесілі на дзьвярах Полацкай акадэміі замкі, а праз дванаццаць гадоў, пасьля вызвольнага паўстаньня, закрылі і Віленскі ўнівэрсытэт.

На ўзбраеньне быў узяты лёзунг: расейская школа зробіць у Беларусі больш за любую армію...

## Чаму ў нас не Бэрнадоты?..

*Адной з істотных прыкметаў эўрапейскай цывілізацыі, пра якую вы любіце паразважаць, была агульнасьць для розных дзяржаваў адных і тых самых манаршых дынастыяў. Да прыкладу, Габсбургі маглі кіраваць ад Пірэнэяў да Закарпацьця. Наколькі ў гэтую схему ўпісваюцца Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітая Абодвух Народаў?*

*Яраслаў Лісоўскі, беларускі манархіст*

У гэтую схему ўпісваюцца вельмі добра. Хоць па-беларуску лепей было б сказаць — уштукоўваюцца.

Прадстаўнікі нашай дынастыі Ягайлавічаў, альбо Ягелёнаў, заснаванай Соф'яй Гальшанскай, апрача Вялікага Княства Літоўскага, уладарылі ў Польшчы, Чэхіі ды Вугоршчыне.

Апошні зь Ягайлавічаў — вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт Аўгуст, што памяняў гэты сьвет на лепшы ў 1572 годзе, не пакінуў сыноў (прынамсі, законнанароджаных). У Вільні й Кракаве адкрыліся вакансіі. Адным з асноўных прэтэндэнтаў на іх стаў Гэнрых Валюа. (Яму, дарэчы, таксама — досыць містычнае супадзеньне — было наканавана застацца ў гісторыі апошнім з дынастыі Валюа.) Ягоную кандыдатуру заўзята падтрымліваў тагачасны францускі кароль Карл IX. Ён пабойваўся ўплывовага роднага брацікі й даўно марыў сплавіць таго куды-небудзь далей ад Парыжу.

Ды на шляху рэалізацыі гэтага, як цяпер модна казаць, праекту ўзьнікла сур'ёзная перашкода.

У Рэчы Паспалітай добра ведалі, што прычынілася ў французскай сталіцы ў тым самым 1572 годзе ў ноч на 24 жніўня (дзень сьвятога Барталямэя). Тады парыскія каталікі, якіх натхняла каралева-маці Кацярына Мэдычы, перарэзалі некалькі тысяч пратэстантаў-гугенотаў. Як выявілася, Гэнрых Валюа, дыпляматычна кажучы, ня быў староньнім назіральнікам масакры. Гэта выклікала абурэньне пратэстантаў нашай дзяржавы, дзе значная частка эліты належала тады да кальвіністаў. Тым ня менш, дзякуючы спрыту французскага пасланьніка біскупа дэ Манлюка (зласьліўцы ахрысьцілі яго Манюкам), на сойме Гэнрых здабыў падтрымку большасьці сэнатараў і шляхты. Праўда, дзеля абраньня на трон ён мусіў падпісаць акт, у якім сярод іншага дакляраваў захоўваць у дзяржаве рэлігійны мір.

Аднак «раман» Рэчы Паспалітай з Валюа (у нас яго называлі Гэнрыкам Валежычам) ня здоўжыўся. У 1574-м у Парыжы памёр Карл IX, і ў адну з найбліжэйшых начэй Гэнрых, які ў душы ніколі і не хацеў рабіцца Гэнрыкам (і ўвогуле напраўду быў Анры), скочыў у карэту ды загадаў фурману: «Гані!» Курс, натуральна, быў узяты на Францыю, дзе неўзабаве ўцякач быў каранаваны пад імем Гэнрыха III.

Празь пятнаццаць гадоў яго заб'е манах-фанатык. Такі самы лёс напаткае і Гэнрыха IV, чыя асоба так цікавіла ягонага аднайменьніка, пісьменьніка Г. Мана. Гэта я да таго, што ў дзяржаве нашых продкаў манархі ў тыя, дый у пазьнейшыя, часы гвалтоўнай сьмерцю не паміралі.

Ад 1587-га да 1668-га ў Рэчы Паспалітай кіравалі прадстаўнікі швэдзкай дынастыі Вазаў, якія ваявалі з сваякамі, што сядзелі на троне ў Стакгольме. У сувязі з гэтым згадваецца адна забаўная гісторыя ўжо з найноўшых часоў.

Гадоў пятнаццаць таму пасьля старанна праведзенага аднаўленьня забурыўся мур Лідзкага замку. Сродкаў на яшчэ адну рэстаўрацыю толькі што адрэстаўраванага помніка не ставала. І тут у нейкай сьветлай лідзкай галаве нарадзілася бліскучая ідэя — зьвярнуцца па дапамогу да караля Швэцыі. Маўляў, калі падданыя продкаў вашай вялікасьці некалі разбурылі нам замак, дык ці не хацелі б вы паўдзельнічаць у яго адраджэньні?

Ня ведаю, колькі там дзён ці тыдняў адводзіцца швэдзкімі законамі на разгляд лістоў працоўных і беспрацоўных, але з адказам на ліст з далёкай (ды, як выявілася, ледзьве ня братняй беларускай Ліды) каралеўская канцылярыя не забавілася. Разрываючы дрыготкімі ад хваляваньня рукамі капэрту з вэнзэлем яго вялікасьці Карла VI Густава, лідзкія кіраўнікі ўжо чулі шамаценьне храбусткіх кронаў. Але...

Дарагія спадары-таварышы, пісалі швэды, скарга на нехарошы ўчынак нашых прапрадзедаў уважліва разгледжаная і з усіх бакоў вывучаная. Аднак, як паказала праверка, ваш замак бурылі падданыя дынастыі Вазаў, а цяпер, ажно з 1810 году, у нас кіруе дынастыя Бэрнадотаў, што аніякай адказнасьці за дзеяньні Вазаў не нясе. Квітнейце! Дата і подпіс.

Асабіста ў мяне крыўды на швэдаў чамусьці ані кроплі няма.

А яшчэ адкрыю вам на разьвітаньне страшную таямніцу. Я таксама ў глыбіні душы — зацяты беларускі манархіст. Бывае, так хочацца пастагнаць пад каралеўскай дэспатыяй кшталту швэдзкай або брытанскай. Але, як пяецца ў папулярнай песьні: я нарадзіўся тут, і я буду жыць тут.

# Межы Радзімы пазначым крывёю!

*Лічаныя месяцы засталіся да 150-годзьдзя нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863 году. Памятаю, трыццаць гадоў таму наш інстытуцкі выкладчык гісторыі даводзіў, што паўстанцы дзейнічалі толькі на захадзе Беларусі. На ўсходзе і ў цэнтры краю нібыта панаваў спакой, а калі інсургенты і зьяўляліся, сяляне хутка здавалі іх расейскім войскам. З гэтага рабілася выснова, што паўстаньне было польскае. Такія выкладчыкі й такія погляды сустракаюцца (і на афіцыйным узроўні заахвочваюцца) і цяпер. Што адказаў бы ім спадар Арлоў?*

*Генадзь з полацкага Задзьвіньня*

Свой адказ я пачаў бы з геаграфіі збройнага змаганьня.

Праз тыдзень пасьля выступу інсургентаў у Варшаве нелегальны Літоўскі правінцыйны камітэт, які рыхтаваў паўстаньне на нашых землях, быў пераўтвораны ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі. 1 лютага 1863 году ён выдаў у Вільні маніфэст з заклікам далучыцца да барацьбы.

Для ўсяго абшару колішняга Вялікага Княства Літоўскага была прызначаная паўстанцкая адміністрацыя.

«Межы Радзімы пазначым крывёю!» — такі быў адзін зь лёзунгаў змагароў.

Ужо ў першыя дні інсургенты захапілі на захадзе горад Пружаны, а таксама мястэчка Сьвіслач. На ўсходзе аддзел вайсковага начальніка Магілеўскага ваяводзтва Людвіка Зьвяждоўскага, да якога далучыліся студэнты і выкладчыкі Горы-Горацкага земляробчага інстытуту, у адну з красавіцкіх начэй заняў Горкі.

З баямі прайшло праз Гарадзенскую губэрню да Пінску фармаваньне Рамана Рагінскага. Паўстанцаў-менчукоў ачоліў Антон Трусаў. На Лідчыне пасьпяхова ваяваў з расейскімі карнікамі аддзел Людвіка Нарбута. Паблізу Краславы людзі графа Лявона Плятэра захапілі вялікі царскі транспарт з зброяй...

На поўнач ад Полацку паручнік Баляслаў Кульчыцкі камандаваў аддзелам, дзе змагаліся полацкая ды себеская шляхта і тутэйшыя студэнты Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Камісарам суседняга Дзісенскага павету быў вядомы скульптар Гэнрык Дмахоўскі, які, жывучы ў ЗША, стварыў для Кангрэсу бюсты Тадэвуша Касьцюшкі і Томаса Джэфэрсана. Зусім недалёка ад нашага з вамі роднага Задзьвіньня (праўда, мы, гарадзкія, у дзяцінстве з задзьвінскімі заўсёды біліся), каля Янова і Бікульнічаў месціліся базы паўстанцкага аддзелу Отана Грабніцкага.

Як бачым, змаганьнем з расейскімі калянізатарамі была ахопленая ўся тэрыторыя Літвы-Беларусі. Як сьведчаць дакумэнты, у Пецярбургу панічна баяліся, што паўстаньне перакінецца на беларускую

Смаленшчыну, адарваную ад Вялікага Княства яшчэ ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя.

На тэрыторыі былога Княства ад лютага да жніўня 1863 году адбылося блізу 100 бітваў і баявых сутычак каліноўцаў з царскай арміяй. Найбольшай была бітва пад Мілавідамі (цяпер Баранавіцкі раён), дзе расейцам супрацьстаялі гарадзенскі, наваградзкі, пружанскі, ваўкавыскі ды слонімскі паўстанцкія аддзелы.

Злучаныя сілы інсургентаў на чале з Аляксандрам Лянкевічам адбілі ўсе атакі выдатна ўзброеных і вымуштраваных карнікаў. Сёньня пра тую перамогу нагадваюць у Мілавідах капліца і мэмарыяльны камень.

Найдаўжэй барацьба трывала на Гарадзеншчыне, дзе ваяводзкім камісарам (пасьля таго, як варшаўскаму «беламу» цэнтру ўдалося расфармаваць рэвалюцыйны ўрад у Вільні) стаў сам Каліноўскі, а сярод інсургентаў было шмат сялянаў. Баі на захадзе Беларусі працягваліся да пачатку 1864 году.

Паўстаньне засталося адным зь нешматлікіх у гісторыі XIX стагодзьдзя прыкладаў, калі найлепшыя сыны паняволенага народу, баронячы чалавечую і нацыянальную годнасьць, паўсталі супроць велізарнай імпэрыі. Коштам іхніх жыцьцяў Літва-Беларусь выказала пратэст расейскаму фэадалізму і дэспатызму, засьведчыўшы прыхільнасьць да эўрапейскіх каштоўнасьцяў, канстытуцыйнасьці й парлямэнтарызму.

У польскай і расейскай гістарыяграфіі паўстаньне 1863—1864 гадоў ацэньваецца як польскае, але гэта не адпавядае сапраўднасьці. І напярэдадні, і ў ходзе збройнага змаганьня на беларускіх землях

існавала моцная плынь ліцьвінскага (беларускага) нацыянальна-вызвольнага руху, узначаленая Каліноўскім.

З расейскімі карнікамі ваявалі тысячы нашых суайчыньнікаў. Сярод іх знаходзілася ўжо шмат тых, хто гатовы быў ахвяраваць жыцьцё не за Рэч Паспалітую, а за сваю будучую незалежную дзяржаву.

Як вядома, паўстанцы мелі беларускую газэту, у іх шэрагах былі пісьменьнікі Францішак Багушэвіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Фэлікс Тапчэўскі.

Нараджалася беларуская нацыя.

## «Ім мураўёўскі б гальштук ўзьдзець...»

*Вы сьцьвярджаеце, што ў царскай імпэрыі Беларусь была расейскай калёніяй. Ці не занадта катэгарычная гэтая выснова? Калёнія ўсё ж выклікае асацыяцыі з геаграфічна аддаленай і цывілізацыйна адсталай тэрыторыяй, а тут — блізкія па культуры і веры суседзі, якія самі шмат у чым адставалі беларусаў.*

*Сяргей Верас*

Каб вызваліцца з падманлівага палону асацыяцыяў, нагадаю, што Ірляндыя была калёніяй суседняй Брытаніі, што ўсталявала жорсткі рэжым эксплюатацыі прыродных і чалавечых рэсурсаў, улучна з культурнай і моўнай асыміляцыяй.

Але для брытанскай імпэрыі Ірляндыя сапраўды пэўны вынятак з правіла. Астатнія каляніяльныя ўладаньні Лёндану ляжалі далёка ад мэтраполіі. Расейская ж імпэрыя была не заморская, а кантынэнтальная. Калёніі месьціліся недалёка, і пры пэўнай этнічнай блізкасьці каланізатары мелі магчымасьць ня толькі маскаваць прыгнёт дэмагагічнымі лёзунгамі, але і накідаць паняволенаму народу чужую гісторыю й чужых герояў.

У расейскай, а потым у савецкай імпэрыі захоп нашых земляў пры канцы XVIII стагодзьдзя называўся не іначай, як «узьяднаньнем», хоць ніколі раней Літва-Беларусь у межах Расеі не была.

Былое Вялікае Княства Літоўскае зь ягонымі дэмакратычнымі традыцыямі і эўрапейскімі эканамічнымі навацыямі стала часткаю краіны, якую Маркс і Энгельс трапна назвалі «жандарам Эўропы», а Ленін — «турмой народаў». У Расеі панавалі абсалютызм і фэадальныя формы гаспадаркі.

Кацярына II і яе сын імпэратар Павел I раздалі сваім дваранам на далучаным абшары больш за паўмільёну беларусаў. Пераважная большасьць гэтых запрыгоненых сялянаў датуль была асабіста вольная. Задушыўшы паўстаньне Тадэвуша Касьцюшкі, Сувораў быў узнагароджаны цэлым Кобрынскім староствам з 25 тысячамі «душаў». Прыгонных, якія раней плацілі пераважна грашовы аброк, пагналі на паншчыну. Памешчыкі тысячамі здавалі сялянаў на будаўнічыя работы ў далёкія расейскія губэрні.

Рэзка пагоршыўся стан гарадзкога насельніцтва. У гарадоў і мястэчак адабралі старыя гербы і скасавалі магдэбурскае права на самакіраваньне. Мяшчанаў абклалі падушным падаткам і ў вайсковай павіннасьці прыраўнялі да сялян. Падаткі ў беларускіх губэрнях да 1811 году заставаліся ў чатыры-пяць разоў цяжэйшыя, чым у расейскіх.

На зьмену расфармаванаму прафэсійнаму войску Вялікага Княства прыйшлі невядомыя дагэтуль рэкруцкія наборы з пажыцьцёвай службай, якую пазьней абмежавалі «ўсяго» чвэрткай стагодзьдзя. Беларусы рабіліся гарматным мясам у захопніцкіх царскіх паходах. Тым часам рэкруцкая павіннасьць не накладалася на Латвію, Эстонію, Бэсарабію, Грузію, Фінляндыю, а пазьней і на Ўкраіну, якая пасылала на службу казацкія палкі.

Захоп Беларусі адбываўся пад выглядам абароны правоў праваслаўных. Аднак яны на той момант складалі ўсяго блізу 6 % насельніцтва, і ніякіх выгодаў, апынуўшыся ў імпэрыі, не атрымалі. А вось беларусы-вуніяты, да якіх належала больш за 75 % жыхароў краю, трапілі пад жорсткі перасьлед.

Царская імпэрыя ніколі ня ведала рэлігійнай і нацыянальнай талеранцыі. Беларусаў наогул не прызнавалі асобным народам, а лічылі папсаванымі пальшчызнаю расейцамі. Адпаведнае стаўленьне было і да мовы. Продкаў нават пазбавілі права на ўласныя імёны і прозьвішчы. Царскія пісары ў дакумэнтахператваралі Язэпаў у «Иосифов», Тамашоў — у «Фомов», Якубаў — у «Яковов». Да беларускіх прозьвішчаў дадаваліся расейскія канчаткі, а сялянаў часта запісвалі па гаспадару-памешчыку. Такім, дарэчы, чынам набыў прозьвішча адзін з маіх продкаў па мячы — стаўшы, паводле ўказу яе вялікасьці, прыгонным аднаго з братоў Арловых, што ўзводзілі Кацярыну на трон.

Расейскія ўлады ўстанавілі для габрэяў вядомую «мяжу аселасьці». Юдэі мусілі плаціць удвая большыя за хрысьціянаў дзяржаўныя падаткі.

Былі ўведзеныя абмежаваньні для жанчын. У Рэчы Паспалітай шляхцянкі і мяшчанкі валодалі маёмаснымі правамі, у Расейскай імпэрыі — не. Гэта страшэнна звужала эканамічныя магчымасьці асабіста вольных ліцьвінак і паніжала іх грамадзкі статус.

Пасьля вызвольнага паўстаньня 1831 году каляніяльны ўціск рэзка ўзмацніўся. Пры расейскім урадзе быў створаны асобы Камітэт у справах заходніх губэрняў, мэтаю дзейнасьці якога стала поў-

ная русіфікацыя Літвы-Беларусі. Месца звольненых службоўцаў займалі прыежджыя з цэнтральных губэрняў. У дзесяці тысяч нашых суайчыньнікаў адабралі шляхецтва. Расейскія дваране і чыноўнікі проста шалелі ад шырокай ракі разнастайных палёгкаў і прывілеяў. Уяўленьне пра гэта, а таксама пра цяжар падаткаў, дае такі факт: разам узятыя даходы Менску, Віцебску, Магілева, Горадні, Полацку, Берасьця, Пінску і Бабруйску былі ў два з паловаю разы меншыя за гадавы даход, які расейскі князь Паскевіч меў толькі з гомельскага маёнтку.

Найкрасамоўнейшым прыкладам таго, што каланізатары цалкам пагарджалі інтарэсамі нашых людзей, стаў драматычны лёс Берасьця. Дзеля пабудовы вайсковай фартэцы ў першай палове XIX стагодзьдзя быў зьнішчаны цэлы горад, які лічыўся адным з найпрыгажэйшых ва Ўсходняй Эўропе. Берасьцейцаў перасялілі за тры кілямэтры, а на месцы зруйнаваных дамоў, храмаў, манастыроў збудавалі царскую цытадэль, шырока вядомую цяпер як «Брестская крепость».

У галіне асьветы царскія ўлады кіраваліся меркаваньнем, што расейская школа зробіць для заняволеньня краю нязьмерна болей за расейскі штых. Моваю навучаньня магла быць толькі расейская. Затым выйшаў указ, што і ўвогуле размаўляць у сьценах вучэльняў розных роўняў дазволена выключна па-расейску. Ішла мэтанакіраваная расправа з навучальнымі ўстановамі, якія зрабіліся асяродкамі апазыцыі царызму. Яшчэ ў 1820 годзе закрылі Полацкую акадэмію, што мела ўнівэрсытэцкія правы. У 1832-м такі самы лёс напаткаў Віленскі ўнівэрсытэт, у 1842-м — Віленскую мэдычна-

хірургічную акадэмію... Калянізатары мелі на мэце пазбавіць Літву-Беларусь сваёй інтэлігенцыі.

Вайна з рэлігійнай вуніяй завяршылася ў 1839 годзе Полацкім царкоўным саборам, што пад дыктоўку калянізатараў прыняў пастанову пра вяртаньне грэка-каталікоў «в лоно прародительской веры, дабы пребывать отныне в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода» (які сам быў у поўным паслушэнстве царскага ўраду). Пра долю тых, хто не хацеў вяртацца «в лоно», напісаў у артыкуле «Секущее православие» Аляксандар Герцэн: «Со стороны гражданского начальства истязанием заведовал окружной Новицкий. Этот полицейский апостол сек людей до тех пор, пока мучимый не соглашался принять причастие от православного попа. Один четырнадцатилетний мальчик после двухсот розг отказался от такого общения со Христом. Его снова начали сечь, и только тогда, уступая страшной боли, он согласился. Православная церковь восторжествовала!».

Падрыхтаваўшы глебу забаронай народнае веры, у 1840 годзе імпэратар Мікалай I адмысловым загадам забараніў ужываць у афіцыйных дакумэнтах самі найменьні «Літва», «літоўскі» і «Беларусь», «беларускі». Нашай зямлі далі каляніяльны назоў «Северо-Западный край».

Каб сьцерці ў будучых пакаленьняў памяць пра сваю былую дзяржаву, царская адміністрацыя зь нечуваным размахам і цынізмам рабавала культурныя й гістарычныя багацьці. У Расею вывезьлі бальшыню кнігазбораў і мастацкіх калекцыяў ліцьвінскай арыстакратыі. Сярод безьлічы скарбаў

на ўсход трапіў і архіў Вялікага Княства з сотнямі тамоў Літоўскай Мэтрыкі.

Краю навязалі (што тыпова для каляніялізму) монакультуру — бульбу, каб гнаць гарэлку ледзь не для ўсёй імпэрыі.

Калянізатары высмоктвалі як матэрыяльныя багацьці, так і інтэлектуальныя сілы Беларусі. Адсутнасьць вышэйшых навучальных установаў, забарона беларускай мовы ў навучаньні і кнігадрукаваньні прычыніліся да таго, што шмат беларусаў рабіліся дзеячамі расейскай навукі і культуры. Літаратары Фадзей (Тадэвуш) Булгарын і Фёдар Глінка, кампазытары Восіп Казлоўскі, Міхаіл Глінка, Мадэст Мусарскі, скульптар Міхаіл Мікешын, матэматык Соф'я Кавалеўская... Сьпіс бясконцы.

Каляніяльную імпэрскую палітыку, што праводзілася ў Беларусі, падтрымлівала і бальшыня расейскіх «валадароў думак», якія лічацца дэмакратамі.

На паведамленьні эўрапейскага друку пра жорсткія распраў з інсургентамі 1831 году ды іх сем'ямі Аляксандар Пушкін, да прыкладу, адгукнуўся вершам «Клеветникам России», дзе называў тыя крывавыя падзеі ўсяго толькі «спором славян между собою». Яшчэ адзін абаронца імпэрыі Фёдар Цютчаў бачыў місію Расеі ў тым, каб

*Славян родные поколенья*
*Под знамя русское собрать*
*И весть на подвиг просвещенья*
*Единомысленных, как рать...*

У вынішчэньні ўсяго нацыянальнага найбольш вызначыўся былы дзекабрыст Міхаіл Мураўёў, які

з 1831 году служыў менскім ваенным губэрнатарам, а пазьней, падчас паўстаньня Каліноўскага, быў, як вядома, прызначаны віленскім генэрал-губэрнатарам і атрымаў мянушку Вешальнік. (Узьнёслыя радкі прысьвяціў яму, «миротворцу края», расейскі паэт-дэмакрат Мікалай Някрасаў.) Зьвяртаючыся да беларускага дваранства, Мураўёў папярэджваў: «Помните, что если вы не станете по своим мыслям и чувствам русскими, то будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край».

...Праз сто гадоў беларускі паэт Алесь Дудар у знакамітым вершы «Пасеклі край наш напалам» (ганарарам за падобныя творы ў тыя часы быў расстрэл) напіша:

*О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні*
*Такі разлом, туга такая!*
*І баюць байкі баюны*
*Северо-Западного края...*

*Плююць на сонца і на дзень.*
*О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?*
*Ім мураўёўскі б гальштук ўзьдзець,*
*Нашчадкам мураўёўскім гэтым...*

Ці можам мы сказаць, што гэтыя радкі ўжо страцілі актуальнасьць?

# Мурын Янка — беларускі інсургент

*Не сакрэт, што вызвольнае паўстаньне 1863—1864 гадоў у Беларусі расейская гістарыяграфія ды яе мясцовае пазадзьдзе называюць «польскім». Мы ведаем, што гэта — імпэрская хлусьня. А ці ёсьць зьвесткі аб прадстаўніках іншых народаў, якія разам зь беларусамі-ліцьвінамі (яны тут складалі пераважную большасьць інсургентаў) ды іхнімі пабрацімамі-палякамі бралі ўдзел у барацьбе, рызыкавалі жыцьцём і гінулі за нашу свабоду?*

*Цімох, студэнт-гісторык*

У свабоды няма нацыянальнасьці, але ёсьць радзіма — вольная чалавечая душа.

Змаганьне за вызваленьне ад іншаземнага прыгнёту ўва ўсе часы прыводзіла пад свае сьцягі вальналюбных людзей незалежна ад паходжаньня. Не было выняткам і паўстаньне 1863 году.

На жаль, грунтоўнага дасьледаваньня на гэтую надзвычай цікавую тэму пакуль што, наколькі мне вядома, няма. Але зьвестак пра тое, што сярод каліноўцаў з царскімі карнікамі ваявалі ня толькі тутэйшыя жыхары, вельмі шмат.

На самым пачатку паўстаньня аддзел з 150 шабляў і стрэльбаў на чале зь Людвікам Зьвяждоўскім, што меў кансьпірацыйную мянушку Тапор, раптоўным начным ударам захапіў горад Горы-Горкі на

ўсходзе Беларусі. Раніцой да змагароў далучыліся некалькі дзясяткаў студэнтаў Горацкага земляробчага інстытуту. Сярод іх быў дваццацігадовы вольны слухач гэтай навучальнай установы Апалон Сокалаў — этнічны расеец, бацькі якога паходзілі з унутраных губэрняў імпэрыі. Апалон заставаўся з Тапаром да самага моманту вымушанага роспуску аддзелу і пастановы па адным прабівацца на захад.

Агентам Віленскага паўстанцкага камітэту быў Дзьмітры Базанаў, які займаў пасаду пісара ў Троцкім павеце. У матэрыялах сьледчай камісіі значыцца: «Удивляться нужно дерзости и энергии Базанова; он один из самых деятельных членов комитета и отправлял мятежникам большие транспорты с оружием». Захаваўся дагератыпны партрэт Дзьмітрыя, зь якога глядзіць малады чалавек, нечым падобны ў маім уяўленьні да герояў Дастаеўскага.

Зазначу, што паўстанцаў кшталту Апалона Сокалава й ягоных суайчыньнікаў каралі значна больш жорстка параўнаўча з спрадвечнымі жыхарамі «Северо-Западного края». «Измена государю и отечеству» з боку расейцаў лічылася найбольш цяжкай. Апалона пазбавілі дваранства з усімі маёмаснымі правамі й асудзілі на 12 гадоў катаржнай працы ў сібірскіх капальнях, дзе, як выглядае, і згасла ягонае нядоўгае жыцьцё.

Уважлівыя чытачы раману Ўладзімера Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» мусяць памятаць не зусім звычайнага героя — чарнаскурага юнака Янку, што выхоўваўся пры адным з шляхецкіх двароў. Лёгіка падзеяў павінна была прывесьці пас-

талелага Янку разам зь сябрамі дзяцінства ў шэрагі паўстанцаў. Названага літаратурнага героя можна ўспрымаць проста як плён пісьменьніцкай фантазіі. Аднак я ўпэўнены, што Караткевіч быў знаёмы зь «беларускімі» нататкамі расейскага літаратара Мікалая Ляскова, што падарожнічаў па Літве-Беларусі якраз у той неспакойны час і пакінуў запіс пра захопленага ў палон параненага інсургента-мурына.

У Літоўскі камітэт — нелегальны цэнтар падрыхтоўкі збройнага выступу — уваходзіў італіец, сьпявак і танцмайстар Ахіла Банольдзі. Італія была радзімаю продкаў іншага знакамітага паўстанца — мастака Міхала Андрыёлі. Ён (дарэчы, разам з Францішкам Багушэвічам) ваяваў у аддзеле аднаго з кіраўнікоў паўстаньня Людвіка Нарбута і пакінуў своеасаблівы мастацкі летапіс змаганьня.

Кажуць, што Айчыну не выбіраюць.

Але кожны можа выбраць свабоду.

## Славу — Айчыне, гонар — нікому

*Вы пісалі, што і па бацькавай, і па матчынай лініі паходзіце зь сялянаў. Скажыце, калі ласка, адкуль такое захапленьне шляхтай? Агульна вядома, што і сёньня ў народным уяўленьні шляхта — гэта палякі, ці, прынамсі, не зусім свае.*

*Вячаслаў*

Наконт сваіх каранёў нічога новага дадаць не магу. Хоць адзін з нашых адмыслоўцаў у генэалёгіі і абяцаў мне — амаль задарма — скласьці шляхецкае радаслоўе, адкуль мой род, я ведаю. Адно нагадаю, што дзяды належалі да людзей заможных, таму 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя і не перажылі. А бацькі былі інтэлігенцыяй у першым калене. Нехта сказаў: каб стаць сапраўдным інтэлігентам, трэба скончыць тры ўнівэрсытэты: адзін — дзеду, другі — бацьку і трэці — самому. Калі кіравацца гэтым крытэрам, да інтэлігенцыі належаць пакуль толькі мае сыны.

А цяпер пагаворым пра шляхту. Я ёю не захапляюся — аддаю належнае.

Параўнальна зь іншымі эўрапейскімі краінамі шляхецкі (дваранскі) стан у Вялікім Княстве Літоўскім складаў вельмі значную частку насельніцтва. Адна з галоўных прычынаў — частыя войны і неабходнасьць мець вялікую колькасьць вайскова-

служылых людзей. У XVII стагодзьдзі шляхцічам быў прыкладна кожны дзясяты жыхар краіны. (Некаторыя дасьледнікі называюць лічбу 15 %.) У суседніх Расеі, Аўстрыі ды Прусіі дваранскімі правамі карысталася ўсяго блізу 1 % жыхарства, у Францыі — 2—3 %.

У залежнасьці ад маёмасьці і палітычнай вагі шляхта падзялялася на арыстакратыю, сярэдніх і дробных земляўласьнікаў, якія валодалі ў найлепшым разе некалькімі дзясяткамі сялянскіх «дымоў». На апошняй прыступцы стаяла дробная шляхта, што мела зямельныя надзелы без падданых. Гэта пра аднаго з такіх гаспадароў Уладзімер Караткевіч напісаў: «У той дзень ён высакародна араў сваё поле». Вывозіць на палеткі гной такі шляхціч мог, ня менш высакародна ўторкнуўшы ў яго шаблю.

Незалежна ад свайго набытку шляхта мела надзвычай шырокія вольнасьці, у тым ліку асабістую недатыкальнасьць і магчымасьць вольнага выезду за мяжу. Судзіць шляхціча мог выключна шляхецкі суд. Празь мясцовыя соймікі і агульнадзяржаўны вальны Сойм шляхта ўдзельнічала ў самакіраваньні ў паветах і ваяводзтвах, а таксама ў вызначэньні палітыкі ўсёй краіны. Менавіта шляхта выбірала вялікага князя і судзьдзяў усіх роўняў да найвышэйшага — Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага. Гэта ўрэшце прывяло да стварэньня своеасаблівай шляхецкай рэспублікі.

Шматлікасьць і велізарная роля шляхты ў дзяржаўным жыцьці далі гісторыкам падставы называць яе «палітычным народам». Гэты народ, жыцьцёвым крэда якога былі словы «Славу —

Айчыне, гонар — нікому!», вызначаў шлях Літвы-Беларусі цягам некалькіх стагодзьдзяў.

Вядома, шляхецкую дэмакратыю ня трэба ідэалізаваць: яна мела і адваротны бок — анархію. Карыстаючыся правам «liberum veto» (вольная забарона), у адпаведнасьці зь якім соймавыя пастановы прымаліся толькі ў выпадку аднадушнага галасаваньня, які-небудзь шляхціч-дэпутат гарлаў: «Veto!», і рашэньне не праходзіла. Разгляд пытаньняў нярэдка заканчваўся шабельным звонам. Каб дасягнуць патрэбнага аднагалосься, зьбітых апазыцыянэраў выкідалі ў дзьверы, але «Veto!» гучала з вокнаў, а адзін полацкі шляхціч прымудрыўся вярнуцца ў залю паседжаньняў ваяводзкага сойму праз камінны дымаход.

Некаторыя аўтары (а ня толькі «народнае ўяўленьне») называюць шляхту былога Вялікага Княства Літоўскага польскай. Гэтаму заўсёды спрыяла ў сваіх мэтах каляніяльная расейская адміністрацыя, а потым яе ідэалягічныя спадкаемцы, што дажылі дасёньня.

Напраўду нашая шляхта, хоць і карысталася ў XIX стагодзьдзі польскай мовай, была мясцовага паходжаньня. Яна ніколі не захоплівала гэтай зямлі, а, наадварот, бараніла яе ад ворагаў, паўставала супроць акупантаў, добра ведала беларускую мову і традыцыйную народную культуру.

Літва-Беларусь не была тут выняткам.

Адыход панавальнага стану ад сваіх каранёў адбываўся і ў іншых краінах. Вярхі нарвэскага грамадзтва засвоілі дацкую культуру, чэскага — нямецкую, а расейскага — францускую. Але, калі насьпелі новыя гістарычныя ўмовы, пачалося

вяртаньне эліты да нацыянальных каштоўнасьцяў. Нягледзячы на намаганьні палянізатараў і русіфікатараў наш край усё ж ня стаў ні польскім, ні расейскім.

Паводле звестак перапісу насельніцтва, праведзенага ў Расейскай імпэрыі ў 1897 годзе, 65 тысяч, або каля 50 % дваранаў у беларускіх губэрнях (дзе шмат было тады і наежджых) назвалі роднай мовай беларускую.

А зь якога стану, скажыце, паходзілі Канстанцін Каліноўскі ды астатнія кіраўнікі паўстаньня 1863 году?

А нашыя першыя клясыкі й стваральнікі новай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч?

А «бацькі» нацыянальнага Адраджэньня й Беларускай Народнай Рэспублікі браты Луцкевічы?..

Каб ня шляхта, мы жылі б у іншай дзяржаве.

## Ратуй нас ад сябе самога, «трэці Рым»!

*Днямі былі ўсёй сям'ёй у бібліятэцы на сустрэчы з адным зь беларускіх праваслаўных ярархаў. На маё пытаньне, як уладыка ставіцца да вашых кніг, ён сказаў, што не хацеў бы, каб іх чыталі дзеці. Маўляў, дзеці ня могуць крытычна ставіцца да сьцьверджаньняў Арлова пра адвечную варожасьць Расеі да Беларусі. У сапраўднасьці ж, маўляў, расейцы заўсёды прыходзілі на дапамогу братняму народу, баронячы праваслаўных беларусаў-адзінаверцаў ад нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту. Што б вы, хай сабе і завочна, адказалі царкоўнаму апанэнту?*

*Яраслаў і Вера*

Прапанаваў бы ўладыку замест ідэалягічных догмаў зьвярнуцца да гісторыі. Мікалай Карамзін лічыў, што тая «мусіць быць злапомнаю». Напэўна, расейскі гісторык і пісьменьнік меў на ўвазе ня пошук падставаў для прэтэнзіяў, канфліктаў і войнаў (няхай нават «газавых»), а хацеў падкрэсьліць важнасьць памяці для вызначэньня, кажучы сучаснай моваю, каардынатаў быцьця народу ў гістарычным часе.

Аднак дачыненьні Масковіі, а затым Расеі зь Вялікім Княствам Літоўскім і, пазьней, Рэччу Паспалітай цягам стагодзьдзяў вызначаліся якраз войнамі.

Яны пачаліся, ледзьве ўсходнія суседзі пасьпелі вызваліцца ад мангола-татарскага прыгнёту. Масковія ўспадчыла дзяржаўную будову Арды і, па сутнасьці, зрабілася яе адлюстраваньнем. Пра гэта сьведчылі жорсткае адзінаўладзьдзе, сьляпая падначаленасьць «холопов государевых», чынгісханаўская ідэя панаваньня над усім сьветам. У татараў пазычылі і арганізацыю войска, і тактыку выпаленай зямлі, і нялюдзкія расправы з насельніцтвам сумежных дзяржаваў, што было прадэманстравана ўжо пры зьнішчэньні Ноўгарадзкай рэспублікі.

Пасьля захопу туркамі ў 1453 годзе Канстантынопалю Масква заявіла пра свае прэтэнзіі на ролю «трэцяга Рыму». Іван ІІІ абвясьціў сябе абаронцам праваслаўных Усходняй Эўропы і запатрабаваў ад нашага вялікага князя Казімера Ягайлавіча «Полоцка, Витебска, Смоленска ды иных земель русских».

Адзначым, што тыя землі ў складзе Масковіі ніколі не былі. А паколькі і быць там аніякай ахвоты ня мелі, усходні сусед распачаў зь Літвой-Беларусьсю першую вайну, якая доўжылася з 1492 да 1494 году. Потым была другая (1500—1503), трэцяя (1507—1508), чацьвертая (1512—1522), пятая (1534—1537)...

Пра тое, як адбывалася «абарона беларусаў-адзінаверцаў ад прыгнёту», апавядаюць летапісы і хронікі ды безьліч іншых дакумэнтаў. Маскоўскія ваяводы радасна пісалі Васілю ІІІ: «Землю воевали мало не до Вильны, везде огонь пускали, и шкоды чинили и полону на колько десять тысяч взяли».

А вось паведамленьне летапісца пра подзьвігі князя Андрэя Курбскага пад Віцебскам: «Острог

взяли и пожгли, и посады у города все пожгли и наряд в остроге поимали и людей в остроге многих побили и села, и деревни около Витебска пожгли и повоевали».

Апрача некалькіх касьцёлаў, князь з сваімі галаварэзамі спаліў 24 праваслаўныя храмы і люта расправіўся зь беларускім палонам. Дарэчы, праз некалькі гадоў, зьбегшы ад Івана Жахлівага, ён напіша былому гаспадару, што той «затворил землю русскую, аки в адовой твердыне». У гэтую «твердыню» крамлёўскія валадары хацелі зачыніць і іншыя землі — дакуль дацягнуцца.

Якога вызваленьня можна было чакаць ад такіх суседзяў?

Не выпадкова айчынныя летапісцы, якія таксама належалі да царквы грэцкага абраду, называлі Васіля III і ягоных спадкаемцаў «ворагамі і супастатамі веры хрысьціянскае, праваслаўнае».

Я нагадаў бы ўладыку, што за «братнюю дапамогу» продкі шчодра аддзячылі ў 1514 годзе пад Воршай, разграміўшы амаль утрая большую за нашыя збройныя сілы 80-тысячную маскоўскую арду. Перамогу над захопнікамі сьвяткавала войска, дзе пераважную бальшыню складалі менавіта праваслаўныя беларусы-ліцьвіны. Гэта было сьведчаньнем іхняга дзяржаўнага патрыятызму. Ён яскрава выявіўся і тады, калі з захопленага Смаленску ў Вялікае Княства ўцякло 50 баярскіх і шмат мяшчанскіх праваслаўных родаў.

Хрэстаматыйныя прыклады «вызваленьня» беларусаў дала чарговая вайна 1558—1582 гадоў, вядомая як Інфлянцкая, а ў расейскай гістарыяграфіі — Лівонская.

Авалодаўшы ў 1563 годзе Полацкам, «государь-батюшка» Іван IV спачатку загадаў выразаць або ўтапіць усіх нешматлікіх жыхароў-каталікоў і юдэяў, а затым узяўся за праваслаўных. Іх абвясьцілі палоннымі і большую частку пагналі зімовымі дарогамі на ўсход. У «Хроніцы Эўрапейскай Сарматыі», выдадзенай Аляксандрам Гваніні, які быў віцебскім камэндантам, паведамляецца, што маскоўцы вывелі з Полацку 50-тысячны палон. Гісторык і сьведка падзеяў Мацей Стрыйкоўскі, які служыў у войску Княства выведнікам, у сваёй «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» дадае, што праваслаўных палачанаў, у тым ліку жанчын і дзяцей, вялі не па-хрысьціянску, а гналі зімовымі дарогамі, «як юдэяў да Бабілёну», — злыганых вяроўкамі, абы-як апранутых, і амаль не кармілі. Людзі тысячамі гінулі ў сумётах, і на радзіму амаль ніхто ўжо не вярнуўся.

А потым была самая жудасная ў нашай гісторыі вайна. Не з фашысцкімі акупантамі, як, магчыма, нехта падумаў, а з расейскімі захопнікамі. У сярэдзіне XVII стагодзьдзя тыя спалілі й ператварылі ў руіны дзясяткі гарадоў і мястэчак, амаль цалкам выразалі Амсьціслаў. Заняўшы Вільню, без разбору гвалцілі і каталіцкіх, і праваслаўных манашак.

Палонных прадавалі маскоўскім памешчыкам за 3—5 рублёў за чалавека, а таксама адпраўлялі ў Астрахань, дзе беларусаў скуплялі гандляры рабамі з Асманскай імпэрыі. «Навошта столькі крыўды, крадзяжоў і забойстваў, за што ў кожным месцы чуецца плач і ліюцца сьлёзы?» — у роспачы пісаў да царскіх ваяводаў праваслаўны, заўважым, япіскап полацкі і віцебскі Каліст.

Адказам на зьверствы стаў масавы партызанскі рух. Найбольш дзейсны адпор ад самага пачатку вайны акупанты атрымлівалі на Смаленшчыне, а таксама ў Прыдзьвіньні і на Магілеўшчыне, дзе партызаны ня раз уступалі ў адкрытыя баі з расейскімі войскамі. 1 лютага 1661 году жыхары Магілева, ня вытрымаўшы гвалту й бясконцага рабаваньня, сказалі свой дзякуй, выразаўшы ўвесь 7-тысячны царскі гарнізон.

У вайне 1654—1667 гадоў Беларусь страціла больш за 50 % насельніцтва, пра што цяпер можна прачытаць ужо ня толькі ў сэнсацыйнай для свайго часу кнізе Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна» або ў кнігах Арлова ці Анатоля Тараса, але і ў падручніках гісторыі. Якраз у той дэмаграфічнай, эканамічнай, культурнай катастрофе палягаюць прычыны шмат якіх нашых сучасных праблемаў і няшчасьцяў.

Я запытаўся б уладыку, чаму яму так недаспадобы, што беларускія дзеці будуць ведаць гэтыя факты. Можа, таму, што расейскае праваслаўе заўсёды было прыдаткам дзяржаўнай машыны і сэрвільна падтрымлівала яе захопніцкую палітыку? Падчас згаданага вышэй «крывавага патопу» патрыярх Нікан, да прыкладу, склаў з царом Аляксеем Міхайлавічам велічны (і пасьпяхова перавыкананы) плян перасяленьня ў Масковію 300 тысяч беларусаў.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай мара сьвецкіх і царкоўных расейскіх валадароў зьдзейсьнілася: Беларусь была інкарпараваная й пераробраная ў калёнію. Але тут пачынаецца ўжо іншая гісторыя.

# Краіна, дзе асьветай кіраваў Тарашкевіч

*Мы семдзесят гадоў жылі ў БССР і шмат пра гэта можам параскадзаць. Цяпер сёе-тое ведаем ужо і пра БНР. У падручніках быў, памятаецца, нейкі падразьдзельчык пра ЛітБел (Літоўска-Беларускую ССР). А пра Сярэднюю Літву падручнікі — ні гу-гу. Чаму тую старонку гісторыі засакрэцілі?*

*А. Катвіцкі*

Папярэджваю, што гэта будзе ня самая смачная частка гістарычнага пірага. Але яе варта пакаштаваць хаця б з тае прычыны, што бальшыня грамадзянаў Беларусі і не падазравае, што на пачатку XX стагодзьдзя на беларускіх этнічных землях існавала дзяржава, пра якую ў школьных ды ўнівэрсытэцкіх падручніках за савецкім часам ня згадвалі, каб «не падаграваць незалежніцкіх настрояў».

Гаворка пойдзе пра тое, як лёс беларусаў суседзі — хіба ўпершыню! — вырашалі без нас саміх.

Калі вы ўжо згадалі ЛітБел, варта адзначыць, што ў той, створанай бальшавікамі дзеля палітычных гульняў «дзяржаве» анічога нацыянальна беларускага не было — ні дзяржаўнай мовы, ні пэрыядычных выданьняў, ні прадстаўніцтва ў кіраўнічых органах. Падручнікі сарамліва маўчалі, што ўрад ЛітБелу ня меў у сваім складзе ніводнага беларуса. Усё беларускае, пачынаючы з мовы, лічылася там

контрарэвалюцыйным. Але гісторыя марыянэткавага ўтварэньня хутка й бясслаўна скончылася.

Мала вядома, што пазьней Ленін, напалоханы наступальным парывам палякаў, прапаноўваў Пілсудзкаму ўсю тэрыторыю былога ЛітБелу ўзамен на мір. «Начальнік» адроджанай Польскай дзяржавы пайшоў на маўклівае пагадненьне і не падтрымаў наступу Дзянікіна на Маскву. Ён ратаваў бальшавікоў, каб потым падзяліць зь імі Беларусь і Ўкраіну.

Палітычны пасьянс імкліва мяняўся, і неўзабаве ўжо сувэрэнная Літва-Летува зрабілася хаўрусьніцай крамлёўскіх уладароў у змаганьні з палякамі. Прызнаўшы яе незалежнасьць, Масква пагадзілася з прэтэнзіямі літоўцаў на Віленскі край разам з Горадняй, Шчучынам, Лідай, Ашмянамі, Смаргоньню й Браславам. Літоўскаму ўраду была перададзеная захопленая Чырвонай арміяй Вільня. Антанта націснула на Польшчу, і тая ўвосень 1920 году падпісала дамову пра пераход Віленшчыны Літве.

Юзаф Пілсудзкі (дарэчы, у маладосьці ў некаторых дакумэнтах ён запісваўся беларусам) ня мог пагадзіцца на страту «малой радзімы». Варшаўскія дзеячы вырашылі разыграць «беларускую карту». Стаўка рабілася на так званыя літоўска-беларускія дывізіі Польскага войска. Яны складаліся пераважна зь беларусаў заходняй часткі краю, дзе захоўваліся моцныя традыцыі ліцьвінскага патрыятызму.

Назаўтра ж пасьля падпісаньня польска-літоўскай дамовы супроць яе «ўзбунтавалася» 1-я літоўска-беларуская дывізія. Віленскі, Гарадзенскі, Менскі і Сувалкаўскі палкі адмовіліся падпарадкоўвацца

Варшаве. Пілсудзкі так «разгубіўся», што перадаў «мяцежнікам» яшчэ два палкі — Лідзкі й Ковенскі. На чале «бунту» стаў народжаны ў Ашмянах генэрал Люцыян Жалігоўскі — асоба, бясспрэчна, неардынарная і харызматычная, пра што сьведчаць ужо нават ягоныя здымкі.

Захапіўшы Вільню, генэрал павёў жаўнераў далей, на Коўну. Пры пасярэдніцтве Лігі Нацыяў бакі падпісалі замірэньне, і 12 кастрычніка 1920 году Віленшчына была абвешчаная незалежнай дзяржаваю пад назовам Сярэдняя Літва. У яе склад увайшлі дзевяць паветаў з тэрыторыяй блізу 10 000 км$^2$ і паўмільённым жыхарствам. Паводле афіцыйных зьвестак, беларусаў тут было 40 %, але насамрэч — ледзь не ўдвая болей.

Фактычным кіраўніком дзяржавы стаў Жалігоўскі. Ён прыхільна ставіўся да беларусаў (даводзілася сустракаць зьвесткі, што нават папісваў беларускія вершыкі). Гэта забясьпечыла яму падтрымку Рады БНР і адлюстравалася ўва ўладных структурах Сярэдняй Літвы. Беларускім сэктарам дэпартамэнту асьветы загадваў Браніслаў Тарашкевіч, а не апошнюю пасаду «дырэктара аправізацыі» (адказнага за харчовае забесьпячэньне краіны) заняў яшчэ адзін выбітны беларускі дзеяч Вацлаў Іваноўскі.

На наступны год у Сярэдняй Літве працавалі 186 беларускіх школаў, Віленская беларуская гімназія і Барунская настаўніцкая сэмінарыя. Дзяржава мела сваю судовую сыстэму, уласныя грошы, сымболіку, паштовыя маркі з «Пагоняй», партрэтамі Касьцюшкі й Міцкевіча ды выявамі архітэктурных помнікаў Віленшчыны…

Прызначаны Жалігоўскім урад складаўся пераважна з прыхільнікаў аўтаноміі Літвы-Беларусі і замест інкарпарацыі Польшчай выступаў за фэдэрацыю зь Летувой.

Ліміт цярпеньня ў Варшавы хутка набліжаўся да нулявой адзнакі. Калі вярнуць войска Сярэдняй Літвы ў склад Польскай арміі не ўдалося, яго дэмабілізавалі. Жалігоўскі мусіў пакінуць Вільню. Польшча настойвала на правядзеньні выбараў у сойм, які вырашыў бы будучыню краіны. Ліга Нацыяў прапаноўвала плебісцыт. Урэшце ўсё ж адбыліся выбары. Большая частка беларускіх арганізацыяў галасаваньне байкатавала, што цяпер выглядае памылкай. Нашы эсэры рыхтавалі паўстаньне, але дэфэнзіва раскрыла іхнія пляны.

Пра вынікі выбараў і пастановы сойму ня цяжка здагадацца. 24 сакавіка таго самага 1921 году Польшча атрымала новае, Віленскае ваяводзтва, усе паветы якога былі населеныя беларусамі.

Апавядаючы пра лёс Сярэдняй Літвы, я чамусьці ўспомніў, што ў 1930-я гады ў літоўскім друку зьяўляліся прапановы купіць палову востраву Мадагаскар і ўсёй краінай перасяліцца туды, каб сярод лемураў захаваць незалежнасьць і ідэнтычнасьць.

Якая тут можа быць сувязь? Напэўна, такая, што ніякія лемуры ў такіх справах не дапамогуць. Апошнія палітычныя падзеі зноў нагадалі старую ісьціну: каваць будучыню трэба сваімі рукамі.

## Хто выйграў ад пакту Молатава — Рыбэнтропа?

*Ці праўда, што ўвосень 1939 году Вільня сорак дзён належала Беларусі?*

*Севярын*

Адразу зацемім, што Вільня і Віленшчына належалі да беларускага гістарычнага і этнічнага абшару з часоў раньняга Сярэднявечча. Заснаваньне гораду вялікім князем Гедзімінам у 1323 годзе, пра што вам распавядзе літоўскі экскурсавод, — ня больш як прыгожая легенда. Ужо ў XI стагодзьдзі на месцы сучаснай Вільні існавала збудаванае крывічамі гарадзкое паселішча, што называлася Крывым горадам. Ён быў цэнтрам удзельнага княства Полацкай зямлі. У 1070 годзе там валадарыў князь полацкай дынастыі Расьціслаў Рагвалодавіч, а пазьней — ягоныя сыны.

Крывы горад (сустракаецца і найменьне Крывічгорад) згадваецца ў гістарычных крыніцах яшчэ і ў XIV стагодзьдзі. Нямецкія хронікі паведамляюць, што гэта — «русінскае» места. Гедзімін проста перавёў з Наваградку ў Вільню сталіцу Вялікага Княства Літоўскага.

Беларусы-ліцьвіны на працягу стагодзьдзяў складалі большую частку віленскага насельніцтва. Калі мы зазірнем у сярэднявечныя акты Віленскага магістрату, дык пераканаемся ў славянскім паходжаньні абсалютнай бальшыні службовых асобаў:

войт Вышка, бурмістры і радцы Юрай Нястука, Васіль Фядкевіч, Гаўрыла Аліфаровіч, Мікола Сяльковіч, Рыгор Мэка… Паводле першага перапісу насельніцтва Расейскай імпэрыі 1897 году літоўцы сярод віленчукоў складалі ажно 2 %.

У 20—30-я гады мінулага стагодзьдзя Вільню называлі «сэрцам Заходняй Беларусі». Горад быў неафіцыйнай палітычнай, культурнай і навуковай сталіцаю земляў, адрэзаных паводле Рыскага мірнага трактату. У Вільні месьціліся кіраўнічыя органы беларускіх партыяў, выходзілі дзясяткі беларускіх газэтаў і часопісаў, дзейнічала Беларускае навуковае таварыства, Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча. Асобнай гаворкі заслугоўвае Віленская беларуская гімназія.

Тады ў Вільні жылі і працавалі Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Адам Станкевіч, Рыгор Шырма, Францішак Аляхновіч, Пётра Сергіевіч, Максім Танк… Параўнальна зь дзейнасьцю беларусаў літоўская прысутнасьць у тагачаснай Вільні адчувалася нязьмерна слабей. Іначай і быць не магло, бо літоўцаў было ўсяго 1,5 %.

Ліга Нацыяў фактычна прызнала Віленшчыну зь Вільняй заходнебеларускім абшарам. У незалежнай Літве з сталіцаю ў Коўне тады, дарэчы, неаднаразова гучалі прапановы памяняць назоў дзяржавы на Жэмайцію, а герб «Пагоня» — на жамойцкага «Мядзьведзя». У 1935 годзе прэм’ер-міністар Юозас Тубяліс афіцыйна заявіў пра славянскае паходжаньне «Пагоні» і неабходнасьць падрыхтоўкі новага гербу. Адукаваны быў чалавек.

У Заходняй, як і ў савецкай Беларусі, існавала ўпэўненасьць, што пасьля аб’яднаньня Бацькаўш-

чыны Вільня абавязкова будзе ў яе складзе. Аднак пачатак Другой сусьветнай вайны прынёс літоўцам неспадзяваны падарунак.

Увосень 1939-га падзеі разгортваліся наступным чынам.

На трэці дзень гэтак званага «вызваленчага паходу» часткі Чырвонай арміі ўвайшлі ў колішнюю сталіцу Вялікага Княства. У зводцы савецкага Генштабу за 19 верасьня паведамлялася: «На поўначы — у Заходняй Беларусі — пасьля дзьвюхгадзіннага бою нашы войскі занялі Вільню».

Цэнтральныя менскія газэты выйшлі пад лёзунгамі: «Вільня — зноў беларуская!». У савецкіх выданьнях, прычым ня толькі ў БССР, друкавалі артыкулы, дзе даводзіліся гістарычныя правы Беларусі на Вільню і тлумачылася, што Вялікае Княства Літоўскае адвеку было беларускай дзяржавай. 24 верасьня ў актавай зале Віленскай беларускай гімназіі адбылася афіцыйная ўрачыстасьць з нагоды далучэньня Вільні да Беларусі «на векі вякоў». Пра гэта казалі ў сваіх выступах і Іван Клімаў, які ўзначальваў савецкую адміністрацыю Заходняй Беларусі, і былы прэм'ер ураду БНР Антон Луцкевіч.

Ужо была створаная Віленская вобласьць, і пачала выходзіць беларускамоўная газэта «Віленская праўда». На віленскім Лукіскім пляцы адбыўся самы грандыёзны ўва ўсёй Заходняй Беларусі мітынг, дзе прысутнічала 75 тысяч гараджанаў — траціна ўсяго насельніцтва. У рэзалюцыі мітынгу, на якім таксама выступіў Антон Луцкевіч, у духу часу гаварылася, што «працоўныя Вільні галасуюць за ўваходжаньне ў склад БССР». Поўным ходам ішла падрыхтоўка да выбараў у Народны сход. Энтузіязм віленскіх

беларусаў нарадзіў нават чуткі пра перанясеньне зь Менску ў Вільню сталіцы БССР.

Аднак 28 верасьня Масква й Бэрлін удакладнілі намеры, выкладзеныя ў пакце Молатава — Рыбэнтропа, новым сакрэтным пратаколам. Літва, а таксама Вільня зь Віленшчынай перадаваліся ў сфэру інтарэсаў СССР.

За падзеямі ўважліва сачылі ў пакуль незалежнай Літве.

Як доказна піша сучасны амэрыканскі гісторык Тымаці Снайдэр, літоўскі ўрад «разьлічваў, што ў кароткатэрміновай пэрспэктыве нямецкая ўлада будзе горшая за савецкую, у сярэднетэрміновай — што СССР выйдзе пераможцам у будучай вайне зь Нямеччынай, а ў доўгатэрміновай — што калі за Вільню давядзецца заплаціць незалежнасьцю, то лепей мець гэткае пагадненьне з Савецкім Саюзам».

10 кастрычніка СССР і Літва падпісалі дамову, згодна зь якой Віленшчына пераходзіла Літве. Апошняй былі перададзеныя 7120 квадратных кілямэтраў і 457 тысяч жыхароў. За сваё «дабрадзейства» Масква атрымала права разьмясьціць у Літве савецкія вайсковыя базы.

Віленскі край стаў першай тэрытарыяльнай стратаю Беларусі ў Другой сусьветнай вайне.

Калі 28 кастрычніка на вуліцах Вільні зьявіліся літоўскія вайскоўцы з корпусу генэрала Вінцаса Віткаўскаса, яны перажылі сапраўдны шок. Іх ніхто не разумеў. Выхаваныя ў адпаведным духу літоўцы, як занатаваў у дзёньніку адзін зь іхніх афіцэраў, «замест казачнай князёўны ўбачылі вуліцы чужога гораду, дзе размаўлялі на чужой мове».

Назаўтра, пасьля цырымоніі ўзьняцьця літоўскага сьцяга, Віткаўскас (які пазьней, дарэчы, зрабіў пасьпяховую кар'еру пры савецкай уладзе) прамаўляў у гарадзкім садзе. Ён казаў пра «радасьць літоўскага народу ў сувязі з далучэньнем Вільні». Літоўскі народ, відавочна, сапраўды радаваўся, а вось сабраная ў садзе нешматлікая публіка напружана ўслухоўвалася ў гукі чужой мовы.

Генэрала разумелі толькі ягоныя падначаленыя ды ўведзеная ў горад літоўская паліцыя. Адзін зь відавочцаў-беларусаў потым напіша, што ўсё гэта нагадвала «нейкую апэрэтку».

Тым ня менш пачыналася новая гісторыя Вільні…

# Адраджэнец Рудольф Абіхт

*Нядаўна вы выступалі на Менскім беларуска-нямецкім форуме. Напэўна, там ішла гаворка і пра ўзаемныя культурныя ўплывы двух народаў. Цікава, ці ведае гісторыя прыклады, калі прадстаўнікі Нямеччыны рабіліся славутымі дзеячамі беларускай культуры, і наадварот?*

*Вільгельм, беларускі немец,*
*ці, калі хочаце, нямецкі беларус*

Некалькі такіх прыкладаў магу падаць, не зазіраючы ў энцыкляпэдыі.

Народжаны ў Санкт-Андрэасбэргу Ян Давід Голянд у 1780 годзе зьявіўся ў Нясьвіжы й заняў пасаду капэльмайстра і кампазытара пры двары Караля Станіслава Радзівіла, вядомага як Пане Каханку. Атабарыўшыся ў «маленькім Парыжы», Голянд з посьпехам заняўся стварэньнем палянэзаў, кантатаў, а там і опэраў. Самую вядомую зь іх — «Агатку, або Прыезд пана» на лібрэта яшчэ аднаго Радзівіла, Мацея, паставілі ў 1784-м, прымеркаваўшы да прыезду ў Нясьвіж нашага апошняга манарха Станіслава Аўгуста Панятоўскага (зь якога, дарэчы, Пане Каханку ў сваім радавым кубле ўволю пазьдзекаваўся).

Празь дзьвесьце гадоў «Агатка» была ўзноўленая на Беларускім радыё. Ня менш доўгае жыцьцё чакала і вадэвіль Голянда «Чужое багацьце нікому

ня служыць», пастаўлены ў 2009-м на сцэне Нацыянальнага опэрнага тэатру.

А вось беларус Герман Мінкоўскі (1864—1909), які зь дзяцінства ўражваў усіх матэматычнымі здольнасьцямі, выправіўся ў Нямеччыну і стаў там выдатным прадстаўніком гётынгенскай матэматычнай школы. А таксама — адным з заснавальнікаў тэорыі адноснасьці. Кожны фізык (і нават літаратар Арлоў) ведае аб «прасторы Мінкоўскага», якая аб’ядноўвае трохмерную фізычную прастору і час.

Трэці прыклад, магчыма, не такі клясычны, але мае нечаканыя сюжэтныя павароты.

Сылескага немца Рудольфа Абіхта зь юнацтва вабілі славянскія мовы. У часе Першай усясьветнай вайны ён, ужо прафэсар славістыкі Брэслаўскага ўнівэрсытэту, апынуўся ў Беларусі. І, чым бы вы думалі, Абіхт тут займаўся?

Выкладаў у Сьвіслацкай гімназіі мову. Здагадайцеся, якую? А вось і памыліліся. Беларускую. Апрача таго, быў адным з выдаўцоў беларускага лемантара лацінкаю, друкаваў артыкулы пад агульным назовам «Са старажытнай і новай гісторыі беларусаў» у газэце «Der Beobachter», удзельнічаў у выпуску бэрлінскага зборніка «Беларусь»...

А яшчэ ён ліставаўся з Антонам Луцкевічам, і лісты тыя вы можаце пачытаць у нашым Дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва…

На добры лад, Абіхту варта было б паставіць у той самай Сьвіслачы помнік (як і Голянду ў Нясьвіжы). Пры нагодзе абмяркую гэтую ідэю зь нямецкім журналістам і падарожнікам Інгам Пэцам, які цяпер працуе над кнігаю пра Беларусь,

падтрымлівае розныя праекты (акурат ён стаў ініцыятарам культурніцкай дыскусіі на Менскім форуме) і ўяўляецца мне нейкім своеасаблівым сёньняшнім Абіхтам.

А вярнуўшыся да ідэі помніка, можна паразважаць, наколькі камфортна пачуваўся б Рудольф Абіхт у кампаніі іншых, але ўжо рэальных сьвіслацкіх манумэнтаў. Побач з выхаванцамі тамтэйшай гімназіі Каліноўскім і Рамуальдам Траўгутам яму, пэўна, было б даволі утульна. Але вось зь Леніным ды ў дадатак з адноўленым нядаўна Іосіфам Вісарыёнавічам...

Ці атрымалася б у іх дружба-фройндшафт? Але тое помнікі. А ў людзей павінна атрымацца.

# Мы адпомсьцілі за таварыша Кірава

*Выбачайце за нечаканае і крыху правакацыйнае пытаньне. Ці даводзілася вам калі-небудзь паліць кнігі?*

*Кнігалюб*

Існуе такая гістарычная показка. Шэф расейскага корпусу жандараў і III аддзяленьня граф Бэнкендорф, адпраўляючы падначаленага ў замежную камандзіроўку ў Нямеччыну, кажа: «Будзеш у Майнцы — плюнь на помнік Гутэнбэргу. Усе няшчасьці на сьвеце — ад ягонае вынаходкі».

Змагары з кніжнай крамолаю, як мы ведаем, ня толькі плявалі на помнікі, але і выкарыстоўвалі сродкі больш радыкальныя.

На загад князя Васіля III у Маскве расклалі вогнішча з кнігаў Францішка Скарыны, які прыехаў да ўсходніх суседзяў з прапановаю наладзіць кнігадрукаваньне. Добра, што на знак удзячнасьці не спалілі самога.

У тагачаснай Заходняй Эўропе гарадзкія пляцы таксама ня раз асьвятляла полымя, што ненажэрна глытала кнігі асуджаных інквізыцыяй ерэтыкоў. Дарэчы, на нашых землях, у талерантным Вялікім Княстве Літоўскім, інквізыцыя, уведзеная ў 1436 годзе для барацьбы з гусіцкай «ерасьсю», здолела праіснаваць усяго 43 гады.

Кнігі загадваў паліць зацяты змагар з вуніяцкай

вераю беларусаў біскуп-рэнэгат Іосіф Сямашка, што цалкам перакінуўся на службу цару і «адзіна ісьціннаму» маскоўскаму праваслаўю. У 1852 годзе ён, тады ўжо мітрапаліт літоўскі і віленскі, асабіста назіраў, як гарэць 1295 небясьпечных для «государя и Отечества» кніг, знойдзеных у былых грэка-каталіцкіх храмах.

Як заўважыў славуты польскі афарыст Станіслаў Ежы Лец, «ніхто зь людзей XIX стагодзьдзя і ўявіць ня мог, што ўсьлед за ім надыдзе XX».

Не паддаецца ўліку колькасьць кніг, спаленых нацыстамі і камуністамі. Вядома, што ў 1937 годзе ў двары менскай турмы НКВД некалькі дзён шугала велізарнае вогнішча, у якім загінулі дзясяткі тысяч сканфіскаваных тамоў і рукапісаў.

Наш сьветлай памяці выдавец, перакладчык і грамадзкі дзеяч Міхал Дубянецкі апавядаў, як падлеткам у верасьні 1939-га з жахам назіраў, што выраблялі з кнігамі на школьным падворку савецкія «вызваліцелі» Заходняй Беларусі. У агонь паляцелі ўсе кнігі школьнай бібліятэкі, якім не пашчасьціла быць надрукаванымі па-расейску. Асаблівую экзэкуцыю заслужыў раман Гэнрыка Сянкевіча «Агнём і мячом». П'яны ня толькі ад радасьці, што прынёс беларусам свабоду, «вызваліцель» насадзіў кнігу на штых: «Вось табе меч!» А адправіўшы раман у полымя, задаволена дадаў: «А вось табе огнь!»

Ня ведаю, ганарыцца мне з гэтае прычыны, ці засмучацца, але напісаныя мною кнігі таксама палілі. Колішні прыяцель-літаратар (пару ягоных апавяданьняў я нават перакладаў з расейскай), разышоўшыся са мною ў палітычных поглядах, пры сьведках спаліў дзясятак кніжак Арлова каля

сьмецьцевага кантэйнэру. Нянавісьць — ня самае стваральнае ды пэрспэктыўнае пачуцьцё. Гэты літаратар зьехаў у Расею і, па чутках, ужо даўно нічога ня піша. Зарабляе сабе на жыцьцё выключна дзякуючы шматлікім тамтэйшым выбарам. Пасквілі на кандыдатаў у што-небудзь расейскае нядрэнна купляюць іхнія канкурэнты.

Надышоў час прызнацца, што ў вусьцішны разрад спапяляльнікаў кніг ледзь не патрапіў і я сам. Ішла мая другая школьная восень. Хрушчоў выступаў з дакладам на XXII зьезьдзе партыі, якая ў краіне была адна, і казаў пра злачынныя справы Сталіна. Я слухаў радыё разам з матуляй і ня мог зразумець, чаму яна гэтак хвалюецца. Толькі праз пяць гадоў мама пакажа мне даведку пра пасьмяротную рэабілітацыю свайго бацькі, а майго дзеда Максіма, расстралянага ў 1933-м.

А тады я зь сябрамі вырашыў адпомсьціць Сталіну за невядомага нам таварыша Кірава, пра якога часта размаўлялі дарослыя. Мы распалілі ў садзе вогнішча. Я прынёс з мамінай настаўніцкай этажэркі стары «Буквар» з партрэтам Іосіфа Вісарыёнавіча. Ды ў апошні момант нешта спыніла нас, і агонь мусіў задаволіцца ня кніжкай, а толькі выдраным адтуль партрэтам.

Успомніўшы гэтую гісторыю, я падумаў, што ў ёй ёсьць свая сымбалічнасьць. Той, хто загадвае паліць кнігі, мусіць быць гатовы да спаленьня ўласных партрэтаў.

## Першыя грошы

*Калі і як вы заробілі свае першыя грошы?*
*Аляксандар, студэнт,*
*але ўжо другі год падпрацоўваю*

Першы заробак я атрымаў на пачатку 1960-х, калі ў выніку хрушчоўскіх экспэрымэнтаў з кукурузай пачаў зьнікаць хлеб.

Памятаю, падыходзіш да чаргі, што віецца вакол хлебнае крамы, і да цябе, малога, каб пастаяў разам зь імі, узахапы кідаюцца адразу некалькі цётачак. У выніку такога нескладанага манэўру крамніца «адпускала» жанчыне лішні бохан хлеба, а «сынок» атрымліваў кулёчак зьлепленых у камяк ірысак або падушачак.

Але аднойчы нейкая добрая цётухна заплаціла мне за дапамогу 20 капеек. Для першаклясьніка гэта быў сапраўдны капітал. За 9 капеек я купіў малочнае марозіва, пасьля чаго выпіў за 1 капейку шклянку газаванкі без сыропу і яшчэ цэлыя 10 капеек заашчадзіў на шчасьлівае жыцьцё.

Быў зроблены першы крок да разуменьня, што грошы — адзін з сымбаляў свабоды.

## Я ўмею граць на балалайцы

*Як вы вучыліся ў школе, і якія ў вас былі стасункі з настаўнікамі? Хто быў улюбёным выкладчыкам?*

*Дзесяціклясьніца Лена з Воршы*

Вучыўся я неяк наадварот: у малодшых клясах — на моцныя траякі ды хісткія чацьверкі, а потым у галаве адбылося якоесьці замыканьне, і адзнакі палезьлі ўгору.

Не скажу, што на пачатку быў дэбілам, але, да прыкладу, у першым клясе некалькі дзён ня мог асіліць літару «ь». «Конь» чытаў, як «кон», а «дзень» — амаль што на будысцкі капыл: «дзен». Настаўніца, відаць, ужо зьбіралася рабіць пэўныя высновы, але аднаго вечару тата зьняў сваю пракурорскую папругу і гэтак мяне ёю, як казала мама, «адвазіў», што мяккі знак быў імгненна засвоены і яшчэ доўга мроіўся мне нават там, дзе яго і не начавала.

Карацей, магчыма, дзякуючы і бацькавай папрузе, сустрэчы зь якой адбываліся ня раз, школу я закончыў з залатым мэдалём. Нядаўна знайшоў яго і зь лёгкім подзівам прачытаў, што заслужыў узнагароду ня толькі за «выдатныя посьпехі ў вучэньні і працы», але і за «прыкладныя паводзіны». Гэта было яўнай гіпатэнузай, як называў гіпэрбалу наш другагоднік Вася Шуйскі.

Я крыўдзіў дзяўчатак (як заўсёды здараецца, пе-

раважна тых, што падабаліся), удзельнічаў у некалькіх бойках, у пятым клясе ўкусіў за руку настаўніка маляваньня, а наастачу адмовіўся ўступіць у атрад чырвоных сьледапытаў і хадзіць партызанскімі сьцежкамі.

За сьледапытаў ня буду ставіць самога сябе на катурны вальнадумства. Я проста спалохаўся, бо тэкст прысягі трэ было падпісаць уласнай крывёю, чыркануўшы па пальцы лязом. Аўтаркаю гэткай мэтоды прысяганьня была клясная кіраўнічка і ўвадначас выкладчыца расейскае мовы і літаратуры.

Ці трэба казаць, што трапіць у лік улюбёных настаўнікаў ёй не ўдалося?

Не пашанцавала і некалькім настаўніцам гісторыі ды беларускай мовы й літаратуры. Баюся быць жорсткім, але думаю, што гэтых кабетаў іхнія дысцыпліны цікавілі ня больш за праблемы кансэрваваньня гуркоў.

Паступіўшы на гістарычны факультэт БДУ, я і не падазраваў пра існаваньне Уладзімера Караткевіча.

У школьныя гады мы ніводнага разу не прайшлі з экскурсіяй па старадаўніх вуліцах роднага Полацку, не спыніліся з настаўніцай гісторыі каля Сафійкі. Я разумею, што часы былі іншыя, і ўсё ж, і ўсё ж… Затое кожны год нас вазілі ў пушкінскае сяло Міхайлаўскае. Клясе ў восьмым я злавіў сабе на думцы, што спакойна мог бы там уладкоўвацца экскурсаводам.

Праўда, аднойчы на замену да нас прыйшоў новы «гісторык». Было цікава ўжо тое, што гэта мужчына. Але найперш уразілі рэчы, якія ён гаварыў.

На ўроку пра Вялікую францускую рэвалюцыю настаўнік раптам, далёка адхіліўшыся ад тэмы, згадаў дзяцінства ў блякадным Ленінградзе.

Мы пачулі пра канібалізм. Пра тое, што сям'я «гісторыка» ўратавалася ад галоднай сьмерці адно таму, што сваячка працавала ў абкаме партыі прыбіральшчыцай і прыносіла адтуль недаедзеныя лусьцікі з кілбасой або ікрой і надкусаныя ды выкінутыя ў сьметніцу піражныя. Ці то сярод вучняў ужо былі стукачы, ці то нехта падзяліўся з бацькамі, але новага выкладчыка хутка звольнілі. Пазьней мы бачылі, як ён зарабляў на жыцьцё грузчыкам у суседняй краме і паціху сьпіваўся.

Для мяне дый для многіх іншых выпускнікоў 2-й наваполацкай сярэдняй школы, дзе я вучыўся зь дзявятага клясу, улюбёным стаў настаўнік фізыкі й астраноміі Яўген Міхайлавіч Крылоў. Акрамя бліскучых урокаў ён яшчэ і кіраваў школьным аркестрам народных інструмэнтаў. Паколькі ўсе найлепшыя інструмэнты былі разабраныя, мне дасталася балалайка.

Аніякіх музычных здольнасьцяў я ня меў, проста хацелася бавіць зь Яўгенам Міхайлавічам паболей часу. У выніку навучыўся даволі зграбна граць расейскую народную песьню «Светит месяц, светит ясный». Праўда, на гарадзкім аглядзе мастацкай самадзейнасьці настаўнік на ўсякі выпадак даў мне і яшчэ некалькім такім «музыкам» балалайкі бяз струнаў.

Але галоўным нашым захапленьнем сталіся заняткі астраноміяй.

Крылоў здолеў зрабіць амаль немагчымае — пабудаваў школьную абсэрваторыю. У нас праходзілі

начныя заняткі-дзяжурствы, куды можна было запісацца на пару з сваёй дзяўчынай. Новыя сузор'і адкрыць нікому не пашчасьціла (хіба што сузор'і радзімак на шыйках і плечуках пасіяў). Аднак тыя ночы ніколі не забудуцца.

Мы яшчэ ня ведалі словаў Імануіла Канта пра дзьве неспасьцігальныя рэчы — зорнае неба над намі і маральны закон у нас саміх, але ўжо сапраўды дакраналіся да вялікіх тайніцаў быцьця…

Адны настаўнікі здолелі нечаму навучыць, другія дапамаглі зразумець, што ты — такі самы невук.

Дзякуй усім!

# Заварылі прараба ў трубу

*Мы з вамі вучыліся прыкладна ў адзін час. У нас з жонкаю найлепшыя ўспаміны той пары зьвязаныя з студэнцкімі будаўнічымі атрадамі. Пэўна, і вам даводзілася надзяваць іхнюю форму. Ці было гэта карысна для будучага пісьменьніка?*

*Віктар і Сьвятлана,*
*былыя байцы будатрадаў*

Сваім пытаньнем вы ўскалыхнулі цэлае мора ўспамінаў…

У мяне няма аніякай настальгіі па савецкіх часах, але нікуды не падзенесься ад настальгіі па юнацтве. Калі параўнаць яго з кнігаю, то будатрадам у ёй будзе прысьвечаны адзін з самых важных і цікавых разьдзелаў. Яно й ня дзіўна.

Па-першае, паездкі на будоўлі дазвалялі студэнту, у якога стыпэндыя складала 30 рублёў, зарабіць за два летнія месяцы 1000, або, як тады казалі, «кавалак», а калі пашанцуе, дык і два. Маючы іх у кішэні, ты пачуваўся абсалютна іначай. Можна было, ня лічачы апошніх рублёў, запрасіць дзяўчыну ў рэстаран. Паехаць на выходныя ў Вільню ці нават у Талін. Упэўнена зайсьці ў букіністычную кнігарню і набыць цэлы бастыён таўшчэзных зялёных тамоў «Усясьветнай гісторыі», зь якімі пантова пад’ехаць да інтэрнату на таксоўцы…

Па-другое, будатрад даваў магчымасьць пада-

рожнічаць. Вяртацца зь неацэннымі ўражаньнямі, якіх хапала да новага лета. З новымі сябрамі, з новым каханьнем ці расчараваньнем. Гэта было ня менш важна за грошы.

У сваёй біяграфіі я надзяваў будатрадаўскую форму двойчы. Першы раз вясёлы і не зусім цьвярозы эшалён вёз нас у Казахстан, а пасьля трэцяга курсу была Сібір.

Будаўніцтва каналу ў казаскім стэпе засталося ў памяці пераважна экзотыкай.

Двухмэтровыя асятры з успоратымі чэравамі, якіх браканьеры пакідалі на беразе Ўрал-ракі, забраўшы толькі ікру. Свойскія вярблюды і дзікія сайгакі, на якіх мясцовыя начальнікі палявалі з гелікоптэраў. Прыкольныя тушканчыкі, вядомыя з кнігі «Дванаццаць крэслаў», дзе Элачка-людаедка насіла чугаёк з футрам мэксыканскага тушкана.

Мае гастранамічныя ўражаньні ўзбагаціліся ўтушаным з бульбаю суслікам, якога мы каштавалі на гасьцінах у тамтэйшага беларуса. Аднойчы ўвечары галодныя байцы (даведаўшыся пра галоўны інгрэдыент стравы пазьней) з смакам зьелі гуляш з сабачыны, прыгатаваны ў кулінарных традыцыях свайго народу кухарам-карэйцам.

Дагэтуль памятаецца і смак агурковага ласьёну, пасьля шкляначкі якога з роту вылецела чародка вясёлкавых бурбалак. На дэгустацыю гэтага суворага мужчынскага напою натхніў нясьцерпны боль у хворым зубе ўва ўмовах адсутнасьці ў радыюсе 200 км доктара-дантыста, а таксама «сухі закон», які ў нашым атрадзе «Victoria» сапраўды быў законам.

Паколькі гаворка зайшла пра гастраномію,

згадваецца і будатрадаўскі кіроўца, малады казах Цюліген, які насуперак звычаям продкаў страшэнна любіў сьвіное сала.

Але гэта быў гурман з схільнасьцямі садыста. Калі мы езьдзілі зь ім па стэпе ў камандзіроўкі, Цюліген падвозіў тубыльцаў-казахаў, толькі атрымаўшы сьцьвярджальны адказ на пытаньне, ці будуць тыя есьці сала. Прычым адразу ж правяраў, ці спадарожнік не схлусіў. Неяк у кабіну ЗіЛу ўскараскаўся старэнькі аксакал, які спазьняўся на пахаваньне.

Кіроўца адляпіў ад лусьціка скрылік сала і загадаў суайчыньніку-мусульманіну есьці. Той паспрабаваў жаваць і заплакаў. Камсамолец Цюліген перажываў імгненьні шчасьця.

Празь некалькі дзён мы неспадзявана паквіталіся за такога выхаванца з абласным камсамольскім кіраўніцтвам на ўрачыстым аглядзе будатрадаў ува Ўральску.

Да нашага камандзіра прыбіўся зухаваты мясцовы хлопец, які за дзесяць рублёў прапанаваў навучыць нас вершаванаму моладзеваму дэвізу па-казахску. У ім прысутнічала слова, падазрона падобнае да «ішака», але жаданьне заваяваць першае месца і 100-рублёвую прэмію прытупіла пільнасьць.

У выніку мы бадзёра прагарлалі ў твар сакратарам абкаму братняга камсамолу вершык з трохпавярховымі тамтэйшымі мацюгамі.

Вясёлым сонечным вадэвілем здаецца казахстанскае лета ў параўнаньні з наступным, сібірскім.

Цэнтар Верхнякецкага раёну Томскай вобласьці, гарадок Белы Яр, населены пераважна цяперашнімі,

былымі й будучымі зэкамі ды іхнімі ахоўнікамі, падараваў досьвед зусім іншага кшталту — страшны і бязьлітасны.

Я, адстаўшы ад сяброў, — бо толькі што пахаваў тату, і мусіў дабірацца ў Сібір адзін, — ужо ў дарозе сутыкнуўшыся з рэчаіснасьцю таго краю. У прыватнасьці — з тым, як абыходзіліся людзі з гэтак званай «вялікай зямлі» з карэнным сібірскім насельніцтвам. Пра іх гаварылі як пра людзей нават не другога, а, бадай што, ніякага гатунку. Маскоўскія праваднікі не пускалі далей за тамбуры жанчын з малымі дзецьмі, ня кажучы ўжо пра іхніх мужоў і бацькоў. (У тыя часы, дарэчы, Фінляндыя на міжнародным роўні прапаноўвала ратаваць фіна-вугорскія народы савецкай імпэрыі ад выміраньня ў рэзэрвацыях накшталт індзейскіх.)

Потым была жудасная крывавая бойка за білеты на томскім вакзале…

Асобная тэма — закінуты аэрадром, на якім кожны дождж вымываў новыя косьці тых, хто будаваў узьлётную паласу ў 1930-я.

Спачатку мы працавалі на цагельні разам з насельнікамі мясцовай «зоны» і гэтак званымі «хімікамі». Першыя «гарбаціліся» пад вартай, з другімі можна было бязь лішніх цырымоніяў пакурыць і мэлянхалічна выцадзіць фугас невядомага тады на далёкай Бацькаўшчыне партвэйну «777» (леташні «сухі закон» кануў у Лету).

Публіка ў Белым Яры сабралася неверагодна цікавая. Дацэнт Ленінградзкай акадэміі мастацтваў на мянушку Рэпін, што на волі рабіў за будучых савецкіх жывапісцаў дыплёмныя працы. Раскрадальнік сацыялістычнай маёмасьці Вася, які бачыў

у тайзе сівога дзядулю зь вялікімі, шэрымі, быццам у начной мятлушкі, крыламі, што, палохаючы мантажнікаў, лётаў уздоўж лініяў электраперадачаў. Браты-блізьняты з агульным найменьнем — Зваршчыкі, якія, змагаючыся за справядлівасьць, пасьля закрыцьця будаўнічых нарадаў акуратна заварылі недзе пад Цюменьню ў трубаправод свайго прараба.

Цэлая галерэя непаўторных вобразаў…

Мы трапілі ў сьвет, дзе валадарылі грубая сіла і самыя нізкія пачуцьці, якія нярэдка дзівосным чынам спалучаліся з праявамі чыстай высакароднасьці.

Дзе ўспышка панажоўшчыны магла скончыцца песьняй «Здравствуй, Невский, здравствуй, Кировский», якую, кранаючы сэрца, суладна сьпявалі падканвойныя піцерскія зэкі, а іхнія галасы падхоплівалі землякі-«хімікі».

Дзе да вольнапасяленца, колішняга начальніка Мікалаеўскага гандлёвага порту, прыехала маладая прыгажуня-жонка, неабачліва адышлася на сотню крокаў ад бараку назьбіраць брусьніцаў і павесілася, згвалтаваная двума маўклівымі чарнявымі юнакамі з Дагестану, якім заставаўся тыдзень да волі.

Гэта здарылася ўжо ў таежным пасёлку Ягаднае, куды мая брыгада трапіла праз некалькі дзён. Белы Яр здаваўся ўжо амаль санаторыем. На інструктажы начальнік спэцкамэндатуры сурова папярэдзіў, каб не ішлі з дарогі ў лазьню. На вэнэрычныя хваробы ў пасёлку не хварэлі хіба што вавёркі і бурундукі. У адказ на пытаньне, ці можна хоць пакупацца ў кар'ерах за нашымі двума дамкамі, мы даведаліся, што на мінулым тыдні там утапілі

загадчыка крамы. Падазравалі пасялковых дзяцей. Усе яны хацелі стаць блатнымі і ўпэўнена да гэтага набліжаліся.

З чатырохсот «хімікаў» сотня прыпадала ў Ягадным на маладых жанчын-ленінградак, высланых за амаральныя паводзіны. Такія, скажу вам, ягадкі трапляліся — крый божа!

Але лепей разгарніце маю будатрадаўскую «Сібірскую аповесьць», якую адзін літаратурны крытык залічыў да «чорнага рэалізму».

Дзецям да 16 гадоў рэкамэндуецца чытаць з бацькамі.

# Парыж, чарніла, бажале

*У біяграфічных даведніках пішуць, што першыя творы вы зьмясьцілі ў самвыдавецкіх альманахах. Ці можна гэтае ляканічнае паведамленьне крыху разгарнуць?*

*Ірына і Зьміцер*

За савецкім часам мы мусілі вывучаць беларускую гісторыю, наскрозь міталягізаваную афіцыйнай гістарыяграфіяй. Шмат мітаў стваралася й тыражавалася ўжо ў сучаснай гісторыі. Сярод іх — сьцьверджаньне, нібыта ў гады Брэжнева ды ягоных наступнікаў у Беларусі не існавала аніякага самвыдату й літаратурнага андэрграўнду.

Цяпер мы ведаем і пра «Гутаркі» Міколы Ермаловіча, і пра «Люстрадзён» Сяргея Дубаўца, Вінцука Вячоркі ды Сержука Сокалава-Воюша… Архіў найноўшай гісторыі выдаў каталёг «Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі (1971—1990)».

Каталёг пачынаецца з рукапіснага літаратурнага альманаху «Блакітны ліхтар», выдаванага навапалацкімі студэнтамі й школьнікамі ў 1971—1974 гадах. Якраз на яго старонках і адбыўся мой дэбют.

Сёй-той з гэбістаў, пэўна, і цяпер памятае справу, за якую хтосьці яўна атрымаў на пагоны новую зорачку.

Ува ўзорна-паказальным сацыялістычным горадзе, на чыіх нафтахімічных гігантах, як пісалі газэты, дружна працавалі прадстаўнікі 50 нацы-

янальнасьцяў, аднекуль знайшоўся цэлы тузін адшчапенцаў, што ўзяліся складаць ня проста безыдэйныя, а відавочна шкодніцкія вершыкі. Ды яшчэ і па-беларуску, што было ці не галоўнай крамолай.

На сьлізкую сьцежку ступілі выхаванцы тагачаснага Наваполацкага політэхнічнага інстытуту Вінцэсь Мудроў, Валеры Шлыкаў і Анатоль Рыбікаў, якія папераменна рыхтавалі альманах. Вакол іх раіліся іншыя недабітыя нацыяналісты, у тым ліку і з сталічнага Менску.

Літаратурныя практыкаваньні аўтараў «Блакітнага ліхтара» яшчэ цяжкавата было назваць творамі, але тое, што яны кідалі выклік сацыялістычнаму рэалізму, не падлягае сумневу. Эратычныя матывы, сарказм у дачыненьні камуністычных лёзунгаў, гэтак званая «чарнільная лірыка» — клопату для літаратуразнаўцаў у цывільным хапіла. Пагатоў выйшла ня нейкая пара-тройка, а цэлых пятнаццаць нумароў альманаху.

Калі згадваю «Блакітны ліхтар», першым выплывае з памяці шырока вядомы цяпер у вузкіх колах трыялет Вінцэся Мудрова, які не адмоўлю сабе ў задавальненьні зацытаваць:

*Парыж ня бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п'ю.*
*Сумую я аб сваёй долі:*
*Парыж ня бачыў я ніколі.*
*Бутэлька выпіта — даволі.*
*Сяджу на крэсьле і пяю:*
*Парыж ня бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п'ю.*

Зьезьдзіць у тыя часы ў Парыж было ненашмат прасьцей, чым зьлётаць на Марс. Напэўна, з гэтае прычыны, упершыню патрапіўшы праз шмат гадоў у францускую сталіцу, я першым чынам знайшоў на набярэжнай Сены пару кляшараў. Выпіўшы для адвагі пляшку бажале і паспрабаваўшы ўтлумачыць парыжанам, што перад імі чалавек, у якога зьдзейсьнілася юначая мара, я прадэклямаваў згаданы Вінцэсеў верш. Гэта быў адзін з самых жыцьцесьцьвярджальных выступаў у маім жыцьці.

Але чытачы «Блакітнага ліхтара» сустракалі і радкі іншага кшталту. Той самы Мудроў пісаў:

*Размаўляю па-беларуску…*
*Як у трамваі глядзяць на зайца,*
*Так глядзяць на мяне этрускі*
*Ад Асьвеі да Лунінца…*

Васьміклясьнік Андрэй Грабаў, ці ня самы таленавіты зь «ліхтараўцаў», які празь некалькі гадоў загадкава загіне ў войску (а празь некалькі дзесяцігодзьдзяў стане героем маёй кніжкі «Імёны Свабоды»), быў яшчэ вастрэйшы:

*Рушу па Беларусі… У небе маланка палае.*
*Пад прыгнётам усходнім стогне наша зямля…*

Цытаваць сябе саромеюся. Згадаю хіба што самы першы верш, які называўся па-дзіцячы несамастойна, наіўна і роспачна: «Апошнія з магіканаў». Аднак сканчаўся ён аптымістычнай і самаўпэўненай канстатацыяй, што мы — усё ж не апошнія, а якраз першыя.

Потым таварыш маёр з вачыма-сьвярдзёлачкамі

будзе праводзіць са мною ў Менску «прафіляктычныя гутаркі». Яго зацікавіць, хто такія этрускі. А што значыць радок «бруд кастрычніцкіх дарог» у вершы «Кастрычнік» зь нізкі «Дванаццаць месяцаў»? А як гэта ўдалося ачмурыць нацыяналістычным дурманам чыстакроўнага расейскага хлопчыка зь Пермскай вобласьці Андрэя Грабава?

Прыкладна ў той самы час у Наваполацку забіралі з інстытуцкіх лекцыяў і вазілі ў чорнай «Волзе» ў тамтэйшы аддзел КГБ маіх сяброў.

Зробленая намі на пачатку 1990-х спроба вярнуць сканфіскаваны альманах скончылася марна. Напэўна, усе пятнаццаць «Блакітных ліхтароў» дагэтуль (бяз права перапіскі) чакаюць волі дзесьці ў спэцархіве — вязьніцы для кніг і рукапісаў. Прынамсі, хочацца верыць, што іх, калі скарыстацца тамтэйшаю лексыкай, не ліквідавалі.

Лёс аўтараў альманаху заслугоўвае асобнай гаворкі. Зазначу толькі, што зь Вінцэсем Мудровым той, хто чытае па-беларуску, мусіць быць добра знаёмы. На маю думку, ён — адзін з нашых найцікавейшых сучасных празаікаў. Вінцэсева кніга «Альбом сямейны» ўпрыгожыла «Бібліятэку Свабоды XXI стагодзьдзя».

Наступніцаю «Блакітнага ліхтара» сталася «Мілавіца», машынапісны альманах, які мы з Генадзем Кулажанкам, Ігарам Чарняўскім, Юрасём Бандаровічам, Эдвардам Зайкоўскім ды іншымі пачалі выдаваць у сябе на гістарычным факультэце БДУ. «Мілавіцы» пашанцавала болей. Я здымаю з сваёй «залатой» паліцы адзін зь яе нумароў, і ў грудзях зноў плешчацца юнацтва…

## Дваццаць пяць рулёнчыкаў Ластоўскага

*Мы ўжо ведаем, што дэбютавалі вы*
*ў студэнцкіх непадцэнзурных выданьнях.*
*А ці чыталі забароненыя творы іншых аўтараў,*
*што хадзілі тады ў самвыдаце?*
*І каго менавіта?*
*Вікторыя*

Вядома, чытаў.

У «Мілавіцы», што зрабілася працягам арыштаванага гэбістамі «Блакітнага ліхтара», таксама, дарэчы, друкаваліся не дрындушкі. Згадваю верш Юрася Бандаровіча «Супраціўленьне матэрыялу»:

*Калі лічыць чарговы стаў вар'ят*
*Сябе героем, ўзяўшы ўладу ў рукі,*
*Напомніце яму пра супрамат —*
*Бо ёсьць такая мудрая навука…*

Не сказаў бы, што з тых часоў, калі з тэлевізара не вылазіў дарагі Леанід Ільліч, гэтыя радкі безнадзейна састарэлі.

Падчас першага выкліку ў КГБ пад матрацам майго панцырнага ложка ў студэнцкім інтэрнаце ляжаў зачытаны ледзь не да дзірак нумар «Раман-газеты» з «Адным днём Івана Дзянісавіча» высланага з СССР Аляксандра Салжаніцына.

Калі пасьля ўнівэрсытэту я працаваў спачатку ў школе, а потым у наваполацкай гарадзкой газэце, недабітая нацыянальная інтэлігенцыя актыўна

чытала наватарскае для свайго часу дасьледаваньне Міколы Ермаловіча «Па сьлядах аднаго міту». Бандэролька зь яго перадрукам аднойчы цэлы месяц ішла мне ў Наваполацак ад сябра з Паставаў, адольваючы, як мы падлічылі, у сярэднім 5 км за дзень.

У нашы рукі траплялі «Ракавыя яйкі» і «Сабачае сэрца» Міхаіла Булгакава. Калі гляджу экранізацыю апошняй аповесьці, заўсёды згадваю цёмна-зялёны пераплёт, за якім у мяне хаваліся ў другім шэрагу кніжак прафэсар Праабражэнскі з кампаніяй. Побач, дарэчы, стаяў падараваны знаёмым вальнадумцам самвыдавецкі томік Артура Шапэнгаўэра, якога таксама не прадавалі ў кнігарнях.

Да апантаных чытачоў «нехарошых» кніг належаў і мой сябар Вінцэсь Мудроў. Прычым, ужо маючы нейкі досьвед самвыдату з уласнымі опусамі, мы не былі простымі спажыўцамі «забароненых пладоў», а імкнуліся пашырыць чытацкую аўдыторыю «крамолы». Пагатоў малады спэцыяліст інжынэр Мудроў меў пад рукамі дапатопны гектограф. Але такім ён бачыцца цяпер, а тады гэты вялізны апарат вагою, здавалася, пад сотню кілятрамаў выглядаў не абы-якім дасягненьнем савецкай тэхнікі. Дзеля пачатку Вінцэсь памножыў толькі нядаўна надрукаваных у часопісе «Москва» зь вялікімі купюрамі «Майстра і Маргарыту».

Новая старонка нашых усё больш рызыкоўных заняткаў пачалася пасьля знаёмства з Ларысай Геніюш. З Зэльвы я заўсёды ехаў не паражняком (ды гаспадыня і не дазволіла б) — а зь вершамі самой паэткі, з заходнебеларускімі выданьнямі, з ковенскім часопісам «Крывіч», што рэдагавалі ў 1920-я Вацлаў Ластоўскі ды Клаўдусь Дуж-Душэўскі…

Самым вялікім, 25-асобнікавым накладам мы перавыдалі ўкладзены Ластоўскім «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік». Цікава, колькі экзэмпляраў арыгіналу тады пылілася ў спэцсховах? Думаю, што меней.

Больш за ўсіх рызыкавала супрацоўніца архітэктурнага аддзелу гарвыканкаму Наталя, якую мы ўцягнулі ў справу, плоцячы па дзесяць рублёў за асобнік. Адважная паплечніца працавала на айчыннай капіявальнай машыне «Эра». З свайго чэрава «Эра» выдавала ня аркушы, а папяровы рулёнчык. Слоўнік меў 834 старонкі, таму атрымлівалася нешта накшталт трубкі шпалераў. Мая матуля нажніцамі разразала яе, а хлопец з гарадзкой друкарні сшываў і браў у аправу.

Урэшце Наталю ўзяў на гарачым куратар «Эры» з «органаў». Якім чынам яна здолела замяць справу, застаецца загадкай. Можа, дзякуючы сваім бясспрэчным вабнотам перавэрбавала гэбіста на наш бок? А мо той меў добры нюх і ўжо чуў ветрык недалёкіх пераменаў?

Неўзабаве Ластоўскага рэабілітавалі, а ў 1990-м выдавецтва «Навука і тэхніка» факсымільна выдала ягоны слоўнік 10-тысячным накладам.

Тады капіявальныя апараты, ужо званыя пасучаснаму ксэраксамі, лічылі ўжо на тысячы. Савецкія дысыдэнты казалі, што менавіта ксэракс разваліў СССР. Якраз праз сто гадоў пасьля «Дудкі беларускай» Алесь Аркуш і Вінцэсь Мудроў пачалі выдаваць альманах з удзячным назовам «Ксэракс беларускі», у якім і я пасьпеў надрукавацца на разьвітаньне з тым, савецкім самвыдатам.

Здавалася, самвыдат адышоў у гісторыю...

# Ля вытокаў нацыянальнага піваізму

*Вы зь сябрамі стаялі ля вытокаў Беларускай партыі аматараў піва. Ці не шкадуеце, што гэтая арганізацыя сышла з палітычнай арэны?*
*Арцём, стары аматар піва*

Вы крыху памыляецеся: партыю аматараў улюбёнага напою народных масаў стваралі ня мы. Аднак сказаць, што нашая сяброўская кампанія ня мела да гэтае справы ніякага дачыненьня, таксама не выпадае.

Каляндар паказваў першую палову 1970-х. Міжнародная і ўнутраная абстаноўка была неверагодна складаная і трывожная. У Чылі да ўлады прыйшоў Піначчэт, а ў СССР распачалася ўсенародная барацьба з п'янствам і алькагалізмам. Якраз тады на гістарычным факультэце БДУ ў глухім падпольлі і пачаў сваю дзейнасьць наш Клюб аматараў піва, альбо — дзеля канспірацыі — проста КАП.

Магчыма, ідэя яго стварэньня ўпершыню мільганулася ў маёй юнай галаве падчас перагортваньня сямейнага фотаальбому. На адным з здымкаў тата зь літровым кухлем у руцэ бавіўся з франтавымі таварышамі ў венскай піўніцы. Ад фатаграфіі, зробленай у траўні 1945-га, веяла разьняволенасьцю і такім адчуваньнем — няхай сабе кароткай, усяго на вечар — свабоды, што заходзілася сэрца…

Мы заснавалі Клюб аматараў піва разам з най-

лепшым маім сябрам і аднакурсьнікам Генадзем Кулажанкам, які празь дзесяць гадоў зьнікне бязь вестак у Афганістане. У хуткім часе ў шэрагах КАП згуртавалася ўжо блізу тузіну сяброў. Піва там ня капала, а лілося ракой. Пра дакладную колькасьць пляшак, што выпіваліся на паседжаньнях, лепей прамаўчу, каб не даваць дрэннага прыкладу моладзі.

Ідэйнай плятформаю Клюбу стаў піваізм — новае маральна-палітычнае вучэньне, асновы якога я паспрабаваў сфармуляваць у эсэ, зьмешчаным самвыдавецкім літаратурным альманаху «Мілавіца».

Паседжаньні Клюбу з зразумелых прычынаў адбываліся на тэрыторыях, непадкантрольных партыйнаму і камсамольскаму бюро: то ў зусім нядаўна адчыненым, але ўжо легендарным шынку «Ў Лявона», то на высьпе пасярод Менскага мора. Але аднойчы кансьпірацыйная традыцыя была парушаная.

Цэйтнот зімовай сэсіі, памножаны на асьмягласьць арганізмаў і вострую патрэбу інтэлектуальнай сяброўскай размовы, змусіў піваістаў сабрацца ў родным пакоі № 25 унівэрсытэцкага інтэрнату на вуліцы Сьвярдлова.

Нас было пяцёра. Як неўзабаве высьветлілася, столькі сама бясстрашных членаў налічвала і рэйдавая група «рэктарскай праверкі» на чале з сакратаром партбюро факультэту таварышам Кошалевым, што зь пераможным лямантам уварвалася ў пакой, ледзьве ня выламаўшы дзьверы.

На камсамольскім сходзе сяброў Клюбу абвінавацілі ў сыстэматычным п’янстве. Мы пасьпелі падрыхтавацца. Я разгарнуў цэнтральную газэту

«Правда» з «антыалькагольнай» пастановаю і зацытаваў пункт пра неабходнасьць павелічэньня вытворчасьці піва. Шалі гайдануліся на наш бок. Тады дэкан Савачкін падняў палец угору: «Нам вядома больш! Кулажанка і Арлоў спрабуюць стварыць арганізацыю з нацыяналістычным душком». «Ды мы толькі піва пілі», — роспачна азваўся я. «У Германіі таксама ўсё пачыналася зь піва!» — грамавым голасам падвёў рысу дэкан.

На дзяржаўным іспыце па навуковым камунізьме падобны да недагледжанага соннага патрыцыя прафэсар Круцько, узяўшы ў рукі маю залікоўку, адразу страпянуўся: «Значыцца, піўком балуецеся…» — і, ня слухаючы адказу, закаціў мне трояк. На пытаньне, за што, прафэсар абсалютна слушна адказаў: «За тое, што вы ўва ўсё гэта ня верыце».

Той трояк урэшце памяняў колер майго ўнівэрсытэцкага дыплёму з чырвонага на сіні. Але нашая справа не прапала. Яе працягнула ўтвораная праз два дзесяцігодзьдзі Беларуская партыя аматараў піва. Шкада, што яна хутка канула ў Лету. Наўрад ці гэтая палітычная структура мела шанцы прыйсьці да ўлады. Аднак, бываючы колькі разоў на сядзібе піваістаў новай генэрацыі, я заўсёды адзначаў крэатыўнасьць і натхнёнасьць як яе кіраўніцтва, так і шараговых байцоў.

У кожным разе, гісторыкам партыі нельга забываць, што ейным правобразам быў КАП. А ў музэі гісторыі роднага факультэту ўжо даўно мусяць зьявіцца нашыя партрэты.

## Zykina — no, Beatles — yes!

*Даўно чуем вас на хвалях «Свабоды».*
*А ці можаце згадаць, калі самі ўпершыню пачулі яе перадачы? І наогул, ці слухалі вы ў савецкія часы замежныя станцыі?*

*Сям’я Рудніцкіх*

Памяць адразу выдае адзін эпізод з гадоў студэнцтва.

Тады нас штомесяц пасылалі на дзяжурства ў так званую добраахвотную народную дружыну. Трэба было з чырвонай павязкай цягацца па вуліцах і нібыта змагацца за грамадзкі парадак. Камусьці гэтая роля «дзяржыморды» нават падабалася, але мы зь сябрам Генадзем заўсёды імкнуліся застацца на вахце ў пункце правапарадку. Палілі да шэрых мятлікаў у вачах свае люлькі й чыталі зацухмолены «Журнал прыводаў». У графе «Прычына затрыманьня» раз-пораз траплялiся запісы кшталту «В троллейбусе слушал вражеский голос». Мы пераглядваліся і думалі, што не самотныя.

Я пачаў слухаць «варожыя галасы» дзякуючы тату. Дома стаяла вялізная радыёла «Беларусь», і вечарамі ён круціў ручкі настройкі, напаўняючы пакой пераважна сухім трэскатам, візгатлівым завываньнем ды іншым плёнам працы савецкіх глушылак. Тата не рабіў з гэтага таямніцы. Я набліжаўся да пятнаццацігодзьдзя, і, відаць, лічылася, што ў якасьці «паўліка марозава» ня выступлю.

Мама была ў апазыцыі да татавага занятку. Прыслухаўшыся да таго, што прабівалася праз этэрныя перашкоды, яна ня раз давала свой, як цяпер кажуць, камэнтар. У прыватнасьці, наконт сытуацыі ў Чэхаславакіі: маўляў, хто б мог падумаць, што браты-чэхі стануць здраднікамі.

Ішоў 1968 год — якраз таму й памятаю, колькі мне было, калі, адарваўшыся ад кніжкі Рэя Брэдбэры ці Робэрта Шэклі, і я краем вуха мог пачуць нешта з-за жалезнай заслоны. Ня згас у памяці й татаў аповед, як у жніўні, падчас расейскамоўнай перадачы з Прагі, дыктар прамовіў: «Русские ворвались в здание», пасьля чаго запанавала ціша.

Але сказаць, што акупацыя Чэхаславакіі ўспрымалася мною як трагедыя, было б няпраўдай. Я быў юны, інфантыльны, цікавіўся не палітыкай, а фантастыкай і дзяўчаткамі…

У наступную зіму мы пераехалі ў Наваполацак, і я заканчваў дзявяты кляс ужо ў новай школе. Там вучыліся будучыя аўтары самвыдатаўскага «Блакітнага ліхтара» на чале зь Вінцэсем (яшчэ Віцем) Мудровым… Яны пайшлі ў школу на год пазьней, але ў нечым, безумоўна, апярэджвалі нас.

Гэта яны хадзілі страшэнна зарослыя, у хіповых плашчах ды капелюхах. Гэта яны на перапынках забягалі ў наш клясны кабінэт і пад спалоханаўсьцешаны віскат дзяўчатак пісалі на дошцы: «Zykina — no, Beatles — yes!». Гэта яны, нарываючыся на скандалы, ставілі на школьных вечарынах запісы бітлоў і ролінгаў, а накручаныя «старшымі таварышамі» актывісткі верашчалі на сходах, што такім ня месца ў камсамоле.

Не без уплыву згаданай кампаніі я прыахвоціўся

слухаць музычныя праграмы па заяўках «Голасу Амэрыкі» і «Радыё Швэцыі». Першыя вёў Біл Мэгваер, другія — Тамара Юхансан. Біла бязьлітасна глушылі, а непаўторны Тамарын голас гучаў надзіва чыста й шматфарбна, робячы ягоную ўладальніцу ня толькі вядоўцай, ня толькі жанчынаю зь іншага сьвету, але і бясспрэчным сэкс-сымбалем нашых юначых крозаў і сноў.

Неверагодна хацелася, каб у адзін цудоўны дзень гэты голас прачытаў тваю ўласную заяўку. Але лісты, якія мы апускалі ў паштовыя скрынкі, нікуды далей за гарадзкі аддзел КГБ не траплялі. Цуд здарыўся толькі тады, калі Валодзя Сідараў папрасіў стрыечнага брата-марака кінуць заяўку недзе за мяжой. На ранішняй лінейцы ў панядзелак дырэктар грымеў: «Позор упал на голову нашей школы! По заявке комсомольца Сидорова вражеский голос передавал в субботу песню под идиотским названием «Капля дождя упала на твой нос»…

У сваім першым студэнцкім будатрадзе я зарабіў 760 рублёў (стыпэндыя складала суму, меншую у 25 разоў). Частка грошай была трывіяльна прагайдамачаная (маміна азначэньне) за вольны ад заняткаў верасень у першым наваполацкім бары «Пралеска», дзе мы з понтам кідалі дзяўчыне-бармэнцы: «Як звычайна!». Кактэйль называўся «Лунный». Цяпер мы, відаць, ня здолелі б узяць яго ў рот, а тады кайф лавіўся ўжо ад самога слова — «кактэйль»!

Аднак на рэшту заробку я купіў сабе прасунуты транзыстарны прыймач «Акіян», які, дарэчы, выраблялі на Менскім радыёзаводзе, дзе некалі ўдарна працаваў Лі Гарві Освальд. Дзякуючы набытку «варожыя галасы» зрабіліся бліжэйшыя. Цяпер мяне

цікавіла ня толькі музыка. Я ўжо ўсьведамляў сябе беларусам, і таму даволі хутка развучыў пазыўныя Беларускай службы «Свабоды», зрабіўшыся слухачом Арсеня Загорнага, Вітаўта Зубкоўскага, Ларысы Верас, Язэпа Барэйкі, Васіля Крупскага…

А праз гадоў пятнаццаць здарылася дзіва, і гаспадары тых галасоў і псэўданімаў пачалі матэрыялізоўвацца — у вострым позірку Янкі Запрудніка, у энэргічным поціску рукі Вітаўта Кіпеля, у прывабнай, з утульнаю аўрай кабеце, якую хочацца па-ранейшаму называць Ларысай Верас…

І ўрэшце аднойчы на хвалях «Свабоды» прагучаў мой уласны голас.

# Прароцтва Акудовіча

*Ці не сумуеце вы па часопісе «Крыніца»? Прайшло ўжо дзесяць гадоў, як улада яго задушыла, а замены пакуль няма. Паважаю «Дзеяслоў» і «ARCHE», але ў іх свае нішы.*

*Алесь Занкевіч*

Можна вінаваціць Уладзімера Някляева ў чым заўгодна: забіў ката, хаўрусаваў з уладай, выставіў сваю кандыдатуру, «прызнаў Абхазію»... Але нельга ўзяць пад сумнеў тое, што ў сярэдзіне 1990-х гадоў ён стаў галоўным рэдактарам найлепшага ў XX стагодзьдзі беларускага літаратурна-культуралягічнага часопісу.

Вядома, новую «Крыніцу» (бо ад савецкіх часоў выходзіла старая — з карцінкамі і на дзьвюх мовах) ён стварыў не адзін, а — сабраўшы каманду і выцягнуўшы з шафы ў сваім кабінэце спачатку адну, а потым, здаецца, яшчэ дзьве скрынкі армянскага каньяку. Выпіта гэта было не за раз — тады б, відаць, нехта памёр, а часопіс не нарадзіўся, — а вечароў за дзесяць, калі фармулявалася канцэпцыя часопісу.

Разглядаліся й варыянты новага назову. Нехта, патрывожыўшы цені Дубоўкі, Чорнага, Бядулі, насьмеліўся прамовіць: «Узвышша». Я прапаноўваў «Залатую горку». Засталася «Крыніца», але ўжо без рознакаляровых малюнкаў, зь іншым фарматам і адной (тады яшчэ адзінай дзяржаўнай) моваю. У першы склад рэдакцыі ўваходзілі Валянцін Аку-

довіч, Алесь Асташонак, Леанід Дранько-Майсюк, Юрась Залоска, Алесь Разанаў... Прымазаўся і я.

Першы нумар (зраблю тут NB) выйшаў у ліпені 1994-га. Сябры рэдакцыі прапанавалі чытачам ляканічныя эсэйкі пра ўласнае бачаньне новага выданьня.

Я напісаў пра тое, што Беларусь мае ўласьцівасьць існаваць адно тады, калі ты разьвітаесься зь ёю, каб жыць сярод чужаніцаў, пакуль нарэшце ня здасца: у цябе таксама ёсьць дом. Я марыў, што з вопрадня ранейшага часопісу выйдзе на сьвет іншы — такі, які дапаможа сваім аўтарам і прыхільнікам пачуцца менш бяздомнымі тут, у этнаграфічных межах, ці, прынамсі, які захочацца захапіць з сабою падчас чарговых уцёкаў у пошуках Беларусі. І такі часопіс з накладам 4000 асобнікаў зьявіўся.

Зь серабрыстага шэрагу справа ад майго пісьмовага стала я выцягваю наўздагад нумар за нумарам і міжволі пачынаю ўчытвацца. Рубрыкі былі «гаваркія» — МЫ (рэдакцыя), Я (разгляданая ў розных ракурсах постаць суайчыньніка — Скарына, Сапега, Тураўскі, Язэп Руцкі...), ЁН (постаць з-за рэчкі — Міхаіл Бахцін, Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі, Антанэн Арто, Фрыдрых Ніцшэ...), У НАС (Барыс Пятровіч, Галіна Дубянецкая, Мікола Купрэеў...). У разьдзеле ЯНЫ па-беларуску друкаваліся Патрык Зюскінд, Сэм'юэл Бэкет, Томас Ман, Гэрман Гэсэ, Ўільям Батлер Ейтс... Было й ЯНО — Аляксандар Лукашук, Георгі Колас, Алесь Наварыч...

Галава кружыцца ад імёнаў.

Падборку вершаў надрукаваў юны Андрэй Хадановіч. Талент адчуваўся ўжо на старце, але замест

таго каб песьціць яго, я зрабіў бязьлітасную праўку. У Андрэя быў такі даўгі радок:

*Нібы ў адну й тую ж рэчку ўвайсьці або дзеўчыну двойчы…*

Мая цьвёрдая рука дзяжурнага па нумары перад дзеўчынай дадала «ў». Праз колькі гадоў ужо масьціты паэт Хадановіч узнагародзіў мяне скупым мужчынскім словам падзякі. А тады ён толькі спасьцігаў таямніцы матчынай мовы, бо гэта была ягоная першая вялікая беларускамоўная публікацыя.

Я прыдумаў рубрыку НАШ, пад якой надрукаваў тэксты некалькіх дзясяткаў эмігрантаў — ад Юркі Віцьбіча да ўсіх Станкевічаў, а таксама — вядомых у сьвеце беларусістаў, пачынаючы зь незабыўнага троля Гая Пікарды.

Рубрыку чыталі ў розных месцах.

Аднаго разу Някляеў правёў са мной суровую прафіляктычную гутарку і, пранізьліва глянуўшы вярхоўнарэдактарскім вокам, параіў зрабіць высновы.

Праз тыдзень я прынёс новыя тэксты «здраднікаў» і «калябарантаў» і ўвечары ўбачыў, што яны падпісаныя ў друк.

Тады ў часопісе на дадатак да заснавальнікаў ужо працавалі Леанід Галубовіч, Анатоль Сідарэвіч, Юры Станкевіч.

Ветравое шкло рэдакцыйнай «машыны» выглядала такім моцным і празрыстым… Але аднойчы ў яго трапіў каменьчык. Расказваць пра гэта доўга, дый ня хочацца.

Галоўную рэдактарку, што прыйшла на месца Някляева, увесь час кудысьці выклікалі. Неяк, вярнуўшыся, яна папрасіла мяне напісаць заяву на звальненьне па ўласным жаданьні. Я, па-першае, выратую часопіс, а па-другое — саму рэдактарку, якая адна гадуе дзіця.

Я вельмі паважаў яе і хацеў выратаваць усіх, а таму прапанаваў больш радыкальны варыянт: звольніць мяне нібыта паводле скарачэньня штатаў і такім чынам нават перавыканаць загад начальства, а мне выплаціць законную ў такім выпадку кампэнсацыю, якую мы ўсёй, на жаль, ужо ня дружнай рэдакцыяй прагуляем.

Пасьля той балюшкі я ішоў з рэдакцыі ўніз па вуліцы Кісялёва да мэтро й зьнячэўку адчуў, што мой твар мокры.

Я аплакваў свой найлепшы часопіс і адзін з найлепшых разьдзелаў жыцьця.

Сумнай недарэчнасьцю выглядае тое, што «Крыніцы» (прынамсі, ейных пяцідзесяці шырокафарматных нумароў — 5600 старонак) няма ў сеціве.

Няўжо нехта (падазраю хто) старанна зьнішчаў кампутарныя файлы й дыскеты з наборам? Няхай адсохнуць «старацелю» рукі, каб і стацеек сваіх гнілых больш не пісаў! Але ж пры сучаснай тэхніцы ўзяць у яго рэванш і выставіць на электронную «паліцу» часопісны 50-тамовік было б нескладана.

У лірычным дадатку да сваёй кнігі зь як заўсёды сарамяжлівым назовам «Дыялёгі з Богам» недабіты «крынічанін» В. Акудовіч зьмясьціў лірычны дадатак, а ў ім верш:

*Колькі там часу*
*міне...*
*і неяк бяз мору*
*ды гільяціны*
*ня стане Ўладзі,*
*трох Алесяў,*
*двух Леанідаў,*
*Ігара з Валодзем*
*і мяне —*
*Валянціна.*

Гэта аўтар, па сутнасьці, хавае рэдакцыю «Крыніцы». Я, праўда, ня стаў першым — апярэдзіў Алесь Асташонак.

Прароцтва Акудовіча, напэўна, зьдзейсьніцца: нас ня стане.

Але нашая «Крыніца» — застанецца.

## Ніякіх «беларусаў»!

*Ведаю, што вы лічыце Ўладзімера Караткевіча сваім літаратурным настаўнікам. А як суіснавалі БССР і Караткевіч? Кім быў бы гэты пісьменьнік для сучасных уладаў?*

*Віталь Юрэвіч, Старыя Дарогі*

Сапраўды, быў такі юначы час, калі Караткевіч здаваўся мне ў нашым прыгожым пісьменстве Богам. Потым прыйшло адкрыцьцё Быкава, Адамчыка. Зьявіліся настаўнікі зь іншых літаратураў...

Пра тое, як суіснавалі Караткевіч і савецкая ўлада, ужо напісаныя кнігі.

Ёсць зьвесткі, што Караткевіч-студэнт езьдзіў з Кіева, дзе вучыўся, на пахаваньне Сталіна. Але чамусьці больш верыцца ў іншае, засьведчанае сучасьнікамі больш грунтоўна, — у тое, што ў дзень тых хаўтураў будучы пісьменьнік наладзіў у інтэрнаце сяброўскую і зусім не жалобную застоліцу.

Аўтар «Каласоў пад сярпом тваім», безумоўна, ня быў клясычным літаратарам-дысыдэнтам. Усе ягоныя кнігі выйшлі на радзіме, а не за мяжой (вядома, за выняткам перакладаў, якія часам зьяўляліся значна раней за арыгіналы). Але да славы і прызнаньня ён прабіваўся празь церні, якія маглі зьнявечыць нават моцную, але менш апантаную сваёй справай (ці, дакладней, місіяй) натуру.

Цкаваньне пасьля першых публікацыяў у «роднай» аршанскай газэце «Ленінскі прызыў».

Хваля непрыхільных водгукаў на «Каласы» ад калегаў-літаратараў, якім Уладзімер Сямёнавіч пасьля абмеркаваньня твору на радзе Саюзу пісьменьнікаў абурана кінуў: «Не параўноўвайце жывое дрэва з тэлеграфным слупом!» Асобнай кнігаю раман «Каласы пад сярпом тваім» — галоўны твор майстра — выйшаў толькі праз некалькі гадоў.

Першаму раману «Нельга забыць», надрукаванаму ў 1962 годзе ў «Полымі» пад назовам «Леаніды ня вернуцца да Зямлі», пашанцавала меней. Набор аднайменнай кнігі (туды павінна было ўвайсьці й «Дзікае паляваньне караля Стаха») у 1963-м рассыпалі. Раман выйшаў толькі праз два дзесяцігодзьдзі. Дарэчы, па-чэску, у перакладзе Вацлава Жыдліцкага «Леаніды» пабачылі сьвет у іпастасі кнігі на шэсьць гадоў раней, чым па-беларуску.

А колькі зьдзекаў зазнала кінастужка, паводле раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»...

Але Караткевіч не саступаў.

У адным зь лістоў, які за савецкім часам, натуральна, не друкаваўся, ён дзяліўся набалелым: «Я мог бы з куды большым посьпехам пісаць па-расейску або, падвучыўшыся трошкі, па-польску. Меў бы статысячныя тыражы, дачу, прэміі. Я сьвядома пайшоў на больш цяжкі шлях... Нават дзеля таго, каб быць беларускім пісьменьнікам, патрэбна мужнасьць».

І мужнасьць яму патрэбная была найвышэйшай пробы. У тэксьце «Ладзьдзі Роспачы», рукапіс якой займаў 23 старонкі, цэнзары й рэдактары (розьніца паміж імі часта была няўлоўная) зрабілі 296 (!) правак. Тое, што гаворка ідзе адначасова пра арыгінал і пераклад на расейскую мову В. Сёмухі, што прар-

ваўся да чытача на дзесяць гадоў раней за беларускі тэкст, — суцяшэньне слабое. І што правілася! Пасьлядоўна выкрэсьліваліся словы «беларусы», «беларускі», «беларуская зямля»...

Дзякуючы паэту й журналісту Глебу Лабадзенку, што выдаў унікальную кніжку з рукапісам «Ладзьдзі», кніжным тэкстам і праўкамі, мы атрымалі магчымасьць не адно паабурацца, але і задумацца: якім жа прынцыпам будуць кіравацца рэдактары й выдаўцы пры выпуску абвешчанага новага, 25-тамовага збору твораў Караткевіча? Што будзе прыярытэтам: аўтарскі арыгінал ці прыжыцьцёвая (вельмі часта зьнявечаная) публікацыя — як лёгка паабяцаў адзін з удзельнікаў навуковай канфэрэнцыі, прысьвечанай 80-годзьдзю пісьменьніка?

На пахаваньні Караткевіча Генадзь Бураўкін упершыню публічна назваў яго апосталам нацыі.

Гэта і цяпер не ўспрымаецца як гіпэрбала. Мы працягваем атрымліваць ад нашага апостала новыя пасланьні ў выглядзе адшуканых і раней не друкаваных твораў. (Разгарніце нядаўна выдадзеную кнігу «Ўладзімер Караткевіч: вядомы і невядомы».) Мы ўчытваемся ў пасланьні, некалі перададзеныя ў нашыя рукі ім самім. На ўжо згаданай юбілейнай канфэрэнцыі, да прыкладу, гучалі даклады, дзе аналізаваўся ўплыў на яго творчасьць трактатаў Эразма Ратэрдамскага і нідэрляндзкай мастацкай школы. Альбо ішла размова пра караткевічаўскіх жанчын, якія зусім не супадаюць з традыцыйнымі для нашай літаратуры вобразамі прыгажуняў, працаўніц і руплівіц. Ягоныя жанчыны — надзвычай, як і ў жыцьці, розныя: харошыя і з чарвяточынкай, анёліцы і выляжанкі, «з вачыма Маці Божай на

іконах і ротам сучкі прагнай», каханыя і наймічкі, якіх «таксама добра каля печкі цалаваць, калі лёс ня шле царыцы, суджанай навек табе»...

Кім быў бы Караткевіч для цяперашняй улады, каб дажыў, прынамсі, да сярэдзіны 1990-х?

Улада любіць мёртвых геніяў. Яны не даюць інтэрвію, не падпісваюць лістоў з патрабаваньнямі вызваліць палітвязьняў, не выступаюць на мітынгах... Але выглядае, што аўтар радкоў «За што галаву ты згубіла? Якую праўду сказала?» (верш «Безгаловая Вэнэра») ні ў сёньняшніх ідэолягаў, ні ў іхняга гаспадара, што выхоўваўся на «вершах Быкава», ня надта ў пашане. Дагэтуль няма помніка Караткевічу ў Менску, не мэмарыялізаваная ягоная менская кватэра ў доме № 36 па вуліцы К. Маркса. Маглі б мець і помнікі ягоным героям — Алесю Загорскаму, Гервасію Выліваху... Пра ўвасабленьне гэтага апетага Караткевічам шляхціча на ягонай радзіме, у Рагачове, улады загаварылі былі, ды так і заціхлі. Затое Андрэя Чарняўскага, дырэктара тамтэйшага музэю, які столькі зрабіў для дасьледаваньня і ўшанаваньня памяці Караткевіча на любай сэрцу пісьменьніка Рагачоўшчыне, нядаўна змусілі пайсьці з пасады...

Ды ня хочацца пра сумнае. Лепей цытата з Караткевіча. Зьвяртаючыся да калегаў, ён любіў казаць: «Пісаць трэба так, каб вашыя кнігі ў бібліятэках кралі. Мае крадуць». Я, грэшны, таксама скраў калісьці ў вясковай бібліятэцы двухтамовік «Каласоў». Праўдзівей, узяў пачытаць, ведаючы, што не вярну. І быў пакараны тым, што неўзабаве тыя два тамы скралі і ў мяне.

Карацей, пісаць трэба менавіта так.

# Замах на Ніла Гілевіча

*Ці згодныя вы з антычным паэтам-дыдактыкам Тэрэнтыянам Маўрам, які пакінуў нам крылатыя словы «Habent sua fata libelli» — «Кнігі маюць свой лёс»?*

*Алеся, студэнтка
Лінгвістычнага ўнівэрсытэту*

Гісторыі, якія здараліся з маімі кнігамі, адно пацьвярджаюць гэтае старажытнае назіраньне. Кожнае літаратурнае дзіця ганарыцца сваёй уласнай біяграфіяй.

Распавяду, для прыкладу, што прычынілася з другой кніжкаю прозы «Дзень, калі ўпала страла», якая выйшла ў гарачую восень 1988 году. Якраз тады, калі ўтварыліся «Мартыралёг Беларусі» і аргкамітэт БНФ, прагрымелі векапомныя Дзяды...

Гэта быў мой дэбютны зборнік гістарычнай прозы, які выйшаў — такія былі часы! — казачным для сёньняшніх дзён накладам 22 400 асобнікаў. (Цяпер малады творца бывае бязьмежна ўсьцешаны, калі з друкарні выходзіць наклад на 22 тысячы меншы.) Кніжку сьціпла, але густоўна аздобіў сьветлай памяці Пятро Драчоў, які — што было для мяне вялікім гонарам — афармляў некалькі кніг Уладзімера Караткевіча. На вугальна-чорным пераплёце мастак «адчыніў» белае вакно з назваю, якую працінала чырвоная страла.

Шчасьлівы аўтар пачаў раздаваць аўтографы,

больш (як яму здавалася) падабацца жанчынам і, вядома, даў згоду на першую прэзэнтацыю кнігі ў Доме актора, дзе месьцілася славутая тады кавярня «Мутнае вока».

І раптам непаўторныя барвы навокал сьцьмелі. Мая амаль дзіцячая радасьць разьбілася, як цацка з каляднай ялінкі.

Кніжка, што прадавалася ўсяго нейкі тыдзень, зьнікла. Увечары я бачыў у цэнтральнай менскай кнігарні, паўзь якую вяртаўся з працы, цэлую паліцу чорных карэньчыкаў з сваім імем, а ўраньні яна была пустая. Тое самае паўтарылася ў кнігарні «Сьветач» на тагачасным праспэкце Машэрава. Наўрад ці за ноч кнігі маглі расьцягнуць пацукі альбо прывіды. Было відавочна, што дзейнічаюць больш рэальныя істоты.

Зь лютасьцю грызучы курыную нагу ў нашай выдавецкай сталоўцы, я ўжо ведаў, што кнігу вярнулі на паліграфкамбінат з прычыны «нацыяналістычнай» вокладкі. «Пусьцяць пад нож», — казалі дасьведчаныя калегі, спачувальна ляпаючы мяне па плячы.

Дадаўся і яшчэ адзін нюанс надзвычай непрыемнага кшталту, пра які я скажу зараз упершыню.

У тыя часы ў пэўнай часткі менскіх штатных і няштатных ідэолягаў мазгі зьвіхнуліся на пошуках знакаў жыда-масонскай змовы. Дзе толькі ня мроілася гэтым рупліўцам зорка Давіда — і на фанціках, і на дэкаратыўных вулічных кратаванках, і ў пляніроўцы новых мікрараёнаў. Карацей, як у той показцы: прыходзіш дадому, а яны ўжо там.

Апрача таго, усё больш заўзята пачыналі шукаць

і сьляды падступнай дзейнасьці, пэўна ж, зьвязаных з жыдамі і масонамі нацыяналістаў.

Дык вось, нечае, звыклае паўсюль бачыць крамолу хворае вока, апрача бел-чырвона-белай вокладкі, угледзела, што пушчаная мастаком (пэўна ж, у змове з самім Арловым) страла працінае ў назьве кнігі не абы-якія літары, а Н, І, Л, А. Разам яны складалі імя першага сакратара праўленьня Саюзу пісьменьнікаў Ніла Гілевіча.

Дачуўся пра гэтае адкрыцьцё сам Ніл Сымонавіч ці не, было дакладна не вядома (пэўна ж нехта пастараўся), але мне пачало здавацца, што шаноўны паэт касавурыцца й думае: я яму дапамог на працу без прапіскі ўладкавацца, а ён мяне — стралой...

Аднак з календара зьляталі лісткі ўжо новага 1989 году. Цягнік перабудовы дапоўз і да Беларусі. У нейкім кабінэце вырашылі пазьбегнуць скандалу і на макулятуру кнігу не адпраўляць. А вось вокладку паліграфістам загадалі перафарбаваць. Белае вакно ўручную запэцквалі якімі заўгодна іншымі колерамі — ад ліпуча-залацістага да такога, што, здавалася, калупнеш і запахне...

Ды — галоўнае — кніга вярнулася ў кнігарні, за некалькі месяцаў прадалася й пачала далей жыць сваім, незалежным ад аўтара жыцьцём.

Можа, наіўна, але спадзяюся, што яна і мяне перажыве.

## Чацьвертая падзея — гэта...

*Тры падзеі, якія адыгралі для беларускай нацыі галоўную ролю, гэта...*
*Яўген Васьковіч, Мар'іна Горка*

Гэта нацыянальна-вызвольнае паўстаньне Кастуся Каліноўскага.

Гэта абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918-м.

Гэта ўтварэньне незалежнай Рэспублікі Беларусь у 1991-м.

Чацьвертая падзея — гэта...

## Мама Марыя і тата Аляксей

*Даруйце, але ў вашых творах, здаецца, ня вельмі часта згадваюцца бацькі. Адам Глобус, да прыкладу, напісаў пра сваіх цэлую кнігу. Мажліва, у вас такая кніжка яшчэ наперадзе. А пакуль тое, ці не раскажаце хоць крыху пра тату з мамай?*

*Алег Кунцэвіч*

Калі сяджу пры пісьмовым стале, бацькі заўсёды глядзяць на мяне з фота ў кніжнай шафе. Здымак — зьлева, там, дзе сэрца.

Мама Марыя — у строгай цёмнай сукенцы з выкладзеным наверх белым каўнерыкам блюзкі. Мама паходзіць з заможных сялянаў вёскі Капысіца. Амаль увесь ейны род Дзянісавых па мужчынскай лініі, альбо, як казалі продкі, па мячы, на пачатку 1930-х вынішчыла родная савецкая ўлада. Не расстралялі толькі малалетак.

Капысіцу заснавалі перасяленцы з зусім блізкай старажытнай задняпроўскай Копысі, што цягам стагодзьдзяў была сталіцаю беларускіх кафляроў, якіх маскоўскія захопнікі вывозілі ў палон аздабляць палацы іхнім царам. Цяпер мястэчка праславілася яшчэ і з тае прычыны, што там — праўда, дакладна невядома, калі — нарадзіўся першы прэзыдэнт нашай краіны.

Побач з Копысьсю, дзе мама вучылася ў школе, — купалаўскія Ляўкі. Калі Іван Дамінікавіч зьяўляўся

на тамтэйшым базарчыку, настаўнікі адпускалі дзяцей паглядзець на народнага паэта. Мама зьдзіўлялася, што, купляючы курачку, Купала — вядома ж, несусьветна багаты! — заўжды зацята таргуецца з копыскімі габрэйкамі за кожную капейчыну.

Мамін выпускны баль прыпаў на апошні мірны вечар 1941 году. Даведаўшыся пра пачатак вайны, мама надзела на сябе ўсе ейныя тры сукенкі — баялася, што інакш іх забяруць немцы.

Пасьля першага акупацыйнага гарнізону, які складаўся зь фінаў, немцы спачатку не здаваліся такімі ўжо страшнымі. Маме падабаўся фольксдойчэ Паўль. Ён добра гаварыў па-расейску, папярэджваў вёску, калі будуць забіраць кароваў або вывозіць моладзь у Нямеччыну, сустракаўся з партызанамі. Аднойчы на вячорках людзі зь лесу, зрабіўшы выгляд, што бачаць Паўля ўпершыню, вывелі яго на двор і застрэлілі...

Па вайне мама скончыла гістарычны факультэт Магілеўскага пэдынстытуту. Закрэсьлівала ў падручніках імёны «ворагаў народу», галадавала й мерзла ў інтэрнаце, дзе ў адным пакоі «вальтом» спалі па двое на вузкіх, былых салдацкіх ложках тры дзясяткі дзяўчат.

Мама ўсё жыцьцё была настаўніцай, прычым, кажуць, вельмі строгай. Ахвотна веру.

Яна выкладала ў школе гісторыю, і, мне здавалася, не хацела асабліва задумвацца, што зрабілі з гэтай навукаю бальшавікі ды іхнія гэрадоты. Але я, відаць, памыляўся. Інакш навошта яна адгаворвала мяне паступаць на гістарычны факультэт?

Адно праз некалькі гадоў пасьля сьмерці матулі мы зь сястрою даведаліся, што ў вайну яе схапілі

падчас аблавы й адправілі ў Нямеччыну. Трыццаць месяцаў, пакуль не прыйшлі амэрыканцы, яна працавала на вайсковых заводах Крупа. Пра гэта расказала нам маміна сяброўка маладосьці, якой таксама не ўдалося ўцячы з той аблавы. Паверыць пачутаму мы не маглі, пакуль ня ўбачылі старых фотаздымкаў зь нямецкімі шыльдамі і назовамі вуліцаў. Каб нечым не нашкодзіць дзецям, мама маўчала нават тады, калі немцы пачалі выплочваць такім, як яна, грашовыя кампэнсацыі.

Тата Аляксей на фатаздымку — у пракурорскай форме з пагонамі. Ён — сялянскі сын зь сеньненскай лясной вёскі Стэцава, якую пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай атрымаў хтосьці з кацярынінскіх фаварытаў Арловых. Усіх прыгонных запісалі па гаспадару. Адтуль і маё «гучнае» прозьвішча. Мама, дарэчы, пабраўшыся шлюбам, захавала вернасьць дзявочаму — Дзянісава.

Аляксей Арлоў пасьпеў адбыць перад вайной тэрміновую службу ў Адэсе. Служыў тады, між іншым, нейкі час у дывізіі, якой пасьля Ваеннай акадэміі імя Фрунзэ камандаваў Андрэй Уласаў. Памятаецца, тата ніколі не казаў пра яго як пра здрадніка, але часта згадваў, што ў даваенныя гады будучы камандзір Рускай вызваленчай арміі мог ганарыцца павагай і любоўю падначаленых.

Да Адэсы тата на ўсё жыцьцё захаваў у сваёй суровай душы вялікую пяшчоту. За колькі гадоў да раньняе сьмерці ён яшчэ пасьпеў паказаць мне, васьміклясьніку, і Малдаванку, і Аркадзію, і Дзерыбасаўскую, і славуты Прывоз, дзе нам прапаноўвалі купіць пісталет.

Але пісталетаў у таты было ажно два. Адзін

— трафэйны «кольт». Ад вайны ў былога старлея Арлова засталіся яшчэ дзьве раны і ўзнагароды — ордэн Чырвонае зоркі і мэдалі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За абарону Сталінграду» і «За ўзяцьце Будапэшту», зь якімі я ў маленстве любіў гуляць заместа цацак. Вайну тата скончыў у аўстрыйскай сталіцы, дзе да іхняе часткі паставілі «на довольствие» слана з разбамбаванага хаўрусьнікамі венскага зьвярынца.

Другі пісталет быў пракурорскі. Пасьля юрфаку БДУ тата ўсё жыцьцё працаваў пракурорам. З гэтае прычыны ў мамінай вёсцы, куды мяне прывозілі на ўсё лета, я меў важную мянушку Пракурор.

Прафэсія, безумоўна, наклала адбітак на татаў характар. Ён быў маўклівы, замкнёны ў сабе чалавек, які, я думаю, у душы не пагаджаўся з тым, што рабілася ў краіне. Аднойчы на вачах у нас вецер раскідаў похапкам зладжаны ў Полацку пантонны мост церазь Дзьвіну. Тата зь непраніклівым тварам працытаваў вершык з часоў юнацтва: «Течет вода Кубань-реки, куда велят большевики…»

У апошнія дні, паміраючы ад раку, ён гаварыў са мною так, як і я зь ім, — па-беларуску.

Маіх бацькоў вельмі даўно няма на гэтым сьвеце. Тата разьвітаўся зь ім сорак гадоў таму. Мы так і не пасьпелі паразмаўляць па-сапраўднаму — як дарослы з дарослым.

У антычнасьці тых, хто даў табе жыцьцё, шанавалі нароўні з багамі.

Беражыце бацькоў!

# А на дэсэрт — манэта Жыгімонта

*Ходзіць чутка, што ў дзяцінстве бацькі падмешвалі вам у ежу мэтал ад старажытных манэтаў. Скажыце, калі ласка, якія манэты трэба есьці, каб стаць пісьменьнікам?*
*Коля Чарныш*

Калі вы нарадзіліся ў Полацку, вашае дзяцінства проста немагчыма ўявіць бяз пошукаў скарбаў і даўніх падземных хадоў. Адзін літаратуразнаўца некалі слушна напісаў, што якраз тыя сутарэньні і прывялі мяне на гістарычны факультэт.

Але існавала і прычына больш канкрэтная.

Найлепшай шукальніцай скарбаў тады была нашая Дзьвіна. Прывітаньні з прамінулых стагодзьдзяў я атрымліваў пасьля кожнае паводкі. Так склалася мая невялікая нумізматычная калекцыя. Ейным упрыгожаньнем стала манэта Вялікага Княства Літоўскага з партрэтам гаспадара Жыгімонта Аўгуста на аверсе і «Пагоняю» на рэверсе.

Зразумела, што такіх вучоных словаў я тады яшчэ ня ведаў, як анічога ня чуў у тагачасным пятым клясе і пра само Княства ды наш старажытны герб. Аднак Жыгімонтаў профіль падабаўся мяне сваёй ганарлівай выразнасьцю, а яшчэ больш уражваў ваяўнічы конны рыцар.

Кожную суботу я меў запаветныя хвіліны, калі раскладаў калекцыю на мамінай нажной швачнай

машынцы, пры якой рабіў урокі. Звычайна манэты ўтваралі круг, зь сярэдзіны якога на мяне і пазіраў суворы і барадаты вялікі князь Жыгімонт.

Уявіце мае жах і роспач, калі аднаго разу ўлюбёная манэта бясьсьледна зьнікла…

Праліўшы ручаіну горкіх сьлёзаў, я ўрэшце дазнаўся, што слова «бясьсьледна» ў гэтым выпадку было не зусім дакладнае. Бо — сам таго ня ведаючы — я найдаражэйшую манэту… зьеў.

Цяпер трэба зрабіць невялікае лірычна-мэдычнае адхіленьне.

Не скажу, што я быў вісусам і аторвам, але да ўзорнага хлопчыка мне таксама было далекавата. Я з натхненьнем лазіў па чужых садах. Яшчэ больш грэшны — пісаў імёны пасіяў на сьценах ды іржавых купалах Багаяўленскага сабору, што стаяў тады ў занядбаньні. Але пры гэтым — варта мне было грымнуцца на зямлю ня тое што аднекуль з высачыні, а з звычайнай яблыні ці вішні — абавязкова ламаў сабе рукі ды хадзіў з гіпсам. Калі мы гулялі ў індзейцаў, я меў нязьменную мянушку — Брат Касьцяная рука. А паколькі прымудраўся ламаць пераважна правую руку — не пісаў кантрольных і дыктовак, усьцешана атрымліваючы адзнакі за чвэрць на падставе адных вусных адказаў.

Тата не падзяляў маёй радасьці. З уласьцівай ягонай пасадзе пракурора суворасьцю ён аднойчы паабяцаў, што хутка мяне вылекуе. Сьпярша здалося, што лекі будуць традыцыйныя — ягоная шырокая ёмкая папруга. Аднак я памыляўся. Замест папругі тата пачаў частаваць мяне пасьля вячэры нейкім нясмачным парашком.

Так прамінуў тыдзень, а ў суботу і было зробленае вусьцішнае адкрыцьцё на мамінай машынцы.

Як стала вядома, славуты полацкі доктар прасьвятліў тату ў тым сэнсе, што ў сына ломкія костачкі, бо ў юным арганізьме не хапае медзі. Тата зазірнуў у маю калекцыю і ўзяў напільнік. Ён мог зрабіць мне лекі зь медных расейскіх капеек Пятра І, аднак выбраў білёнавую манэту Вялікага Княства, дзе медзі было значна менш.

Выбар аказаўся бездакорны: болей я сабе нічога не ламаў. Думаю, што, апрача элемэнтаў табліцы Мендзялеева, мне дапамог і Жыгімонт Аўгуст — ня толькі здатны палітык, але і пераможца рыцарскіх турніраў ды таленавіты каханак. А яшчэ болей костачкам, відавочна, паспрыяла зьедзеная разам з манэтаю «Пагоня». У кожным разе, гісторыя, а можа, і сама Гісторыя ўвайшла ў мае кроў і плоць, прадвызначыўшы і паступленьне на ўнівэрсытэцкі гістфак, і ўвесь далейшы лёс.

Што маем у выніку? Каб зрабіцца беларускім пісьменьнікам, трэба зьесьці манэту з Жыгімонтам Аўгустам і «Пагоняй». Пры жаданьні вы адшукаеце яе выяву на вокладцы маёй кнігі «Сланы Ганібала».

Але ёсьць маленькі нюанс: манэту трэба знайсьці пасьля паводкі на дзьвінскім беразе каля Сафійскага сабору.

## «Лазьня» стаіць непарушна

*Вы першы жывы беларускі пісьменьнік, якога мы ўбачылі. А хто быў першым у вашым жыцьці?*
*Воля і Кася*

Мне выпала расьці ў страшэнна зрусіфікаваным на той час Полацку, на вуліцах якога, памятаецца, была ўсяго адна беларуская шыльда. Праўдзівей, не зусім шыльда, таму яна і ацалела. На фасадзе старога будынку гарадзкой «бани», куды мы з татам хадзілі па суботах, з цэглы было чамусьці выкладзенае таямнічае слова «Лазьня», прычым менавіта з дарэформавым мяккім знакам. Дарэчы, гэты помнік гадам беларусізацыі існуе дасёньня, і я, бывае, ваджу туды знаёмых на экскурсію.

Не выключаю, што цяпер, у выніку нястомнага клопату ўлады пра разьвіцьцё роднай мовы, па Полацку зноў сноўдаюць падшыванцы, якія глядзяць на слова «Лазьня» гэтак сама тупа, як некалі я сам.

Здаецца, да пятага клясу я і не здагадваўся, што на сьвеце ёсьць беларускія пісьменьнікі.

Ды аднойчы нас раптам зьнялі з уроку і павялі ў актавую залю, якая адначасова была і сталоўкаю, дзе нядаўна, заспрачаўшыся з старэйшым сябрам Фімам, я спакойна зьеў васямнаццаць пончыкаў і мог бы працягваць, каб яны ня скончыліся.

У залю, якая пахла ня толькі пончыкамі, але і менш смачнымі рэчамі кшалту пракіслай капусты,

сабралі ўсю школу ад першаклясьнікаў да выпускнікоў. Дырэктарка абвясьціла, што перад намі будуць выступаць беларускія пісьменьнікі.

Ад той сустрэчы запомнілася, што пісьменьнікаў было трое. Яны засталіся безаблічныя і безыменныя, затое выдатна памятаецца, як хтосьці з дрэнных вучняў, а можа, і з настаўнікаў-беларусафобаў перадаў на сцэну цыдулку з пытаньнем, ці праўда, што «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» па-беларуску будзе «Галадранцы ўсяго сьвету, гоп да кучы!». Дырэктарцы пытаньне не спадабалася, і яна папрасіла ў гасьцей прабачэньня. Ды пісьменьнікі не засмуціліся, а, наадварот, разьвесяліліся і нешта адказвалі, хоць у залі стаяў такі галас, што на задніх радах ужо амаль нічога не было чуваць.

Аднак галоўнай мэты тая сустрэча (прынамсі, у выпадку са мной) дасягнула. Я даведаўся, што недзе ёсьць беларускія пісьменьнікі, якія гавораць на беларускай мове. Гэта адыграла ў маім жыцьці велізарную ролю.

У спыненым, ледзьве канчаткова не зламаным мэханізьме, зварухнулася нейкая шасьцярэнька...

Потым здарылася першая прачытаная па-беларуску кніжка — «Ён быў піянэрам» пісьменьніка-партызана Яўгена Курто. Твор, скажу шчыра, уразіў мяне толькі нехарошымі словамі, што старанна панапісваў на кожнай старонцы нехта з папярэдніх чытачоў.

Аднак тая шасьцярэнька не замерла, бо неўзабаве я ўзяў у школьнай бібліятэцы зборнік беларускіх казак.

Да нацыянальнага космасу яшчэ заставалася

велізарная дыстанцыя, але мальчик Вова пачаў неўпрыкмет ператварацца ў хлопчыка Ўладзю.

Колькі гадоў таму ўжо безнадзейна хворы пісьменьнік Яўген Будзінас заехаў да мяне з маладзенькай сакратаркай-студэнткай, каб падараваць свой апошні раман. «Подпиши девочке книгу», — папрасіў Жэня. Я зьняў з паліцы «Каханка яе вялікасьці». Дзяўчо зьбянтэжылася, а потым адважна падзялілася адкрыцьцём: «Ой, а я думала, вы уже давно умерли…»

Такім чынам, цяпер ужо я сам раблюся для кагосьці першым жывым беларускім пісьменьнікам і тым самым усяляю ў юныя душы веру ў сьветлую будучыню айчыннай літаратуры, ці, прынамсі, у ейнае існаваньне.

Жыве беларускі пісьменьнік!

## Штучнае дыханьне для Ірачкі

*Вы ўжо столькі ўсяго напісалі і надрукавалі, што атрымліваецца цэлая бібліятэчка. Але ж калісьці ўсё пачыналася. Страшэнна цікава, як гэта было. Ці памятаеце свой першы верш ці першае апавяданьне?*

*Вераніка*

Наконт колькасьці напісанага скажу наступнае. На палічцы з маімі ўласнымі кнігамі стаіць факсымільнае выданьне «Вянка» Максіма Багдановіча, ягоны адзіны прыжыцьцёвы зборнік. Каб аўтар «бібліятэчкі» не задаваўся.

А пачыналася ўсё ў першым клясе.

Вы і безь мяне, пэўна, ведаеце, што ёсьць наймацнейшаю крыніцаю натхненьня. Правільна, каханьне.

Будзем лічыць, што гэта было ўжо яно.

Ірачка сядзела наперадзе, таму памяць найперш малюе худзенькую шыйку з пэрсікавым пушком, у якім заблытаўся камарык недаробленай радзімкі. Мне так не хапала яго, гэтага камарыка, у кароткія, як вераб'іная дзюба, дні й бясконцыя, як бабуліна казка пра рыбіную вайну, вечары першай школьнай зімы, калі я часта хварэў і заставаўся дома адзін...

За нашым драўляным полацкім домам, што стаяў на месцы цяперашняга палацу культуры заводу шкловалакна, пачынаўся ня надта дагледжаны, ужо крыху зьдзічэлы сад. Адтуль прылятаў

і завываў у коміне вецер. Яму хтосьці падпяваў — ці то суседзкі сабака Дунай, які ўлетку перакрываў шлях да чужых вішняў, ці то нехта больш вусьцішны. Па кутах гусьцела цемра, дзе варушылася нейкае іншае жыцьцё. Я туліўся да цёплай печкі і марыў, каб хутчэй надышло лета і мая каханая патанула ў Дзьвіне.

Я ня быў маленькім нэкрафілам. У апошні момант мне ўдавалася выцягнуць Ірачку на ўтравелы пляж і зрабіць ёй штучнае дыханьне. Аднойчы ўпотай ад бацькоў, я з тэмпэратураю нават хадзіў туды і, стоячы ў сумёце, разглядаў плякаты таварыства выратаваньня на водах. Улетку бераг мусіў быць такі самы пустэльны, бо трэба будзе ўдзьмуваць з сваіх вуснаў у Іраччыны паветра.

Калі ў мроях я дасягаў таго імгненьня, сэрца вырастала і пачынала вандроўку па зьдзіўленым дзіцячым целе, бессаромна адгукаючыся ў самых розных месцах. Тады рука пад уладаю нейкай невытлумачальнай сілы цягнулася да сшытка ў касую лінейку і хімічнага алоўка. Зь іх дапамогаю вылупляліся птушаняты першых вершыкаў.

Жахлівікі, што хаваліся за шафаю і пад ложкам, падкурчвалі хвасты. Язык ад хімічнага алоўка, які я ўтрапёна смактаў, быццам ледзянец, пашчыпваў і рабіўся сінім. Цяпер я сам мог напалохаць каго заўгодна. Прынамсі, маму, якая неяк засьпела мяне ў працэсе творчасьці. Гэта было выняткам з правілаў, бо звычайна, пачуўшы, што бацькі вяртаюцца з працы, я ліхаманкава вырываў сьпісаныя старонкі й кідаў іх у грубку. Мне ўяўлялася, што мае крамзолі — таямніца, якую, апрача аўтара, можна даверыць толькі агню.

Хлопчык, што рос у зрусіфікаваным горадзе і хадзіў у расейскую школу (іншых проста не было), пісаў па-расейску. Усе вершы былі пра каханьне. Памятаюцца адно асобныя радкі й рыфмы. Напрыклад, такая геніяльная, як «весна — тебя». Ды здараліся й праблескі кшталту брутальнай пары: «любовь — кровь».

Аднак нядоўга музыка гучала...

Перад летнімі вакацыямі, калі Дзьвіна ўжо рыхтавалася паспрыяць зьдзяйсьненьню маіх крозаў, Ірччынага тату, афіцэра савецкай арміі, перавялі служыць ува Ўладзівасток, і я ўсёй душой узьненавідзеў парослую мохам патыліцу Лёнькі Тамашэвіча, што зьявілася на месцы майго пэрсікавага шчасьця з радзімкаю.

Да наступнага каханьня заставалася тры гады. І калі яно нарэшце агарнула мяне, нарадзіўся першы празаічны твор, напісаны ўжо ў больш дарослым сшытку ў кратку. Гэта было не па гадах жорсткае апавяданьне на модную тады касьмічную тэму. Праўда, у космас ягоныя героі ляцелі ня самі, а запускалі туды са стромы над рэчкай Палатой ужо знаёмага нам даўняга непрыяцеля Дуная.

А першай спробаю пяра назаўсёды засталася нізка вершаў, прысьвечаная Ірачцы.

Калі ты, мая незабыўная, раптам прачытаеш гэтыя словы, ведай: той нядошлы першаклясьнік Вова Арлоў... Ну, той самы, што пісаў, паводле настаўніцы, «як курыца лапай», і бясконца хварэў на ангіну... Ён... Ён па-ранейшаму кахае цябе.

## Прабачце, гэта мой пэрыяд

*Чым запомніцца вам, спадар Уладзімер, лета 2010-га?*
*Таксама Ўладзімер*

Лета — гэта маленькае жыцьцё. У маім сёлетнім «маленькім жыцьці» было ня вельмі шмат вонкавых падзеяў. Зрэшты, галоўныя падзеі, як вы самі ведаеце, адбываюцца ў душы, у сэрцы, у сьвядомасьці.

За лета я мусіў дапісаць працяг сваёй дзіцячай кніжкі «Адкуль наш род». Апошняе яе выданьне сканчвалася аповедам пра БНР. Але перш чым расказаць пра новых герояў, трэба згадаць эпізод з часоў студэнцтва.

У тыя часы наш гістарычны факультэт БДУ займаў пяты і шосты паверхі галоўнага ўнівэрсытэцкага корпусу. Вокны выходзілі якраз на Дом ураду. Там на фасадзе два разы на год — напярэдадні 1 траўня і 7 лістапада — чаплялі вялізныя партрэты членаў палітбюро ЦК КПСС.

Сярод нашых выкладчыкаў была Ядзьвіга Навуменка, жонка народнага пісьменьніка Беларусі Івана Навуменкі. Ейны курс лекцыяў прысьвячаўся расейскай гісторыі XV—XVI стагодзьдзяў, але тады ўсё гэта таксама называлася «гісторыяй СССР».

Ядзьвіга Паўлаўна была кабета манумэнтальная, грунтоўная і пэдантычная. Пры канцы кожнае лекцыі яна цікавілася, ці ёсьць пытаньні. І вось

аднаго разу, акурат калі насупроць нашых вокнаў віселі згаданыя вышэй члены, хтосьці запытаўся, чый гэта партрэт крайні зьлева.

Спадарыня Ядзьвіга велічна падплыла да вакна, доўга ўзіралася туды з-пад рукі, а потым паважна прамовіла: «Прабачце, гэта ня мой пэрыяд»…

Узяўшыся за новыя разьдзелы кніжкі, а менавіта за нашую гісторыю XX стагодзьдзя (у маім уяўленьні, для беларусаў яно пачалося 25 сакавіка 1918 году і яшчэ доўжыцца), я вельмі хутка ўспомніў Ядзьвігу Паўлаўну. Унутраны голас пачаў нашэптваць, што «гэта — ня мой пэрыяд». І шаптаў ён так зацята і пранікнёна, што я вырашыў закінуць рукапіс на антрэсолі ды лепей напісаць працяг «Полацкіх апавяданьняў».

Дзеля натхненьня прыехаў у Полацак і даў нырца ўва ўлюбёнае возера Люхава. Ня ведаю, што прычынілася падчас таго заплыву. Мо зрабіў сваю справу геній месца. Мо паказыталі ў патрэбнай зоне тамтэйшыя русалкі… Але ў родную менскую вальеру я вяртаўся зь іншым суразмоўцам. Маю на ўвазе ўнутраны голас.

Цяпер ён унікліва шаптаў мне, што павінен жа нехта даступнымі словамі распавесьці малым чытачам пра рэчы, ад якіх іхнія цнатлівыя душы клапатліва бераглі. Пра беларусізацыю 1920-х. Пра апетае зламаным Купалам калгаснае «шчасьце». Пра «чорных воранаў» і Курапаты. Пра тое, чаму так падобныя назовы Катынь і Хатынь. Пра Саюз беларускіх патрыётаў і Беларускую Майстроўню. Пра будаўніцтва «сьветлай будучыні — камунізму», што пачалося й скончылася дармовым хлебам з гарчыцаю ў сталоўках. Пра часы Машэрава, калі

ў нашых гарадах закрылі апошнія беларускія школы, затое жыхары БССР мелі кілбасу (якую, дарэчы, нязьменна адмаўляўся есьці вясковы кот нашай цёткі Волі).

Ня мой пэрыяд мэтафізычным чынам зрабіўся блізкі і цікавы.

Маімі героямі сталі Ларыса Геніюш і менская доктарка, што ў 1970-я ставіла маленькім няшчасным пацыентам страшны дыягназ — «белорусская речь». Мне сьніліся Янка Філістовіч і Расьціслаў Лапіцкі. Я размаўляў з Уладзімерам Караткевічам і Васілём Быкавым…

Кніжка дагэтуль не адпускае. У параўнаньні з папярэдняю вэрсіяй яна вырасла разы ў тры і, спадзяюся, неўзабаве трапіць да рук малых дый дарослых чытачоў.

Такім вось і атрымалася лета — даўжынёю ў цэлае стагодзьдзе.

## Матэрыяльна-тэхнічная база Нінкі Марозавай

*Спадар Арлоў! Пачынаецца новы навучальны год. Ці памятаеце вы свае школьныя першыя верасьні?*

*Бацькі першаклясьніка*

Вядома, памятаю. Праўда, мае ўспаміны, напэўна, пададуцца вам не зусім тыповымі.

Штогод на ўрачыстай лінейцы 1 верасьня дырэктарка казала адну і тую ж калісьці завучаную прамову. У ёй нязьменна фігуравала адмысловая фраза: «Год ад года харашэет мацерыальна-цехнічаская база нашай школы».

У малодшых клясах гэтыя словы гучалі для мяне абсалютна загадкава. Яны былі падобныя да магічных формулаў зь дзіцячых гульняў. Ну, нешта кшталту: «Ёрыкі-морыкі, пікапу-трыкапу, ахалай-махалай, налівай-вылівай…»

З гадамі сэнс сакрамэнтальнае фразы рабіўся больш зразумелы і разам з тым набываў сьвежыя й нечаканыя адценьні. Як сказалі б навукоўцы, узнікалі дадатковыя канатацыі. Урэшце, гэта аздобіла першаверасьнёўскую лінейку вясёлым інцыдэнтам.

Здаецца, тады я перайшоў у сёмы кляс. У сьвяточным шыхце стаяў новы вучань — другагоднік-рэцыдывіст Вася Шуйскі. Памятаецца, што ён быў вышэйшы за ўсіх нас на цэлую рудую галаву.

Дык вось, калі дырэктарка зычна прамовіла: «Год ад года харашэет мацерыяльна-цехнічаская база нашай школы», Вася ня менш зычна й жыцьцярадасна выгукнуў: «Асобенна ў Нінкі Марозавай!»

Дырэктарцы заняло мову. Старшаклясьнікі зарагаталі. Настаўнік фізкультуры закруціў Шуйскаму вуха і пацягнуў хулігана кудысьці за школу.

Відаць, у глыбіні душы я таксама быў хуліганам, бо гэтае 1 верасьня запомнілася найбольш.

Што яшчэ памятаецца?

Я вучыўся ў 1-й полацкай сярэдняй школе. Напачатку яна называлася яшчэ і «сталінскай». У вокны нашага першага, а потым другога «А» зазіраў помнік найлепшаму сябру савецкіх дзяцей. Але аднойчы на пачатку 1960-х якраз у верасьнёўскія дні да помніка пад'ехаў трактар. На вачах у нас на шыю правадыру накінулі пятлю з сталёвага тросу…

Цяпер вокны школаў майго роднага гораду глядзяць на зусім іншыя помнікі. І сёньня я зайздрошчу хлопчыку, які ідзе з букетам хрызантэмаў каля бронзавых Усяслава Чарадзея, Еўфрасіньні і Сімяона і выходзіць на праспэкт Францішка Скарыны.

Яшчэ калі б гэты вучань ішоў у беларускую школу…

## Шушкевіч як удзельнік дзяржаўнага перавароту

*Ці можна давяраць сучасным школьным падручнікам нацыянальнай гісторыі?*
*Мікола Бусел*

Давайце паспрабуем адказаць на пытаньне разам і дзеля гэтага возьмем у рукі навучальны дапаможнік «Гісторыя Беларусі. Канец XVIII ст. — 1999 г.» пад рэдакцыяй прафэсара Яўгена Новіка. Па ім вучацца нашы адзінаццаціклясьнікі.

Разгортваем разьдзел пра рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух у першай палове XIX стагодзьдзя. Гэта час, калі на захопленых Расеяй беларускіх землях узьнікаюць шматлікія таемныя таварыствы. Апавядаючы пра самыя значныя зь іх, філяматаў і філярэтаў, аўтары падручніка адразу вырашаюць не называць імёнаў. Відаць, каб не было панадна.

Вучні не даведаюцца пра Яна Чачота, Тамаша Зана, Ігната Дамейку, ідэйнага натхняльніка патрыётаў Яўхіма Лялевеля… Затое старанна пералічваюцца дзекабрысты, якія служылі ў Беларусі. Паколькі дапаможнік пра гэта маўчыць, заўважым, што лёс нашага народу расейскіх дваранскіх рэвалюцыянэраў альбо зусім не цікавіў, альбо выклікаў у іх шавіністычную адрыжку. Павел Пестэль, да прыкладу, лічыў, што беларусы «должны отказаться от права особой народности». Назовы ўсіх народаў

імпэрыі, апрача расейцаў, ён наогул прапаноўваў скасаваць.

Але для Новіка і кампаніі такія дзеячы, відавочна, значна больш каштоўныя, чым нейкія дамарослыя філяматы.

Падобнымі рэцыдывамі расейскацэнтрычнага мысьленьня падручнік нашпігаваны, як гусь яблыкамі. Вось толькі яблыкі гэтыя спараджаюць, далікатна кажучы, нястраўнасьць.

Роўна 25 радкоў адшкадавана вызвольнаму паўстаньню 1830—1831 гадоў, калі на землях былога Вялікага Княства Літоўскага за зброю ўзяліся 30 тысяч нашых продкаў. У трох куртатых абзацах няма ані згадкі пра графіню Эмілію Плятэр, якую сучасьнікі называлі ліцьвінскай Жаннаю д'Арк. Альбо пра Міхала Валовіча, што вярнуўся з парыскай эміграцыі на радзіму і ўзначаліў партызанскі аддзел. Альбо пра яшчэ аднаго інсургента — Гэнрыка Дмахоўскага, які стаў вядомым у сьвеце скульптарам.

Навошта ведаць такія малацікавыя факты сучаснаму беларускаму школьніку? Навошта забіваць яму галаву сумнеўнымі імёнамі паўстанцкіх правадыроў?

Камусьці яшчэ — крый божа! — заманецца павесіць партрэты змагароў у сябе на сьцяне!

Новік з памагатымі прапаноўвае сваіх герояў. Ня нейкіх там бунтаўшчыкоў, а людзей, адданых «государю и Отечеству». З старонак «Гісторыі Беларусі» на нас па-бацькоўску строга глядзяць царскія міністры і генэрал-губэрнатары Кісялёў, Назімаў, Мураўёў…

Так-так, той самы Мураўёў-Вешальнік, што

тапіў у крыві паўстаньне Кастуся Каліноўскага. У падручніку ён, натуральна, ніякі ня вешальнік, а «энэргічны дзяржаўны дзеяч, які зь веданьнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы».

Як вядома, мураўёўская энэргія выявілася ў 128 павешаных і расстраляных, 853 прысуджаных да катаргі, 12 тысячах адпраўленых у высылку і арыштанцкія роты.

Не выключаю, што сярод іх былі і продкі самога прафэсара Новіка ды ягоных суаўтараў.

Жыве, жыве справа яго сіяцельства, які загадваў заліваць магілы нашых паўстанцаў экскрэмэнтамі і казаў, што ў Беларусі рускі чалавек павінен пачувацца лепей, чым дома, у Расеі.

Зазірнуўшы ў разьдзелы пра падзеі 20—30-х гадоў мінулага стагодзьдзя, дапытлівы вучань крыху супакоіцца.

З уласьцівым ім лёгкім, амаль грацыёзным стылем Новік і кампанія пішуць, што, аказваецца, «фантастычных памераў лічбы ахвяр палітычных рэпрэсій, якія ўтрымліваюцца ў публікацыях апошніх дзесяцігодзьдзяў, — ня што іншае, як міт, запушчаны ў грамадзкую сьвядомасьць для дыскрэдытацыі сацыялістычнай сыстэмы».

Шляху Беларусі да незалежнасьці ў найноўшы пэрыяд падручнік адводзіць ажно цэлую старонку. Прафэсар Новік паклапаціўся, каб старшаклясьнікі анічога ня ведалі ні пра Курапаты і «Мартыралёг Беларусі», ні пра БНФ, ні пра яго тагачаснага лідэра Зянона Пазьняка.

Станіславу Шушкевічу пашанцавала болей. Не, на сьціплы партрэт ён, у адрозьненьне ад Аляксандра II і Мікалая II, безумоўна, не заслужыў. Затое

цяпер, пачуўшы імя першага кіраўніка сувэрэннае Беларусі, выпускнікі школаў будуць ведаць, што гэты страшны чалавек, а таксама ягоныя хаўрусьнікі Барыс Ельцын і Леанід Краўчук «зьдзейсьнілі дзяржаўны пераварот» і «разбурылі вялікую і магутную дзяржаву».

Калісьці Сэрвантэс сказаў, што хлусьлівых гісторыкаў трэба вешаць, як фальшываманэтчыкаў. Я не заклікаю карыстацца мэтадамі энэргічнага дзяржаўнага вешальніка, перапрашаю, «дзеяча», мілага душы прафэсара Новіка. Але сваім сынам вывучаць родную гісторыю па такіх падручніках ніколі б не дазволіў.

## Што такое тэйгелэх?

*У адным з вашых адказаў згадвалася, як у свой час у пэўных колах было модна паўсюль шукаць руку жыдамасонаў. Арлова ў іхні лік, здаецца, ніхто не залічаў, але ўсё ж адкажыце, што вас зьвязвае з габрэямі? У апавяданьнях «Вова Цымэрман» альбо «Прароцтвы Розы Герцыковіч» вы адгукаецеся пра іх зь вялікай сымпатыяй і цеплынёй. А раптам і вы?..*

*Іосіф*

За савецкім часам распавядалі показку пра чалавека, які, запаўняючы анкету, у графе пра нацыянальнасьць напісаў: «не».

Я — таксама не.

Праўда, калісьці ў жоўтай газэтцы «Славянский набат» друкавалася сэрыя артыкулаў аднаго (бясспрэчна, цікавага для мэдыкаў вядомай спэцыяльнасьці) публіцыста пад агульным назовам «Бесы над Белой Русью». Мая асоба была там маляўніча дэманізаваная і ўзвышаная да статусу агента «Масаду» і адначасова ЦРУ. Пераезд небясьпечнага агента з Полацку ў Менск быў абвешчаны акцыяй, сплянаванай ці то ў Тэль-Авіве, ці то на берагах Патамаку.

Я абсалютна ўпэўнены, што за падступным плянам стаяў хтосьці з былых полацкіх габрэяў, сярод якіх я рос і нават упэўнена спасьцігаў азы ідышу, на якім у нашай частцы Полацку, асабліва вечарамі на лавачках, гаварыла тады бальшыня жыхароў.

У 1855 годзе ў маім родным горадзе нашчадкі біблійнага Сіма складалі 66 % насельніцтва, на пачатку XX стагодзьдзя — 51. Паводле перапісу 1959 году ў Беларусі жыло 150 тысяч габрэяў, і мне ўяўляецца, што палова зь іх прыпадала на Полацак.

Аўтар выдадзенай у сярэдзіне пазамінулага стагодзьдзя кнігі «Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии» расейскі генэрал Міхаіл Без-Карніловіч, які паходзіў з Магілеўшчыны, пісаў пра айчынных юдэяў так: «Предприимчивы, любопытны, проницательны. С первого взгляда, с первых слов поймут, с кем имеют дело… Для них никакой труд не тяжел, если только от него предвидят для себя пользу… В вере тверды до фанатизма, богомольны, единодушны, любят помогать своим, в особенности, когда те пострадают от пожара…»

Жывучы ў дзяцінстве паміж Шэфаў, Гофэншэфэраў (больш за сто гадоў таму прадстаўнік гэтага роду выдаў першыя полацкія паштоўкі), Ліўшыцаў, Эпштэйнаў, Сраіловічаў (іхнія продкі валодалі друкарняй), нашчадкаў Бэрмантаў і Бэрштэйнаў, якія некалі адкрылі ў горадзе першыя фотаатэлье, закаханы ў суседку Сімачку Музыкант, а затым у аднаклясьніцу Полю Кругляк з поўненькімі, як літровыя малочныя бутэлькі, ножкамі, я магу з адлегласьці гадоў засьведчыць, што ўсё напісанае царскім генэралам — шчырая праўда.

У тым ліку і наконт пажару.

Калі згарэла палова дому Герцыковічаў, ім з усіх навакольных вуліцаў Рабочых — з парадкавымі нумарамі ад 1-й да, памятаецца, 10-й — панапрыносілі столькі дабра, што стары Залман ня верыў свайму

шчасьцю й ціхенька хваліўся, што адных ложкаў у адбудаванай дамоўцы цяпер ажно пяць.

У нашым раёне мы, беларусы, былі нацыянальнай меншасьцю, што давала немалыя перавагі. Напрыклад, у кулінарыі й гастраноміі. Мае рэцэптары дасёньня сумуюць па рыбе-фіш, фаршмаку і цымусу, якімі частавала мама Вовы Цымэрмана, заўсёды ўсьмешлівая й ласкавая Марыя Абрамаўна.

А вы ведаеце, што такое тэйгелэх?.. Калі-небудзь я вып’ю кашэрнай сьлівовіцы — такой, як аднойчы ў габрэйскім гатэльчыку ў Браціславе, — і напішу пра тэйгелэх натхнёнае эсэ…

Ці жывая вы, мілая Марыя Абрамаўна? Чаму ты ўжо гэтак даўно не тэлефануеш з свайго ізраільскага Гіватайму, Вова?

Дакумэнты апошняга перапісу насельніцтва паведамляюць сумную лічбу: за стагодзьдзе габрэйскае насельніцтва Беларусі скарацілася зь мільёну да няпоўных 13 тысяч.

Вядома, мы можам (дый павінны!) ганарыцца тым, колькі нашая зямля адно Ізраілю дала прэзыдэнтаў, прэм’ераў, міністраў ды іншых выбітных асобаў. Але ўва мне жыве нязводная настальгія па тых часах, калі падобная да ўтульнай пышнай капешкі цётка Роза Саламонаўна, што была пэнсіянэркаю, але яшчэ працавала касіркаю пры атракцыёнах у прыдзьвінскім парку, зьвярталася да мяне на ідышы: «Драйсік копэкес білет» і працягвала на трасянцы: «А ты, дарагой, пакуда я тут сяджу, будзеш катацца задарам».

На якія атракцыёны вы прадаяце квіткі цяпер, дарагая цёця Роза?..

## Ножка першай каханай

*Мне і майму каханаму на дваіх 33 гады. У нас нечаканае пытаньне. Згадайце, калі ласка, сваё першае эратычнае перажываньне. Цікава, як гэта адбывалася ў ваш час?*

*Страшэнна закаханыя*

Паводле Зыгмунда Фройда, у большасьці з нас — незалежна ад часу — першыя перажываньні гэткага кшталту зьвязаныя з мамінай цыцай. Мяне мама карміла больш за год. Часам здаецца, што тыя пругкія ружовыя паўкулі з смочкамі-сунічкамі, якія мне, бывае, мрояцца на мяжы явы і сну, належалі якраз маме…

Але вас, асабліва ў вашыя 33 гады на дваіх, відавочна цікавіць іншае.

Напэўна, я быў раньнім хлопчыкам, бо мне і маёй каханай на дваіх было ўсяго 26. Праўда, Людачка Цімафеева пра гэта ня ведала. Ну, пра тое, што яна — каханая.

Няхай вашае ўяўленьне паспрабуе намаляваць наш тагачасны шосты кляс.

Дошка, кавалкі крэйды. Груваткія нехлямяжыя парты. Натуральна, ніякіх кампутараў. Толькі летась нам дазволілі пісаць шарыкавымі асадкамі. На сьцяне — партрэт Чарлза Дарвіна. Побач — табліцы, што дэманструюць, як малпа ператвараецца ў чалавека. У дзьвюх шафах пры сьцяне — парачка шкілетаў, бо наш клясны кіраўнік выкладае бія-

лёгію. Я чамусьці не даю веры, што з малпы — нават пры самых спрыяльных акалічнасьцях — можа атрымацца Людачка. І ўжо зусім ня верыцца, што Людачка ды і сам я некалі ператворымся ў шкілеты. Мы яшчэ неўміручыя.

За вокнамі тагачасная зіма — з сумётамі, размаляванымі шыбамі. Мароз пад дваццаць градусаў. Мы, полацкія школьнікі, ходзім на заняткі ў валёнках і носім зьменны абутак.

Ідзе ўрок геаграфіі. І раптам мая нага, блукаючы пад партаю, знаходзіць ножку каханай. Прычым гэтая ножка — якое шчасьце! — не ўцякае ад мяне, а даверліва застаецца на месцы. Сьпярша я проста заміраю ў асьцярожлівым дотыку. Напэўна так замірае на лязе аеру, жывая, як міркіль, смарагдавая стрэлка.

Гэта доўжыцца некалькі бясконцых імгненьняў асалоды. Ды юны мужчына ўва мне падказвае, што, калі жанчына дазваляе адзін крок, трэба рабіць наступны. Я далікатна накрываю Людаччыну ножку зьверху і зусім зьлёгку прыцiскаю яе. Яна не ўцякае!!!

Я з трэцяга клясу ведаю сталіцы ўсіх краінаў сьвету. Я ведаю, што сталіца карлікавай Андоры — Андора-ля-Вэля, а сталіца Нідэрляндзкай Гвіяны — Парамарыба. Але цяпер я, відаць, ня здолеў бы назваць нават сталіцу Францыі. Недзе на задворках сьвядомасьці мільгае сусед-дзесяціклясьнік Вова Бундзель, які днямі ў дэталях расказваў, што рабіў пасьля рэпэтыцыі з практыканткаю-піянэрважатай. Бедны Вова! Хіба ён ведае, *што* насамрэч можна рабіць зь дзівоснымі істотамі, якіх называюць дзяўчаткамі…

Мае перажываньні здаюцца мне вяршыняю блізкасьці. І ня толькі здаюцца. Яшчэ хвіля, і здарыцца тое, чаго я так баюся і прагну…

Але, як казаў Ліс з «Маленькага прынца», няма ў сьвеце дасканаласьці. Якраз тут зьвініць ненавісны званок! Праўда, ножка маёй каханай не ўцякае, яна па-ранейшаму са мной. Я непрыкметна апускаю павекі. Усё яшчэ магчыма…

І зьнячэўку, нейкім бакавым зрокам, заўважаю абсалютна неверагоднае: мая Людачка весела бяжыць па праходзе між партаў! І бяжыць дакладна на дзьвюх сваіх ножках у зялёных пантофліках. Апусьціўшы позірк долу, я з жахам і невыказным сорамам разумею, што цэлы ўрок лашчыў ейны засунуты пад парту валёначак…

Колькі потым было самых розных эратычных перажываньняў! А згаданае дагэтуль застаецца ня проста першым, але, відаць, і наймацнейшым.

Шкада, што закаханых у валёнках цяпер у нашых краях ужо не сустрэнеш.

Не падабаецца мне гэтае глябальнае пацяпленьне!

## Кілішак авантурызму

*Якія чалавечыя якасьці вы цэніце найдаражэй?*
*Ганна, ліцэістка*

Глыбіню.

Вернасьць самому сабе.

Уменьне трымаць слова.

Пачуцьцё гумару.

Самаіронію.

Нікому не зашкодзіць і кропля (а мо і кілішак) авантурызму.

# Гэбісцкі грасбух і муж адной паэткі

*Пра наваполацкае літаратурнае аб’яднаньне «Крыніцы», якім вы пэўны час кіравалі, дагэтуль ходзяць легенды. У 1980-я гады яно складала канкурэнцыю славутым «Тутэйшым». У чым, на вашую думку, прычыны фэномэну «Крыніцаў»?*

*Марыя, былая ўдзельніца літаб’яднаньня «Першацьвет» і паэтка*

Спадзяюся, што вы толькі былая ўдзельніца, а не былая паэтка.

А вашае пытаньне ўскалыхнула душу, бо «Крыніцы» — ня проста частка жыцьця, гэта адзін з самых важкіх «зьліткаў» майго асабістага (упэўнены, што ня толькі майго) «залатога запасу».

Наконт канкурэнцыі з «Тутэйшымі» скажу, што яе проста не існавала, а калі нешта падобнае і было, то адно ў сьвядомасьці некаторых залішне амбітных «крынічанаў». «Тутэйшыя» былі рэспубліканскім таварыствам, мы — гарадзкім. Сталічныя калегі выпускалі бюлетэнь зь дзіўнаватым назовам «Кантроль». Яны друкавалі свае літстаронкі ў «ЛіМе» і «Чырвонай змене». Мы мелі магчымасьць рабіць гэта ўсяго раз на месяц у чатырохпалосным і расейскамоўным наваполацкім «Химику», дзе я зарабляў на хлеб на пасадзе загадчыка аддзелу пісьмаў, а потым — намесьніка рэдактара.

Але ня буду прыбядняцца. «Крыніцы», безу-

моўна, не былі шараговай рэгіянальнай літсуполкаю. Іначай зь яе ня выйшла б два дзясяткі сяброў Саюзу пісьменьнікаў, ПЭН-клюбу і проста здольных літаратараў, на чыім рахунку, паводле няпоўных падлікаў, ужо недзе блізу дзьвюх сотняў кніг.

Дарэчы, пра згаданыя літстаронкі. У тыя гады зь менскай «Ленінкі» да нас у рэдакцыю рэгулярна прыходзілі лісты з просьбамі даслаць адсутныя ў бібліятэчных падшыўках нумары «Химика». У сталіцы зьнікалі выключна газэты зь літаратурнымі старонкамі.

Яно і нядзіўна.

Дзякуючы лібэралізму мудрага рэдактара Ўладзімера Сімурава ў «Химику» друкавалася тое, што ў любым іншым выданьні бязьлітасна б зарэзалі. З выпуску ў выпуск да чытачоў прыходзілі, напрыклад, «Песьні касінераў» Сержука Сокалава-Воюша. Пад гістарычна-камуфляжным назовам публікаваліся патрыятычныя, па сутнасьці, антысавецкія вершы, якія пазьней загучалі на дэмакратычных мітынгах.

На нашых літстаронках пабачылі сьвет крамольныя ў вачах літаратурных генэралаў вершы менчукоў Уладзімера Сьцяпана і Адама Глобуса, набор першай кніжкі якога быў рассыпаны. Неяк на мой дзень нараджэньня Лявон Вольскі прыгадаў, што ў выпусках «Крыніцаў» знаходзілася месца і для тэкстаў песень юнай «Мроі».

Аднак рэй у аб’яднаньні вялі, вядома, творцы з полацка-наваполацкіх берагоў Дзьвіны і ваколіцаў майго ўлюбёнага возера Люхава.

Вінцэсь Мудроў і Сяржук Сокалаў-Воюш, Ірына Жарнасек і Лера Сом, Навум Гальпяровіч, Іна Снар-

ская, Валянціна Аксак, Алесь Аркуш і Алег Мінкін, які пасяліўся на Млынавым завулку ў Запалоцьці і перайшоў на беларускую мову... Свае першыя, але ўжо ўпэўненыя спробы пераўвасабленьня сусьветнай клясыкі прынесьлі ў «Крыніцы» будучыя мэтры перакладу Лявон Баршчэўскі і Якуб Лапатка.

На шматлюдных і неверагодна дэмакратычных для таго часу «крынічанскіх» сходках зьбіраліся ня толькі літаратары: у коле аднадумцаў натхняліся маладыя мастакі Сяргей і Рыта Цімохавы і Таццяна Козік, набіраліся нацыянальнай сьвядомасьці рокеры з папулярнага пазьней ува ўсёй Беларусі гурта «Мясцовы час», завітвалі акторы, рэжысэры, гісторыкі, заяўляліся маладыя сталічныя паэты.

Творы «крынічанаў» шырока друкавалі рэспубліканскія выданьні. «Маладосць», захлынаючыся ад наплыву нашых вершаў і прозы, выпусьціла цэлы наваполацкі нумар. Некаторыя тэксты пачалі перакладацца на іншыя мовы. Беларускае тэлебачаньне, якім тады кіраваў Генадзь Бураўкін, прысьвяціла «Крыніцам» некалькі вялікіх перадачаў. (Цяпер практычна кожны колішні «крынічанін», што зрабіў сабе ў літаратуры імя, на дзяржаўных тэлеканалах — persona non grata.)

У «зорныя гады» літаб'яднаньня амаль ніводнае паседжаньне не абыходзілася без адмысловых гасьцей. Давалі бясцэнныя парады «крынічанам» Янка Брыль і Рыгор Барадулін. (Дзядзька Рыгор, апрача ўсяго астатняга, зьдзівіў тым, што падчас неафіцыйнай часткі піў адно мінэралку, але хмялеў і весялеў разам з усімі.) Захаплялі эрудыцыяй археоляг Сяргей Тарасаў і архітэктар-рэстаўратар Валеры Сьлюнчанка, што аднаўляў Сафійскі сабор.

Прыехаў і выступіў з цэлай праграмаю абароны мовы і культуры тагачасны сакратар віцебскага абкаму КПБ Ёсіф Навумчык, адзін з нашых вельмі нешматлікіх, на жаль, нацыянал-камуністаў.

Сябры «Крыніцаў» кожны тыдзень ладзілі выступы ў школах і ПТВ, прабіваліся ў музычную вучэльню і політэхнічны інстытут, на наваполацкія нафтагіганты. Мы ставілі задачу, каб кожная такая вылазка сталася падзеяй, і раз-пораз гэта сапраўды ўдавалася. А яшчэ была дапамога рэстаўратарам Сафійскага сабору, удзел у археалягічных раскопках, абарона прызначанай пад знос старадаўняй камяніцы на полацкім праспэкце Карла Маркса, якую ў гэрастратаў удалося адбіць (цяпер там мастацкая школа, а праспэкт мае імя Францыска Скарыны).

Пры канцы 1980-х «Крыніцы», застаючыся моцным літаб'яднаньнем, разам з тым перажывалі трансфармацыю ўва ўплывовы дэмакратычны клюб. Мне здаецца, якраз тут адзін з складнікаў пазьнейшай бліскучай перамогі Лявона Баршчэўскага над першым сакратаром наваполацкага гаркаму партыі на выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі гістарычнага 12-га скліканьня.

Натуральна, мы не маглі не прыцягнуць да сябе ўвагі «кампэтэнтных органаў». На паседжаньні прыходзілі «літаратары», якія сарамліва адмаўляліся чытаць свае творы і прападалі з далягляду гэтак сама нечакана, як і зьяўляліся.

Цяпер ужо вядома, што былі завэрбаваныя ў інфарматары прынамсі двое ўдзельнікаў аб'яднаньня.

Часам у мой кабінэт заходзіў змрочны, як навальнічная хмара, рэдактар Сімураў і прасіў тэчку

зь літаратурнымі матэрыяламі, што на тыдзень перавандроўвала кудысьці за сьцены рэдакцыі. (На такія выпадкі я трымаў у стале не адну тэчку, а дзьве ці тры.) Як потым высьветлілася, кожныя «крынічанскія» вячоркі запісвалася на магнітафон, пасьля чаго ў якой-небудзь перапалоханай юнай літаратаркі «таварыш маёр» дапытваўся, што апавядаў пра менскія падзеі Арлоў, чым абураўся Мудроў і як ацанілі эпахальную брэжнеўскую «Малую зямлю» Лапатка зь Мінкіным. Праўдзівасьць адказаў спраўджвалася ў гросбуху з магнітафоннай раздрукоўкай.

Вядомасьць і аўтарытэт «Крыніцаў» знаходзілі выяўленьне і ў іншых, часам вельмі нечаканых формах.

Мне хочацца ўявіць тую палачанку, што пад выглядам паходаў на нашы частыя паседжаньні зьнікала ў адваротным кірунку. У дні літвячорак роўна аб адзінаццатай гадзіне ў рэдакцыі званіў тэлефон. Слухаўку браў старшыня аб'яднаньня, гэта значыць я. Мужчына на тым баку проваду называў сябе «мужам адной паэткі» і ветліва цікавіўся, калі мы зьбіраемся разыходзіцца. Я сумленна адказваў, што прыкладна апоўначы, і запэўніваў, што ўсіх дам правядзем дахаты. Так доўжылася, калі не памыляюся, гады два. Але аднаго разу муж папрасіў перадаць, што сёньня зойдзе па сваю таленавітую «палавінку» сам. Я мусіў удакладніць імя паэткі і пачуў абсалютна незнаёмае нікому з нас імя...

Дык у чым усё ж прычыны фэномэну «Крыніцаў»?

Па-першае, відаць, у самой полацкай атмасфэры. Я кажу — у полацкай, бо Наваполацак заўсёды

ўспрымаўся мною як працяг гораду Еўфрасіньні і Скарыны.

Па-другое, разам з геніем месца сваю ролю, бясспрэчна, адыграў і геній часу. Час быў набрынялы чаканьнем пераменаў, прагаю набліжаць іх — і словам, і дзеямі.

Ну, а па-трэцяе, у тым часе шчасьліва супалі некалькі асобаў, што здолелі стварыць моцнае магнітнае поле для дзясяткаў іншых.

Лёс раскідаў «крынічанаў» па сьвеце, але, магчыма, цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, пульс нашага былога брацтва хоць на колькі хвілінаў зноў заб'ецца ня толькі ў Полацку і Менску, але ў Беластоку і Варшаве, у Хэльсынках і Нью-Ёрку...

Здаецца, я ўжо чую яго.

## Вы пісалі на туалетнай паперы?

*Вядома, што многія літаратары стваралі ня толькі за пісьмовым сталом, але і ў розных іншых месцах. Напэўна, хапае такіх і сярод беларускіх пісьменьнікаў. А, калі не сакрэт, дзе пісалі й пішаце вы? Ці ёсьць пры гэтым нейкія адмысловыя правілы (якасьць паперы, адзеньне, час сутак, асьвятленьне, пітво)?*

*Алесь Каралёў*

Сапраўды, родны пісьмовы стол ніколі ня быў адзіным працоўным месцам літаратара.

Як мы памятаем зь «Сьвята, якое заўсёды з табой», Гэмінгўэй любіў пісаць у парыскіх кавярнях. Мэтэрлінк доўга жыў у абацтве Сэн-Вандрый, а калі ствараў «Жыцьцё пчолаў», ставіў перад сабою сподак зь мёдам, каб прывабіць сваіх гераіняў. Жан-Жак Русо працаваў дома, затое, перапісваючы «Новую Элаізу», выкарыстоўваў пазалочаную паперу, прысыпаючы атрамант лазуркавым і срэбным парашкамі ды сшываючы аркушы блакітнымі стужачкамі.

У 20—50-я гады XX стагодзьдзя шмат якія пісьменьнікі на адной шостай часткі плянэты вельмі часта тварылі ня ў самых камфартабэльных умовах, дый паперу мелі крыху горшую, чым у Русо. У пісьменьніцкім доме творчасьці ў Піцундзе расейскі празаік Леў Разгон расказваў мне, як за часамі перабудовы сустракаўся з францускім

перакладчыкам ягоных лягерных апавяданьняў. Для прадмовы таго цікавілі дэталі: напрыклад, тое, на чым пісаў Разгон у ГУЛАГу. «Ды на чым выпадала», — адказаў былы вязень. «Божа мой! — схапіўся за галаву француз. — Я зразумеў! Вы пісалі на туалетнай паперы!»

Наш Пятро Бітэль, перакладаючы ў няволі «Пана Тадэвуша», таксама карыстаўся «туалетнай паперай», у прыватнасьці, такім яе гатункам, як шматкі ад мяхоў з цэмэнтам.

Заходнебеларускія літаратары сядзелі, як вядома, у польскіх астрогах. Умовы і там былі ня райскія, але, відавочна, больш камфортныя для сустрэчы з музамі, чым у сталінскіх «пансіянатах». Іначай Піліп Пестрак не прасіўся б пасьля вызваленьня ў 1939 годзе, каб новае савецкае начальства пускала яго працаваць — пакуль ня скончыцца пэрыяд акліматызацыі — у былую камэру.

На Ўладзімера Караткевіча ўлада касавурылася, але, дзякаваць Богу, у турмах і лягерах яго не мардавалі. «Дзікае паляваньне» стваралася ў Воршы на паддашку адрынкі пры бацькоўскай хаце. «Ладзьдзя Роспачы» ды шмат што іншае — у велізарным сьветлым пакоі збудаванага дзедам Васілём дому ў Рагачове (моцная стогадовая пабудова, дзе жывуць сваякі пісьменьніка, захавалася й чакае мэмарыялізацыі).

Аўтар аповесьці «Ня плач, душа мая», якой некалі зачытваліся «майстроўцы», і геній выцінанкі Вячаслаў Дубінка прыходзіў на менскі паштамт і гадзінамі сядзеў за столікам з паперай і асадкай, ня раз прыцягваючы ўвагу аховы, што аднойчы прыняла яго за шпіёна.

Хтосьці, прадчуваю, непазьбежна абвінаваціць мяне ў нясьціпласьці й жаданьні прытуліцца да людзей выбітных і славутых, але пытаньне прагучала — трэба нешта сказаць і пра сябе.

Нічым асаблівым пахваліцца не магу. Пісаць здольны толькі дома, у пакоі, вакно якога выходзіць на гармату каля Нацыянальнага гістарычнага музэю, а яшчэ — у апошняй кватэры бацькоў у Наваполацку, дзе цяпер жыве сястра Таццяна. Лецішча на Лысай гары (як, зрэшты, і недзе яшчэ), на якой тварыла й творыць значная частка айчынных чараўнікоў слова, ніколі ня меў.

Якіх-небудзь прыбамбасаў паведаміць вам не магу. Да нядаўняга часу пісаў першы варыянт выключна ад рукі, цяпер спрабую адразу на кампутары. Папера мусіць быць белая і досыць шчыльная, каб потым не прасьвечвалі радкі на ніжняй старонцы, што чамусьці ўносіць у душу дысгармонію. Найлепшыя вынікі — калі пішаш у першай палове дня. Самае добрае сьвятло — сонечнае. Спробы імітаваць творчы працэс уначы сканчваліся глыбокім здаровым сном з уткнутым у паперу носам.

Раней некаторыя тэксты пісаў у «суаўтарстве» з чырвоным віном. Так чвэрць стагодзьдзя таму была напісаная аповесьць «Час чумы». Тады я цэлы месяц жыў у закарпацкай вугорскай вёсцы, дзе абыходзіцца безь віна лічылася б проста мавэтонам. Я й цяпер не адмаўляюся ад чырвоненькага, але ўжо даўно прыйшоў да высновы, што за пісьмовым сталом клікаць на дапамогу алькаголь нявартa й небясьпечна. Можаце мець мяне за маралізатара, але на дне келіха напраўду хаваецца творчая

бездапаможнасьць і трагедыя. (Самы красамоўны й страшны прыклад зь нядаўняга мінулага ведае, відаць, кожны, хто цікавіцца нашым прыгожым пісьменствам.) Цяпер п'ю над чарнавікамі вельмі моцную кенійскую гарбату, якую прыяцель прывозіць з афрыканскай крамкі ў Лёндане. Ужываю яе абавязкова з малаком, бо іначай праз тыдзень можна нажыць язву страўніка.

Кажуць, Уладзімер Караткевіч, сядаючы за стол, адзяваўся, быццам на сьвята, а пісаў, як школьнік-выдатнік, амаль нічога не выпраўляючы й не закрэсьліваючы. У хвіліны адпачынку піў каву, якую гатаваў паводле засакрэчанага рэцэпту, і любіў глядзець мультфільмы.

Каву я, дзікі чалавек, практычна ня п'ю, мультфільмы мне ня надта даспадобы. Бясконца крэсьлячы й выпраўляючы сябе, я нараджаў апавяданьне пра Караткевіча для дзіцячай кніжкі «Адкуль наш род» у самы летні сквар, калі за вакном было градусаў пад сорак. Згадаўшы ў тэксьце, як мэтар надзяваў перад працаю адпрасаваную белую кашулю, я падняўся з-за стала і падышоў да люстэрка. Адтуль на мяне пазіраў нехта ўзмакрэлы ў адных зялёных майтках.

Я з сорамам падумаў, што сказаў бы на гэта Караткевіч, і вырашыў накінуць на сябе яшчэ што-небудзь. І раптам аднекуль — з-пад вокладкі «Каласоў» ці з-за чорнага пераплёту сваёй «Іліяды», — адгукнуўся ягоны яшчэ не забыты голас. «Няхай нашы дзеці абіваюць грушы косткамі нашых ворагаў», — нібыта ня ў тэму прамовіў ён. І я зразумеў гэта як санкцыю пісаць так, як мне падабаецца.

## Пошум анёльскіх крылаў

*Уладзімер, ці верыце вы ў тое, што называюць натхненьнем?*
*Віталь Шастакоў*

Польскі пісьменьнік Ян Парандоўскі ў сваім трактаце «Альхімія слова», прысьвечаным пісьменьніцкаму мастацтву і псыхалёгіі творчасьці, сьцьвярджаў, што натхненьне выйшла з моды. У такім разе я — чалавек старамодны, бо ў тое, што называюць натхненьнем, сапраўды веру. Прычым ня толькі ў літаратуры й мастацтве, але, натуральна, і ў філязофіі, навуцы, каханьні…

Антычныя грэкі наогул слушна лічылі натхненьне станам духу, што не паддаецца ўцямнаму вытлумачэньню.

У эпоху рамантызму існавала нешта кшталту культу натхненьня. Творцы ўзахапы паведамлялі пра самыя розныя формы сувязі з найвышэйшымі сфэрамі.

Юльюшу Славацкаму ягоныя радкі нашэптвалі анёлы. Паэт і мастак Ўільям Блэйк сьціпла менаваў сябе сакратаром нябесных сілаў, якія дыктуюць яму строфы і вобразы.

Адно з найлепшых вызначэньняў невызначальнага здолеў даць Фрыдрых Шылер, што назваў натхненьне «неспадзяванкаю душы». Праўда, часам такія неспадзяванкі ставілі чалавека на мяжу вар’яцтва, а то й жыцьця ды сьмерці.

Адам Міцкевіч, палохаючы слухачоў, губляў пасьля сваіх славутых імправізацыяў прытомнасьць.

А вось адзін айчынны празаік падчас адліву натхненьня, выпіўшы вогненнай вады, выходзіць, кажуць, на вуліцу і можа аддацца глыбокаму здароваму сну ў якім заўгодна месцы — ад ліфта да пясочніцы ў дзіцячым садку. Прычым, як чалавек культурны, заўсёды — незалежна ад сэзону — распранаецца да майткоў і акуратна кладзе адзеньне пад голаў. Кажуць, яму вельмі даспадобы Флябэр, які апусьціў натхненьне на зямлю, зазначыўшы, што яно палягае адно ў тым, каб штодня ў адзін і той самы час сядаць за рукапіс.

Сучасьнікі, дарэчы, любілі параўноўваць творчыя мэтоды аўтараў «Спадарыні Бавары» і «Трох мушкетэраў» наступным чынам: Флябэр, маўляў, на краёчку пісьмовага стала абедае, а Дзюма на краёчку абедзеннага піша. (Магчыма, Дзюма лічыў, што натхненьне палягае ў тым, каб штодня ў адзін і той самы час абедаць.)

Нахабна прысуседзіўшыся да алімпійцаў, скажу колькі словаў і пра сябе любімага.

Пошум анёльскіх крылаў чуў адно на апэрацыйным стале перад наркозам. Славуты ньютанаўскі яблык на макаўку мне ня падаў. Прытомнасьці, як Міцкевіч, не губляў. Да майткоў разьдзяваўся ў іншых сытуацыях.

Але здаралася… Здаралася…

Неяк пісаў гістарычную аповесьць.

Праўдзівей, не пісаў, а сядзеў, як конь над пустым цэбрам. І раптам — тая неспадзяванка.

Адмахаў старонак дваццаць, не заўважыўшы,

што вечар даўно скончыўся, і ад ночы таксама нічога не засталося.

Але ўразіла ня гэта: зірнуў у вакно, а там ідзе па вуліцы дзяўчына, і на ёй заместа ядвабнай сукні з гарсажам і чаравікаў-цаколі нейкія блакітныя абцёрханыя нагавіцы.

Так і з глузду зьехаць нядоўга.

Я вам апавядаю вельмі інтымныя рэчы. Але, калі ўзяўся, скажу і пра самую нядаўнюю неспадзяванку.

Ім, гэтым неспадзяванкам, між іншым, зазвычай папярэднічаюць дні, калі галава абсалютна пустая, а думкі сьпяць, як кацяняты на печы. Хіба, можа, адна тузанецца наконт таго, ці не схадзіць у краму па што-небудзь чырвоненькае.

Карацей, ганяў цэлы дзень паражняка, потым хуценька паспаў, а калі прачнуўся — з начнога смарагдавага багавіньня срэбнай рыбінкаю вылузаўся першы радок.

А на дне талеркі з аўсянкаю ўжо чакаў верш. Зусім не легкадумны.

**1864**

*Вользе Някляевай*

*я паміраў*
*а ты*
*сьпявала песьні*
*трымаючы нямоглую руку*

*канала наша воля*
*напрадвесьні*
*у мураўёўскім тым сакавіку*

*міне стагодзьдзе*
*рэінкарнаваны*
*прачнуся зноўку*
*сьвечка у райку*

*тваім успыхне*
*прыкладзеш да раны*
*мне вусны*
*на гаючым скразьняку*

*о déjà vu*
*у сьвеце нашым цесным!*
*о тайніцы*
*ў фіранках ветрам гнаных!*

*мой інсургент пяшчотны —*
*уваскрэсьні!*

*я паміраў*
*а ты*
*сьпявала песьні*

## Пакуль што

*Што вас найбольш натхняе?*
*Андрэй, малады літаратар*

Пакуль што — жаночая прыгажосьць і жаночая сьмеласьць.

І нясьмеласьць — таксама.

# Гліняны Вялес і Задніца Эўропы

*Кажуць, кабінэт пісьменьніка — ягоная «сьвятыня сьвятыняў». Чуў, што некаторыя з нашых творцаў ставяць у дзьверы кабінэтаў замкі ды ідуць туды, быццам на працу, зьяўляючыся толькі на абед і вячэру. А ці можна хоць адным вокам зазірнуць у тыя сьцены, якія пісьменьнік Арлоў, памятаецца, неяк назваў «сваёй вальерай»?*

*Адам Францішак*

Наконт таго, як і куды пісьменьнікі ходзяць на працу, згадваецца адна рэальная гісторыя — ці то цалкам праўдзівая, ці то ўжо крыху адрэдагаваная кімсьці з старэйшых калегаў.

Гадоў трыццаць таму ў Менск прыехала дэлегацыя паўночнакарэйскіх служак прыгожага пісьменства. Падчас знаёмства з Домам літаратара адзін з гасьцей зацікавіўся, дзе нашыя творцы пішуць нятленку. Хто дзе, адказалі карэйцам. Тыя былі да пярэпалаху ўражаныя гэткім разгулам дэмакратыі і расказалі, што яны прыходзяць у свой пхеньянскі Дом ураньні, сядаюць за выдзелены кожнаму пэрсанальна стол і мусяць пісаць цэлы працоўны дзень з гадзінным перапынкам на абед і пяціхвілінным — на паходы ў прыбіральню.

Хто ведае, можа — каб не завялася крамола, — калі-небудзь да такога дойдуць і ў чаргінцоўскім саюзе. У тым жа, да якога маю гонар належаць я,

з гледзішча апанэнтаў, пануе поўны разброд. Нехта падступнымі пісаньнямі падточвае «ўстоі», а нехта наагул зьбіраецца стаць прэзыдэнтам, а таму яго з хатніх кабінэтных умоваў забіраюць у турэмныя, а вярнуўшы дадому, прыстаўляюць двух спэцыяльна абвучаных аматараў літаратуры з вайсковымі званьнямі.

Але вярнуся да роднае вальеры.

Першы кабінэт зьявіўся ў мяне ў сорак пяць гадоў. Датуль «кабінэтамі» служылі сьпярша 11-мэтровая (на нас з жонкаю і двух сыноў) маласямейка; потым — пакой у рэдакцыі навапалацкай гарадзкой газэты, дзе, на шчасьце, можна было заставацца да раніцы; пазьней — кухня ў аднапакаёўцы, а пасьля Дзядоў 1988 году, калі давялося хавацца ад міліцыі, — майстэрні сяброў-мастакоў.

І вось нарэшце — уласная вальера, па якой паспрабую правесьці кароткую экскурсію.

Замка ў дзьвярах няма, але ведаю пару калегаў (сярод іх адзін наш выбітны паэт), якія замкі сапраўды паставілі і, каб ня ўпудзіць музу, забараняюць пераступаць парог нават сямейнікам.

А мы заходзім.

Зьлева ад дзьвярэй уладкаваліся кампутар з друкаркаю. Зь сьцяны над імі на мяне — то як быццам даволі прыхільна, то надзвычай сувора — глядзіць сьвятая Еўфрасіньня, падарунак нашага выдатнага графіка Арлена Кашкурэвіча.

Справа — вэлятрэнажор, на якім пасьля апэрацыі на сэрцы я пры першай жа магчымасьці натхнёна накручваю за 25 хвілінаў дзесяць км.

Далей цягнуцца паабапал кніжныя паліцы. Некалькі — з слоўнікамі, пяць — з энцыкляпэды-

ямі, паліца з тамамі Літоўскай Мэтрыкі, «залатая паліца» з кнігамі, якія маеш неадольную патрэбу перачытваць ці, прынамсі, перагортваць...

Кніжак робіцца ўсё больш і больш, але цясьнейшым з гэтае прычыны кабінэт ня стаў. Можа, якраз наадварот.

Далёка ўверсе, над шыхтамі рознакалібэрных выданьняў, можна ўбачыць невялікі жаночы торс, высечаны скульптарам Алесем Шатэрнікам зь белага мармуру. Перад намі важкі чытацкі водгук на маё эсэ «Задніца Эўропы». Тым самым спакусьлівым месцам кабінэтная Эўропа і сустракае наведнікаў. Гліняны Вялес, напамін пра аднайменную прэмію Таварыства вольных літаратараў, цалкам задаволены такім суседзтвам.

На даляглядзе ўжо зьявіўся пісьмовы стол, працягам якога служыць шырокае падвоканьне. Уся гэтая прастора на першы (дый на другі) погляд бязладна закіданая, закладзеная й зацярушаная тэчкамі, кніжкамі, скрамзоленымі паперамі й паперкамі, сярод якіх трапляюцца дыскі, флэшкі, візытоўкі, etc. Зрэдку гаспадару здаецца, што калінебудзь ён зможа давесьці гэты вэрхал да ладу.

Леваруч стала, за дзьверцамі кніжнае шафы, — фатаграфіі бацькоў, а таксама незабыўнай бабулі Аўгіньні і дзеда Максіма, расстралянага ў 1933-м у магілеўскіх кар’ерах.

Праваруч — здымкі сыноў і бастыён кніжак іхняга бацькі. Каб той не зафанабэрыўся, побач, як вы ўжо ведаеце, стаіць Багдановічаў «Вянок», ягоны адзін-аднюткі прыжыцьцёвы зборнік.

Пара палічак з рознымі дарагімі драбніцамі.

Старажытная куля часоў Сьцяпана Батуры,

знойдзеная паблізу Сафійкі ў Палаце. Падараваная чытачом высокая чарчына з тоўстага і ўзорыстага жаўтлявага шкла. Паводле словаў былога ўладальніка, зь яе пацягваў акавіту ягоны прадзед — удзельнік паўстаньня 1863 году...

З апошніх набыткаў — прэзэнтаваныя рэстаўратарамі воўчынскага Траецкага касьцёлу медны цьвік і гэткая самая стружка-сьпіралька. Атрымалася вельмі эратычная кампазыцыя, якая разам з тым папярэджвае, што жанчынам нельга верыць безаглядна. Калісьці без народжанага ў Воўчыне Станіслава Аўгуста Панятоўскага расейская імпэратрыца Кацярына не магла дажыць да вечара. А пасьля пазбавіла і дзяржавы, і свабоды.

На палічках, а таксама ў шуфлядах стала — маёй пісьменьніцкай цытадэлі — сустракаюцца і таямніцы, пра якія не скажу.

Над усім гэтым багацьцем лунае бел-чырвона-белы сьцяжок, куплены ў сувэнірным шапіку нью-ёрскага будынку ААН.

Далей — вакно. Калісьці за ім расла старая разгалістая ліпа, дзякуючы якой у пакоі нават у самы летні сквар жыў прыемны халадок. Ліпы на нашай вуліцы сьпілавалі і замест іх пасадзілі маленькія клёны. Каб убачыць «мой» клёнік, пакуль што трэба станавіцца на падвоканьне. Але я жыву зь верую, што дачакаюся часу, калі дрэўца пасталее, дацягнецца да вакна і зробіцца маім суразмоўцам.

А цераз дарогу, на будынку Нацыянальнага гістарычнага музэю, тады будзе напісана зусім ня «вуліца К. Маркса».

# Загінуць пад слоўнікамі

*Вы пісалі, што ведаеце мову лепш за пісьменьнікаў, якія нарадзіліся ў вёсцы. Верыцца зь цяжкасьцю. Мабыць, часта карыстаецеся слоўнікамі. Цікава, якімі? Можа, ёсьць нейкія недаступныя простым сьмяротным рэдкасьці? А ўвогуле, якое месца займаюць слоўнікі ў кабінэце пісьменьніка і ў ягоным жыцьці?*

*Ваш чытач Мікола Ш.*

Ды ў вас цэлы букет пытаньняў! Давайце па парадку.

У маёй «вальеры» слоўнікі займаюць ганаровае месца і не пакрываюцца пылам, бо гэта — штодзённая чытанка. І — адна з улюбёных.

Удакладняю: слоўнікі гаспадараць на чатырох паліцах. Калі яны абрынуцца, пад імі можна загінуць. Для пісьменьніка сьмерць ня з горшых.

Вось шэсьць тамоў Тлумачальнага. Ад нараджэньня былі цёмна-зялёныя, але так зачыталіся, што мусіў пераапрануць іх у новыя аклады.

Цэлую паліцу захапіў, ашчаціні́ўшыся — нібы дзідамі — закладкамі, Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Калі наважваесься нешта пісаць пад крылом у Кліё, безь яго не абыдзесься. Бывала, мяне папракалі ў архаізацыі лексыкі, а бывала, наадварот, — у мадэрнізацыі мовы герояў гістарычных твораў. Калі ласка, разгарніце першы том. Прыклады з дакумэнтаў XVII стагодзьдзя: аўтэнтык, адміністрацыя, акцыя, аўтар, афэктацыя… Эўропа!

Два зграбныя кармінавыя томікі слоўніка Вацлава Ластоўскага — памятка пра заняткі самвыдатам.

Слоўнікі сынонімаў, іншаземных словаў, фразэалягічныя, нашай безэквівалентнай лексыкі (рэкамэндую тым, хто яшчэ сумняваецца ў багацьці мовы Купалы і Быкава)…

Дзясяткі закладак вытыркаюцца і з кнігі Паўла Сьцяцка «Культура мовы», якую цаню болей за некаторыя лексыконы і раю мець кожнаму, хто прафэсійна карыстаецца беларускім словам. Тое самае скажу пра «Расейска-беларускі слоўнік» С. Некрашэвіча і М. Байкова, што першы раз выйшаў у Менску ў 1928 годзе. Меркавалася яго перавыданьне ў 1995-м, ды адразу пасьля рэфэрэндуму тую выдавецкую пазыцыю скарацілі. Беларусафоб, які за гэтым стаяў, ведаў, што робіць.

Сёньня том Некрашэвіча й Байкова нарэшце перавыдадзены часопісам «ARCHE».

У нашых беларускіх шыротах нячаста сустракаецца таксама «Українська мова без табу» Лесі Ставіцкай. Да свайго такога слоўніка пакуль не дажылі, але — паколькі адсоткаў восемдзесят лексыкі ў нас агульныя — зазірнуць карысна і ў суседзкі.

Ёсьць і яшчэ адзін даволі рэдкі слоўнік — А. Флегон. «За пределами русских словарей. (Дополнительные слова и значения с цитатами Ленина, Хрущева, Сталина, Баркова, Пушкина, Лермонтова, Есенина, Маяковского, Солженицына, Вознесенского и др.)», London, 1973.

Я называю гэтае выданьне шпіёнскім. Не таму, што сам — шпіён (ня быў, хоць у дзяцінстве і марыў), а з той прычыны, што трапіў слоўнік да мяне

надзвычай пакручастым шляхам і ў папярэднім сваім жыцьці яўна належаў сапраўднаму шпегу.

Цяпер пра пісьменьнікаў зь вёскі. Здаецца, я ня быў дурнавата-катэгарычны і ўжыў слова «некаторыя». Ну хто насьмеліцца сьцьвярджаць, што валодае моваю лепей за «вяскоўца» Барадуліна? Або, да прыкладу, за Барыса Пятровіча ці Андрэя Федарэнку.

Ды праблема існуе. Ведаю пару-тройку народжаных у сялянскіх хатах калегаў, якія з гэтае нагоды перакананыя, што ўсмакталі мову з матчыным малаком і могуць звысоку пазіраць на «дзяцей асфальту». У нас у навакольлі, маўляў, казалі так — і кропка. Такі сабе комплекс паўнавартаснасьці.

Мова — гэта філязофія. Але ж філязофія народу, а ня толькі роднае вёскі.

Нехта зазначыў (ці, можа, я сам прыдумаў?), што любой мовай можна авалодаць за некалькі месяцаў, адно родную трэба вучыць усё жыцьцё. А Людвіг Вітгенштайн пісаў, што «межы маёй мовы азначаюць межы майго сьвету».

Мне хочацца параўнаць мову з музычным інструмэнтам (чамусьці найперш зь віялянчэляй), які трэба даглядаць, а таксама зноў і зноў настройваць, каб не фальшывіў.

Наастачу прыгадаю словы Альбэра Камю: «Што б ні здарылася, я ведаю, што ў мяне ёсьць Айчына — француская мова».

А ў мяне — беларуская.

# Тут — дахоўка і брук, там — бэтонны паркан

*Чаму вы ўпарта кажаце і пішаце ня Мінск,*
*а Менск? Гэта, па-першае, ненатуральна,*
*а па-другое, напэўна, ня так ужо і прынцыпова.*
*Пагадзіцеся, што жывем мы з вамі і яшчэ*
*з двума мільёнамі беларусаў усё ж у Мінску.*
*Навошта трымацца за архаічную форму?*
*Тацяна Лявонцьеўна Палякова*

У маёй хатняй бібліятэцы набярэцца дзясяткі тры кніг, дзе на тытуле пазначана, што яны выпушчаныя ў сьвет у Менску. Адразу падкрэслю: гаворка ідзе не пра канец XX — пачатак XXI стагодзьдзя (такіх выданьняў у мяне сотні), а пра 1920—1930-я гады. Пагадзіцеся, часы ня самыя архаічныя. Відаць, для кагосьці сказанае будзе адкрыцьцём, між тым горад тады афіцыйна менаваўся якраз Менскам. Гэты назоў можна прачытаць на тагачасных дакумэнтах і фатаздымках, убачыць у кінахроніцы, сустрэць у музэйных аўтографах нашых літаратурных клясыкаў.

Уявіце сабе, што сотні тысяч людзей жылі ў Менску амаль да сярэдзіны мінулага стагодзьдзя (бо ў пэрыяд нямецкай акупацыі назоў вярнуўся) і нічога ненатуральнага тут ня бачылі.

Чаму? Ды таму, што з сваіх дзевяцi з паловаю вякоў летапіснай гісторыі сем з гакам нашая цяперашняя сталіца называлася менавіта Менскам.

Калі на нейкай імпрэзе з нагоды «дня гораду» ў 2007-м з вуснаў старшыні гарвыканкаму гучала, што «940 лет назад был основан наш красавец Минск», мяне душыў рогат, бо тады горад быў не заснаваны, а спалены ды разбураны (з гэтым і зьвязаная першая згадка ў летапісе). Але, апрача таго, я памятаў, што войскі кіеўскага князя Ізяслава Яраслáвіча з хаўрусьнікамі ўчынілі тое якраз зь Менскам. У «Аповесьці мінулых гадоў» чорным па белым напісана, што яны, «совокупивши вои... придоша ко Менску».

Магдэбурскае права на самакіраваньне ў 1499-м атрымліваў таксама Менск.

І праз гадоў дзьвесьце, калі Сімяон Полацкі адчыняў другую ўва ўсёй Масковіі друкарню (у нашай дзяржаве, дарэчы, на той час аналягічных прадпрыемстваў было 134), суседзі выдатна ведалі, што Менск — гэта Менск. Сядзелі сабе пісцы па сваіх маскоўскіх прыказах і, быццам нанятыя Зянонам Пазьняком з кампаніяй, страчылі: Менск, Менск, Менск... Калі ня верыце, пагартайце выдадзены ў 1972 годзе зборнік пра даўнейшую інтэграцыю — «Русско-белорусские связи во второй половине XVII века».

Аднак пры канцы таго самага XVII стагодзьдзя, калі беларуская мова страціла ў Вялікім Княстве Літоўскім функцыі дзяржаўнай, і ў гэтай якасьці яе замяніла польская, назоў Менск перарабілі на польскі капыл — Мінск. Паколькі ў Рэчы Паспалітай, куды ўваходзіла Княства, адзін Мінск ужо быў (Міньск-Мазавецкі), наш пачалі менаваць Мінскам-Літоўскім. Польскі назоў захавалі пасьля падзелаў дзяржавы і расейскія калянізатары.

Калі нехта не дае мне веры, што «Мінск» — гэта па-польску, раю знайсьці ў часопісе «Slavia Orientalis» артыкул на гэтую тэму польскай славісткі з эўрапейскім імем Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай.

Ствральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі назоў аднавілі. «Айцы» БССР узялі зь іх прыклад і тут супроць свайго, роднага не пайшлі. Так доўжылася да сьнежня 1939 году, калі даўгія рукі бальшавікоў дацягнуліся й да «Менску». Небясьпечнае сваёй сувязьзю з фэадальнай мінуўшчынай і недабітай нацдэмаўшчынай «е» замянілі на надзейнае «і». Праўда, кнігі з ранейшым назовам «Менск» на тытуле працягвалі выходзіць і ў 1940-м...

Можа, нехта камфортна пачуваецца ў Мінску. А вось мне ўтульней у Менску. І ня толькі мне. Да прыкладу, Лявону Вольскаму. Ён і песьню пра гэта напісаў.

*А па Менску прыемна шпацыраваць.*
*Дробных крамак вітрыны ўтульна гараць,*
*Там гатычныя вежы касьцёлаў старых,*
*Там дахоўка і брук, там двары і муры...*

*А ў тым Мінску прапіска і гарвыканкам,*
*І лядовы палац, і бэтонны паркан...*

Дарэчы, пра гарвыканкам.

Відаць, мала хто памятае, што прапановы вярнуць сталіцы спрадвечны назоў гучалі на досьвітку незалежнасьці на сэсіях Менскага гарсавету. Гарадзкая газэта тых багаславёных гадоў «Добры вечар» выходзіла, калі ня здраджвае памяць, менавіта ў Менску.

Мы жывем у іншыя часы, аднак... Шмат якія мае кніжкі ў Мінску друкаваць не хацелі, а ў Менску яны выйшлі. А ўчора прыйшла пошта, і на трох капэртах у адрасе — Менск. Ну, дапусьцім, у адсталым Лос-Анджэлесе пра пастанову 1939 году маглі проста ня ведаць. А ў Расонах і вёсцы Багданаўцы Лунінецкага раёну?..

А там, пэўна, ужо забыліся.

І заўважу, што ў аддзяленьні сувязі «памылку» даўно не выпраўляюць, як рабіла некалі легендарная ўжо паштарка Надзя зь Серабранкі, што ня ўмела прачытаць «ў» і называла мяне Арлой.

Хтосьці за бэтонным парканам, можа, і пасьмяецца, ды я па-ранейшаму застаюся жыць у Менску.

# Раскажыце мне свой анэкдот

*Ці любіце вы анэкдоты, альбо, па-беларуску, показкі? Можа, раскажыце нешта з сваіх улюбёных?*
*Сяржук*

Ёсьць такое выслоўе: раскажы мне анэкдот, і я скажу, хто ты…

Мне найбольш даспадобы анэкдоты ў першапачатковым сэнсе гэтага слова. Маю на ўвазе кароткае дасьціпнае апавяданьне пра незвычайны, адметны выпадак з жыцьця вядомай гістарычнай асобы.

Такі анэкдот, у аснове якога часта ляжыць канкрэтная падзея, можа сказаць пра свой час ня менш за цэлую манаграфію.

Вось вам красамоўны прыклад. Як вядома, вайна 1812 году для Беларусі, адрозна ад Расеі, не была Айчыннай. Патрыёты Вялікага Княства Літоўскага зьвязвалі з Напалеонам надзеі на аднаўленьне дзяржавы. У войсках францускага імпэратара служыла болей за дваццаць тысяч нашых суайчыньнікаў. Французаў з энтузіязмам сустракалі ня толькі шляхцічы, але і сяляне, што спадзяваліся вызваліцца ад прыгону.

Але Банапарт вёў сваю гульню. Пачаліся бясконцыя рэквізыцыі ды рабункі… Шляхцічы былі глыбока расчараваныя. Сяляне браліся за косы і сякеры.

Аднаго разу, сустрэўшы на дарозе бабулю-

сялянку, Напалеон саскочыў з каня і запытаўся, каму яна зычыць перамогі: французам ці расейцам. Старая мудрая беларуска адказала: «Ганіце, хлопча, маскалёў так далёка, каб не вярнуліся ні яны, ні вы».

Калісьці, расказваючы мне гэты анэкдот, славуты ангельскі беларусіст Гай Пікарда бажыўся, што згаданая размова сапраўды адбылася дзесьці пад Бешанковічамі.

А зараз показка на тэму спрадвечнай расейскай нецалерантнасьці, а дакладней, ксэнафобіі.

Пачалася расейска-японская вайна. Фэльдфэбэль зьбірае салдатаў і выступае перад імі з прамовай: «Ну, братцы, дождались! Государь объявил войну японцу. Значит, пойдем бить жидов и поляков!»

Яшчэ адну показку я пачуў ад знаёмай дзяўчыны з Ваўкавыску. Справа адбывалася ўвосень 1939 году пасьля гэтак званага «вызваленчага паходу» Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь. Дзядуля маёй знаёмай, мясцовы інтэлігент, сустрэў на вуліцы прысланага саветамі начальніка-камуніста. Паводле мясцовага звычаю, беларус прыўзьняў капялюш і пакланіўся. Расеец зьдзіўлена кажа: «Привет!» Цяпер зьдзівіўся дзядуля: «Ад каго?» Начальніку пытаньне не спадабалася, і неўзабаве па дзядулю прыехаў «чорны воран».

Героямі анэкдотаў часта рабіліся і мае калегі-пісьменьнікі.

Неяк да Якуба Коласа паслалі па інтэрвію маладога газэтчыка. Народны паэт якраз калоў дровы каля дому. «Над чым цяпер працуеце, Канстанцін Міхайлавіч?» — сьмела пацікавіўся візытант. «Дровы калю», — адказаў мэтар.

А расейскі пісьменьнік Аляксандар Купрын аднаго разу добра прыклаўся да пляшкі і паслаў з рэстарацыі «Славянскі базар» тэлеграму імпэратару Мікалаю II: «Долой самодержавие! А. Куприн». Празь нейкі час афіцыянт прынёс тэлеграфны адказ: «Выпил — закуси. Николай II».

У вольны час Купрын ня толькі рассылаў тэлеграмы аўгусьцейшым асобам, але і даваў каштоўныя парады малодшым калегам. Вядомы сатырык і гумарыст Аркадзь Аверчанка аднойчы пахваліўся, што царская сям'я запрашала яго пачытаць новыя творы, а ён адмовіўся — «сказался больным». «Это хорошо, батенька, что отказался, — заўважыў Купрын. — Однако надобно себя так поставить, чтоб и не звали».

Нешта я ня чуў, каб галоўнакамандуючы запрашаў да сябе нашых пісьменьнікаў чытаць новыя творы. І, тым ня менш, гэтая показка гучыць сёньня ў беларускіх шыротах даволі актуальна.

# Закуска да чаркі гарбаты

*Кажуць, што аўтары толькі пішуць кнігі, а робяць іх — рэдактары. А якія рэдактары сустракаліся на вашым шляху?*

*Адразу тры студэнты*
*Беларускага калегіюму*

Пры слове «рэдактар» сэрца літаратара альбо замірае, альбо пачынае біцца хутчэй…

Мне пашанцавала з рэдактарам дэбютных апавяданьняў. Ім стаў надзвычай сьветлы і сумленны чалавек і пісьменьнік Уладзімер Максімавіч Дамашэвіч, які працаваў у часопісе «Маладосць». Адрозна ад некаторых калегаў, ён ніколі ня браў на сябе цэнзарскіх функцыяў. Працавалася зь ім заўсёды лёгка. Адно што Максімавіч, як мы яго зь любоўю называлі, страшэнна не любіў выразу «так бы мовіць», што патрапіў у маю мову дзякуючы захапленьню іншым Ўладзімерам — Караткевічам. Гэтыя тры словы мой першы рэдактар, можна сказаць, выпальваў калёным жалезам. Дарэчы, Дамашэвіч, якому ўжо восем з паловаю дзясяткаў, і цяпер часам бярэцца рэдагаваць цэлыя раманы.

У часы маіх яшчэ няўпэўненых крокаў на пакручастай літарацкай сьцежцы існавала практыка так званага грамадзкага рэдагаваньня. Да яе зьвярталіся ў выпадках, калі выхад кнігі апынаўся пад пытаньнем з ідэалягічных ці іншых падобных прычынаў. Такім рэдактарам мусіла быць асоба зь вялікай

вагою ў літаратурным сьвеце. Часам ёй сапраўды ўдавалася выканаць ролю выратавальніка.

Першую кнігу Ларысы Геніюш, выдадзеную ў савецкай Беларусі, — «Невадам зь Нёману» — на грамадзкіх пачатках адрэдагаваў Караткевіч. Аўтарка падпісала мне зборнік у Зэльве незадоўга да сыходу ў нябесную Беларусь. А пасьля таго, як я выступіў на пахаваньні Ларысы Антонаўны, спынілі і без таго павольны рух маёй першай кніжкі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Дапамагчы ўзяўся аўтар геніяльнага «Смаленьня вепрука» Міхась Стральцоў. Сваю працу ён таксама зрабіў выдатна: я нават не заўважыў ніякіх уварваньняў у тэкст.

Потым, аднак, рукапіс трапіў да пільнай выдавецкай дамы. Пра дзейнасьць Галіны Барысаўны і, у прыватнасьці, пра тое, як, едучы з Полацку на сустрэчу зь ёю, я купіў стрэльбу (праўда, падводную), я калі-небудзь напішу вясёлы і амаль дэтэктыўны твор. А тады было нявесела.

Але рэдактарка зрабіла і адну добрую справу. Героі будучай кнігі не належалі да абстынэнтаў і раз-пораз выпівалі. Прычым разьлівалі пляшкі па келіхах і кілішках акурат у той пэрыяд, калі партыя і ўрад змагаліся з п’янствам. Галіна Барысаўна зьдзейсьніла нешта кшталту дзіва ў Кане Галілейскай наадварот. Яна бязьлітасна працьвеаразіла пэрсанажаў: усе моцныя трункі ператварыліся ў сухое віно, а само сухое віно — у «гарбату на зёлках». Ды на радасьць аўтару і чытачам, хапянуўшы тых сухача ці гарбаты, героі чамусьці зазвычай браліся закусваць…

Адзін з наступных рэдактараў — ужо ў новыя,

незалежніцкія і дэмакратычныя часы — вызначыўся тым, што ў вялікім рукапісе паправіў два словы: на другой і перадапошняй старонках.

Сустракаўся я і з прадстаўнікамі гэтай прафэсіі, якія тэкстаў проста не чыталі, што, шчыра кажучы, часта ішло кнізе толькі на карысьць. Хоць, трэба прызнаць, такі падыход тоіць у сабе і пэўную небясьпеку. Да прыкладу, аднаго разу ў «Мастацкай літаратуры» некалькі выдавецкіх этапаў пасьпяхова прайшоў рукапіс вершаў шаноўнага Васіля Васілевіча Зуёнка, у прозьвішчы якога замест літары «З» упарта трымалася набраная нейкім шкоднікам і дывэрсантам літара «Х».

Ведаю гэтую жудасную гісторыю, бо ў тыя часы сам зарабляў на хлеб і «гарбату на зёлках» рэдактарскай працаю ў «Мастацкай». Адзін аўтар са мною два гады не вітаўся. Іван Пятровіч Шамякін доўга крывеліўся. Нехта з адрэдагаваных званіў і раіў позна не вяртацца дадому.

А вось пра кожнага з сваіх рэдактараў (пагатоў, многія зь іх і выдатныя творцы) я мог бы гаварыць гадзінамі і заўсёды з удзячнасьцю.

Пра Леаніда Васілевіча Дранько-Майсюка. Пра Сяргея Іванавіча Дубаўца. Пра Алеся Пятровіча Рыбака. Пра Эрнэста Нічыпаравіча Гнеўку, якому выпала рэдагаваць сотні старонак «Таямніцаў полацкай гісторыі», нашпігаваных імёнамі, датамі ды рознымі сумнеўнымі высновамі…

Пра Кацярыну Пятроўну Гарэлік, зь якой працаваў над «Імёнамі Свабоды». Пра Аляўціну Сямёнаўну Вячорку і Тацяну Лявонцеўну Шумейку. Пра Іну Паланейчык, якая разам з аўтарам нейкім дзівам давяла да чытачоў «Ордэн Белай Мышы».

А яшчэ страшэнна хочацца напісаць кнігі, якія б зноў пагадзіліся рэдагаваць Аляксандра Макавік, Валянцін Акудовіч і Зьміцер Санько. Яны — і будучыя кнігі, і рэдактары — напаўняюць мае сны неверагоднымі сюжэтамі й спадзяваньнямі.

Скажыце, чаму ў нас столькі помнікаў пісьменьнікам і ніводнага — рэдактару?

Адліты з мосенжу рэдактар уяўляецца мне летуценным чалавекам зь сякераю, а застылая ў каляровым мэтале рэдактарка — мілай акулярыстай дзяўчынаю з зграбным кухонным нажом (вусьцішны варыянт — зь сярпом), якім яна пяшчотна рэзала аўтара ня толькі па тэксьце, як ёй здавалася, але і па значна больш адчувальных частках ягонага фізычнага й мэтафізычнага цела.

Дарагія рэдактары, сэрца захлынаецца ад любові да вас! Вам пакуль што не ўдалося зарэзаць ніводнай кніжкі Ўладзімера Арлова.

## Цэнзура адрэзала органы

*Хацелася б пачуць, як складваліся вашыя стасункі з цэнзурай у мінулым, і як выглядае справа цяпер. Напэўна, даводзіцца неяк абыходзіць «падводныя камяні», ісьці на хітрыкі, etc.*

*Раман*

Калі казаць пра падзеі прамінулага стагодзьдзя, дык я пазнаёміўся з цэнзурай гадоў у пяць.

Да майго таты, полацкага пракурора, прыехаў правяральшчык з вобласьці. Падчас вечаровай пачосткі ў нас дома мяне выпусьцілі з культурнай праграмаю — пачытаць госьцю вывучаныя ў дзіцячым садку вершыкі. Стаўшы пад фікусам, я прадэклямаваў:

*Сала, мяса і пшаніцу —*
*Ўсё аддалі за граніцу,*
*А гнілую кукурузу —*
*Для Савецкага Саюзу!*

Мама разгублена прамовіла: «Сынок, я ж прасіла пра коціка і лісічку...» Правяральшчык зарагатаў, і тата застаўся пракурорам.

Стасункі з цэнзурай ужо ў якасьці літаратара пачаліся на пачатку 1980-х.

Тады няпроста было разабрацца, дзе па тваім тэксьце пахадзіла рука цэнзара з адпаведнай установы, а дзе — звышпільнага рэдактара, які кіраваўся вядомым прынцыпам, здаецца, некага

з герояў Салтыкова-Шчадрына: «Лучше перебдеть, чем недобдеть».

Адно зь першых маіх апавяданьняў называлася «Маналёг сьвятога Пётры». На старонках газэты «Літаратура і мастацтва» яно ператварылася ў «Маўклівы маналёг». Мне патлумачылі, што ніякіх сьвятых не павінна быць ні ўвогуле, ні, пагатоў, у літаратурных творах.

Як неўзабаве высьветлілася, у творах не павінна было быць і міліцыянтаў. Прынамсі такіх, як у маёй дэбютнай аповесьці «І вярталіся мы», дзе міліцыя на гарадзкой вуліцы пакавала ў «варанок» маладых калядоўшчыкаў-«нацыяналістаў». Трэба аддаць належнае супрацоўнікам часопісу «Маладосць»: саму гэтую сцэну яны абаранілі, трансфармаваўшы міліцыянтаў у дружыньнікаў.

Я мог суцешыцца хіба тым, што ў эстонскім перакладзе аповесьці, зробленым сьветлай памяці Олевам Йыгі для знакамітага тады на інтэлектуальных абшарах СССР часопісу «Vikerkaar» («Радуга»), дзейнічалі ўсё ж не дружыньнікі, а доблесныя беларускія міліцыянты. У Эстоніі цэнзарскія нажніцы былі значна лагаднейшыя. Маленькі раман майго ўлюбёнага Яана Кроса называўся «Чатыры маналёгі з нагоды сьвятога Георгія», а не якія-небудзь «Чатыры маўклівыя маналёгі».

Цяперашняя ўлада сьцьвярджае, што ў Беларусі цэнзуры не існуе.

Праілюструю гэта на прыкладзе сваёй кніжкі прозы «Ордэн Белай Мышы», што некалі выйшла ў сьвет — як ні дзіўна — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Кажу «як ні дзіўна», бо ў 1997-м у часе аздараўленьня выдавецкіх шэрагаў, даверанага

тагачаснаму старшыню Дзяржаўнага камітэту друку палкоўніку Замяталіну, мяне «зачысьцілі» зь дзівоснай фармулёўкаю: «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы». Дарэчы, вельмі эфэктыўнае вырашэньне цэлага комплексу праблемаў, у тым ліку і цэнзурных.

Напэўна, недабітыя ў колішнім родным выдавецтве нездаровыя сілы ў 2003-м вырашылі зрабіць мне той кніжкаю такі сабе падарунак-кампэнсацыю да пяцідзесяцігодзьдзя. Але рэдактарка адразу паведаміла, што ў Міністэрстве інфармацыі ў будучай кнігі ўжо ёсьць куратар. Неўзабаве гэтая засакрэчаная асоба падала праз рэдактарку свой голас.

У апавяданьні, што дало кніжцы назоў, быў эпізод, дзе кароль і ягоны госьць-пісьменьнік падчас вячэры ядуць барановую смажанку з чарнасьлівам. Манарх тлумачыць, што яны цешаць страўнікі традыцыйнаю пачосткай іхняй дынастыі. Яна, маўляў, упершыню зьявілася ў XVI стагодзьдзі пасьля разгрому войскам яго далёкага продка «арды нашага заклятага суседа і сябра вялікага князя Івана».

Міністэрскаму куратару не спадабалася імя вялікага князя, якое магло прычыніць шкоду сучасным інтэграцыйным працэсам. Тады я, ужо ня верачы ў выхад кнігі, з дулінай у кішэні прапанаваў заклятага сябра Івана замяніць на Вавана. Магчыма, вы здагадаліся, хто меўся на ўвазе. Куратар, тым ня менш, застаўся задаволены. Падобным чынам разьвязаліся й іншыя вузельчыкі, якія шкодзілі інтэграцыі. У майго апекуна відавочна было пачуцьцё гумару, і, па гамбурскім рахунку, ён быў за нас.

Нарэшце кніга зьявілася. Раней, чым да мяне, яна трапіла ў рукі мастака Аляксея Марачкіна, малюнкі

якога аздаблялі выданьне. У тэлефоннай размове Аляксей рагатаў і лаяўся. У вусатага пэрсанажа на першым шмуцтытуле вусікі ў некалькі разоў вырасьлі і закруціліся накшталт дон-кіхотаўскіх. Яшчэ на адным малюнку ў фантасмагарычнай істоты з мужчынскімі полавымі прыкметамі гэтыя самыя прыкметы былі роўна напалову абрэзаныя...

Потым высьветлілася, што перад самым падпісаньнем кнігі ў друк у мастацкую рэдакцыю ўварваўся чалавек зь міністэрства. «Нам і так за Арлова яйцы адкруцяць! — крычаў ён. — А тут яшчэ Марачкін мужыка зь яйцамі намаляваў! І гэтага вусатага ў дадатак!» Самае цікавае, што ў афармленьні мы выкарысталі малюнкі, зробленыя гадоў дваццаць пяць таму. Насамрэч прататыпам чалавека з вусамі быў старшына, які даўся Марачкіну ў знакі, калі той служыў у войску.

Потым было маё маленькае інтэрвію газэце «Известия», якое абсалютна блізка да рэальнасьці называлася «Цэнзура адрэзала органы». У выніку дырэктар «Мастацкай літаратуры» Мачульскі паабяцаў, што ня будзе мяне друкаваць дзесяць гадоў. Дзевяць прайшло. Можа, дырэктар нешта ведае...

Паколькі ўжо даўно друкуюся ў выдавецтвах недзяржаўных, цяпер мяне больш займае праблема самацэнзуры. Пару гадоў назад музыка Зьміцер Вайцюшкевіч даў мне сяброўскую параду не карыстацца ненарматыўнай лексыкай. І паабяцаў, што, калі я выпраўлюся, абавязкова напіша на мой верш песьню. Я выправіўся, і ён сапраўды паклаў верш «Пасьля тваіх званкоў» на музыку.

Як бачыце, цэнзура таксама бывае карысная.

## «Чемпионат СССР по академической (гр)ебле»

*Спадар Уладзімер, вашыя творы шмат разоў перакладалі на іншыя мовы. Ці шанцавала на перакладчыкаў? Ці здараліся ў супрацы зь імі сумныя «праколы» ці, выбачайце за калямбур, вясёлыя «прыколы»?*

*Ганна, маладая перакладчыца*

Перакладчык — гэта самы дарагі, самы адданы твой чытач.

Хіба ня дзіва, калі яшчэ, па сутнасьці, юны аўтар дастае з паштовай скрынкі ліст зь весткаю, што вядомы майстар перакладу зацікавіўся ягонай дэбютнай аповесьцю? Так прычынілася са мною пасьля выхаду кніжкі прозы «Добры дзень, мая Шыпшына!».

Аўтарам ліста быў стары мудры маэстра з эстонскай выспы Саарэмаа Олеў Йыгі. Дзякуючы яму першай іншаю мовай, на якой загучала напісанае мной па-беларуску, сталася эстонская, а не расейская, як зазвычай здаралася тады. Гэта быў вялікі і, напэўна, яшчэ не заслужаны гонар, бо спадар Олеў пераўвасабляў па-эстонску Янку Брыля, Івана Мележа, Васіля Быкава…

Ліставаньне з славутым саарэмцам было для мяне сапраўднай духоўнай раскошаю. Але разам з тым і цудоўнаю школай. Адзін з маіх літаратурных герояў — малады забойца Васька — меў за кратамі мянушку Казёл. Камусьці можа здавацца,

што сэнс яе — адназначны. А вось Олеў Йыгі склаў цэлую табліцу з differentымі адценьнямі і канатацыямі гэтага турэмнага тэрміну. Табліцу суправаджалі спасылкі на добры дзясятак слоўнікаў, сярод якіх былі, як памятаецца, нават лексыконы сярэдзіны XIX стагодзьдзя.

Аповесьць надрукавалі ў Эстоніі адначасова зь зьяўленьнем у «ЛіМе» рэцэнзіі на «Шыпшыну». Аўтарам быў адзін з тагачасных мэтраў, у якога пахвальныя словы сыпаліся быццам з казачнага рога. Некалькі дзён я бясконца перачытваў тую публікацыю і лётаў як на крылах. У пятніцу прыйшоў ліст ад Олева. Ён, як заўсёды назваўшы мяне «дарагім калегам», дасьціпна, але бязьлітасна спляжыў рэцэнзію і рэцэнзэнта, а адзначаныя ім творы назваў найбольш слабымі і бездапаможнымі, параіўшы больш такіх не пісаць, а айчыннаму мэтру ня верыць.

Магчыма, гэта найлепшы ўрок, які я атрымаў у сваім літаратурным жыцьці. Шкада, што прачытаць маю другую кнігу Олеў ужо не пасьпеў. Зь мяне, відавочна, было б больш толку.

Праколы і прыколы пачаліся, калі мой зборнік прозы ўключыла ў плян маскоўскае выдавецтва «Молодая гвардия». Гістарычныя апавяданьні дасьведчана й сумленна перакладала Валянціна Шчадрына. Яна выдатна валодала беларускай мовай, але ўсё роўна прысылала доўгія сьпісы пытаньняў. У выніку «пракол» у тэксьце, што прыйшоў на аўтарызацыю, знайшоўся толькі адзін. Мой «кажанаваты», іншымі словамі, нізкарослы шляхціч ператварыўся ў «шляхтича, похожего на летучую мышь», з чаго мы потым разам пасьмяяліся.

Але кніга мела і «сучасную» частку. Яе прасоўваў да расейскага чытача загадкавы таварыш Пяцібратаў, які на сувязь не выходзіў. Выдавецкая сакратарка на званкі правінцыйнага маладога аўтара ўнікліва адказвала, што Пяцібратаў на лятучцы, выйшаў, захварэў, паехаў у Ханты-Мансійск.

Дасланы мне нарэшце на вычытку тэкст нарадзіў імкненьне неадкладна купіць квіток, прыехаць у Маскву і, перапрашаю, начысьціць старэйшаму брату Пяцібратаву пысу.

Перапісваць нанова я мусіў практычна кожны сказ. Ды што там сказ! У выніку руплівай працы няўлоўнага майстра мастацкага перакладу скажаўся і калечыўся сэнс усяго тэксту. Дый як магло быць іначай, калі слова «побач» пераўвасаблялася ў расейскае «посмотри», «прыму́с» рабіўся «при́мусом», а «лёс» — «лесом». Трансфармацыя «запалак» у «зажигалки», «нядзелі» — у «неделю», а «аканіцаў» — усяго толькі ў «окна» выклікала, бадай што, уздых палёгкі, бо ў наступным радку замест «фіранак» дзівосным чынам узьнікалі, трэба прызнаць, значна эратычнейшыя, але абсалютна недарэчныя ў тым кантэксьце «простыни». У іншым аповедзе з сытуацыяй, сапраўды набліжанай да эратычнай, прысутнічаў кот на мянушку Мантэсума, які нявыхавана хацеў дапамагчы гаспадару займацца адной важнай справай. Той раз-пораз раззлавана крычаў на памочніка: «Апсік!» У выніку катоў у тэксьце зрабілася два: Мантэсума і Апсік.

Трэба аддаць перакладчыку належнае: прынамсі аднойчы ён зазірнуў у слоўнік, адкуль дазнаўся, што «абраз» — гэта «оскорбление», і бязь лішніх сумневаў павесіў «оскорбление» на сьценку.

Калі мая кніжка «Пока не погасла свеча» выйшла, я ўведаў, што карная экспэдыцыя ў Маскву ўсё адно скончылася б марна (калі б не драматычна для мяне самога). Пяцібратаў, якога я пасьпеў ахрысьціць Прайдзісьветавым, насамрэч не зьяўляўся асобай рэальнаю. За гэтым брацкім псэўданімам хавалася цэлая хеўрачка літпрайдзісьветаў.

Ды чаго чакаць ад пяцібратавых, калі гэтак сама ставіліся да нас, недалугаў-беларусаў, іхнія масьцітыя настаўнікі? Памятаю, як мяне ў ліку тузіну маладых айчынных літаратараў запрасілі на паседжаньне Савету па беларускай літаратуры Саюзу пісьменьнікаў СССР. Разгляд нашае творчасьці пачаўся з выступу знанага маскоўскага крытыка, які ці то ўзрадавана, ці то зьдзіўлена паведаміў, што, маўляў, учора чытаў тэксты гасьцей і раптам зразумеў: беларуская мова ўсё ж, напэўна, існуе.

Дзякаваць Богу, мне больш лёсіла на перакладчыкаў іншых. На тых, хто разумеў, што перакладаецца ня слова словам, ня сказ — сказам і нават не абзац — абзацам, а сэнс — сэнсам.

Я згадаў бы чэшку Францішку Сокалаву, немца Норбэрта Рандава, літоўку Альму Лапінскене.

На ўкраінскую мяне выдатна пераклаў Аляксандар Ірванец, зь якім мы маем надзіва блізкае, да вусьцішы, сьветаўспрыманьне.

Тры кнігі выйшлі ў мяне па-польску.

Цудоўна справіўся з прозай Ян Максімюк.

Калі вярнуцца да прыколаў, дык у апавяданьні «Рыба ды іншыя» адзін дрэнны хлопчык цэлую ноч ходзіць па горадзе зь лязом у руках. Ён пакуль што не зьбіраецца нікога рэзаць. Проста горад абклеены абвесткамі, што там адбудзецца «чемпионат СССР

по академической гребле», і хлопчык старанна выразае ў слове «гребля» дзьве першыя літары. Што робіць у польскім тэксьце Максімюк? Ён па-майстэрску пераўтварае спаборніцтвы па гэтай самай «гребле» ў першынство «w skakaniu do wody». Задача начнога рупліўца істотна спрашчаецца, бо цяпер яму дастаткова адрэзаць усяго адну літару. Здагадайцеся, у якім слове.

Ну а бліскучы пераклад на польскую мову паэтычнай кнігі «Паром празь Ля-Манш», зроблены Адамам Паморскім, прынёс вельмі дарагую для мяне міжнародную прэмію Гданьскай мэрыі.

Некалі ў нашым (а цяпер ужо даўно іхнім) Доме літаратара выступаў савецкі паэт Расул Гамзатаў. На пытаньне, ці задаволены ён перакладамі сваіх вершаў на беларускую мову, горац адказаў велягурыста і хітрамудра. Арыгінал, маўляў, — як пэрсыдзкі дыван, што зьзяе ўсімі фарбамі вясёлкі, а пераклад — той самы дыван, пераверунты на спод. А паколькі яго, Гамзатава, сьпярша перакладаюць з аварскай на расейскую, а потым ужо беларусы яшчэ раз — з расейскай на сваю мову, дыван зноў пераварочваецца і зіхаціць.

Гучыць прыгожа, але пагадзіцеся, што ў такой творчай мэтодзе больш за ўсё пылу.

Я рады, што мяне перакладаюць з арыгіналу. Кажуць, менавіта зь беларускай на чачэнскую зрабіў незадоўга да сьмерці пераклад майго эсэ «Незалежнасьць — гэта…» аднакурсьнік нашага Леаніда Галубовіча на маскоўскіх Вышэйшых літаратурных курсах, паэт і палітык Зэлімхан Яндарбіеў.

Спадзяюся, Алах не палічыў тое грахом. Няхай доўжыць ён на зямлі памяць пра Зэлімхана!

# Садысты чытаюць Мазоха

*У вашым апавяданьні «Ордэн Белай Мышы» дзеяньне адбываецца ў каралеўстве, дзе ёсьць адзін-аднюткі пісьменьнік, але няма ніводнага чытача. На шчасьце, у нашай краіне і пісьменьнік не адзін. Дый чытачы пакуль яшчэ водзяцца. Скажыце, ці здараліся выпадкі, калі яны ўспрымалі напісанае вамі абсалютна нечакана і неадэкватна?*

*Верця*

У маім уяўленьні пісьменьнік ня можа існаваць без чытача. Я ня веру тым калегам, якія часам заяўляюць, што ім абыякава, прачытае хтосьці іхні тэкст ці не. Магчыма, яны лічаць, што сучасьнікі проста не дарасьлі, але ў глыбіні душы ўсё ж спадзяюцца на чытача ў будучыні.

Калі тваю кнігу бяруць у рукі тут і цяпер, ты непазьбежна ўступаеш з чытачом у складаныя стасункі, дзе можа прысутнічаць як разуменьне, так і поўная яго адсутнасьць.

Хтосьці сказаў, што чытачы падзяляюцца на садыстаў і мазахістаў. Садысты чытаюць Захера Мазоха, а мазахісты — маркіза дэ Сада.

Ёсьць таксама людзі, якія бяруць у рукі кнігу толькі для таго, каб знайсьці ў пісьменьніка памылкі.

Калісьці я напісаў апавяданьне, у якім дзейнічалі два пэрсанажы — цяжка паранены ваяр і крумкач,

які чакаў, пакуль чалавек памрэ, а ён зможа павячэраць. Тэкст быў, безумоўна, не пра гэта. Чалавек пракручваў у памяці жыцьцё, шукаў паратунку. Птушка таксама мела іншыя праблемы, апрача набіваньня страўніка сьвежай мярцьвячынай.

Не пасьпела апавяданьне зьявіцца ў друку, як рэдакцыя пераслала мне ліст абуранага чытача. Называючы сябе кандыдатам біялягічных навук, той на пяці старонках «размазваў» мяне за няведаньне асаблівасьцяў жыцьця і дзейнасьці крумкачоў. Як выявілася, і жыве гэтая паважаная птушка зусім ня сто гадоў, і мярцьвячынай грэбуе (хоць «Энцыклярэдыя прыроды Беларусі» чамусьці сьцьвярджае адваротнае), і гняздуецца ня так…

Я мусіў скласьці грунтоўны адказ, дзе, у прыватнасьці, паабяцаў нязьменна змагацца за добрае імя крумкачоў. Памятаю, дакляраваў яшчэ і прысьвяціць рэабілітаванаму крумкачу адмысловае апавяданьне. Праўда, твор урэшце атрымаўся пра грака, у якога раз-пораз перакідаўся галоўны герой. Біёляг не адгукнуўся, відаць, палічыў, што я ўжо безнадзейны.

Яшчэ адзін хутчэй сумны, чым вясёлы выпадак здарыўся з гістарычнай навэляй «Рандэву на манэўрах». Там сустракаюцца беларуская шляхцянка і расейскі афіцэр. Яна — маладая прывабная ўдава, ён — адукаваны, дасьціпны, нежанаты. Яны хутка робяцца блізкімі, пачынаюць будаваць пляны на сямейнае жыцьцё. І тут высьвятляецца, што яна — удава паўстанца 1863 году, а яе каханак дзесяць гадоў таму меў дачыненьне да сьмерці мужа. Жанчына рашуча і жорстка разрывае стасункі…

Ідзе прэзэнтацыя кнігі. Слова бярэ чытачка, якая

нахвальвае аўтара за псыхалягізм. Аказваецца, ён асабліва моцна гучыць у апавяданьні «Рандэву на манэўрах», дзе створаны вобраз бяздушнай жанчыны-эгаісткі, якая абражае найлепшыя пачуцьці закаханага ў яе афіцэра…

Лета. Сьпёка. Дзівосны літоўскі курорт Ніда на Куршаўскай касе. Міжнародныя паэтычныя чытаньні ў Доме-музэі Томаса Мана. У такую пару ў такой мясьціне на падобныя імпрэзы ходзяць толькі ненармальныя. Гэтым разам, здаецца, ня знойдзецца і ненармальных. Але арганізатарам удаецца недзе злавіць і прывесьці групу вельмі немаладых нямецкіх турыстаў. Чытаю з калегамі вершы ў арыгінале і перакладах на літоўскую й нямецкую мовы. Сярод іх вось гэты:

**Падобны да мужчыны**

*беднае дзяцінства ў расейскай вёсцы*
*(ці можа быць дзяцінства бедным*
*нават у расейскай вёсцы?)*
*бабуля-немка зьберагла мову*
*падараваўшы ўнучцы вяртаньне*
*замест сябе самой у Vaterland*
*(расейская ў яе таксама добрая)*
*заможнае юнацтва дзякуючы*
*багаценькім сваякам з Брэмэну*
*(ці можа быць юнацтва заможным*
*нават у сваячкі мільянэраў з Брэмэну?)*
*імкненьне пражываць адначасова*
*некалькі жыцьцяў*
*(ці не зарана ў дваццаць восем*
*калі здаецца хапае і аднаго?)*
*бабуля памерла ў мінулы панядзелак*

*на помніку ўнучка загадала*
*напісаць па-нямецку*
*(калі не паслухаюцца*
*не атрымаюць больш ні эўра)*
*на Каляды муж-расеец*
*парэзаў на шматкі*
*падараваную знаёмым мастаком*
*карціну з рэмінісцэнцыямі з Брэйгеля*
*за адным разам папісаў і мастака*
*(добра што не яе самую*
*зрэшты потым высьветліцца*
*што перапала і ёй*
*іначай адкуль тыя шнары*
*над жывым гузікам пупка)*
*глухая прыморская вёска*
*на поўначы Італіі*
*куды двойчы ўцякала ад мужа*
*(ці не з парэзаным аўтарам*
*парэзанай карціны?)*
*тры месяцы ў намёце*
*на Лазуркавым беразе*
*з грашыма толькі на віно і ежу*
*(цяпер ужо з мужам)*
*нязводная завядзёнка*
*раз-пораз раздаваць маёмасьць*
*знаёмым і не*
*п’янаваты румын*
*хацеў яшчэ і трахнуць дабрадзейку*
*на атрыманай задарма канапе*
*(можа і трахнуў*
*пасьля звычайна не застаецца шнараў)*
*навошта ты апавядаеш усё гэта*
*мне незнаёмаму*

*па дарозе дахаты да мужа да немцаў*
*у купэ міжнароднага цягніка*
*за дзьве гадзіны да Берасьця?*

***проста ты падобны да мужчыны***

*ну што застаецца рабіць*
*пасьля такога прызнаньня?*

Здаецца, усе «аматары паэзіі» шчасьліва дрэмлюць. Але адзін дзядуля-немец неспадзеўкі пачынае радасна пляскаць у далоні і праз перакладчыка кажа, што верш гэра Арлова яму страшэнна спадабаўся. Ён, немец, цалкам згодны з аўтарам. Усіх эмігрантаў з Усходу трэба неадкладна турнуць назад.

Карацей, цяжкавата нам, літаратарам, прадбачыць, як слова наша адгукнецца.

Але, адрозна ад кліента, чытач не заўсёды мае рацыю. Зрэшты, пісьменьнік — таксама.

## Ён такі вынаходнік, адважны няўрымсьлівы вершнік...

*Былі на літаратурнай вечарыне, прысьвечанай 120-годзьдзю Максіма Багдановіча. Напэўна, ня толькі нас вы зьдзівілі натхнёнымі словамі пра нейкую Клаву, зь якой у паэта была сувязь падчас лекавання ў Крыме. Як вядома, тая асоба досыць лёгкіх паводзінаў не пакінула ў жыцьці й творчасьці Максіма прыкметнага сьледу. Вы што, вырашылі стварыць да юбілею прыгожы, але сумнеўны міт?*

*Стася і Вераніка*

Пачну з таго, што, на маю думку, любая жанчына можа дапамагчы мужчыну ў спасьціжэньні самога сябе, падараваць яму дотык да Вечнасьці, глыток з келіха неўміручасьці.

Прычым гэта зусім не заўсёды залежыць ад таго, колькі часу яны былі разам, — усё жыцьцё ці адну ноч.

Багдановіч быў з Клаваю Салтыковай цэлы летні крымскі месяц 1915 году...

Вы мяркуеце, што ў Максімавай біяграфіі тая асоба не адыграла ніякай прыкметнае ролі. А як тады расцэньваць прысьвечаны ёй вядомы расейскамоўны верш паэта?

*Забудется многое, Клава,*
*Но буду я помнить всегда,*

*Как в сердце шипела отрава*
*Любви, и тоски, и стыда...*

Згодны, душа чытача не трымціць і не замірае. Перад намі ня ўзор высокай паэзіі чыстай красы, да якой імкнуўся наш геній. Але гэтыя, па сутнасьці, альбомныя радкі адназначна ўспрымаюцца як глыбокае, прасякнутае болем прызнаньне тонкай і чулай асобы.

Каб знайсьці аргумэнты на карысьць маёй высновы, зазірніце ў камэнтары да першага тому поўнага збору твораў М. Багдановіча, дзе зьмешчаны цытаваны верш. Яраслаўскі знаёмы паэта А. Цітоў ва ўспамінах пісаў: «Іншы раз, у хвіліны шчырасьці, Максім Адамавіч дзяліўся са мной сардэчнымі тайнамі. Ён расказаў аб сваім захапленьні жанчынай. Знаходзячыся на поўдні, М. А. сустрэў даму і пакахаў яе, але, на жаль, расказаў ён, гэтае каханьне прынесла яму вялікі смутак, і, магчыма, адбілася на здароўі, яна была замужняя, і яны не маглі зь ёю жыць разам».

Хіба перад намі сьведчаньні «непрыкметнага сьледу»?

Няхай, як лічаць некаторыя багдановічазнаўцы, Максім саромеўся таго курортнага захапленьня. А мне ўяўляецца, што хворы на невылечныя тады сухоты паэт у глыбіні душы мог якраз ганарыцца стасункамі з Клавай, быць удзячны ёй за магчымасьць сьцьвярджацца як мужчына.

Яму было важна (найперш для сябе самога) пакінуць доказы гэтага, занатаваць інтымныя драбніцы. Я ўжо вяду гаворку пра неапублікаваны дасюль тагачасны інтымны дзёньнік Багдановіча,

які не дае спакою сучасным паэтам і драматургам, выдаўцам і журналістам.

Найлепшы камэнтар да спадчыны творцы — ягоны жыцьцяпіс.

У нашым выпадку ў камэнтары не хапае вельмі істотнай старонкі. Ці не пара нарэшце запоўніць прабел?

Думаючы пра гераіню дзёньніка і яе каханка, якому заставалася меней за два гады жыцьця, я ўспамінаю словы Поля Валеры: «Разумная жанчына — тая, зь якой мужчына здольны паводзіцца як заўгодна неразважна».

Можаце вінаваціць мяне ў недасьведчанасьці ды іншых грахах, але я перакананы, што дзякуючы таму чэрвеню 1915-га ў гарадку Стары Крым нашае прыгожае пісьменства пабагацела не на адзін цудоўны верш.

Асабіста ж я ўдзячны Клаве за ўласныя радкі, якія абавязкова ўвойдуць у новую паэтычную кніжку:

*ты выходзіш на ганак*
*шчасьлівая*
*з Понтам Эўксінскім*
*глыбіня сустракаецца*
*тваіх чорных вачэй*
*вечар сіні*
*зусім*

*ты круціла раман*
*летась*
*з князем грузінскім*
*а цяпер*

*твой абраньнік*
*паэт зь Яраслаўлю*
*Максім*

*ён чытаў табе вершы*
*і прагна кахаўся*
*нібы заўтра зьбіраўся*
*ў тагасьвецьце пайсьці*
*ён такі вынаходнік*
*адважны*
*няўрымсьлівы вершнік*
*ён такі...*

*Божа!*
*што ён шаптаў табе*
*ў вушка*
*ў міжножжа*
*у водар*
*дзьвюх прасьцінак*
*салёных ад поту*
*і не…*
*захлыналася ты*
*і хацеў адвярнуцца*
*нечы цёмны партрэт*
*на зялёнай сьцяне*

*ён казаў табе потым*
*тут грэкі любілі*
*і готы*
*тут вачыма прахожых*
*праніклівa скіфы*
*глядзяць*
*і пытаюцца моўчкі*
*адкуль ты і хто ты*

*і за кожнага зь іх*
*буду браць цябе я*

*буду браць як*
*рабыню*
*гетэру*
*наяду*
*як русалку*
*з падводнага саду*
*дай мне яду*
*каханая*
*ад самоты...*

*ты лічыла што ён*
*не паэт —*
*вершаплётнік альбомны*
*з тых*
*якіх легіёны*
*і сьвет*
*іх трымае сабе на забаву*
*ды ўчора*
*ён на мове сваёй*
*прачытаў трыялет*

*ты зьдзівілася*
*келіх паўнюткі*
*здрыгануўся*
*ў тваёй паўнаватай руцэ*
*зразумела?*
*амаль нічагуткі!*
*лацінскае «цэ»*
*на рэцэпце ягоным*
*шматзначна маўчала*

*сарамлівы партрэт*
*быў уражаны*
*мовы чужой таямніцай:*
*што такое ліхтарня*
*спакуса*
*дзяньніца?*
*што такое пясьняр?*
*мо — паэт?..*

*ён прамовіў нядаўна*
*ў кафейні*
*употай:*
*каб нам разам аднойчы*
*патрапіць у рай*
*хоць на лета*
*забудзем*
*пра нашы сухоты*
*хоць на лета...*
*пачула ты: Лета*

*кане*
*леташні князь з-пад Цхінвалу*
*у Лету*
*што апроч удавіцы*
*пакіне?*
*набор пісталетаў?*
*ты належыш паэту*
*Вэнэра на мове яго —*
*Мілавіца*

*колькі вам засталося*
*піць херас*
*з Масандры*
*і любіцца нагбом*

*пад сузор'ем Касцы?*
*колькі вам засталося*
*на рызыку йсьці*
*ў той альтанцы*
*сярод маладых алеандраў?*

*ты выходзіш на ганак*
*шчасьлівая*
*з Понтам Эўксінскім*
*новы ранак*
*спаткаўся*
*і новы санэт*
*ты кахаеш!*
*ты ў Вечнасьць*
*ужо адплываеш*
*твой каханы — Паэт!*

# Вазьму і прывараджу

*Чаму вы ўхіляецеся ад адказу на пытаньне пра пярсьцёнак на вашай левай руцэ? Ці мае ён нейкую таямнічую сілу?*

*Дзьве бляндынкі зь пятага раду*

Пярсьцёнак срэбны, каваны.

Аўтар, мой даўні прыяцель мастак-ювэлір Мікола Кузьміч (гэта ён стварыў вобраз Крыжа сьвятой Еўфрасіньні Полацкай), кажа, што ў пярсьцёнку — пяць тысяч ударaў малаточкам.

Каменьчык — «мой» хрызапраз, пад ім — рачная пэрлінка. Маючы кроплю ўяўленьня, за абрысамі пярсьцёнка няцяжка разгледзець сылюэт добра знаёмага нам, палачанам, храму.

Ніякіх пярсьцёнкаў я ніколі не насіў і спачатку да Міколавага падарунку паставіўся насьцярожана. А цяпер — і ўжо даўно — ён зьяўляецца працягам маёй істоты. Безь пярсьцёнка не магу працаваць. Пра ягоную таямнічую сілу можна напісаць некалькі апавяданьняў.

Аднойчы пярсьцёнак дапамог адбіцца ад нападу, пакінуўшы зусім рэальную пячатку на лобе рабаўніка. Два разы пярсьцёнак кралі, аднак ён паведамляў мне, дзе знаходзіцца.

Але галоўнае прызначэньне пярсьцёнка, як вы ўжо зразумелі, — гэта прываражваць такіх вось прыгажуняў зь пятага раду.

# Пяць тысяч без уліку маркітантак

*Кажуць, што літаратурныя сюжэты часам матэрыялізуюцца. Ці здаралася такое з вашымі тэкстамі?*

*Кастусь*

Як сьведчыць гісторыя і, у прыватнасьці, гісторыя літаратуры, прамоўленае, а пагатоў — напісанае слова сапраўды мае ўласьцівасьць нярэдка знаходзіць увасабленьне ў рэальным жыцьці. Сьвет, створаны ўяўленьнем пісьменьніка, і сьвет, у якім жывуць ягоныя чытачы (калі хочаце — сьвет, створаны Божай воляй), знаходзяцца ў складаным узаемадзеяньні, ня толькі судакранаючыся, але і перацякаючы адзін у адзін.

Хтосьці з гэтай рэчаіснасьці імкнецца быць падобным да літаратурнага героя і ўрэшце робіцца такім, сьцягнуўшы ўва ўлюбёнца, як кажа прымаўка, нават крышачкі. У сваю чаргу, нейкі пэрсанаж, затужыўшы ў кніжнай вокладцы, выходзіць зь «вязьніцы», знайшоўшы сабе цалкам жывога двайніка.

Прыкладна тое ж можа адбывацца і з падзеямі, зьявамі, цэлымі космасамі, што перавандроўваюць з жыцьця ў літаратуру і наадварот. Напэўна, найлепей сказаў пра гэта Борхэс. Перачытайце ягоную навэлю «Тлён, Укбар, Орбіс Тэрцыюс».

Аднойчы мне выпала выступаць у паўночнанямецкім гарадку Штрэліцы. У бібліятэцы там-

тэйшай гімназіі, дзе некалі пачынаў спасьцігаць навукі хлопчык Гэнрых Шліман, госьцю паказалі старое выданьне «Іліяды». Якраз ім той хлопчык і зачытваўся.

Далейшыя падзеі добра вядомыя. Тым, хто дрэнна вучыўся, нагадаю: Шліман стаў археолягам і знайшоў Трою, якая да таго моманту лічылася плёнам Гамэравай фантазіі.

Але зьвярнуся да ўласнага сьціплага досьведу.

Спачатку пра тое, як сучасны тэкст здольны карэктаваць гістарычныя падзеі альбо іхнія інтэрпрэтацыі (правесьці мяжу паміж першым і другім часам бывае няпроста).

Чвэрць стагодзьдзя таму я напісаў апавяданьне «Кроніка Лаўрына Баршчэўскага» — такую сабе стылізацыю пад манускрыпт з магістрацкага архіву, прысьвечаны ўдзелу нашых продкаў у гусіцкіх войнах. Тады князь Жыгімонт Карыбутавіч павёў войска на дапамогу чэхам і быў абвешчаны ў Празе каралём. Аніякіх сьведчаньняў пра колькасьць Жыгімонтавых ваяроў не захавалася, а мой юначы твор гэтага вымагаў. У выніку ў апавяданьні зьявіўся наступны радок: «было іх лікам да пяці тысяч, і ўсе біліся мужна, і многія заручыліся там зь зямлёю».

Прамінула колькі гадоў, і я зь велізарным зьдзіўленьнем сустрэў у адной навукова-папулярнай кніжцы дакладна такую самую лічбу. Неўзабаве яна перавандравала ў манаграфію прафэсійнага гісторыка. Я затэлефанаваў яму й пацікавіўся, дзе ўдалося знайсьці зьвесткі пра колькасны склад баявых паплечнікаў Жыгімонта. Вучоны зьбянтэжыўся…

Цяпер, здараецца, я тэлепартую сябе ў вясновую Прагу 1422 году, уладкоўваюся недзе ў ціхім кутку на Градчанах і не без самазадавальненьня назіраю, як па вясёлкавым бруку пад сьцягамі з «Пагоняй» і «Калюмнамі» ўступае ў места Жыгімонтава войска. Мы з князем ведаем: у сьпісе асабовага складу нашых харугваў (з улікам параненых і хворых, якія рухаюцца ў канцы даўжэзнай калёны на крытых павозках, і чамусьці без уліку прыгажуняў-маркітантак, што, хоць таксама едуць, але складаюць вельмі нават баяздольнае фармаваньне) — пяць тысяч кавалерыстаў і пяхотнікаў.

Яшчэ адзін прыклад зьвязаны з маёй кнігаю «Таямніцы полацкай гісторыі». Рыхтуючы да друку трэцяе выданьне, я зьвярнуў увагу на тое, што Полацак незаслужана рэдка населены зданямі й прывідамі — гэтымі своеасаблівымі ўдзельнікамі й сьведкамі далёкіх, пераважна трагічных падзеяў, безь якіх немагчыма ўявіць горад з такой гісторыяй. У выніку былі знойдзеныя зьвесткі пра Маленькую габрэечку, Чорнага афіцэра і Трох манахаў, якія цяпер пачалі ўжо зьяўляцца на полацкіх вуліцах. Пра іншых прывідаў, адшуканых мною ў таемных архіўных сховах, даведаецеся, як трапіце ў Полацкую мастацкую галерэю (доўгімі зімовымі вечарамі там усё часьцей чуюцца крокі генэрала Ордэну езуітаў Габрыеля Грубэра), або калі будзеце блукаць па старадаўніх залях Музэю кнігадрукаваньня…

У адным з эсэ Станіслава Лема гаворыцца пра цмокаў, якія бываюць адмоўныя, нулявыя, нейкія там яшчэ. Усе яны не існуюць, але самае істотнае, што кожны зь іх не існуе на свой манер.

Ад сябе дадам: а часам яшчэ як існуе!

## Зялёны? Бел-чырвона-белы?

*Вы не мастак у першасным значэньні гэтага слова, але вашы тэксты маюць палітру з шматлікімі фарбамі і адценьнямі. Ці верыце вы ў магію колераў? Якія зь іх улюбёныя?*

*Алесь, навучэнец мастацкай школы*

Вядома, што ў магію колераў глыбока верылі нашыя прапрадзеды. У іхнім космасе колеравую сымболіку мелі, бадай што, усе асноўныя рэчы і зьявы. Сіняя або зялёная барва асацыявалася з захадам, белая — з усходам, чырвоная і чорная — з поўднем і поўначчу. Порам жыцьця — маладосьці, сталасьці, старасьці і сьмерці — адпавядалі чырвоны, залаты, белы і чорны колеры. Штодзённай чорнай вопраткі продкі не насілі, бо гэты колер успрымаўся як сымбаль тугі, смутку, зла. Белы азначаў прыгажосьць і духоўную чысьціню, атаясамляўся з матчыным малаком. Чырвоны — гэта агонь, вечнае жыцьцё. Пра асаблівае шанаваньне апошніх двух колераў сьведчаць народнае адзеньне і нацыянальная сымболіка, у якой барвы набылі дадатковае геральдычнае значэньне.

Можна сказаць, што ў магію колераў, часам і не задумваючыся пра гэта, верыць кожны з нас. Немагчыма ўявіць на вясельлі маладую ў цёмным адзеньні, а на пахаваньне ніхто ня пойдзе ў сьветлым. А хто будзе спрачацца, што колеры нацыянальнага сьцягу (якія непазьбежна зноў

стане дзяржаўным) маюць моцнае ўзьдзеяньне і на тых, хто выходзіць пад ім на вуліцы, і на тых, хто з поўным баявым рыштункам гэтыя вуліцы перакрывае?

Што да маіх, так бы мовіць, асабістых колераў, дык зь дзяцінства любіў зялёны. На ўроках маляваньня ў малодшых клясах маляваў зялёных зайчыкаў і лісічак, а неяк атрымаўся нават зялёны мядзьведзь. Калі мы будавалі канал у бясконцым шаравата-жоўтым казахстанскім стэпе-паўпустэльні, душы не хапала зеляніны, быццам кіслароду.

А потым прычынілася наступная гісторыя. Аднойчы пасьля сустрэчы з студэнтамі й выкладчыкамі геаграфічнага факультэту БДУ да мяне падышоў чалавек, які адразу нагадаў рабіна-кабаліста. Падумалася, што акурат такі некалі стварыў Голема. Бліснуўшы чорным вокам, «кабаліст» паведаміў, што надзелены здольнасьцю бачыць колер чалавечае аўры. У мяне яна зялёная, а таму я мушу заўсёды насіць прынамсі адну рэч у гэтай гаме, а найлепей — ня меней за тры. Тады буду адчуваць сябе больш здаровым, упэўненым, натхнёным.

Я паслухаўся і потым адшукаў дарадцу з геафаку, каб сказаць яму дзякуй ужо апастэрыёры. Ад таго часу абавязкова маю ў штодзённым гардэробе нешта зялёнае (хоць, можа, яно і не заўсёды відаць). Ну а пярсьцёнак з хрызапразам даўно зрабіўся часткаю маёй фізычнай і мэтафізычнай істоты. Можа, якраз ён затрымаў мяне на сьвеце, калі, яшчэ ня ведаючы пра інфаркт, я колькі гадоў таму вяртаўся на самалёце зь Лёндану.

Раз-пораз наведвала думка высьветліць, які ж колер пераважае ў маіх тэкстах. Тым больш, сучас-

ная кампутарная тэхніка дазваляе зрабіць тое безь вялікіх праблемаў. Ды пакуль я зьбіраўся перакanaцца, што і ў кнігах перавагу мае зялёны, справаю заняўся адзін студэнт Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Нясьціпла пахвалюся, што малады паэт і журналіст Алесь Замкоўскі ўжо абараніў і падараваў мне сваю дыплёмную працу «Сыстэма колераабазначэньня ў мове твораў Уладзімера Арлова».

Дзякуючы Алесю, які прааналізаваў «палітру» кніжак прозы «Сны імпэратара» і «Ордэн Белай Мышы», я нечакана даведаўся, што самымі частотнымі колерамі там ёсьць «спрадвечна беларускія» — белы, чорны і чырвоны. Першы сустракаўся ажно 469 разоў. А вось зялёны (127) апынуўся ажно на сёмым месцы. Між іншага, малады дасьледнік зафіксаваў і ўжываньне трохкампанэнтнага каляроніму «бел-чырвона-белы».

У сувязі з гэтым цяжка не пагадзіцца з Алесем, што колеравыя азначэньні ў творах пісьменьніка «зьяўляюцца неад'емнай часткай аўтарскага сьветабачаньня і сьветаўспрыманьня».

Але ўваднучас дыплёмная праца яшчэ раз засьведчыла, што прыватнае жыцьцё і літаратурная праца — рэчы (хоць, бывае, нейкімі вузельчыкамі і зьвязаныя) вельмі аўтаномныя. А таму, калі ласка, ня блытайце лірычнага героя з аўтарам, які адказвае на вашае пытаньне ў сваёй улюбёнай зялёнай кашулі.

# Сэкс прыдумалі зулусы

*Ці знаходзіцца ў вашым літарацкім жыцьці месца футболу?*
*Заўзятар*

Уявіце, што некалі я фанатычна хварэў за менскае «Дынама». Дакладней, за «Дынама» першай паловы 1980-х. За каманду «залатой пробы». За тую, дзе гулялі Сяргей Алейнікаў, Андрэй Зыгмантовіч, Сяргей Гоцманаў, Аляксандар Пракапенка, што наводзілі жах на абаронцаў і варатароў кіеўскіх аднаклюбнікаў і маскоўскага «Спартака». Кожная гульня тады была падзеяй. Думаю, нашы тагачасныя «дынамаўцы» маюць заслугі і перад хваляю беларускага адраджэньня, што якраз тады пачынала свой разьбег.

А памятаеце, колькі нашых сьцягоў было над стадыёнам, калі ўжо нацыянальная зборная выйграла ў галяндцаў? Такога бел-чырвона-белага «дзявятага валу» я ня бачыў ні на водным самым шматлюдным мітынгу. Гэта да праблемы «футбол і нацыянальныя пачуцьці».

Цяпер, прызнаюся, здрадзіў «дынамаўцам» і хварэю за БАТЭ (нават часам еджу на гульні ў Барысаў). Мяркую, што ў посьпехаў гэтае каманды ёсьць і нацыянальны складнік. Нездарма ж у свой час лідэр БАТЭ Сяргей Крывец вёў блог па-беларуску і ўтлумачваў заўзятарам расейскага «Зениту», што нашая краіна завецца не *Белоруссия*, а — *Беларусь*.

А ўвогуле, футбол — цэлы космас, які здольны самым парадаксальным чынам уплываць на чалавечую экзыстэнцыю. Да прыкладу, падчас чэмпіянату сьвету ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы я пачаў складаць легкадумную рыфмаванку пра футбол і зулусаў. Так неспадзявана нарадзіўся верш «Сэкс прыдумалі зулусы»:

*сэкс прыдумалі зулусы*
*у саваньне*
*ваньне*
*раньнем*
*з выляжанкаю на стайні*
*з жонкаю у роднай спальні*
*на ліянах і абрусах*
*на сваім стракатым сьцязе*
*на гарышчы ў Златай Празе*

*сэкс прыдумалі зулусы*
*ў кабінэце*
*на касэце*
*у Валеце*
*пад трыбунамі ў клязэце*
*на чаўнах і ў інтэрнэце*
*ў сельсавеце і улусе*
*між гібонаў на сафары*
*у футболцы з Чэ Геварам*

*сэкс прыдумалі зулусы*
*вечны*
*спрэчны*
*небясьпечны*
*як пэнальці бессардэчны*
*пад кустом і Шляхам Млечным*

*з уругвайкай ды індусам*
*на сьняданак і ў сіесту*
*перад тым як цябе зьесьці*

*сэкс прыдумалі зулусы*
*з твістам*
*сьвістам*
*і расістам*
*з рэфэры і футбалістам*
*за більярдам і за вістам*
*з украінкай і тунгусам*
*кожны вечар канібалы*
*набіраюць сабе балы*

*сэкс прыдумалі зулусы*
*хай сабе і беларусы*
*і з хэт-трыкам і квартэтам*
*з асырыйкаю і хеттам*
*але я хачу каханьня*
*хоць глыток на адвітаньне*
*з гэтым летам-прайдзісьветам*
*з форвардаў кардэбалетам*
*зь недаробленым мінэтам*
*на ўзьбярэжжы пад Лярэтам*
*дзе у каталёнскім моры*
*мы з табой тапілі сорам*

*сэкс прыдумалі зулусы*
*хай сабе і беларусы*
*з пляшкай віскі й трыялетам*
*у аўтобусе і ў гета*
*але я хачу каханьня*
*хоць глыток на адвітаньне*
*з гэтым летам-пустацьветам*

*з выйграным адзіным сэтам*
*з праязным чужым білетам*
*з падарожжам кругасьветным*
*між Кейптаўнам і Менскам*
*на тваім фатэлі венскім*

*сэкс прыдумалі зулусы*
*хай сабе і беларусы*
*зь фінкаю і пісталетам*
*з карсыканкай і вэндэтай*
*але я хачу каханьня*
*хоць глыток на адвітаньне*
*з гэтым ліпенем што ў Лету*
*адплывае ў сандалетах*
*з гэтым жніўнем і з кабетай*
*што даўно ня мной сагрэта*
*ды прысьнілася ў нядзелю*
*ў вувузэлы мы дудзелі!*

*Божа дай глыток каханьня*
*хоць адзін на адвітаньне*
*з расфутбольным скварным летам*
*не хачу казаць: са сьветам*
*бо прыкінуўся паэтам*
*а ты ведаеш: пры гэтым*
*нельга аддавацца ловам*
*рызыкоўных рыфмасловаў*

*Божа дай глыток каханьня*
*хоць адзін на адвітаньне*
*і ў сваёй нябеснай высі*
*не ў афсайдзе*
*ў райскім садзе*
*ты мяне каханым высьні!*

# У крэсьле міністра

*Што б найперш вы зрабілі, стаўшы міністрам адукацыі?*

*Вальжына,*
*ахвяра сучаснай сыстэмы адукацыі*

Вярнуў бы ў школы ўсіх узроўняў беларускую мову і заняўся стварэньнем Нацыянальнага ўнівэрсытэту.

Але падобныя пытаньні лепей задаваць, калі зьменіцца ўлада. Пры цяперашняй міністар з такой праграмаю не пасьпеў бы нават пазнаёміцца з падначаленымі.

# Дзікае Поле нашай падсьвядомасьці

*Нядаўна выйшла вашая кніга «Ля Дзікага Поля», а твору з такім назовам там няма. Гэта што, нейкі прыкол? Ці тут схаваны глыбокі і даступны ня кожнаму сэнс?*

*Улад*

Цаню вашую пільнасьць.

Тэксту пад назовам «Ля Дзікага Поля» ў гэтай кнізе выбранай гістарычнай прозы сапраўды няма. Праўда, ён ёсьць сярод маіх апавяданьняў увогуле — аповед, прысьвечаны верагоднаму аўтару «Слова пра паход Ігаравы». Сам твор у новае выданьне неяк не ўштукаваўся, а назоў (зрэшты, ён — таксама твор) падаўся дарэчным.

Дзікае Поле — гэта старадаўняе найменьне абшару, адкуль на славянскія княствы ўрываліся з Усходу ваяўнічыя і бязьлітасныя ворагі — печанегі, полаўцы, потым манголы. Аднак для нашых продкаў Дзікім Полем была і Масковія, што ўспадчыла парадкі Залатой Арды разам зь яе вайсковай дактрынай ды ідэяй панаваньня над сьветам. Чым лепшы за мангола-татарскіх уладароў (ярма якіх мы, адрозна ад Расеі, на шчасьце, ня зьведалі) быў вялікі князь маскоўскі Іван Жахлівы, які самазвана абвясьціў сябе царом? Ягоныя стральцы, захапіўшы ў 1563 годзе Полацак, спачатку вынішчылі ўсё неправаслаўнае насельніцтва. Некалькі дзясяткаў

тысяч праваслаўных адзінаверцаў потым пагналі зімовымі дарогамі ў няволю. Паданьне кажа, што маскоўскі ўладар уласнаручна тапіў тады пад лёдам Дзьвіны і Валовай азярыны габрэйскіх немаўлятаў.

Трагічныя падзеі Інфлянцкай вайны сталі, дарэчы, гістарычнымі дэкарацыямі апавяданьня «Тры мужы спадарыні Дамінікі», якое адкрывае зборнік «Ля Дзікага Поля».

Але абсягі гэтага панятку, безумоўна, шырэйшыя.

З гісторыі мы ведаем, што цемра і сьмерць прыходзілі да нас ня толькі з Усходу. Апрача таго, сваё Дзікае Поле ёсьць і ў сьвядомасьці альбо падсьвядомасьці кожнага з нас. Напэўна, мой зборнік і пра гэта таксама.

Ці трэба казаць, што новыя сэнсы дадаліся да назову кнігі пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 году?

# Страшны выпадак у мэтро

*Скажыце, калі ласка, што пісьменьнік адчувае, трымаючы ў руках толькі што выдадзеную кнігу? Я цяпер якраз рыхтуюся да выхаду свайго першага «дзіцяці».*

*Малады літаратар*

Вы ведаеце, калі выходзілі першыя кніжкі, я параўноўваў сваю радасьць з той, што апаноўвала, калі нараджаліся сыны.

З часам і з колькасьцю выданьняў адчуваньні, безумоўна, зрабіліся не такімі ўзьнёслымі. Але калі кніга прабівалася да чытача доўга і зь цяжкасьцямі, пачуцьці зноў абвастраліся. Так, прыкладам, было зь дзіцячай кніжкай «Адкуль наш род» і зь «Дзесяцьцю вякамі беларускай гісторыі», напісанай у суаўтарстве з Генадзем Сагановічам.

Абедзьве гэтыя кнігі выдавецтвы «Беларусь» і «Мастацкая літаратура» выкінулі з плянаў выпуску пасьля рэфэрэндуму 1995 году з тлумачэньнем, што такая літаратура, маўляў, ужо ня ёсьць «сацыяльна значнай».

Але ў нашым соцыюме існавала й іншае меркаваньне. Дзякуючы яму знайшліся фундатары, і кнігі выйшлі, прычым нават некалькімі выданьнямі. Да ўсьцехі далучылася і пачуцьцё ўпэўненасьці, бо гэта былі першыя ў маёй практыцы кнігі, што пабачылі сьвет у незалежных выдавецтвах.

На падтрымку цяперашняй дзяржаўнай улады

я ўжо даўно не разьлічваю. Дай Бог, каб хоць меней замінала.

Аднак ужо даўно найбольшае натхненьне адчуваю не тады, калі бяру сваю новую кніжку ўва ўласныя рукі, а калі бачу яе ў руках не знаёмага мне чалавека. Прычым не на прэзэнтацыі ці літаратурнай вечарыне, а дзе-небудзь у мэтро ці тралейбусе. Тады, калі чытач знайшоў кніжку, так бы мовіць, самапасам.

…Быў позьні вечар. Пісьменьнік зайшоў у амаль пусты вагон мэтро і ўбачыў дзяўчыну зь ягоным зборнікам апавяданьняў «Каханак яе вялікасьці».

Пісьменьнік страпянуўся, расправіў пёры і прысеў побач з чытачкай.

«А вы ведаеце, гэта мая кніга», — здалёк пачаў ён, кіўнуўшы на зборнік. Дзяўчына спалохана сьцялася й прыціснула кніжку да грудзей. «А вы зірніце, калі ласка, на фота аўтара», — унікліва працягваў пісьменьнік. Але тут цягнік спыніўся, і чытачка, пасьпеўшы на разьвітаньне пакруціць пальцам ля скроні, куляй вылецела на пэрон…

Няхай у аўтара пытаньня і ўва ўсіх маіх калегаўлітаратараў такіх сустрэчаў будзе паболей!

# Зайдзіце ў кветкавую краму

*Упэўнены, што лета 2011 году ня толькі мне, але тысячам з нас будзе горка згадвацца як час сыходу цэлага сузор'я выдатных асобаў, якія будавалі новую Беларусь: Уладзімер Конан, Віталь Сіліцкі, Віталь Скалабан... Пачынаеш гэты жалобны сьпіс, дзе так шмат людзей, што маглі б жыць ды жыць, і сэрца сьціскаецца ад балючага пытаньня: ЧАМУ?*

*Георгі зь Бешанковічаў*

Падзяляючы вашыя боль і скруху, успамінаю цэлыя тыдні, калі вусьцішна было выходзіць у сеціва: амаль кожны дзень гэты сьвет пакідалі знаёмыя, калегі, аднадумцы, тыя, разам з кім працаваў над новымі кнігамі...

У трыццаць шэсьць гадоў спынілася беларускае сэрца Віктара Цемушава, аднаго з найлепшых гістарычных картографаў Эўропы, неверагодна адукаванага, разумнага, далікатнага чалавека. За лічаныя дні да сьмерці ён працягваў рабіць удакладненьні ў мапах, якія стварыў для другой часткі нашай зь Зьмітром Герасімовічам кнігі «Краіна Беларусь». Кожная размова зь Віктарам была выпрабаваньнем, бо, абмяркоўваючы межы Вялікага Княства Літоўскага, я ўсьведамляў, што заўтра ягоная душа ўжо можа спасьцігаць межы ці бязьмежжа нябеснай Беларусі. Віктар і сам ведаў гэта, але спадзяваўся на дзіва і расказваў пра новыя праекты.

Палітолягу, бліскучаму аналітыку і, між іншага, апантанаму футбольнаму заўзятару, Віталю Сіліцкаму назаўсёды засталося трыццаць восем. Колькі гадоў таму, адказваючы на анкету «Што гэта значыць — быць беларусам?», ён напісаў: жыць у Беларусі, размаўляць па-беларуску, дбаць пра Беларусь, любіць Беларусь.

Дзе ён глядзеў гульню БАТЭ з «Барсэлёнай»?

Трыццаць тры гады было Вользе Рамановіч, гісторыку і перакладчыцы, дзякуючы якой загучалі па-беларуску два тамы францускамоўных мэмуараў Міхала Клеафаса Агінскага. Не прапусьціце гэтага выданьня — яшчэ і дзеля зробленых Вольгай грунтоўных і надзвычай цікавых камэнтароў.

Чаму яны сышлі, не адзначыўшы і сарака?

Крыху больш пражылі паэтка Сьвятлана Явар, гісторык і паэт Эдуард Мазько, мастацтвазнаўца Юрась Малаш. Сорак пяць было Васілю Храмцову, ці ня першаму з тых, дзякуючы каму апошнія гадоў пятнаццаць трымалася беларушчына на Полаччыне. Відаць, я і на тым сьвеце згадаю крупнік, які ён варыў на Купальле.

Нашаму выдатнаму архівісту, чалавеку-энцыкляпэдыі Віталю Скалабану, якога Аляксандар Лукашук мэтафарычна-дакладна назваў «шчодрым рыцарам», ня споўнілася і шасьцідзесяці пяці. Хіба гэта старасьць?

Кожны быў непаўторны, а хтосьці і незаменны.

Дык чаму?

Можна пачуць, што зь Беларусі пачаў напоўніцу зьбіраць даніну Чарнобыль. Магчыма. Але такі адказ выглядае занадта простым, калі не сказаць прымітыўным.

Прычыны паморку — каб жа ён улетку і скончыўся! — бачацца глыбейшымі й страшнейшымі. Яны выразна адкрыліся мне падчас працы над кнігаю «Імёны Свабоды».

Не выключаю, што рэчы, якія буду казаць, камусьці пададуцца банальнымі, але пытаньне зададзенае, трэба адказваць.

У выніку сталінскага тэрору, які шмат хто паводле савецкай традыцыі працягвае эўфэмістычна называць рэпрэсіямі, наша нацыянальная інтэлігенцыя, найперш гуманітарыі, была амаль цалкам вынішчаная. І сёньня слой беларускай інтэлігенцыі застаецца вельмі тонкім. А гэта значыць, што даводзіцца ўскладаць на сябе абавязкі й клопаты, прызначаныя не для аднаго чалавека.

За такі цяжар бяруцца перадусім асобы пасіянарныя, надзеленыя не адным талентам, а яшчэ і патрыятызмам, імкненьнем служыць ня толькі абранай навуцы ці сваёй сфэры культуры, але — цэлай краіне. Ня кожнаму дадзена несьці такую ношу доўга.

З гісторыі мы ведаем не аналягічныя (аналягаў нашых стратаў няма), але ў нечым падобныя сытуацыі. Напрыклад — у маладых эўрапейскіх краінах, якія ўзьніклі пасьля Першай усясьветнай вайны. Аднак там вучоныя, пісьменьнікі, мастакі, тэатральныя дзеячы, працуючы на нацыянальную ідэю, на культуру й дзяржаву, мелі прызнаньне і падтрымку гэтай дзяржавы. Улада ўспрымала такіх асобаў як багацьце нацыі, ейны залаты запас.

У цяперашняй «нашай» улады іншыя «залатыя запасы».

Ці варта казаць пра ўжо ледзь не ўсясьветнае лі-

дэрства ў колькасьці «ахоўнікаў парадку» на тысячу (ці ўжо на сотню?) грамадзянаў?

Замест таго згадаю размову з маім колішнім суседам, філёзафам Уладзімерам Конанам — чалавекам, які, нібыта легендарны Гільгамэш, сілаю сваёй заўсёды маладой думкі зь серабранкаўскай кватэры ўздымаўся ў касьмічныя вышыні, вызначаючы адтуль месца Беларусі ў прасторы й гістарычным часе.

Аднойчы, выпіўшы са мною кілішак зусім зямнога напою — айчыннага джыну «Ведрыч» з старых запасаў — і распавёўшы пра вечаровую сустрэчу з прыручанай ім (неверагодная рэч!) гарадзкой куніцай, Уладзімер Міхайлавіч між іншага сказаў, што сяржант спэцназу атрымлівае заробак, большы за ягоны тагачасны прафэсарскі. Паведаміў гэта з гумарам, з тонкай кононаўскай іроніяй. Я ўявіў грамілу, што колькі дзён таму ляцеў на мяне з гумовым друкам у руцэ на вулічнай акцыі, і падумаў, што майго пачуцьця гумару на падтрыманьне зададзенага філёзафам тону можа не хапіць. Для ўлады нязьмерна больш каштоўны быў не мысьляр, аўтар шматлікіх манаграфіяў і тысяч энцыкляпэдычных артыкулаў, а ягоны антыпод з дручком.

Мне ня надта падабаецца карыстацца даволі-такі неакрэсьленым паняткам «народ», ды што паробіш, калі нацыі не даюць канчаткова сфармавацца.

Дык што народ? Ён шануе сваіх творцаў? Прыслухоўваецца да іх? Намагаецца зразумець?

Іду зь Вінцэсем Мудровым па Наваполацку на пахаваньне Васі Храмцова, заходжу ў кветкавую краму. Калі ласка, дзьве белыя хрызантэмы й адну чырвоную. Старэйшая з прадавачак, жанчынка

гадоў на трыццаць пяць, падае замест чырвонай сінюю. Я паўтараю, што трэба чырвоная. Яна кажа: па-беларуску не разумее. Як звычайна ў такіх выпадках, спачуваю: маўляў, ясна, вы мігрантка, нядаўна прыехалі і яшчэ не пасьпелі вывучыць мову краіны, якая дала вам прытулак. Тлумачу, што чырвоная — гэта «красная». Прадавачку неспадзявана ўзрывае: «Никакая я не мигрантка! Я здесь родилась и выросла! А мову вашу не-на-ви-жу!»

Такі вось атрымаўся букет на магілу чалавека, які ўсё жыцьцё паклаў на тое, каб яны, такія жанчынкі, сваю ж мову хаця б разумелі.

Асалютна ўпэўнены, што да нашых велізарных стратаў 2011 году прычынілася й атмасфэра пасьля апошніх прэзыдэнцкіх «выбараў», калі краіна пачала часам успрымацца як суцэльная турма, адно што з рознымі рэжымамі.

Калі нехта думае, што гэтыя радкі піша пэсыміст, ён памыляецца. Мы выдадзім кнігі, якіх не пасьпелі ўбачыць Віктар Цемушаў і Вольга Рамановіч. Мы зробім сэнсацыйныя архіўныя знаходкі, напішам новыя філязофскія трактаты і раманы, што будуць перакладаць на розныя мовы, улучна з каталёнскай, музыка якой мне так падабаецца. Бясспрэчна, шмат каму давядзецца працаваць больш, чым ён можа, і, напэўна, ня так доўга, як хацелася б.

Але «Наша Ніва» пасьля рэфэрэндуму 1995 году абсалютна слушна напісала: «Ня зломіш!».

А што да жанчынкі-«мігранткі»...

Зрабіце экспэрымэнт. Зайдзіце заўтра ў кветкавую краму і папрасіце чырвоных ружаў для каханай або для маці ці жонкі палітвязьня, або для тых, хто ўжо ў вельмі далёкай вандроўцы.

## «Дарогі... Корчмы... Ліра за сьпіною...»

*Якія кнігі вы перачытваеце?*
*Ірына і Лана*

Біблію ў перакладзе Васіля Сёмухі.

«Невыносную лёгкасьць быцьця» Мілана Кундэры.

Трохтомнік Борхэса.

«Майстра і Маргарыту» Міхаіла Булгакава.

Люблю вяртацца да «Маёй Іліяды» Ўладзімера Караткевіча.

Гэты томік паэзіі лічу найлепшай кнігаю нашага клясыка.

Дарэчы, каб перачытаць яе, мне ня трэба здымаць «Іліяду» з паліцы: ад студэнцкіх гадоў амаль усе вершы ведаю на памяць. Яны і цяпер гучаць ува мне:

*Дарогі... Корчмы... Ліра за сьпіною...*

# Пачытаю сябе дарагога

*Ці трэба пісьменьніку час ад часу перачытваць самога сябе?*

*Аўген*

Думаю, што трэба.

Напрыклад, для таго, каб аднойчы зразумець, што раней пісаў лепей і надышоў час, калі не паставіць кропку ўвогуле, дык, прынамсі, на год-два спыніцца.

На жаль, гэта ўдаецца ня ўсім.

# Маё Люхава

*Чытач вашых твораў можа заўважыць, што і ў вершах, і ў прозе ў вас зноў і зноў узьнікае матыў ляснога полацкага возера. Часам гучыць і ягоны назоў — Люхава. Што вас як чалавека і пісьменьніка зьвязвае зь ім? Мо тут хаваецца нейкая таямніца?*

*Палачанка*

Думаю, што ў кожнага з нас ёсьць на сьвеце мясьціна, зь якой адчуваеш асаблівую, патаемную, нават містычную повязь. Чамусьці менавіта туды хочацца зноў і зноў вяртацца. Чамусьці менавіта там адбываюцца нечаканыя й важныя падзеі, сустрэчы, адкрыцьці...

Для мяне такая мясьціна — возера Люхава, якое ледавік некалі пакінуў на нашай зямлі за пару кілямэтраў ад апошніх дамоў сёньняшняга Наваполацку.

За савецкім часам возера афіцыйна перайменавалі ў Маладзёжнае. Чаго толькі тады — ведама ж, заўсёды па просьбах працоўных — не пераназывалі! Хіба што на рэкі рука ў бальшавікоў не паднялася: відаць, адчувалі, што ўсё адно зьнясе плыньню.

Калі я ў 70—80-я гады мінулага стагодзьдзя працаваў у наваполацкай гарадзкой газэце «Химик», за выкарыстаньне старога, не зацьверджанага пастановаю гарвыканкаму назову можна было зарабіць вымову на рэдакцыйнай лятучцы. Вядома, ніводны

жывы чалавек Маладзёжным Люхава ніколі ня зваў, а пачуўшы такі дэбільны назоў зь нечых вуснаў, толькі спачувальна паківаў бы галавой. Ды хопіць пра сьпісаныя на звалку гісторыі савецкія пастановы.

Неверагодным здаецца ўжо само існаваньне такога кутка побач з 100-тысячным горадам ды яго нафтахімічнымі прадпрыемствамі-монстрамі. Хіба ня дзіва — вада, што ніколі не цьвіце, чысты пясок, дваццацімэтровая глыбіня, белыя лілеі ў затоках, шэрыя чаплі?

Але гэта ня проста адкрыты некалі вобраз харaства, які ўсё жыцьцё лучыць зь дзяцінствам. Для мяне Люхава — нешта бясконца большае і даражэйшае.

Ад раньніх гадоў памятаю, як на шляху да возера зусім неістотныя і банальныя, здавалася б, рэчы нечакана набывалі значнасьць і шматмернасьць, ператвараліся ў сымбалі, надоўга ўзбунтоўвалі юную душу.

Мурашнік там, дзе ад дарогі адбягаецца сьцежка...

Зязюлін адлік гадоў...

Позірк акулярыстага вужа, што застыў у зарасьніках ажыны...

Я абсалютна ўпэўнены, што *genius loci* Люхава, яго магнэтычную сілу ў нейкай ступені адчувалі і іншыя.

У маё апошняе школьнае лета, паміж дзявятым і дзясятым клясамі, у горадзе неяк сама сабою нарадзілася традыцыя начных купаньняў. Бязьлюдны азёрны бераг бліжэй да поўначы раптам запаўняла моладзь.

Дзявочы сьмех у цемры, гітарныя пераборы, месяцавая дарожка на ціхай вадзе, вясёлы лямант, зь якім хлопцы з разгону давалі з кладак нырца ў цёмную глыбіню... Гэта адзін з самых яскравых успамінаў, дакладней, — увасабленьняў юнацтва.

Моцную трансцэндэнтальную сувязь з возерам я адчуваю ўсё жыцьцё. Сустрэча зь ім — цэлы рытуал. Трэба памыць твар люхаўскай вадой, павітацца зь сябрамі — двума дубамі (адзін — амаль што мой пагодак), ясенем, вольхай і клёнам, які колькі гадоў таму выцяла маланка, але ён выжыў.

Спынюся, бо такія інтымныя пачуцьці няможна ўціскаць у кароткі адказ. Яны вымагаюць іншага тэксту.

Але скажу, што Люхава — адна з тых рэчаў, што трымаюць мяне на сьвеце. Я канчаткова пераканаўся ў гэтым падчас апэрацыі на сэрцы.

Апэрацыя была няплянавая і наогул экстраардынарная.

Кардыяхірург Алег Паланецкі, пасьля таго як я ў рэанімацыйнай палаце падпісаў патрэбныя дакумэнты, даў мне дзесяць хвілінаў і параіў думаць пра людзей, зь якімі яшчэ хацеў бы спаткацца, і пра мясьціны, што мару зноў убачыць. У «відэароліку», што закруціўся перад унутраным зрокам, адразу замільгаў знаёмы азёрны бераг. Можа, акурат ён і стаўся той кропелькай, што пераважыла шалі і ўтрымала мяне *тут*.

Люхава працягвае дарыць сюжэты, вершы, неспадзяванкі.

Якраз гэтае месца мой знаёмы і колішні калега абраў нядаўна для таго, каб пакаяцца, што ў часы нашага журналісцкага юнацтва стукаў на мяне

ў «органы». «Калі можаш, даруй», — прамовіў ён. Я паглядзеў у вазёрную далеч, і яна адказала: «Даруй».

Прамінулым летам, ідучы на Люхава, я аднойчы злавіў сябе на думцы, што хацеў бы яшчэ гадоў сто хадзіць па гэтай дарозе. Мне зрабілася сьмешна, затым сумна.

Потым я падумаў, што значна раней, чым пройдуць сто гадоў, тут будзе ісьці хтосьці іншы, мо ў нечым крыху падобны да мяне. Я запытаўся, ці супакойвае мяне такая думка. Як ні дзіўна, яна супакойвала. І я палічыў яе сымптомам прыходу мудрасьці.

# Пражыць жыцьцё гадзіньніка

*Скажыце, а як адпачывае пісьменьнік Уладзімер Арлоў? Дзе ён адчувае сябе «як дома»? Што яму трэба для паўнавартаснага адпачынку? Новая краіна, людзі, надвор'е, прырода?*

*Ваша чытачка, якая днямі зьбіраецца ў адпачынак*

Ува мне ёсьць цыганская кроў, а гэта значыць, што я не ўяўляю і наогул жыцьця і, тым больш адпачынку, без вандровак. Уражаньні ад іх — мой найдаражэйшы капітал.

Калега Альбэр Камю дакладна зазначыў, што падарожжа дапамагае нам зноў знайсьці сябе.

Я вельмі люблю падарожнічаць да мора. Хтосьці сказаў, што мора — як першае каханьне.

Упершыню я сустрэўся зь ім на Рыскім паўзмор'і.

У нас быў школьны турыстычны гурток. Вечарамі мы разгружалі на станцыі вагоны, каб улетку паехаць у Рыгу. Кіраўніка гуртка пазьней выкрылі ў крадзяжы большай часткі зробленых намі грошай, але я ўсё адно назаўсёды захаваў да гэтага чалавека пачуцьцё ўдзячнасьці.

Пасьля я сустракаўся зь іншымі морамі — Азоўскім, Чорным, Адрыятычным, Паўночным, падобным да акіяну Міжземным… Здараліся спатканьні і з самім акіянам — Атлянтычным. Але для мяне гэта заўсёды былі розныя іпастасі аднаго

Мора — увасабленьня бясконцасьці й Вечнасьці, зь якой мы прыйшлі і куды вернемся.

Падчас доўгага заплыву пад крымскім Кактэбэлем я ледзьве не вярнуўся туды, у Вечнасьць, заўчасна, бо мэтраў за пяцьсот ад берагу са мной вырашыў бліжэй пазнаёміцца дэльфін. Напэўна, гэтак званай «разумнай жывёліне» не спадабалася, што мая любоў да ягонай роднай стыхіі сягае так далёка. Аднак, нягледзячы на перажыты тады жах, мора па-ранейшаму вабіць.

Я не прыхільнік кожны раз выбіраць новы маршрут вандроўкі. Ёсьць мясьціны, якія хочацца бачыць зноўку і зноўку, якія буду зь цеплынёю згадваць, мабыць, і на тым сьвеце. Лёндан, Прага, Барсэлёна, Львоў, Вільня… Куршаўская каса зь Нідаю ў Літве… У Беларусі — Браслаў, дзе два вольныя дні бываюць вартыя двух тыдняў. Па-за канкурэнцыяй — Полацак, возера Люхава, фатэль у бацькоўскай кватэры, які сястра Тацяна падаравала мне калісьці на дзень нараджэньня. Столькі падарожжаў было на гэтым фатэлі!

Адрозна, відаць, ад большасьці сучасных вандроўнікаў, я ніколі не бяру ў адпачынак фотаапарата ці відэакамэры. Гэтаму пярэчыць пісьменьніцкі інстынкт. Няхай самае істотнае й цікавае выбірае і «фатаграфуе» памяць, якой потым дапамогуць некалькі занатаваных на квітку ці сурвэтцы словаў.

У кагосьці пасьля падарожжаў застаюцца фотаальбомы і фільмы. У мяне — кнігі. Некалі яны складаліся з эсэ: «Божая кароўка зь Пятай авэню», «Адкусі галаву вароне», «Сланы Ганібала». Цяпер прыйшла чарга вершаў. Нядаўна адкрыў для сябе Браціславу. На памяць прывёз верш:

**Музэй гадзіньнікаў у Брацілаве**

*усё геніяльнае проста*
*на карціне ратуша*
*на ратушы гадзіньнік*
*ён насамрэч ідзе*
*паказвае сапраўдны час*
*на гадзіну меней*
*чым у Менску*
*а раптам і ўсё астатняе*
*пачне зараз рухацца*
*дама выйдзе з экіпажу*
*пахолак завабіць кветнярку*
*у густы парк*
*злодзей здабудзе*
*сваё пераменлівае шчасьце*
*выцягнуўшы ў купца з кішэні*
*залаты гадзіньнік*
*які таксама ажыве*
*табе заманецца*
*зьдзейсьніць тэлепартацыю*
*у тую рэчаіснасьць*
*стаць удзельнікам*
*і саўдзельнікам*
*але*
*ня дамай*
*не пахолкам*
*ня злодзеем*
*а — залатым гадзіньнікам*
*пражыць жыцьцё*
*залатога гадзіньніка*
*мусіць атрымацца цікава*
*зрэшты гадзіньнік*

*падобны да чалавека*
*мае складаныя вантробы*
*ідзе*
*сьпяшаецца*
*спазьняецца*
*спыняецца*
*заводзіцца сам*
*вымагае каб яго*
*заводзілі*
*часам разьбіралі*
*глядзелі*
*што там усярэдзіне*
*мянялі шасьцярэньку*
*прыемна думаць што*
*недзе ёсьць майстра які*
*сочыць за тваім мэханізмам*
*зазірае ў гарантыйны квіток*
*вызначае калі ты*
*ўжо ня будзеш*
*падлягаць рамонту*
*каб зрабіць цябе*
*геніяльна дасканалай часткаю*
*пясочнага гадзіньніка*
*які ў суседняй вітрыне*
*яшчэ адлічвае дні*
*твайго недасканалага жыцьця*

Пакуль струменьчык пяску бяжыць, вецер вандраваньняў будзе лашчыць твар, а душу — грэць думка, што дарагія мне мясьціны ня зьнікнуць і потым. Яны будуць памятаць мяне сваёй памяцьцю — ня толькі людзі, але і дрэвы, сьцены, брук… Мы — гэта, урэшце, толькі нечая памяць пра нас.

# Полацкія настрадамусы

*Ці верыце вы ў прадказаньні астролягаў і наогул у здольнасьці рознага кшталту экстрасэнсаў і вядзьмарак?*

*Кацярына*

Вядома, веру. Іначай і быць ня можа, я ж — унук вядзьмаркі. Дакладней, не адной, а адразу дзьвюх.

Сястра маёй бабулі Аўгіньні баба Грыпінка была клясычнай чараўніцаю ўжо сваім абліччам — смуглявая, з пранізьлівымі вачыма, з даўгімі чорнымі з срэбрам валасамі, зь вялікай радзімкаю на шчацэ... Жывучы ў суседняй вёсцы, бабуліаўгіньніны дзьверы яна нязьменна адчыняла акурат у той момант, калі мы, гарадзкія ўнукі, што леталі ў вёсцы, сядалі палуднаваць. Здавалася, проста імгненна пералятала з сваёй хаты цераз поле, валатоўкі і рэчку.

За сталінскім часам Грыпінка ад званка да званка адседзела ў лягерах сем гадоў за знахарства і, напэўна, уратавала ад сьмерці не аднаго «ворага народу».

Яна чытала таўшчэзную, выдадзеную сто гадоў таму кнігу «Чорная магія», умела спыняць кроў, лекавала ня толькі людзей і свойскую жывёлу, але нават яблыні, вішні, агрэст.

Адрозна ад сястры, Аўгіньня ў Сібіры не была і вядзьмарскіх кніг не чытала, бо вучыцца ў школе ёй не пашчасьціла. Аднак стасункі з таемнымі,

але прыязнымі да чалавечага роду сіламі бабуля несумнеўна мела.

Яна заўсёды, без усялякіх тэлефонаў, якіх у вёсцы тады проста не было, дакладна прадказвала, калі прыедуць з гораду тата з мамай. Яна зашэптвала зубы, лекавала ячмень і «каціную драпу», выводзіла з гаспадаркі мышэй. Да мяне і цяпер скрозь столькі гадоў даносіцца ейны ціхі і духмяны — відаць, ад незьлічоных пучкоў зёлак, што сушыліся пад стольлю, — пошапт-замова: «Белае карэньне, чорнае каменьне, сінія берагі…»

Добра памятаю, што яна хацела памерці на самым пачатку лета, калі адцьвітаюць дзьмухаўцы і зямля нібыта мяккая і лёгкая, як іхні пух. Бабуліна сэрца раптоўна спынілася першага чэрвеня.

Астролягам, трэба прызнацца, я давяраю трохі меней, чым бабулям. Аднак сказаць, што зусім ня веру, не магу.

Шырока вядомы цяпер астроляг Павел Глоба, чыімі паслугамі карыстаюцца нават дзяржаўныя мужы, некалькі гадоў таму зрабіў цыкль публікацыяў, якія мне, палачаніну, хочацца назваць сэнсацыйнымі. Іх героем стаўся забыты калега Глобы полацкі зьвяздар (так тады называлі астролягаў) Васіль Нямчын. Зьявіўшыся на сьвет у часы Ягайлы і Вітаўта, недзе ў першай палове XV стагодзьдзя Нямчын напісаў кнігу прароцтваў, якую ягоны сёньняшні брат па прафэсіі Глоба ставіць вышэй за прадказаньні Настрадамуса.

Нямчынава здольнасьць зазіраць у будучыню (зразумела, калі ўсё гэта не таленавітая містыфікацыя) сапраўды ўражвае. Да прыкладу, ён прадбачыў, што праз пяцьсот гадоў пасьля яго нара-

джэньня «ўзьнікне сатанінскае валадарства, храмы будуць разбураныя, сьвятыя кнігі — зьнішчаныя, а сьвятароў пачнуць жыўцом закопваць у зямлю». Напрарочыў ён і кампанію 1812 году, і зьяўленьне ў Расеі цара «двухмэтровага росту з тварам, быццам у ката́», у якім лёгка пазнаць Пятра І.

На беларускай зямлі ў XXI стагодзьдзі Васіль Нямчын убачыў узвышэньне Полацку, Віцебску і Магілева. Прычым калі апошняму адводзіцца роля, кажучы сучаснай моваю, найбуйнейшага эканамічнага цэнтру, дык Полацак і Віцебск павінны стаць цэнтрамі культурнымі і духоўнымі. А магчыма, і сталічнымі гарадамі.

У сьвятле сусьветнай тэндэнцыі пераносу сталіц для мяне гэтае прадказаньне выглядае цалкам верагодным. Вядома, хочацца, каб галоўным горадам краіны стаў якраз наш зь Нямчынам родны Полацак. А чаму б і не? Дзеля пачатку ён першы зь беларускіх гарадоў атрымаў у 2010-м статус культурнай сталіцы Беларусі.

А на заканчэньне прызнаюся, што пэўнымі вядзьмарскімі здольнасьцямі валодаю і сам. Якімі — не скажу, аднак сёе-тое ад бабуляў успадчыў. Не падумайце, што палохаю. Проста папярэджваю.

## «Юшка» Натальлі Арсеньневай

*Спадар Уладзімер, столькі ўжо напісана пра тыя таленты, якія Беларусь «падаравала» іншым народам. Тут і Дамейка, і Дастаеўскі, і Язэп Крашэўскі зь Мікалаем Пржавальскім, і Дзьмітры Шастаковіч з Васілём Качалавым. Сьпіс бясконцы. Няўжо мы толькі аддавалі? Ці ня час ужо напісаць кнігу пра тых, каго мы, вобразна кажучы, перацягнулі да сябе і зрабілі дзеячамі нашай гісторыі і культуры?*

*Цімафей*

Цалкам згодны. Такая кніга даўно патрэбная, і гэта будзе ня тонкая брашура, а важкі том. Апрача ўсяго іншага, шмат каму ён дапаможа ў хвіліны сумневаў і роспачы паверыць ува ўласныя сілы. Бо калі беларуская культура прыцягвае і робіць сваімі прадстаўнікоў іншых народаў, значыць, яна мае будучыню.

Але ў такіх выпадках больш важка за тэарэтызаваньне прагучаць аповеды пра некалькі лёсаў, кожны зь якіх «пацягнуў» бы не на старонку ў выданьні, пра якое мы з вамі пакуль марым, а на цэлую кнігу.

Няхай першаю будзе надзвычай цікавая для мяне асоба Джузэпэ Ахіла Эльміра Банольдзі.

Народжаны ў Барсэлёне ў італійскай тэатральнай сям'і, выхаваны Лязанскай *alma mater*, ён апынуўся ў Вільні і зрабіўся сьпеваком і танцмайстрам,

талентам якога захаплялася ўся Літва-Беларусь. А сам ён захапіўся віленскай атмасфэраю, нашай культурай і мінуўшчынай і зрабіўся перакананым ліцьвінскім патрыётам.

Банольдзі мог бы заможна і камфортна жыць, служачы музам, і ўжо гэтым заслужыў бы добрую памяць. Аднак ён абраў іншае служэньне новай Айчыне і ў 1862 годзе разам з Канстанцінам Каліноўскім і Людвікам Зьвяждоўскім увайшоў у Літоўскі камітэт, што рыхтаваў вызвольнае паўстаньне.

Пазьней былі арышт, уцёкі з камэры ў сутарэньнях Троцкага замку, эміграцыя, барыкады Парыскай камуны, дзе ён сьпяваў ваярам свайго швадрону песьні на словы Яна Чачота, і — сьмерць ад ранаў…

А вось — зусім іншая эпоха, іншы, але ў галоўным, бясспрэчна, падобны шлях.

Карлас Шэрман прыйшоў на сьвет ува ўругвайскай сталіцы Монтэвідэо. Юнак, у жылах якога кроў заходнебеларускага габрэя-эмігранта грымуча зьмяшалася з індзейскай, вучыўся й рэдагаваў газэту ў Буэнас-Айрэсе, змагаўся з аргентынскай дыктатурай Пэрона, а потым вырашыў разам з бацькам вярнуцца ў СССР.

Амаль усе з таго аргентынскага цеплахода, што кінуў якар у Адэсе, праўдамі й няпраўдамі вырваліся з савецкага «раю» назад. Карлас застаўся й падараваў нашай культуры цэлую бібліятэку сваіх перакладаў на беларускую — Лёрка, Гільен, Габрыеля Містраль…

Пасьля перапўвасобленай з Валянцінам Тарасам па-расейску Маркесавай «Восені патрыярха»

Шэрман прымусіў выбітнага калюмбійца загучаць і па-нашаму.

Дзесяць гадоў Карлас кіраваў Беларускім ПЭН-цэнтрам, зрабіўшыся ў той час вядомым у сьвеце праваабаронцам.

Свае мэмуары, названыя «Блуканец», і апошні зборнік вершаў ён напісаў ужо не па-гішпанску, як датуль, а па-беларуску.

А цяпер два жаночыя лёсы.

Віленская немка, дыплямаваная мастацтвазнаўца Юліяна Мэнке робіцца каханай, нарачонай і аднадуміцай «бацькі» нашага Адраджэньня Івана Луцкевіча.

Яна перакладае падчас Першай усясьветнай вайны на перамовах беларускіх дзеячаў зь нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй, якая дазволіла адкрыць першыя беларускія школы, чаго і ўявіць няможна было ў Расейскай імпэрыі. Бярэ ўдзел у стварэньні настаўніцкіх курсаў і Віленскай беларускай гімназіі, у якой потым выкладае нямецкую мову. Сядзіць пры ложку сьмяротна хворага нарачонага, а праз дзесяцігодзьдзі піша прысьвечаную яму сьветлую й мужную кнігу «Мае ўспаміны»…

Я яшчэ памятаю цёплую, зь лёгкім акцэнтам беларускую мову Тамары Цулукідзэ. Шчасьлівая маладосьць вядучай акторкі славутага Тбіліскага тэатру імя Шата Руставэлі. Ролі шэкспіраўскай Афэліі й шылераўскай Амаліі. Велізарныя кошыкі з ружамі пасьля кожнага спэктаклю. У трыццаць гадоў — званьне заслужанай артысткі Грузінскай ССР. Усё перакрэсьлілі арышт і расстрэл мужа. Неўзабаве «чорны воран» прыехаў і па саму жонку «ворага народу».

На пачатку 1950-х, пасьля другога арышту, у краснаярскай высылцы Тамара знаёміцца з таварышам па няшчасьці, беларускім пісьменьнікам Алесем Пальчэўскім…

Гледзячы на іхняе фота, зробленае, калі Тамара і Алесь толькі-толькі ўдыхнулі вольнага паветра, я ня мог пазбыцца думкі, што рэдка бачыў такіх шчасьлівых і, безумоўна, закаханых людзей. Каханьне проста струменіла адтуль, ператвараючы звычайны аматарскі чорна-белы здымак у твор фотамастацтва,варты выставаў і ўзнагародаў.

Тамару Цулукідзэ, якая ўжо была жонкаю Пальчэўскага, пасьля рэабілітацыі, яшчэ ў пяцідзясятыя гады, паклікалі назад у Руставэлеўскі тэатар. Яна тры гады грала на найлепшай грузінскай сцэне галоўныя ролі, ды зрабіла канчатковы выбар і пераехала ў Менск.

Вывучыла беларускую мову настолькі, што пісала на ёй апавяданьні і п’есы для дзяцей, шмат перакладала зь беларускай на грузінскую і наадварот. Але пахавалі спадарыню Тамару паводле запавету ў Тбілісі.

Калі казаць пра расейцаў, якія зрабіліся нашымі, я адразу згадваю народжаную ў Баку Натальлю Арсеньневу. Па матчынай лініі яна паходзіць з роду, што даў Расеі Лермантава.

Спадарыня Натальля распавядала мне, як дзяўчынай ехала зь бежанства ў Вільню, спынілася з бацькамі на начлег у прыдзьвінскай вёсачцы і была зачараваная пачутым ад гаспадыні таямнічым словам «юшка».

Можа, бяз гэтае «юшкі» не было б і паступ-

леньня ў Віленскую беларускую гімназію, і ўсяго астатняга?

А вось барда і журналіста Зьмітра Бартосіка ў дзяцінстве ўзяло ў магічны палон духмянае беларускае слова «ўгнаеньні». Як і Ахіл Банольдзі, Зьміцер зьявіўся на сьвет у тэатральнай сям'і акторкі й рэжысэра. Лёс закінуў іх з сынам, народжаным у далёкім Рыбінску, у наш Гомель, дзе юны расейскі хлопчык Дзіма аднойчы ўмкнуў Беларускае радыё. Адтуль і дыхнула тымі загадкавымі «ўгнаеньнямі»…

«Будзем самі дзьмуць у свае ветразі!» — сказаў нехта з афарыстаў. Будзем! Але хіба акажуцца лішнімі на нашым караблі тыя, каго яшчэ зачаруе Беларусь?

# Дзеці лябірынтаў

*Ці можна лічыць рэальнасьцю падземныя полацкія лябірынты? І, калі яны насамрэч існуюць, ці ёсьць надзея, што іх нарэшце ўдасца знайсьці?*

*Сяргей Салодкі*

Лябірынт — знакавае слова беларускай культуры. Продкі ратавалі ў недаступных чужынцам сховах і матэрыяльныя, і духоўныя скарбы — ня толькі нацыянальныя рэліквіі, але і мову, звычаі, памяць. Сёньняшняя ўлада таксама заганяе нашу культуру ў сутарэньні, асуджаючы найлепшыя яе праявы на напалову легальнае існаваньне.

Сваю фантастычную аповесьць, дзе паказаная беларуская цывілізацыя часоў антычнасьці, схаваная ад захопнікаў у полацкіх лёхах, Вацлаў Ластоўскі невыпадкова назваў «Лябірынты».

Я, палачанін, і сёньня не магу спакойна чытаць гэтыя радкі: «Кажуць, пад Верхнім замкам, за магілай невядомага валадара, ёсьць склады з багацьцямі вялікімі. Кажуць, у абход абшырнай грабніцы, направа, ёсьць мураваны праход, крокаў шэсьцьдзесят даўжыні, і празь яго ўходзіцца ў сховы з старымі кнігамі... Зложаны кнігі ў каваных серабром скрынях, у сярэдзіне абітых скурай. З гэтай кніжні пракавечнай ёсьць ход у скарбец...»

Фантастыка фантастыкай, але наяўнасьць пад

сярэднявечным Полацкам шматлікіх лёхаў — гістарычны факт.

У 1864-м іх дасьледаваў расейскі падарожнік, мастак і археоляг Дзьмітры Струкаў. Складзены ім плян полацкіх падземных хадоў захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага ўнівэрсытэту.

У наступным годзе выдаваны ў Вільні гістарычна-літаратурны часопіс «Вестник Западной России» зьмясьціў нататкі беларускага гісторыка і археоляга Ксэнафонта Гаворскага, прысьвечаныя апісаньню старажытнага полацкага Барысаглебаўскага манастыра. «Паводле пашыранага ў горадзе паданьня, — піша Гаворскі, — пад паўночнай сьцяной царквы Сьв. Параскевы знаходзіліся дзьверы ў падземны ход, пракладзены пад Дзьвіной да Верхняга замку і царквы Сьвятога Спаса...» Далей апавядаецца, што манахі знайшлі гэты ход, але ня здолелі далёка прайсьці па ім, бо задыхаліся ад благога паветра.

У 1920-м, калі полацкае Задзьвіньне было акупаванае польскімі войскамі, падземнымі лябірынтамі зацікавіўся раскватараваны ў горадзе асобы аддзел 15-й бальшавіцкай арміі. Яго займала пытаньне, якім чынам палякі так хутка атрымлівалі церазь Дзьвіну зьвесткі ад сваіх агентаў. З асабістаў і прадстаўнікоў гарадзкой камісіі аховы помнікаў старасьветчыны і мастацтва была створаная пошукавая група, да якой прыкамандзіравалі ўзвод сапёраў.

Высновы дзейнасьці групы неадназначныя. З дакумэнтаў можна, у прыватнасьці, даведацца пра разгалінаваную сыстэму сутарэньняў пад будынкамі кадэцкага корпусу, якія раней належалі Ордэну езуітаў. А таксама пра загад дырэктара корпусу Вауліна: замураваць уваходы ў лёхі, каб спыніць

бясконцыя падземныя экспэдыцыі кадэтаў, што і было зроблена на пачатку XX стагодзьдзя.

Аднак у 1927 годзе ў таямнічыя лябірынты трапляе разам з прыяцелем полацкі падлетак, а ў будучыні — мастак і літаратар Міхаіл Андрэеў. Вось фрагмэнт зь ягоных успамінаў: «Мы доўга блукалі, шукаючы ўваходу ў падзямельле... У адным месцы сустрэлі надпіс аб тым, што тут былі кадэты: прозьвішчы і дата — 1910. І тут!.. Гэта быў калідор з прыкметным нахілам у бок Дзьвіны. Сьцены і столь выкладзеныя чырвонаю цэглай. Падлога земляная, шчыльна ўтрамбаваная. Шырыня лёху — прыблізна 130—140 см, вышыня такая, што да столі можна дастаць рукой. На столі было мноства кажаноў. Мы прайшлі па лёху мэтраў 300—400. Нарэшце дасягнулі таго месца, дзе столь была абрынутая і знаходзілася ў вадзе...»

Праз чвэрць стагодзьдзя мы зь некалькімі сябрамі, узброіўшыся ліхтарыкам і — на выпадак, калі заблукаем — клубком нітак, прайшлі пад зямлёю блізу двухсот крокаў. Далей была вада, у якую плюхнулася некалькі спалоханых жабаў. Яшчэ болей зьлякаліся дзьве нашы бясстрашныя паплечніцы, якім прымроілася, што наперадзе нас сустракае кампанія шкілетаў. Пад іхні дружны віскат — не шкілетаў, а дзяўчатак — мы з годнасьцю адступілі.

Застаецца дадаць, што і тая небясьпечная вандроўка, і росшукі М. Андрэева пачыналіся з сутарэньняў сабору Сьвятога Стэфана (перахрышчанага праваслаўнымі ў Мікалаеўскі), які ў 1964-м савецкія бязбожнікі зруйнавалі.

Археолягі сур’ёзна намерыліся зноў распачаць

пошукі полацкіх лябірынтаў напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Я зьвёў іх з расейскім прадпрымальнікам беларускага паходжаньня Анатолем Сілівончыкам, дарэчы, адным з фундатараў стварэньня вобразу Крыжа сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Анатоль абяцаў прафінансаваць пракат і прывезьці ў Полацак адмысловую японскую тэхніку для вызначэньня падземных пустотаў. Але ў хуткім часе пакручасты жыцьцёвы шлях прывёў гэтую няўрымсьлівую бурапенную асобу на лаву падсудных. Адседка была нядоўгая, ды канкурэнтам і ворагам хапіла часу падкасіць Анатолеў бізнэс...

Хто сёньня адважыцца фундаваць пошукі лябірынтаў? Узнагародаю могуць стаць сэнсацыйныя адкрыцьці. Існуе, дарэчы, вэрсія, згодна зь якой у 1941 годзе на ўсход была вывезеная толькі копія нашае сьвятыні — крыжа, зробленага Лазарам Богшам, арыгінал жа трэба шукаць у тых самых сутарэньнях.

Спадзяюся, што полацкія лябірынты зноў і зноў сьняцца ня толькі мне...

## Хто зь сьвечкай йшоў па гулкіх сутарэньнях?

*Мы зь сябрам паступілі на гістфак Полацкага ўнівэрсытэту і марым ня толькі вывучаць ужо вядомае, але і стаць у нечым першаадкрывальнікамі. Як вы мяркуеце, ці магчымыя сёньня адкрыцьці, датычныя першых вякоў нашай гісторыі?*

*Алесь і Альгерд*

Французскі фізык, матэматык і філёзаф Блэз Паскаль, той самы, які назваў чалавека «чарацінкаю, якая мысьліць», меркаваў, што выпадковае адкрыцьцё можа зрабіць адно падрыхтаваны розум. Дадам ад сябе, што невыпадковае — і пагатоў.

Такім чынам, лічыце, што першы крок вамі ўжо зроблены.

Ну, а што датычыць адкрыцьцяў, дык, з вашага дазволу, засяроджуся на мінулым майго, а, магчыма, і вашага роднага Полацку. Чалавек мусіць імкнуцца ведаць што-небудзь пра ўсё і ўсё пра што-небудзь. Вось я і імкнуся — хоць і ўсьведамляю сваю наіўнасьць — ведаць усё пра полацкую гісторыю.

Апошнімі гадамі кожны палявы сэзон прыносіць больш ці менш значныя адкрыцьці археолягам, што ў поўным сэнсе гэтага слова заглыбляюцца ў даўнія стагодзьдзі патрыярха нашых гарадоў.

Адносна нядаўна Сяргей Тарасаў раскапаў майстэрню старажытнага полацкага ювэліра, дзе

знайшоў і тыглі, і пінцэты, і гіркі, а сярод іншага прычындальля, калі не памыляюся, ажно некалькі сотняў кавалачкаў ужо адштукаванага і «дзікага» бурштыну.

Дарэчы, у палачанак эпохі Рагнеды і Еўфрасіньні бурштынавыя пацеркі былі вельмі папулярныя ня толькі як упрыгожаньне. Лічылася, што яны спрыяюць здароўю і найперш выдатна дапамагаюць ад бяссоньня. Сучасныя беларускі могуць пераканацца ў гэтым, паклаўшы аздобу сабе пад падушку. А мужчынам, якія, каб заснуць, вымушаныя лічыць бяссоннымі начамі сланоў ці авечак, раю браць кавалак бурштыну неапрацаванага. Сам спрабаваў. Хоць найлепей, вядома, абняць уладальніцу пацерак. Таксама рэкамэндую.

Вярнуўшыся да археолягаў, скажу, што ўжо ня першы год уважліва сачу за працаю Дзяніса Дука, дасьледчыка Полацку з новай генэрацыі слугаў Кліё. Асабіста я чакаю ад спадара Дзяніса моцных аргумэнтаў для сваёй прапановы афіцыйна зрабіць Полацак на некалькі стагодзьдзяў старэйшым.

Тут атрымліваецца такая цікавая рэч. Полацак упершыню згадваецца ў летапісах пад 862 годам, Кіеў — пад 860-м. У 1987-м наша першая сталіца безь вялікага розгаласу адзначыла сваё 1125-годзьдзе, а Кіеў з усёй Украінай гучна сьвяткаваў... 1500-я ўгодкі. У мяне і сувэнірны мэдаль з гэтай датаю захаваўся, які заўсёды нагадвае, што і ў нас падставы для такога юбілею ня меншыя: і археалягічныя знаходкі, і згадкі ў ісьляндзкіх сагах...

Але ня трэба думаць, што адкрыцьці, часам сапраўды сэнсацыйныя, хаваюцца ад гісторыкаў выключна ў зямлі.

Вось, да прыкладу, прыяжджае наша дасьледніца Марына Ліньнікава ў Маскоўскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Гартае ў кнігасховішчы рукапіс XVII стагодзьдзя і знаходзіць у ім памылкова прыплецены туды аркуш зусім іншага зьместу. Здавалася б, праміні яго й чытай сабе далей. Ды ў Марыны ад хваляваньня плывуць перад вачыма літары. Ужо ў першым радку — імя вялікага князя Ўсяслава Чарадзея. Дзякуючы гэтай знаходцы нашыя веды пра найславуцейшага з полацкіх уладароў узбагачаюцца адразу на тры сюжэты. Ды якія! Проста сядай і пішы мастацкі твор.

Спачатку невядомы аўтар распавядае, як князь убачыў на месяцы дзівосную праяву, якой ня здолелі разгадаць ні хрысьціянскія сьвятары, ні прыгрэтыя Ўсяславам (што, як вядома зь летапісу, нарадзіўся «от волхвования») паганскія вешчуны-«волхвы». Тады да князя прывялі зьняволенага ў вежы чараўніка Мантыя. Той, натуральна, імкнецца выкарыстаць сытуацыю: «Пакляніся вызваліць мяне, і я супакою адчай твой». Усяслаў Чарадзей прысягае: «Душы тваёй не ўчыню благога». Мантый тлумачыць, што князю пагражаюць ворагі, але іх чакае ганьба і ўцёкі. Усьцешаны князь адпраўляе чараўніка назад у вежу-вязьніцу, а чуючы ягоныя нараканьні, цалкам лягічна адказвае: «Душы тваёй сапраўды не ўчыніў благога, адно целу благое ўчыніў...» Карацей, калі чарадзеяў адразу двое, другога лепей трымаць за кратамі.

Ня надта стасуецца з ідэалістычна-рамантычнымі ўяўленьнямі пра Ўсяслава Брачыславіча і іншая знойдзеная Ліньнікавай гісторыя. Падчас чумнай пошасьці ў Полацку ўзьнікае закалот на

чале з баярынам Вадзілам. Той бярэцца вяртаць старыя звычаі, а менавіта «слугаваньне балванам ды бесаваньне». Змоўнікам-паганцам нават удалося ўзяць кіраўніка дзяржавы ў аблогу ў ягонай рэзыдэнцыі. Перапрашаю, у княскім хораме, які падпалілі вогненнымі стрэламі. Аднак Усяслаў — на тое і Чарадзей! — не разгубіўшыся, таксама зьвярнуўся да старых багоў і патушыў агонь «волхвованием» (sic!).

Дванаццаці ўдзельнікам няўдалага перавароту сьцялі на торжышчы галовы, а іхняга правадыра Вадзілу князь цалкам у духу таго часу «загадаў у кайданы жалезныя закаваць, ды пакласьці драўлянае ярмо на шыю, ды прысудзіў яму вочы рваць і паходнямі паліць...»

Зычу вам, Алесь і Альгерд, уласных адкрыцьцяў. Можа, здолееце ўдакладніць даты жыцьця Францішка Скарыны, бо надакучыла ўжо ставіць побач зь імі пытальнікі.

Можа, адшукаеце бібліятэку Сафійскага сабору?

А раптам унеўміручыце свае імёны, знайшоўшы неацэнны Полацкі летапіс...

Ну, а на дарогу няхай будзе вам верш:

**Ёсьць гарады прыдуманыя Богам**

*ёсьць гарады прыдуманыя Богам*
*ёсьць гарады прыдуманыя д’яблам*
*а хто цябе прыдумаў горад мой?*

*хто сьніў цябе такім якім ніколі*
*ты не прачнесься раніцай туманнай*
*каб у Дзьвіне памыць заспаны твар?*

*што сьнілася табе ў тваіх кашмарах*
*і ў прыцемным бурштынавым бяссоньні*
*і ў сьветлых снах што спавівае сум?*

*хто зь сьвечкай йшоў па гулкіх сутарэньнях*
*палохаючы вусьцішныя цені*
*ўладыкаў звар'яцелых і цароў?*

*хто летапіс твой скраў крывёй паліты*
*хто расьцягнуў тваю бібліятэку*
*зьвёз хто ў чужыну жыватворны крыж?*

*ты прышласьці званіў Сафійскім звонам*
*ты нашым сьніў сябе Ерусалімам*
*ды трэці Рым прызначыў іншы лёс*

*о як мне часам прагнецца ўваскрэснуць*
*у тагасьвеце у які ня веру*
*дзе містыка і тайніцы твае*

*са мной няхай давеку застануцца*
*у вандраваньнях па чыстцы і раі*
*а лепш усё ж па пекле: цікавей...*

*я не ўваскрэсну а вось ты — ўваскрэсьнеш!*

# Плошча вернецца

*Ці згодныя вы з тым, што гістарычныя падзеі вяртаюцца бумэрангам?*
*Тацяна, доктар-кардыёляг*

Згодны.

Гэта адбываецца, калі мэтафарычны бумэранг не дасягае мэты.

Так было з вызвольнымі паўстаньнямі 1794, 1831 і 1863 гадоў.

Калі казаць пра сучасную гісторыю, то і нашая беларуская Плошча будзе вяртацца, будзе паўтарацца, пакуль ня рухне цяперашні рэжым.

## Булачка для Напалеона

*Вашая кніга «Таямніцы полацкай гісторыі» выходзіла ўжо, калі не памыляюся, пяцьцю выданьнямі, але падзеі ў ёй нязьменна завяршаліся сто гадоў таму. Ці не прыйшоў час натхніцца XX стагодзьдзем ды напісаць працяг?*
*Іраклі, Віцебск*

«Таямніцы» — неверагодна дарагая для мяне кніга. Гэта прызнаньне ў любові да гораду, дзе прыйшоў на сьвет і дзе, напэўна, некалі будзе жыць мая душа.

Я ня схільны пераацэньваць вартасьцяў кнігі і выдатна разумею, што ў прафэсійных гісторыкаў да яе можа быць безьліч прэтэнзіяў. Карыстаючыся момантам, хачу сказаць дзякуй аднаму зь іх, Уладзімеру Лобачу, які ў праграме «Пяцікніжжа Свабоды» нагадаў, што «Таямніцы» — не акадэмічная манаграфія, і таму папрокі ў бок аўтара выглядаюць гэтак сама несур'ёзна, як і абвяржэньне ісьціны, што «ад Полацку пачаўся сьвет».

Вы ведаеце, з усяго выдадзенага мной найбольшую пошту атрымалі менавіта «Таямніцы». Калі кніга зьявілася ўпершыню, мы яшчэ ня мелі раскошы карыстацца інтэрнэтам. Сотні тры водгукаў, што прыйшлі адусюль, дзе жывуць палачане альбо іхнія нашчадкі, мелі традыцыйную форму лістоў, а часам і цяжкіх бандэроляў. Я шчасьліва жартаваў, што мне не напісалі толькі пінгвіны з Антарктыды.

Тая пошта павялічыла наступныя выданьні кнігі на сотню новых старонак. Да прыкладу, захаваныя ўнукамі ўспаміны полацкага кадэта Барыса Вержбаловіча дадалі мноства яскравых дэталяў полацкага жыцьця на пачатку мінулага стагодзьдзя. Чаго варты хаця б аповед пра апошняга сьведку напалеонаўскага паходу, амаль стогадовага дзядка на мянушку Напалеон (на іншае імя ён проста не адгукаўся), якому кадэты штораніцы па чарзе аддавалі свой сьняданак — катлету з трохкапеечнай французскай булкай.

У кнізе вы знойдзеце шмат «вылазак» у пазьнейшыя часы, але ейная храналягічная табліца сапраўды сканчваецца 1915 годам, калі ў Полацку зьявіўся першы аўтамабіль і адчынілася беларуская кнігарня, дзе загадчыцай была паэтка Канстанцыя Буйла (памятаеце: «Люблю наш край, старонку гэту...»?).

Між тым у мяне сабралася некалькі прыскрынкаў новых матэрыялаў. Здаецца, іх хутка ўжо можна будзе лічыць на пуды.

Мае будучыя героі ажываюць, бадзяюцца па кватэры, кудысьці (напэўна, у свае эпохі) зносяць кнігі з кабінэту...

Я ўсё часьцей п’ю гарбату з полацкім павятовым маршалкам Людвікам Беліковічам.

Распытваю, як ён у 1834 годзе езьдзіў па Беларусі, зьбіраючы подпісы (sic!) пад пратэстам супроць перасьледу вуніятаў. Сёньняшнім зьбіральнікам аўтографаў «за», «супраць», «у падтрымку» (стаўлюся да ўсіх зь вялікай сымпатыяй і звычайна падпісваюся), магчыма, будзе цікава ведаць, што на дваранскіх выбарах у Віцебску складзены Беліковічам пратэст

падпісалі 172 шляхцічы. Нехта падумае, малавата, але ж радок зь імем і прозьвішчам мог каштаваць судовага працэсу і сэквэстрацыі маёнтку.

Мой іншы госьць, гэтым разам з XVI стагодзьдзя, — нефармальны, як сказалі б цяпер, лідэр полацкай шляхты Зьміцер Корсак — аддае перавагу напоям, мацнейшым за гарбату з малаком. Падазраю, што якраз ён у маю адсутнасьць сядае на вэлятрэнажор і накручвае не мае звычайныя 10 км, а многія дзясяткі міляў.

Энэргія ў пана Зьмітра біла цераз край. Змагаючыся за права полацкай шляхты самой выбіраць ваяводу, а не пакорліва прымаць прызначанага вялікім князем і каралём, Корсак аднойчы сарваў ваяводзкі соймік. А ў 1575 годзе на элекцыйным Сойме Рэчы Паспалітай адзіны з усіх паслоў Вялікага Княства Літоўскага выказаўся за абраньне нашым манархам швэдзкага караля Юхана III...

Натуральна, усё больш вабіць і прамінулае стагодзьдзе. Паэт Алесь Дудар, гартаючы мае «Імёны Свабоды», слушна пытаецца, чаму ў прысьвечанай яму эсэйцы няма згадкі пра тое, як ён кіраваў полацкай акруговай філіяй «Маладняка». Можа, якраз у той час у яго нараджаліся надоўга схаваныя ў спэцсховішчы радкі:

*Ня сьмеем нават гаварыць*
*І думаць без крамлёўскай візы...*

На гэтай пасадзе Дудара зьмяніла асоба таксама пасіянарная і зь ня менш трагічным лёсам — краязнавец Валяр'ян Сянкевіч. У 1925 годзе ён наладзіў у Полацку такое маштабнае сьвяткаваньне

400-годзьдзя беларускага друку, што менскім беларусафобам пачалі сьніцца кашмары, а «Савецкая Беларусь» і «Зьвязда» зь нечай каманды надрукавалі ананімны ліст-данос «белорусса-полочанина».

Вось невялікая цытата: «Белорусизаторы, составив грамматики, хрестоматии, учебники, словари, за два года своей деятельности приобрели капитал, выстроили новые домишки, а бедное забитое население за это время еще более стало малограмотным. Белорусский язык не имеет литературы (ведь нельзя же считать большими литераторами таких письменников как Купала и Колас)…»

Ці не таму заплянаванае на вясну 1926 году адкрыцьцё ў Полацку помніка Францішку Скарыну адтэрмінавалася амаль на паўстагодзьдзя?

Дзякуючы дасьледніцы Натальлі Сергіенцы ў мае рукі нядаўна патрапілі матэрыялы пра крыжовы шлях расстраляных у 1930-я полацкага ксяндза Адольфа Філіпа і арганіста Адольфа Кохана…

Такім чынам, працяг «Таямніцаў» пакрысе набывае рэальныя абрысы. Калі Бог падаруе час, можа, нават зьявіцца другі том.

А тым, хто спрабуе натхніць мяне на «Таямніцы» наваградзкай, віцебскай, гомельскай ці яшчэ якой гісторыі, хачу сказаць: такія кнігі мусяць пісаць людзі, што бегалі па той зямлі босенькія.

## Закаменаваньне сьвятога Стэфана

*Вы ня раз згадвалі трагічны лёс полацкага сабору Сьвятога Стэфана, зруйнаванага ў 1964 годзе. Хацелася б ведаць дэталі. Ці захаваліся дакумэнты пра рабаваньне храму і яго «ліквідацыю»? Радзіма мусіць ведаць сваіх «герояў».*

*Сяргей Царык*

Полацак пабагацеў на гэты выдатны помнік дойлідства ў 1745 годзе. Пабудаваны айцамі-езуітамі ў стылі позьняга барока, храм узьнёс вежы параднага фасаду на 60 мэтраў і запанаваў над старажытным местам. Разам з адноўленай праз пяць гадоў Сафіяй, што была ўзарваная салдатамі Пятра I, сабор Сьвятога Стэфана зрабіўся дамінантай гарадзкога архітэктурнага ляндшафту. Нягледзячы на агромністыя памеры, храм нібыта плаваў над горадам дзівосным каменным галіёнам. Адна зь вежаў мела гадзіньнік з боем, твор віленскага майстра Густава Мудні. Вернікаў уражвалі тры абразы, маляваныя ў Вэроне славутым Сальваторам Розам, асабліва алтарнае «Закаменаваньне першапакутніка Стэфана».

Пасьля таго як у першай траціне XIX стагодзьдзя каляніяльныя расейскія ўлады выгналі з гораду спачатку езуітаў, якія збудавалі храм, а потым і іхніх спадкаемцаў піяраў, у саборы зьявіліся новыя

гаспадары — праваслаўныя. Першым чынам яго перайменавалі ў Мікалаеўскі. Акадэмікі імпэратарскай акадэміі мастацтва Якаўлеў і Васільеў атрымалі выгадную замову на 12 тысяч рублёў — маляваць «истинно православные иконы». Шкодныя каталіцкія пачалі блуканьні па пакутах.

Разьбіраць саборныя арганы ўлады камандзіравалі не абы-каго, а важнага спэцыяліста — кансэрватара заалягічнага кабінэту Віленскай акадэміі магістра Брунэра. (Міжволі згадваецца савецкая показка пра тое, як Васіль Іванавіч марыў пасьля перамогі над «белымі» панабудаваць кансэрваторыяў, каб у пралетарыяў не было праблемаў з кансэрвамі.)

Перахрышчаны сабор спачатку належаў кадэцкаму корпусу, быў гарадзкім катэдральным, а затым зазнаў зьдзекі бальшавіцкіх барбараў. «Па просьбах працоўных палачанаў» яго зачынілі і абезгалосілі — скінулі і адправілі на пераплаўку званы.

Гэта была толькі першая дзея. У сярэдзіне 1930-х сьвятыня займела заклятага ворага ў асобе Леніна — маленькага помніка на высачэзным п’едэстале. Але саборныя вежы ўсё адно заставаліся вышэйшыя за правадыра, з чым бальшавікі зьмірыцца не маглі. Нарадзілася пастанова падкараціць храм, разабраўшы верхнія ярусы званіцаў. Тады ж зьнішчылі і ўнікальны гадзіньнік, які адбіваў буржуйскі час.

Адразу па вайне сабор і прылеглыя старадаўнія будынкі давалі прытулак ці ня ўсім полацкім установам і больш чым сотні сем’яў.

Улады адплацілі сьвятыні чорнай няўдзячнасьцю.

У кастрычніку 1963 году зьявілася падпісанае старшынёй выканкаму Полацкага гарсавету Н. Кляпацкай рашэньне № 328 «О мероприятиях по сносу церкви и правого крыла бывшего кадетского корпуса».

Апошнія хвіліны існаваньня сабору назаўсёды ўрэзаліся ў маю памяць. Ішлі зімовыя школьныя вакацыі, і мы глядзелі стужку пра «нашых» і «немцаў» у кінатэатры «Радзіма». Раптам запалілася сьвятло, і чалавек з ордэнскімі калодачкамі строгім голасам сказаў: «Дети, не бойтесь. Сейчас будем рвать церковь».

Пасьля фільму мы ўбачылі замест храму цыкляпічную закураную крушню. Ужо значна пазьней прыйшло разуменьне, што плошча страціла суладнасьць архітэктурнага ансамблю, а горад — свой гістарычны сылюэт. А тады ў дзіцячых душах проста жыло адчуваньне нечага вусьцішнага і непапраўнага.

Праз шмат гадоў у мэмуарах савецкага дысыдэнта генэрала Грыгарэнкі я прачытаў, што на полацкім саборы Сьвятога Стэфана і на віцебскай царкве Зьвеставаньня XII стагодзьдзя «испытывалась новая передовая технология сноса культовых зданий». Чамусьці ў расейскіх гарадах яе тады не выпрабоўвалі...

Улады выдаткавалі «на разборку развалин и вывоз мусора» 30 тысяч рублёў. Ганаровая грамадзянка гораду Н. Кляпацкая апраўдвалася ў друку, што зьнішчыць сабор яе прымусіла рэспубліканскае начальства. Пэўна, так і было. Дакумэнты сьведчаць, што апошнюю камісію, якая вырашала лёс сьвятыні, узначальваў намесьнік старшыні Са-

вету Міністраў БССР Ул. Каменскі, а ў яе складзе быў старшыня Дзяржбуду рэспублікі, заслужаны будаўнік Беларусі, а неўзабаве народны архітэктар СССР Ул. Кароль.

Але хто змушаў гарсавет узнагароджваць герояў зьнішчэньня сабору таварышаў Карагодзіна і Даўгашэя ганаровымі граматамі, а капітану Шульжэнку абʼяўляць падзяку?

На месцы храму савецкія дойліды паставілі вусьцішны дзевяціпавярховік, вядомы ў Полацку як «дом з вушамі»...

Аднак ужо існуе праект аднаўленьня старадаўняй сьвятыні. Калі ён будзе ўрэчаісьнены, я канчаткова паверу, што ў XXI стагодзьдзі Полацак будзе нашай сталіцай.

# Кастусь або Вікенці?

*Апошнім часам зьявілася шмат публікацыяў, дзе сьцьвярджаецца, што нашага нацыянальнага героя Каліноўскага ў сапраўднасьці звалі не Канстанцінам і, пагатоў, не Кастусём, а — Вікенціем. Дзе тут праўда?*

*Андрэй Белы*

Будучы кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня ў Літве-Беларусі зявіўся на сьвет 2 лютага 1838 году ў вёсцы Мастаўляны Гарадзенскага павету, якая цяпер у Польшчы. Праз чатыры дні хрысьцільная кніга Ялаўскага касьцёлу папоўнілася запісам пра Вікенція Каліноўскага, а 4 красавіка нованароджанага зарэгістравалі ўжо пад двума імёнамі — Вікенці Канстанцін.

Шляхецкія сем'і мелі даўнюю традыцыю часта даваць дзецям некалькі імёнаў.

Да прыкладу, старэйшы брат Каліноўскага быў ахрышчаны як Віктар Отан. Іншага нашага знакамітага суайчыньніка і паўстанцкага правадыра Касьцюшку афіцыйна звалі Андрэй Тадэвуш Банавэнтура. Мала хто ведае, што клясык новай беларускай літаратуры (дарэчы, у маладосьці — таксама інсургент) Францішак Багушэвіч меў яшчэ адно імя — Бенядыкт. Дэпутат расейскай Дзяржаўнай думы ад Менскай губэрні, а затым кіраўнік створанага ў 1917 годзе Беларускага нацыянальнага камітэту Раман Скірмунт у афіцыйных паперах

менаваўся Раманам Мар’янам. Аднак і Касьцюшка, і Багушэвіч, і Скірмунт для заўсёднага карыстаньня абралі, па сутнасьці, адно імя — пэўна ж тое, якое найбольш упадабалі. Пад гэтымі імёнамі мы іх сёньня і ведаем.

Аналягічны выбар зрабіў для сябе і Каліноўскі. Гэтаму ёсьць мноства сьведчаньняў. Пераканацца ў тым, як называў сябе сам наш герой, вы можаце, узяўшы ў рукі том дакумэнтаў і матэрыялаў «Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг.» (М., 1965) і разгарнуўшы яго на старонках 82, 84—88, 159, 160, 167, 271—272 і г. д.

У Гістарычным архіве Літвы захоўваецца сьпіс навучэнцаў Сьвіслацкай гімназіі, дзе фігуруе «Каліноўскі Канстанцін». Шмат разоў згадвае яго пад гэтым імем і ўдзельнік, а пазьней гісторык паўстаньня Аскар Авэйдэ, добра знаёмы з камандзірам беларускіх інсургентаў ад студэнцкіх гадоў. Ува ўспамінах Авэйдэ некалькі разоў піша: «Мой таварыш па ўнівэрсытэце Канстанцін Каліноўскі…»

Што да імя Кастусь, то бацькі, сваякі і бліжэйшыя сябры, мяркую, маглі называць Каліноўскага менавіта так. Ну, хіба што зь нейкімі мадыфікацыямі. Ці, можа, нехта думае, што «Марыська чарнаброва», нарачоная паўстанцкага важака Марыя Ямант клікала яго Вікенціем Канстанцінам?

Вядома, пад казёнымі паперамі чалавек абавязаны быў падпісвацца тым імем, якое зафіксаванае ў мэтрыках. Таму ў шэрагу дакумэнтаў сапраўды сустракаецца імя Вікенці. «Дваранінам Вікенціем Каліноўскім» назвалі правадыра паўстанцаў царскія каты падчас абвяшчэньня яму сьмяротнага прысуду на віленскім Лукіскім пляцы. Дык што,

будзем браць зь іх прыклад і мяняць імя, якое даўно замацаванае і ў энцыкляпэдыях, і ў народнай памяці?

Я магу зразумець, калі гэтым спрабуюць займацца беларусафобы, але што змушае падпяваць ім двух-трох аўтараў, якіх у згаданай фобіі не западозрыш. Далібог, часам здаецца, што маем справу зь нейкім нацыянальным садамазахізмам. Тут міжволі згадваецца іншы яго прыклад. Адзін калега-літаратар з паталягічнай зацятасьцю паўтарае ў сваіх інтэрвію, што беларускія пісьменнікі, маўляў, з жонкамі і каханкамі размаўляюць у ложку па-расейску. Як быццам сам хаваўся ў шафе, альбо стаяў пры ложку зь ліхтаром.

Але вернемся да Кастуся Каліноўскага.

Карыстаючыся момантам, хачу нагадаць пра ня толькі прыкрую, але, я б сказаў, зьняважальную для нацыянальнай годнасьці памылку. Ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў мэмарыяльная пліта, усталяваная на тым месцы ў Вільні, дзе камандзір інсургентаў зрабіў апошні зямны крок, паведамляе, што Каліноўскі нарадзіўся ў 1836 годзе, робячы яго старэйшым на цэлыя два гады. Такія «дробязі» беларускую амбасаду, відавочна, не хвалююць. Трэба нарэшце сказаць сваё слова Таварыству беларускай культуры ў Літве.

Набліжэньне 150-годзьдзя нашага вызвольнага паўстаньня востра вымагае і мэмарыялізацыі месца пахаваньня Каліноўскага на віленскай Замкавай гары.

Ну а на помніку нацыянальнаму герою Беларусі, які некалі абавязкова зьявіцца ў Менску, будзе напісана: «Кастусь Каліноўскі».

## Калі заўтра — канец сьвету

*На пытаньне, што ён будзе рабіць, даведаўшыся, што заўтра — канец сьвету, Марцін Лютэр адказаў, што будзе садзіць яблыні. А што рабілі б вы?*

*Дзяўчынка ў падраных джынсах*

Калі б аднекуль зь нябеснай канцылярыі мне патэлефанавалі пра заўтрашні канец сьвету, я ўзяў бы квіт у Полацак. На радзіму маёй душы. Туды, дзе мае альфа і амэга.

Але, шчыра кажучы, наконт усеагульнага характару канца сьвету я маю вялікія сумневы.

У кожнага з нас — ён свой. Гэта канец нашага існаваньня тут.

Нават калі ў нейкай іпастасі маё існаваньне і працягнецца, усё роўна той сьвет, у якім я цяпер адказваю на вашае пытаньне, скончыцца. Падазраю, што я ўжо не змагу зрабіць сабе ўраньні кубак гарбаты з малаком, не змагу зьняць з паліцы ўлюбёнай кнігі, выпіць келіх чырвонага, абняць жанчыну, паехаць у Полацак...

Зь іншага боку, магчыма, там можна будзе імгненна перанесьціся куды заўгодна. Да прыкладу, у Новую Зэляндыю, куды даўно цягне. Ды гэты вандроўнік усё адно ўжо ня будзе мною...

Рызыкуючы наклікаць на сябе яшчэ большы гнеў артадаксальных вернікаў-хрысьціянаў, разгледжу іншы варыянт. А менавіта веру ў перася-

леньне душаў. Зрэшты, пра гэта лепей прачытаць у маім апавяданьні «Маша і мядзьведзі». У тым, дзе белыя мядзьведзі зьелі ў зьвярынцы расейскую дзяўчынку, пакінуўшы ад яе адны ружовыя майточкі. (Між іншым, я вельмі шкадую Машу, і насамрэч твор гэты зусім не крыважэрны, а вельмі сур'ёзны і глыбокі.)

Дадам хіба што словы Ўмбэрта Эка: «Калі мая душа пераселіцца ў карову, і карова будзе ведаць, што яна — Умбэрта Эка, я згодны. Калі не, лёс той каровы мяне не цікавіць».

Як вядома, наш асабісты канец сьвету залежыць і ад нас саміх. Пра гэта некалі афарыстычна выказаўся Сэнэка: «Дзьверы адчыненыя, можаш пайсьці». Гісторыя і, у прыватнасьці, гісторыя літаратуры, ведае шмат тых, хто з розных прычынаў скарыстаўся ягонай парадаю. Грыгоры Чхарцішвілі, больш вядомы як Барыс Акунін, напісаў на гэтую тэму выдатнае дасьледаваньне «Пісьменьнік і самагубства» — на маю думку, найлепшую сваю кнігу.

Мне здаецца, думка пра самагубства павінна хоць раз прыйсьці да любога чалавека, які не вядзе расьліннага існаваньня. Сказаў бы нават больш: усё чалавецтва ў маім уяўленьні падзяляецца на тых, каго наведвала думка пра самагубства; тых, да каго яна яшчэ завітае; і тых, хто зь ёю так і не сустрэнецца. Апошнім я, дарэчы, ніколі не зайздросьціў.

Нявызнаныя шляхі Гасподнія, як і шляхі чалавечае думкі... Хачу выказаць бязьмежную ўдзячнасьць аўтарцы пытаньня. Яна натхніла мяне на новы верш…

## Кіты

*на бераг выкідаюцца*
*кіты*
*чаго ім не хапае*
*грацыёзным*
*у іх стыхіі?*
*волі?*
*пекнаты?*
*запасу вастрыні*
*сталёвых лёзаў —*
*гнуткіх плаўнікоў*
*што зьведалі*
*і шторм і штыль*
*і сонца і прадоньне?*
*стаміліся*
*як Сальвадор Далі*
*у анфілядах*
*зыркага сутоньня?*
*ці можа проста захацелі*
*тут*
*пераканацца*
*што за Рубіконам?*
*нічога?*
*Вечнасьць?*
*некалькі сэкунд*
*для разьвітальнае размовы*
*з Конам?*

*на бераг выкідаюцца*
*кіты*
*чаго ім не хапае*
*грацыёзным*

*у іх стыхіі?*
*некалі і ты*
*зрабіўшыся героем*
*адыёзным*
*свайго спэктаклю*
*выкінесься ў мора*

*цябе*
*насуплена сустрэне хтось*
*ля вузкай брамы*
*іншае прасторы*
*ён ведае*
*адкуль зьявіўся госьць*

*зьняможаны за доўгія вякі*
*спытаецца з усьмешкай*
*каматознай*
*зірнуўшы у бязьмежжа*
*з-пад рукі*
*чаго вам не хапае*
*адыёзным*
*у той стыхіі?*
*волі?*
*пекнаты?*
*запасу вастрыні*
*сталёвых лёзаў?*

# Дзень герояў будзе выхадны

*Спадар Уладзімер, вось мы і адзначылі 90-годзьдзе Слуцкага збройнага чыну. Як вы лічыце, ці не перабольшваецца значнасьць гэтага паўстаньня для незалежнасьці Беларусі? Ці сказана ўжо пра яго ўся праўда? Магчыма, застаюцца яшчэ нейкія цікавыя факты?*

*Сьвятлана, Любань*

Месяц узброенага змаганьня дзесяці тысяч случакоў пад сьцягамі БНР супроць рэгулярных частак Чырвонай арміі — з шэрагу наймацнейшых контраргумэнтаў у спрэчцы з тымі, хто зь ледзьве не паталягічнай упартасьцю паўтарае, што пры канцы XX стагодзьдзя незалежнасьць звалілася беларусам аднекуль зь неба. Што беларусы за яе не змагаліся, не пакутавалі, а таму нібыта дагэтуль ня ведаюць, што зь ёю рабіць. (Адзін зь нядаўніх прыкладаў такой «упартасьці», якая грунтуецца ў найлепшым разе на няведаньні гісторыі — звонку эфэктны, але насамрэч, дыпляматычна кажучы, недарэчны выступ на адкрыцьці Менскага беларуска-нямецкага форуму аднаго нашага быццам бы дэмакратычнага палітыка. У кагосьці ён выклікаў неразуменьне, у кагосьці — абурэньне, а нехта задаволена пераглянуўся з суседам. Маўляў, а што я табе казаў: самі прызнаюцца, што іхняя незалежнасьць — ня больш чым казус.)

Па-свойму «ацаніла» значнасьць Слуцкага

паўстаньня савецкая ўлада. Амаль усе ягоныя ўдзельнікі, да якіх удалося дацягнуцца крывавым рукам ОГПУ — НКВД, былі фізычна зьнішчаныя. На загад з Масквы партызаны працягвалі ліквідацыю случакоў і тых, хто быў пад іхнім уплывам, і ў гады нямецкай акупацыі.

«Народныя мсьціўцы» з 2-й менскай брыгады (камандзір С. Іваноў) у красавіку 1943 году гераічна расстралялі ў ваколіцах Рудзенску беларускага настаўніка Нічыпара Мяцельскага. Яго абвінавацілі ў сувязях зь лістападаўцамі — удзельнікамі падпольнай антыбальшавіцкай арганізацыі, створанай у 1920-я гады Юркам Лістападам. Жыцьцё самога колішняга паўстанца Лістапада куля ката з чырвонай зоркай на фуражцы абарвала ў 1938 годзе ў сібірскім БАМлагу.

Праўда пра Слуцкі чын, па сутнасьці, толькі цяпер вяртаецца праз дзесяцігодзьдзі замоўчваньня. Сапраўдныя факты ў сьвядомасьці нашых грамадзянаў (нават тых, хто захапляецца мужнасьцю случакоў) па-ранейшаму суіснуюць зь мітамі.

Даводзілася сустракацца, скажам, з думкаю, што случакоў падтрымлівала Польшча. Насамрэч яе войскі адышлі далёка ад тагачаснай мяжы, каб даць бальшавікам магчымасьць душыць збройнае змаганьне беларускіх незалежнікаў і на падуладным палякам абшары.

Яшчэ пара прыкладаў памылковых уяўленьняў пра паўстанцаў.

У некаторых публікацыях да герояў барацьбы з бальшавікамі залічваюць першага камандзіра 1-га Слуцкага палка капітана Паўла Чайку. Між тым засталіся сьведчаньні, што ён спрабаваў перадаць

на савецкі бок пакет з сакрэтнымі дакумэнтамі, за што быў арыштаваны, але здолеў уцячы ўва ўжо заняты саветамі Слуцак.

Кароткае жыцьцё Чайкі хавае ў сабе нейкую таямніцу, бо празь месяц «тройка» асобага аддзелу 16-й арміі прысудзіла капітана да сьмерці ўжо за здраду савецкай уладзе.

Сярод удзельнікаў паўстаньня энцыкляпэдыі называюць старшага афіцэра Беларускай вайсковай камісіі Макара Краўцова. Аднак гісторыкі высьветлілі, што аўтара гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ў шэрагах інсургентаў не было з прычынаў, так бы мовіць, асабістых. (Праўда, і іншых заслугаў Краўцова хапіла для таго, каб у 1939-м савецкія «вызваліцелі» закатавалі яго на допытах у Беластоцкай турме.)

Наогул — калі казаць пра чалавечыя лёсы — у такіх сытуацыях і ў такія часы ўзьнёслае заўсёды мяжуе зь зямным і нізкім, гераізм пульсуе побач з здрадаю, а трагічнае ператвараецца ў камічнае і наадварот.

Тым, хто мае намер грунтоўна ўнікнуць у гісторыю тых падзеяў, хачу найперш параіць кнігу «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах» (2-е дапоўненае выданьне; Мінск, 2006), укладзеную Ўладзімерам Ляхоўскім, Уладзімерам Міхнюком і Аляксандрай Гесь. А таксама — бліскучае дасьледаваньне Ніны Стужынскай «Беларусь мяцежная: З гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву. 20-я гады XX стагодзьдзя». У 2011 годзе нарэшце зьявілася новае выданьне, а першае Беларускі ПЭН-цэнтар адзначыў дзесяць гадоў таму прэміяй імя Францішка Багушэвіча.

Будуць, безумоўна, адгорнутыя і новыя, дагэтуль не вядомыя старонкі змаганьня тых, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына. Здаецца, рука гісторыкаў зь Беларусі яшчэ толькі кранулася адпаведных фондаў Польскага архіву вайсковага. Між тым дэфэнзіва ўважліва адсочвала ўсе пэрыпэтыі нашага імкненьня да незалежнасьці.

Веру, што 27 лістапада — дзень, калі ў 1920-м слуцкія паўстанцы ўпершыню атакавалі чырвонаармейскія часткі, — будзе называцца Днём герояў і ў афіцыйных беларускіх календарах. А другому прэзыдэнту краіны раю выдаць указ, што гэты дзень — ня проста сьвяточны, але і выхадны.

# Куплю сабе выспу

*Ходзяць чуткі, што кожнае лета вы таемна зьяжджаеце на нейкую выспу і там абдумваеце і пішаце новыя кнігі. Можа, прыадкрыеце таямніцу свайго творчага праекту?..*
*Таксама вандроўніца*

Дарагая вандроўніца, вы стварылі амаль ідылічную карціну. Менавіта так мне і хацелася б бавіць большую частку кожнага лета.

Рэчаіснасьць больш празаічная. Але ўжо колькі гадоў я зь сябрамі сапраўды выпраўляюся на пару летніх дзён на якую-небудзь выспу. Магчыма, некалі дабярэмся і да выспаў далёкіх і экзатычных. Уначы нас будуць падпільноўваць тамтэйшыя канібалы, а тых, хто дажыве да раніцы, радасна абудзяць, шпурляючыся какосамі, мясцовыя макакі.

Пакуль жа «нашыя» выспы — родныя, беларускія. Але хачу вам сказаць, што ўражаньняў хапае і без заморскай экзотыкі.

Калі называць гэтыя сяброўскія вандроўкі «праектам», дык, відаць, трэба нарэшце прыдумаць яму назоў. Няхай будзе, да прыкладу, «Архіпэляг».

Натуральна, што мы едзем не на першую-лепшую выспу. Усю зіму абмяркоўваем чарговых кандыдатак, разглядаем мапы, гартаем энцыкляпэдыю «Блакітны скарб Беларусі». Потым адбываецца рэйтынгавае галасаваньне.

«Архіпэляг» пачаўся з выспы на возеры Не-

шчарда. Таго самага, на беразе якога, у Мурагах, нарадзіўся Ян Баршчэўскі. Аўтар кнігі «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданьнях». Сучасьнікі параўноўвалі яе з казкамі «Тысячы і адной ночы».

«Дзядзька мой, досыць заможны шляхціч пан Завальня, — піша Баршчэўскі, — жыў у паўночным і дзікім баку Беларусі. Ягоная сядзіба стаяла ў чароўнай мясьціне. На поўнач паблізу жыльля — Нешчарда, велізарнае возера накшталт марской затокі...»

Скажу вам, што якраз у такіх мясьцінах, што за два стагодзьдзі амаль не зьмяніліся, і нараджаюцца апавяданьні, якія не даюць заснуць начамі. Калі была мая чарга вартаваць наш вандроўны табар, увесь час мроілася: вось зараз прыляціць чарадзейка Белая Сарока. Альбо выйдзе зь цемры чалавек з валасамі, што крычаць на галаве, ці сам некаранаваны кароль чарнакніжнікаў пан Твардоўскі...

Наступнага году выбралі Асьвейскае возера. Адзінае, дарэчы, месца ў Беларусі, дзе можна назіраць прыродную зьяву, вядомую як *fata morgana*. Асьвейскі востраў у нашай краіне самы вялікі — пяць квадратных кілямэтраў.

Гэта цэлы сьвет — стромыя берагі, лес, лугавіны, яры, сажалка... Яблыні і грушы на месцы колішняй вёскі, якую ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя гвалтам перасялілі. (Кажуць, што іначай цяжка было ўсталяваць на высьпе савецкую ўладу.)

Там жывуць зайцы, лісіцы, дзікі, ваўчыная сям’я, якая ўвечары нагадала нам, хто тут гаспадар. Пры вогнішчы пачалі згадвацца сюжэты з «Марсіянскіх

хронікаў» Рэя Брэдбэры. А тут яшчэ і месяцавае зацьменьне...

*Асьвея*
*поўнач на высьпе*
*поўня ў паўнюткім зацьменьні*
*таму й мабільная сувязь*
*зь Вялікай зямлёю маўчыць*

*Асьвея*
*агонь на строме*
*водбліз зьдзічэлага саду*
*нячутна выйдуць з-за яблынь*
*душы былых астраўлянаў...*

Потым была выспа на вушацкіх Чарсьцьвятах. Таксама мясьцінка неверагодна прыгожая і ня менш загадкавая. Мясцовы рыбак Мікола распавёў нам, што на Купальле туды штогод заяўляюцца і скачуць вакол вогнішча «нейкія манашкі». Разам зь імі прыяжджаюць музыкі, якія граюць на дудах так гучна, што ў вёсцы на беразе таксама можна патанчыць. Дык вось плыве Мікола ўначы на лодцы праверыць свой нераток, а тут выходзяць дзьве «манашкі» на бераг, скідаюць усё зь сябе і — да Міколы. Кажа, ледзьве ўцёк. А я яшчэ б падумаў...

Выспа, як і хутар, фармуе ў свайго жыхара непаўторнае сьветабачаньне, сьветаразуменьне й сьветаўяўленьне.

Калі ў Беларусі прымуць закон аб прыватнай уласнасьці на зямлю, абавязкова куплю сабе маленькую выспу.

## Знак СВБ на грудзях у яго

*Кожны, каму не абыякавы лёс краіны, ведае пра Беларускі гуманітарны ліцэй, які, на вялікае шчасьце, уладам не ўдалося зьнішчыць. Даводзілася чуць, што ў 1920-я, у часы беларусізацыі, наш ліцэй меў свайго папярэдніка, прычым з такім самым назовам. Зірнуў у энцыкляпэдыі — нічога не знайшоў. Можа, мы маем справу зь мітам?*

*Бацька ліцэіста*

Гэта ня міт, хоць вучэльні з такім назовам афіцыйна і не існавала. У гады беларусізацыі Беларускім ліцэем часта называлі Менскі беларускі пэдагагічны тэхнікум.

Там сапраўды панаваў дух… Не, не беларусізацыі, у якой почасту прысутнічала значная доля казёншчыны. У сьценах тагачаснага Беларускага ліцэю жыў дух сапраўднага нацыянальнага Адраджэньня.

У тэхнікуме выкладалі Якуб Колас і ягоны дзядзька-акадэмік Язэп Лёсік, палітык, пісьменьнік і самы знакаміты ў рэспубліцы мовазнаўца. Навучэнцам чыталі свае курсы вядомы літаратуразнаўца прафэсар Міхайла Піятуховіч; географ, першы рэдактар часопісу «Наш край» Мікола Азбукін; музыказнаўца і перакладчык Юльлян Дрэйзін, што з арыгіналу пераўвасабляў па-беларуску «Вакханак» Эўрыпіда і «Антыгону» Сафокла…

Крый божа, каб, зьвяртаючыся да выкладчыкаў, нехта сказаў «таварыш». Колас, Азбукін, Піятуховіч дый іншыя былі «дзядзькамі». Пра «дзядзьку Лёсіка» апавядалі, як на лекцыі ў БДУ той адшыў камсамолку, што спрабавала выкрываць вучонага і аднаго з «бацькоў» БНР у нацыяналістычных памылках. Маўляў, не надае ўвагі падабенству беларускай мовы зь «великим и могучим русским языком». Мэтар адказаў, што студэнты Беларускага ўнівэрсытэту мусяць вывучаць не падабенствы, а саму родную мову. І дадаў: «Бо жывем мы ў Беларусі, а не на нейкім Марсе».

Такія выкладчыкі мелі ўдзячных і годных вучняў. Пра Белпэдтэхнікум казалі як пра гадавальнік талентаў для будучыні айчыннага прыгожага пісьменства. Спрачацца не выпадала, бо ў аўдыторыях то канспэкты, а то і новыя творы пісалі Лукаш Калюга, Паўлюк Трус, Антон Адамовіч, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Алесь Якімовіч, Валеры Маракоў, Сяргей Дарожны, Рыгор Крушына… Яны заглядаліся на юных літаратарак Натальлю Вішнеўскую і Зінаіду Бандарыну. Свае першыя вершы перад Коласам і Купалам, якія таксама часта завітвалі ў ліцэй, чытаў юны Ўладзімер Дудзіцкі. У тэхнікуме існавала студыя літаратурнага аб’яднаньня «Маладняк», віравалі дыспуты і канфэрэнцыі.

Шмат можна казаць пра безаглядную сьмеласьць тагачасных «ліцэістаў» ня толькі ў літаратурных экспэрымэнтах, пра жарты і выбрыкі, што ў тых умовах нагадвалі гульню з агнём.

Тады існавала такая арганізацыя — Саюз ваяўнічых бязбожнікаў, або, скарочана, як было напісана на значку, СВБ. Нехта прыдумаў інакшую

расшыфроўку — Саюз вызваленьня Беларусі. А значок дзеля «кансьпірацыі» трэба было насіць не на штрыфлі пінжака, а пад штрыфлем. Падобныя дурніцы маглі паслужыць службу і ўсёмагутнаму ОГПУ, хоць там хапала і сваіх «вынаходнікаў».

Менская атмасфэра набрыньвала трывогай і прадчуваньнем трагедыі. Былы «ліцэіст» Валеры Маракоў сказаў пра гэта так:

*Шчасьлівы я, што тут жыву,*
*Й за гэты край вясной вялікай,*
*Быць можа, зьнімуць галаву,*
*Праколюць сэрца вострай пікай…*

У хуткім часе колішнія навучэнцы ўжо займаліся расшыфроўваньнем бальшавіцкіх скаротаў у менш камфартабэльных умовах. Да прыкладу, у «амэрыканцы» — камэры менскай турмы НКВД, дзе група зусім юных «нацдэмаў» разгадала абрэвіятуру БССР як Будуем Самі Сваё Рабства.

У крывавых жорнах сталінскага тэрору загінулі і «дзядзька Лёсік», якога ў 1930-м узялі адным зь першых, і Мікола Азбукін, і Міхайла Піятуховіч… Той самы лёс быў накаваны і многім іхнім вучням. У дваццаць восем гадоў расстралялі Маракова і Калюгу. У трыццаць чатыры загінуў за гулагаўскім дротам, будуючы Камсамольск-на-Амуры, Сяргей Дарожны. Пра лёс прыгажуні Натальлі Вішнеўскай можна напісаць авантурны раман.

Уволю пакаштавалі турэмных і лягерных паек гадаванцы таго Беларускага ліцэю Антон Адамовіч, Рыгор Крушына і Ўладзімер Дудзіцкі, якія пасьля Другой усясьветнай вайны апынуліся на Захадзе.

Выдатны літаратуразнаўца Адамовіч рэдагаваў на эміграцыі газэту «Бацькаўшчына», часопісы «Сакавік» і «Конадні». Быў адным з стваральнікаў Мюнхэнскага інстытуту вывучэньня СССР і Беларускай службы Радыё Свабода. Разам зь ім на радыё працавалі і Дудзіцкі з Крушынам, якія ўжо на чужыне зьдзейсьніліся як паэты. Крушына, дарэчы, стаў першым беларускім літаратарам, прынятым у Міжнародны ПЭН-клюб.

Гісторыя мае ўласьцівасьць паўтарацца. Паміж двума беларускімі ліцэямі нескладана знайсьці аналёгіі. На шчасьце, яны будуць толькі пэўныя, але ня поўныя.

Хтосьці з выхаванцаў Беларускага гуманітарнага ліцэю, магчыма, напіша дасьледаваньне, прысьвечанае Белпэдтэхнікуму, пра які сапраўды пакуль што няма ніводнага, нават караценькага, артыкулу ў айчынных энцыкляпэдыях. Дый чаго там толькі няма!

Зьменіцца ўлада — будзем выдаваць новыя энцыкляпэдыі.

# За высокімі гарамі, за глыбокімі марамі

*Якім вам бачыцца месца сучаснай беларускай літаратуры на радзіме і ў сьвеце?*
*Віктар Кіслы*

Адважваюся сьцьвярджаць, што наша літаратура сёньня — адна з найцікавейшых у Эўропе.

Думка не зусім мая. Пра гэта ня раз пісалі ў рэдакцыйных прадмовах замежныя выданьні, якія аддавалі свае старонкі пісьменьнікам зь Беларусі. Прычым, гаворка ішла пра цікавасьць ня толькі і ня столькі з прычыны сытуацыі, у якой беларуская літаратура ствараецца, а з прычыны сапраўды эўрапейскага роўню яе найлепшых праяваў.

Ды парадокс у тым, што Эўропа па-ранейшаму пра тое, аб чым мы гаворым, і не здагадваецца або ў сілу старых стэрэатыпаў і ведаць ня хоча. Адзін знаёмы бэрлінец неяк прызнаўся, што для большыні ягоных суайчыньнікаў (з улікам колішняй ГДР) эўрапейскі сьвет усё адно канчаецца за Одэрам.

Ужо ў XXI стагодзьдзі ў Польшчы выйшла анталёгія сучаснага беларускага апавяданьня. Кніга называецца «Беларусь — краіна, аточаная высокімі гарамі». Такі твор у зборніку адсутнічае, мэтафарычна-іранічны назоў дало само выдавецтва. Калі Беларусь далёкая для палякаў, дык што ўжо казаць пра немцаў ці французаў! Ды мы з нашай літаратурай для іх — ня толькі за высокімі гарамі, а яшчэ й за глыбокімі марамі.

Але, можа, вінаватыя не адно забабоны й стэрэатыпы? Амаль ува ўсіх дэмакратычных краінах кантынэнту існуюць структуры, якія займаюцца «прасоўваньнем» нацыянальных культураў і літаратур. Інстытут Гётэ, Славацкі, Швэдзкі, Польскі інстытуты... Два апошнія, да прыкладу, разам з амбасадамі сваіх краінаў нядаўна правялі ў Менску бліскучыя прэзэнтацыі беларускіх перакладаў раманаў ці не найбольш чытанага ў сёньняшняй Швэцыі празаіка Мікаэля Ніемі «Папулярная музыка зь Вітулы» і знакамітай полькі Вольгі Такарчук «Правек ды іншыя часы».

Камусьці, магчыма, мроіцца, што нешта кшталту Беларускага інстытуту створанае за гады незалежнасьці і ў нас. На пачатку 1990-х спадзяваньні на гэта даваў Навукова-асьветны цэнтар імя Францішка Скарыны, які ачольваў Адам Мальдзіс. Аднак зьмянілася ўлада, і пасьля некалькіх рэарганізацыяў цэнтар ціха кануў у Лету.

А, можа, функцыі будучага Беларускага інстытуту, пакуль ён народзіцца, бяруць на сябе амбасады? Знаходзяць час і сродкі знаёміць краіны сваёй дысьлякацыі з роднай літаратурай, запрашаюць пісьменьнікаў, ладзяць сэмінары перакладчыкаў?.. Калі такая дзейнасьць і мае месца, яна адбываецца ў глухім падпольлі, зь якога аніякіх сыгналаў не далятае. Затое вядома шмат прыкладаў, калі прадстаўнікі дыпляматычных установаў РБ альбо, на ўсялякі выпадак, на выступы нашых літаратараў за мяжой проста не зьяўляюцца, альбо прыходзяць, каб, сьціпла зьліўшыся з публікай сядзець у кутку з умкнутым дыктафонам ці разгорнутым нататнікам.

Другі, яшчэ больш сумны парадокс палягае ў тым, што сучасная беларуская літаратура ў выніку «культурнай палітыкі» цяперашняй улады ўсё больш ператвараецца ў *terra incognita* для саміх беларусаў. Дзяржаўныя тэлеканалы дзесяць гадоў у лепшым разе маўчалі пра нобэлеўскага намінанта Васіля Быкава. Пасьля кастрыраваных сюжэтаў пра яго ўсенароднае пахаваньне маўчаньне працягваецца. Можа, яно прывядзе да ўрачыстага вылучэньня на Нобэля генэрала Чаргінца?

А калі вы апошні раз бачылі на экранах народных паэтаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча?

Аднойчы мы з Уладзімерам Някляевым хадзілі на прыём да старшыні Менскага гарсавету з патрабаваньнем надаць адной з сталічных вуліц імя Васіля Быкава. У прыёмны час пасьля пэўнай чыноўніцкай мітусьні замест старшыні нас сустрэлі два падцягнутыя й накачаныя нібыта старшынёвы памочнікі. Яны адразу прапанавалі напісаць абгрунтаваньне прапановы (за якую, нагадаю, было сабрана 100 тысяч подпісаў). Што ім пісаць?

А, вяртаючыся да месца беларускага прыгожага пісьменства ў сьвеце, скажу, што ў Польшчы нядаўна выйшаў раман Наталкі Бабінай «Рыбін горад», у Нямеччыне — «Сарока на шыбеніцы» Альгерда Бахарэвіча, у Швэцыі — «Плошча» Барыса Пятровіча і «Горад Сонца» Артура Клінава... І першую міжнародную Гданьскую паэтычную прэмію «Эўрапейскі паэт свабоды» атрымалі мы.

Прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру Андрэй Хадановіч мяркуе, што нобэлеўскага ляўрэата мы атрымаем ужо пры нашым жыцьці. А я прадказваю, што ў гэтым стагодзьдзі ляўрэатаў будзе некалькі.

# Трансвэстыт Вова Арлоў

*Ці можна верыць размовам пра тое, што ў юнацтве вы былі трансвэстытам і нават — страшна сказаць! — марылі стаць дзяўчынай?*
*Славамір*

Гэта страшная праўда.

Толькі гаворка ідзе пра вельмі раньняе юнацтва.

Мне было тры зь нечым гады, калі мой пільны мужчынскі позірк спыніўся на дачцэ суседзяў, старэйшай за мяне на некалькі месяцаў Людачцы. Не наважуся назваць мае пачуцьці першым каханьнем, а вось слова «закаханасьць» выкарыстаць рызыкну.

Хоць я, магчыма, і быў хлопчык не па гадах раньні, але што рабіць зь дзяўчаткамі, якія табе падабаюцца, яшчэ ня ведаў. У выніку закаханасьць сублімавалася ў імкненьне пераўвасобіцца ў сам яе аб'ект.

Я браў у мамы хустачку, павязваў ёю сваю кучаравую галоўку, падыходзіў да люстэрка і шчасьліва, быццам на нейкай урачыстасьці, абвяшчаў: «Людачка!» Цікава, што бачыць сапраўдную Людачку цяпер ужо было абсалютна неабавязкова. (Да аднаго з аднайменных школьных каханьняў, Людачкі Цімафеевай, заставаліся доўгія гады.)

Але далей справа не пайшла — не было ні сукеначак, ні спаднічак, ні банцікаў. Выключна хустачка. Зь мяне атрымаўся трансвэстыт-мінімаліст.

Бацькі згадвалі, што той пэрыяд майго жыцьця доўжыўся цэлае лета.

Увосень я пасталеў, пасуравеў і разьвітаўся зь першай закаханасьцю. Прыйшоў час выбіраць справу жыцьця.

Неўзабаве я быў ужо апантаны мараю зрабіцца ня Людачкай, а вадалазам. Я круціўся вакол мужных людзей, што апускаліся ў дзьвінскія глыбіні, і ўяўляў, як вырасту і таксама буду ад раніцы шукаць на дне тапельцаў, а потым расьсьцілаць на беразе мясцовую газэціну «Сцяг камунізму» (я ўжо ведаў літары), ставіць на яе пляшку, жаваць сала зь зялёным хвастом цыбулі, а пасьля заводзіць улюбёную песьню вадалазаў з пакуль што загадкавымі словамі: «Пара-па-бабам, пара-па-бабам…»

Наступная мара была зьвязаная зь людзьмі іншай гераічнай прафэсіі. Я нават навучыўся вымаўляць яе назоў без памылак — патолягаанатам. Ім быў мой надзейны старэйшы сябра, наш сусед дзядзька Жэня, найлепшы партнэр па гульні ў жаўнерыкаў і хованкі. Моцны пах розных адэкалёнаў, што заўсёды струменіў ад дзядзькі Жэні, наводзіў на думку, што якраз там, дзе ён працуе, тыя духмяныя рэчы і вырабляюць.

Праз шмат гадоў, калі я ўжо буду збольшага ведаць, што гэта за спэцыяльнасьць, адзін зь яе прадстаўнікоў ці то жартам, ці то цалкам паважна распавядзе мне, як цяпер перад пахаваньнем, не давяраючы патолягаанатамам, сваякі нярэдка кладуць нябожчыку ў кішэню мабільнік (альбо, як вучыць нас паэт Леанід Дранько-Майсюк, «далькажык») зь перадаплатай, каб у выпадку чаго можна было пазваніць ці паслаць эсэмэску.

А ў тагачасным жыцьці, як пераконвалі радыё і першыя чорна-белыя тэлевізары, заўсёды знаходзілася месца подзьвігу. Мне хацелася зьдзейсьніць яго ў якасьці шпіёна. Тады яшчэ савецкага. Зрэшты, пра гэта лепей прачытаць у маім апавяданьні, якое так і называецца «Я марыў стаць шпіёнам».

Перапрашаю, што, нібыта апраўдваючыся, далёка адхіліўся ад тэмы.

Пазьней за маленства рэцыдываў трансвэстызму за мною, здаецца, не заўважалася.

Даруйце, хлушу: у піянэрскім летніку мы, хлопчыкі, аднойчы скралі ў дзяўчатак купальнікі. Уявіце сабе, як раптам дваццаць бэйбусаў зьявіліся на беразе возера ў дзявочых пляжных апранашках.

Далёкім водгульлем тых дзіцячых недаразьвітых схільнасьцяў і мрояў трэба, напэўна, лічыць мой намер у наступным жыцьці пабыць жанчынаю. Усё ж цікава, што яны адчуваюць…

# Маркес з намі

*Спадар Уладзімер, ці чыталі вы «Разьвітальны ліст» Габрыеля Гарсія Маркеса? А што б хацелі напісаць у такім лісьце самі? Дай божа, каб гэта здарылася вельмі ня хутка!*

*Спадарыня Зоя*

Магчыма, ня ўсе ведаюць, што гаворка ідзе пра ліст, які Маркес нібыта напісаў, пачуўшы свой анкалягічны дыягназ. У 1999-м мэдыкі дыягнаставалі ў выбітнага калюмбійца рак лімфы і далі ня больш як год на завяршэньне зямных клопатаў.

Ліст прыйшоў і майму знаёмаму Карласу Шэрману, дзякуючы якому героі Гарсія Маркеса загаварылі і па-беларуску.

Тая старонка тэксту ўспрымалася як разьвітаньне зь сябрамі, калегамі, перакладчыкамі. Фрагмэнты толькі што атрыманага пасланьня Карлас чытаў, калі мы зь ім разам выступалі ў Полацку. Памятаю, мяне расхваляваў ня сам ліст, а сумная навіна, што дні аднаго з улюбёных пісьменьнікаў — зьлічаныя.

Але лёсу было заўгодна, каб стваральніку «Ста гадоў адзіноты» выпала шчасьлівая й доўгая адтэрміноўка. Ужо даўно няма на гэтым сьвеце Шэрмана, а пісьменьнік, прысуджаючы прэмію якому, Нобэлеўскі камітэт, на маю думку, зрабіў абсалютна бездакорны выбар, па-ранейшаму сярод нас.

А тады Шэрман даў мне ксэракопію ліста. Раз-

пораз перачытваючы яе, я заўсёды адчуваў пэўную няёмкасьць. Аднак думаў, што аўтары геніяльных раманаў не абавязаныя пісаць геніяльных лістоў. Няхай сабе і апошніх.

Скарыстаўшыся з таго, што «Разьвітальны ліст» гуляе ў інтэрнэце, перачытаў яго нанова. Аўтар часам кранае, уздымаецца да філязофіі й паэзіі, але ўсё забівае велягурыстасьць, якая бясконца парушае мяжу з банальнасьцю.

*«Я зразумеў, што чалавек мае права глядзець на іншага звысоку толькі тады, калі дапамагае яму падняцца…»*

Ну што тут сказаць?.. Амаль афарыстычна.

*«Я не пражыў бы ніводнага дня, не сказаўшы людзям, якіх я люблю, што я іх люблю…»*

Мне здаецца, што ад бясконцага паўтарэньня такія словы, як «люблю», страшэнна дэвальвуюцца.

*«Я паліў бы сьлязьмі ружы, каб адчуць боль іхніх шыпоў і пунсовы пацалунак іхніх пялёсткаў…»*

Пакіну без камэнтароў.

Але ж, сябры мае, можа, ня ўсім вядома, што Маркес абвергнуў сваё аўтарства «разьвітаньня» і нават назваў яго «банальнай пошласьцю». Ужо даўно тэкст прыпісваецца іншым літаратарам, сярод якіх, да прыкладу, Паўлу Каэлью.

Да Каэлью сапраўды падобна, хоць Карлас Шэрман, памятаецца, быў да скону дзён упэўнены, што гэта не містыфікацыя.

Наш мэтар перакладу казаў, што Бог спачатку, мабыць, недагледзеў, а потым выправіўся, даўшы Маркесу час на новыя шэдэўры.

Я далёкі ад якіх-колечы катэгарычных высноваў і

недарэчных параўнаньняў, ды, мабыць, усё ж лепей, калі літаратары пакідаюць не разьвітальныя лісты, а — ведаючы пра блізкі сыход — разьвітальныя кнігі. Як зрабіў наш Яўген Будзінас.

Ня кожнаму дадзена ведаць, колькі яму засталося.

Баюся банальнасьцяў, а таму — апынуўшыся ў сытуацыі, калі *ведаеш*, — напісаў бы не разьвітальны зварот да многіх, а некалькі лістоў да блізкіх людзей. Прычым не карыстаўся б электроннай поштай.

Прыкладам для мяне назаўсёды застанецца мастацтвазнаўца й мастак Міхась Раманюк, які, пачуўшы, што яму засталося некалькі тыдняў, а можа, і дзён, сядзеў на паштамце й падпісваў апошнія лісты.

Вядома, хочацца, каб дарагія мне людзі атрымалі такія лісты яшчэ ня хутка.

## Ці будзе ў кіраўніка Беларусі жаночае імя?

*Як вядома, вы ня толькі пішаце кніжкі, але і займаецеся гістарычнай мітатворчасьцю. Цяпер вас зноў заносіць — культывуеце міт, нібыта ў нашай гісторыі нейкую асаблівую ролю адыгралі жанчыны. Ды ўсюды роля ў іх была, канечне, надзвычай важная, але прыкладна аднолькавая: нараджаць дзяцей, захоўваць сямейнае гняздо. А выключэньні бывалі ўва ўсіх народаў. У нас — Еўфрасіньня Полацкая, у французаў — Жанна д'Арк. (Я, зразумела, ня ўлічваю XX стагодзьдзя з эмансыпацыяй і фэмінізацыяй ды наш час з цэлай плеядай жанчын-прэзыдэнтак.) Дык навошта вам гэтыя міты?*

*Л. Борскі*

Буду стаяць на сваім. Гістарычныя заслугі нашых жанчын, скажам так, большыя за сярэднеэўрапейскія.

Хіба міт — тое, што Рагнеда выратавала княскую дынастыю Рагвалодавічаў, якая потым больш за два вякі адстойвала незалежнасьць Полацку ад Кіева, раднілася зь бізантыйскімі імпэратарамі ды дацкімі каралямі? Хто ведае, ці была б сёньня Беларусь на палітычнай мапе сьвету, каб у тую, захаваную летапісамі ноч Рагнеда не ўзяла б у рукі меч, каб адпомсьціць князю Ўладзіміру за спалены родны горад і выразаную сям'ю?

Калі вы згадалі Еўфрасіньню, паспрабуйце назваць у эўрапейскай гісторыі XII стагодзьдзя іншых асьветніц такога ж маштабу.

Законы Вялікага Княства Літоўскага стаялі на варце маёмасных і спадчынных правоў жанчын, што таксама абумовіла іхнюю вагу ў тагачасным грамадзтве, якую нават немагчыма параўноўваць з становішчам прыдушаных «Дамастроем» жыхарак Масковіі.

Нашыя жанчыны і Радзіму бараніць умелі. Як, скажам, Настасься Слуцкая, хоць гэтая асоба сапраўды даволі міталягізаваная (праўда, абсалютна без майго ўдзелу). Альбо як адна з кіраўнікоў (ці, лепей сказаць, кіраўніц?) вызвольнага паўстаньня 1831 году Эмілія Плятэр, што стварыла аддзел з трохсот стралкоў, шасьцідзесяці коньнікаў і некалькіх сотняў касінераў і, пераапрануўшыся ў мужчынскае адзеньне, павяла іх на Дынабург-Дзьвінск. Эмілію называлі нашай ліцьвінскай Жаннаю д'Арк, а на яе сьмерць адгукнуліся дзясяткі эўрапейскіх паэтаў ад Ангельшчыны да Італіі.

Нашы жанчыны засноўвалі тэатры, як Уршуля Францішка Радзівіл.

Стваралі першыя мануфактуры, як іншая прадстаўніца гэтай фаміліі Ганна Кацярына.

Былі ў ліку першых літаратурных клясыкаў, стваральнікаў першых палітычных партыяў, арганізатараў першага нацыянальнага зьезду, міністраў першага незалежніцкага ўраду, як Цётка й Палута Бадунова.

Станавіліся для ўсёй краіны бясспрэчнымі маральнымі аўтарытэтамі, як Ларыса Геніюш і Ніна Мацяш.

Давалі й даюць узор служэньня Беларусі на эміграцыі, як незабыўная Зора Кіпель, як Ала Орса-Рамана, як старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла…

Урэшце, чаму так сталася? Можа, нашым мужчынам цягам стагодзьдзяў хранічна не хапала нейкіх якасьцяў, і, усьведамляючы гэта, яны давалі сваім «палавінам» большую прастору для разгарненьня? А мо рэч у тым, што беларускія жанчыны — самыя прыгожыя? Едзеш, бывае, у мэтро на эскалятары, глядзіш на сустрэчны і думаеш: няўжо недзе побач скончыўся конкурс прыгажосьці?

Мой добры знаёмы і калега, пісьменьнік з Таронта Кастусь Акула, які пабачыў шмат краінаў і жанчын, калісьці сказаў мне, што ў Эўропе нашы — дакладна на першым месцы, а ў сьвеце — на другім, пасьля філіпінак. Ня ведаю, ня быў.

Можаце і наступныя словы лічыць мітатворчасьцю. Але я ўсё адно мару пра час, калі ў прэзыдэнта Беларусі будзе жаночае імя.

Кандыдаткі падрастаюць…

# Воля, Венера, Вяргіня...

*Да вас зьвяртаецца маладая беларуская сям'я. Хутка ў нас народзіцца дзяўчынка, і мы пачалі ўжо выбіраць ёй імя. Скажыце, калі ласка, якія вашы ўлюбёныя жаночыя імёны?*

*Сьвятлана й Ігар*

Каб мне давялося выбіраць імёны для сваёй дачкі (імя было б падвойнае), я, напэўна, як каштоўныя каменьчыкі, перабіраў бы вось гэтыя:

Адэля, Акуліна (згадайце, у якога геніяльнага паэта так звалі маму?), Ала, Алаіза (мо стане літаратаркай — імя ж нярэдка прагназуе лёс), Алена, Алеся, Аліна, Альбіна, Альдона (так клікалі дачку вялікага князя Гедзіміна), Альжбэта, Аляксандра, Амелія, Анжэла, Антаніна, Анэля, Апалёнія, Апалінарыя, Арына, Аўгусьціна, Аўрэлія...

Багдана, Багуміла, Багуслава, Бажэна, Барбара, Берагіня, Браніслава...

Валерыя, Вальжына, Валянціна, Васіліна, Вера (гэта ж будзе і Верка, і Верачка, і Верунка, іВаруся, і Верця, а калі спатрэбіцца, дык і Верціхвостка...), Вераніка, Вікторыя, Віта, Віялета, Вольга, Воля, Венера, Вяргіня...

Габрыеля, Галіна, Ганна («Як яе клікалі? Аня... Ганулечка... Ганна...» — нясьціпла цытую ўласны верш), Гражына (ёй будуць прысьвячаць паэмы), Граніслава, Гэля...

Дабрадзея (легендарная дачка князя Ўсяслава

Брачыславіча), Дабрыяна, Даміціка, Данута (сама будзе аўтаркаю паэмаў), Дарота...

Ева, Еўфрасіньня...

Зарына, Зора (Зора Кіпель была адной з самых знаных у сьвеце беларусістак), Зося, Зьвеніслава (стрыечная сястра нашай нябеснай заступніцы Еўфрасіньні)...

Івонка (магчыма, стане прэзыдэнтам), Ірэна...

Каміла (каб была талентамі падобная да дачкі Дуніна-Марцінкевіча), Караліна, Кася (паслухайце спачатку, які ў малой галасок), Кацярына, Кветка, Кірыяна (была такая князёўна ў дынастыі Рагвалодавічаў), Клава (можа, так назваў бы сваю дачушку Максім Багдановіч?), Ксенія, Купаліна...

Ларыса, Лёля, Лілея, Люба, Людвіка, Людміла, Люсія, Люцына, Люцыя...

Магдалена, Маргарыта (гэтае імя мела, між іншым, спадарожніца жыцьця нашага Майстра — Скарыны), Мальва, Марта, Марцэля, Марыя (так звалі маю маму, а яшчэ — Маня, Манечка, Манька, Марыйка, Маруся...), Мар'яна, Меліта, Міласлава, Міхаліна...

Надзея, Настасься, Натальля, Ніна…

Палута (калі ўжо нехта напіша пра Палуту Бадунову раман?), Паўліна...

Рагнеда, Рада, Радаслава, Раіна, Расьціслава, Ружана, Рута, Рыта, Рэгіна…

Сабіна, Саламея (вырасьце вандроўніцай ды авантурніцай, як Русецкая-Пільштынова), Сафія (гэтае імя мелі маці сьвятой Еўфрасіньні і полацкая князёўна, а потым дацкая каралева Сафія Валадараўна), Славаміра, Станіслава, Стафанія (ці любіце вы тэатар?), Сьвятаслава, Сьвятлана…

Тадзіяна, Талія, Тамара, Таміла (жыла кабета з такім чароўным імем у XVI стагодзьдзі ў Наваградзкім павеце), Тацяна...

Уладзіслава (магчыма, стане жонкаю народнага паэта), Уршуля (будзе пісаць п’есы, як аднайменьніца зь сям’і Радзівілаў), Усяслава...

Флярыяна, Францішка, Фрыда, Фэліцыя...

Хрысьціна...

Чарадзея (сустракаўся зь ёю ў старадаўніх дакумэнтах)…

Эвэліна, Эліна, Эмілія (праўда, ня хочацца, каб нашыя жанчыны зноў бралі ў рукі зброю, як Эмілія Плятэр)...

Юлія, Юльляна, Юнэля, Юстына...

Яварына, Ядзьвіга, Яна, Яніна, Яраслава...

А таксама многія іншыя...

Атрымліваецца сапраўдная паэма. У кожнага — свая.

# Яе запясьці

*Вы можаце прачытаць свой самы новы верш пра каханьне?*
*Вальжына*

*анёлы!*
*дайце мне*
*яе*
*запясьці*

## Апошні палёт гімнасткі

*Лічыцца, што ў сучасным каханьні прагматызму нязьмерна больш, чым рамантызму. Можа, знойдуцца ў вашым пісьменьніцкім «запасе» гісторыі, каб абвергнуць гэтую сумную выснову?*

*Віялета, 17 гадоў*

Днямі перачытаў раман нобэлеўскага ляўрэата 2009 году Марыё Варгаса Льёсы «Прыгоды дрэннай дзеўчынёшкі», які называюць «сагай пра каханьне XX стагодзьдзя». Вось там, скажу вам, гэтых самых рамантызму з прагматызмам — мора бязьмежнае, прычым у самых складаных канфігурацыях. Бывае, цяжка ўцяміць, дзе адно, а дзе другое.

Але гісторыю каханьня льёсаўскага Рыкарда Самакурсьё ды ягонай «чылійкі», як і іншыя прыклады з сучаснай сусьветнай літаратуры, маючы ахвоту, вы без праблемаў адшукаеце й самі.

Калі мець на ўвазе мае ўласныя «доказы», то некаторыя зь іх таксама можна знайсьці ўва ўжо надрукаваных тэкстах, пераказваць якія ня бачу сэнсу.

Хіба што зраблю адно выключэньне, бо той аповед быў напісаны яшчэ за некалькі гадоў да вашага, Віялета, нараджэньня. У інтэрнэце яго таксама няма.

У некалькіх словах гісторыя такая. У вагоне-рэстаране транссібірскага цягніка беларускі хлопец

пазнаёміўся з такой самай маладой пасажыркай. Строіў зь сябе неардынарную асобу, але знаёмства, па сутнасьці, так і не адбылося. Дзяўчына хацела, каб ён адгадаў ейнае імя, а ў яго не атрымалася. Ці, можа, яна хацела захаваць *incognito*. Але каля дзьвярэй купэ дазволіла сябе пацалаваць. Уначы на нейкай станцыі сышла. Ну, а ён падумаў: ат, такога цьвету па ўсяму сьвету… А затым штосьці ў душы замкнула…

І хлопец пачаў прыяжджаць улетку ў той гарадок, дзе яна выйшла зь цягніка. Спыняўся ў латыша-бакеншчыка, які застаўся пасьля высылкі ў Сібіры. Жыў тыдзень і шукаў сваю дзяўчыну. Я спаткаўся зь ім, калі, пахаваўшы тату, даганяў наш сібірскі будатрад. Закаханы (кажу гэта без усякай іроніі) ехаў да бакеншчыка ўжо чацьверты раз і разгаварыўся, убачыўшы ў мяне на століку беларускі часопіс. Памятаю яшчэ фразу — нэ нем галва (не бяры да галавы). Так яго стары латыш супакойваў.

Вось вам рамантычная гісторыя, працягу якой ня ведаю. А цяпер будзе такая, для якой азначэньне прыдумаць цяжка. Рамантычная? Прагматычная? Мэлядраматычная? Напэўна, страшная. У жыцьці ж бываюць ня толькі рамантызм ды прагматызм.

Выкладчыца ангельскай мовы Алена, у мінулым майстар спорту па гімнастыцы, мела аднапакаёўку на апошнім паверсе стандартнага дзевяціпаверховіка на менскай вуліцы Жудро. Жыла там адна. Праўдзівей, зь невідочным барабашкам, які — сам аднаго разу чуў — раз-пораз выразна пастукваў у вэнтыляцыйнай шахце, пасылаючы нейкія папярэджаньні з паралельнага сьвету.

Алена расла сіратой і не хавала ад знаёмых, што пакутуе ад адзіноты. А тады раптам уся засьвяцілася — як верасьнёвая бярэзінка ў ельніку. Ейны абраньнік Ільля, таксама ўнівэрсытэцкі выкладчык, быў старэйшы, гадоў пад сорак. Пару разоў я сустракаў іх у горадзе: ішлі, трымаючыся за рукі, і нікога вакол не заўважалі. Але аднойчы ідылія парушылася. Ён некалькі дзён не званіў, не адказваў на званкі, і Алена вырашыла, што тэлефон ужо не загаворыць ягоным голасам ніколі.

Калі Ільля затэлефанаваў, не адгукалася ўжо яна — зноў і зноў. Прыехаўшы, даведаўся, што колькі дзён таму Алену пахавалі. Яна паднялася на дах, села на самы край і засьпявала — суседзі сьпярша падумалі, што пяе на гаўбцы. А потым разагналася, як некалі на гімнастычнай трэніроўцы, і паляцела… Ільля запытаўся, што сьпявала. Высьветлілася, ягоную ўлюбёную песьню.

Трэцяй гісторыі расказваць ня буду. Паспрабую зрабіць гэта пазьней, у апавяданьні. Абяцаю, што твор будзе жыцьцесьцьвярджальны.

Кахайце, Віялета! Самае сумнае — гэта не тады, калі вас не кахаюць, а калі нікога не кахаеце вы.

# Прыемна выпіць з прэзыдэнтам

*Скажыце шчыра: вы сустракаліся з прэзыдэнтам? Калі так, то якія ўражаньні захаваліся пра гэтага чалавека? Пра што вы размаўлялі? Калі сядзелі за сталом, то што, выбачайце, пілі і елі?*

*Артур*

Уявіце сабе, што з прэзыдэнтам я сустракаўся. І не аднойчы.

Але, калі вы маеце на ўвазе цяперашняга гаспадара дому № 38 па вуліцы К. Маркса, то зь ім не размаўляў, ня піў і не закусваў. Хоць магчымасьць сустрэчы была. Тады, калі да яго хадзілі сябры Рады на той час яшчэ адзінага Саюзу пісьменьнікаў. Я належаў да тых, хто ісьці адмовіўся, бо анічога ад таго нелюбоўнага спатканьня не чакаў. Мы не памыліліся. Аднак цяпер шкадую, што ня быў сярод хадакоў. Варта было пайсьці, прынамсі, з прафэсійнай цікавасьці.

Пераключаючы тутэйшыя тэлеканалы, можна падумаць, што прэзыдэнт на сьвеце адзін, і што толькі яго, паводле новых правілаў беларускай мовы, трэба пісаць зь вялікай літары.

На шчасьце, існуюць і іншыя прэзыдэнты, зь якімі можна сустрэцца, а то і выпіць.

Калісьці, у сярэдзіне 1990-х, я быў дэлегатам кангрэсу Міжнароднага ПЭН-клюбу, які адбываўся

ў Празе. У праграме значылася паездка на тэатральны фэстываль у Пльзэнь з удзелам прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавэла. Ён насамрэч прыехаў і ня проста «засьвяціўся» сярод дэлегатаў і зьнік, вярнуўшыся да больш важных дзяржаўных справаў. Мы разам глядзелі знакамітую п’есу Ёзэфа Топала «Салавей на вячэру», тую самую, дзе зграя інтэлігентаў зьела завабленага да сябе госьця.

Потым у тэатры была адкрытая дыскусія Гавэла зь ягонымі даўнімі сябрамі і калегамі-драматургамі Артурам Мілерам і Томам Стопардам — «Not Only About the Theatre» — «Ня толькі пра тэатар».

Я даў волю фантазіі і намогся ўявіць на гэтай сцэне замест чэскага прэзыдэнта — свайго. Фантазіі не хапіла.

Вандроўка на радзіму пльзэнскага піва завяршылася дэгустацыяй слыннага напою ў тамтэйшай піўніцы, дзе і ўдалося некалькі хвілінаў пагаварыць з прэзыдэнтам.

Пакінуўшы ахоўніка за сваім сталом, ён падсаджваўся з кухлем у руцэ да іншых. Сказаў ня толькі нейкія абавязковыя, дакладней, зусім неабавязковыя ветлівыя словы, але задаў пару пытаньняў, якія сьведчылі, што Беларусь для Гавэла — ня проста назоў на мапе.

Праміне колькі гадоў, і чэскі прэзыдэнт будзе клапаціцца пра побыт у Празе Васіля Быкава. Гавэл, дарэчы, неаднаразова падкрэсьліваў, што ганарыцца знаёмствам з выдатным беларускім пісьменьнікам. Тым часам адзін мясцовы аматар прыгожага пісьменства абмежаваўся паведамленьнем, што «выхоўваўся на быкаўскіх вершах».

Выпала сустракацца і з прэзыдэнтам Літвы Валдасам Адамкусам.

Міністэрства замежных спраў нашае суседкі штогод ладзіць так званыя сустрэчы інтэлектуалаў з краінаў, што зьявіліся на абшары былога СССР. У часе ягонага прэзыдэнцтва Адамкус заўсёды ўганароўваў гэтыя імпрэзы сваёй прысутнасьцю. На адной з такіх сустрэчаў прэзыдэнт Літвы надаў падкрэсьленую ўвагу тром гасьцям зь Беларусі. Ад той размовы засталося ўражаньне Адамкусавай дэмакратычнасьці і неўдаванай цікавасьці да беларускіх справаў. Ён агучыў сьпіч пра агульную гісторыю і выказаў спадзяваньне, што ў хуткім часе беларусы і літоўцы будуць езьдзіць адзін да аднаго бязь візаў, бо сустрэнуцца ў Эўразьвязе.

Здарыўся і крыху анэкдатычны выпадак. Даведаўшыся ад тагачаснага старшыні нашага Саюзу пісьменьнікаў Алеся Пашкевіча пра сантымэнты да Вільні ўва Ўладзімера Дубоўкі, Адамкус адразу запытаўся, ці можна запрасіць паэта ў цяперашнюю літоўскую сталіцу.

Апошняе па часе маё спатканьне з прэзыдэнтам надарылася таксама ў Вільні. Літаратурная імпрэза ў гонар 600-годзьдзя Грунвальдзкай перамогі супала з днём пахаваньня першага прэзыдэнта незалежнай Літвы Альгірдаса Бразаўскаса.

Ідучы па віленскай Замкавай вуліцы, я зьнячэўку пачуў гучныя воплескі і прывітальныя воклічы. Яны, зразумела, адрасаваліся ня мне. За нейкіх пяць крокаў у бок пляцу Гедзіміна кіраваўся ў суправаджэньні трох ахоўнікаў Міхаіл Саакашвілі, што прыехаў на жалобныя ўрачыстасьці. Літоўцы і польскія турысты працягвалі яму пляскаць. Саа-

кашвілі цісну́ў рукі, усьміхаўся, падхапіў і пранёс малога хлопчыка.

Я вырашыў крыху прайсьці побач, каб адчуць аўру чалавека, якога расейскія палітыкі называюць кіраўніком «злачыннага рэжыму». Побач з Саакашвілі было камфортна. Калі б я таксама працаваў прэзыдэнтам, магчыма, сказаў бы яму, напрыклад, што маю сантымэнт да сухога мукузані, а вось шанаванае Сталіным паўсалодкае кіндзмараэулі пакідае мяне абыякавым. Аднак прэзыдэнтам я не працаваў, а двухмэтровы ахоўнік пазіраў на мяне ўсё больш падазрона…

Наогул, сустрэчы з прэзыдэнтамі мне падабаюцца. Цешу сябе надзеяй, што некалі спаткаюся і з прэзыдэнтам Беларусі.

Але гэта будзе іншы прэзыдэнт.

# Прывітаньне ад прыдзьвінскай ведзьмы

*Займаючыся гісторыяй, ці не даводзілася вам сутыкацца зь нечым невытлумачальным і загадкавым, як, напрыклад, эгіптолягам з «помстаю фараонаў»? Ці былі такія выпадкі ў вашым жыцьці?*

*Будучы слуга Кліё*

Хочаце — верце, хочаце — не, але былі.

Існуе безьліч азначэньняў гісторыі. Мне найбольш даспадобы афарызм францускага гісторыка-рамантыка XIX стагодзьдзя Жуля Мішле: «Гісторыя — гэта ўваскрашэньне».

Сапраўды, і навуковец і літаратар, якія твораць пад пільным позіркам музы Кліё, спрабуюць зноў надаць жыцьцё асобам даўно прамінулых дзён.

Тут, вядома, можна згадаць яшчэ і суайчыньніка Мішле, гісторыка і філёзафа Алексіса Таквіля, які назваў гісторыю «карціннай галерэяй, дзе мала арыгіналаў і мноства копіяў». І ўсё ж меў рацыю Штэфан Цвайг, які заўважыў, што гістарычны чын завяршаецца не тады, калі зьдзейсьніўся, а тады, калі зрабіўся здабыткам нашчадкаў.

Але хопіць афарызмаў.

Падчас працы над кнігаю «Таямніцы полацкай гісторыі» мне спатрэбілася зьняць копію дакумэнту XVIII стагодзьдзя. Першы ксэракс зноў і зноў выдаваў з сваіх нетраў старонку зь вялізнай

і непрагляднай чорнай плямаю пасярэдзіне. Тое самае прычынілася і з другім, трэцім, чацьвертым апаратамі. Пасьля дзясятае спробы я мусіў проста перапісаць старонку. Застаецца дадаць, што дакумэнт датычыўся судовага працэсу над кабетаю, абвінавачанай у вядзьмарстве.

Другі прыклад зьвязаны з аповесьцю «Сны імпэратара», у якой дзея адбываецца ў 1812 годзе ў Беларусі і ў 1820-м на высьпе Сьвятой Алены. Там галоўны герой апынуўся, як вы памятаеце, пасьля паразы ў бітве пад Ватэрлёо.

Я зусім не зьбіраўся пісаць тую аповесьць. Але аднойчы на полацкай вуліцы сустрэў незнаёмую маладую жанчыну. Сустрэў — гэта недакладна. Мы проста разьмінуліся ў дзённай плыні. Нават не пасьпеў запомніць нічога з аблічча — толькі незвычайны вытанчаны пах парфумы. Але ягонага ледзь улоўнага павеву хапіла, каб за некалькі хвілінаў перада мною раскруцілася стужка сюжэту.

А потым пачалі адбывацца значна больш неверагодныя рэчы.

Трапляю ў госьці да новага знаёмага, падыходжу да кніжных шафаў. Рука раптам беспамылкова здымае з паліцы рэдкую старую кнігу з усімі вэрсіямі пра сьмерць Напалеона альбо пра ягоныя верагодныя ўцёкі з выгнаньня пры дапамозе двайніка — Франсўа Рабо. Яшчэ адно вельмі патрэбнае выданьне атрымліваю па пошце на дзень нараджэньня ад калегі, зь якім ані не дзяліўся плянамі. Тэлефануе — зноў жа без усякіх просьбаў з майго боку — супрацоўніца Полацкага гістарычна-культурнага запаведніка, пытаецца, ці не спатрэбяцца мне для чаго-небудзь успаміны пра побыт Бана-

парта ў Віцебску. А мне акурат яны ў той момант і патрэбныя…

Урэшце ўся гэтая містыка нарадзіла вар'яцкую думку, што той струменьчык парфумы пакінула мне сама… Ну, гісторыкі зразумеюць, хто.

Трэці ланцужок загадкавых падзеяў датычыць маіх генэалягічных росшукаў. Пра гэта падрабязна расказана ў эсэ «Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазьбегнуць выгнаньня».

Апошні прыклад — з гісторыі стварэньня кнігі «Імёны Свабоды». Сядзім з мастаком Генадзем Мацурам перад маніторам, гартаем будучыя старонкі з партрэтамі герояў. Гучыць неабдуманы, зьлёгку фрывольны камэнтар да адной выявы, і мы з жахам бачым, як набор ператвараецца ў россып камputарных жучкоў і павучкоў…

Кожнаму, хто займаецца мінулым, нельга забываць, што ён дакранаецца да сфэраў таямнічых і непрадказальных. Бо гісторыя ня толькі вучыць (ці, наадварот, ня вучыць), ня толькі захапляе ці забаўляе. Яна сама забаўляецца, сама вывучае вас, выпрабоўвае, узнагароджвае, помсьціць…

А таму — будзьце гатовыя да самых розных неспадзяванак.

# На мачанку з Ігнатам Грынявіцкім

*З кім з герояў сваіх гістарычных твораў вы хацелі б сустрэцца і пра што найперш запыталіся б? А яшчэ цікава, які час і якія месцы абралі б для такіх сустрэчаў?*
*Галіна і Яўген*

Вашае пытаньне падказвае ідэю цэлай кнігі.

Зь яе героямі я сустракаўся б у нашым часе — каб яны ведалі, што іхнія дзеі не пайшлі намарна (альбо, калі гэта былі ворагі, — наадварот). Мае суразмоўцы ўбачылі б, што стаяць храмы й гарады, якія яны будавалі, існуе дзяржава, правобразы якой стваралі й баранілі…

У кнізе атрымалася б шмат разьдзелаў і мноства пытаньняў. Праблемаю заўсёды быў бы выбар месца сустрэчы. Здаецца, у Станіслава Лема ёсьць апавяданьне, дзе ў сучаснасьць трапляе сярэднявечны манах. Ачуцца ад шоку і стаць здольным да дыялёгу з далёкімі нашчадкамі ён змог, толькі калі тыя даўмеліся прывезьці госьця зь мінулага ў ягоны родны кляштар.

Таму з Усяславам Чарадзеем я спаткаўся б недзе ў сутарэньнях Сафійскага сабору (адрозна ад самога храму яны захавалі старажытнае аблічча). Мяне, зразумела, цікавіла б безьліч рэчаў, але перадусім папрасіў бы распавесьці пра тое, як полацкае войска выйграла бітву на Нямізе. Энцыкляпэдыі й пад-

ручнікі дагэтуль уводзяць нас у зман, паўтараючы ўсьлед за кіеўскім летапісцам, нібыта ў той сечы перамаглі дружыны князёў Яраславічаў. (Чаму ж у такім разе «пераможцы» ня рушылі далей, на Полацак, а адступілі на свае абшары? Аднак тады лічылася: хто застаўся «стаяць на касьцях», значыць, на полі бітвы, — той і пераможца.)

Запытаўся б яшчэ і пра Ўсяслававу дачку. Як яе клікалі? Сапраўды яе выдалі замуж за бізантыйскага імпэратара Аляксея І Камніна, ці гэта толькі легенда, якой дасёньня трымаюцца некаторыя аўтары?

Дзе адбылося б рандэву з Еўфрасіньняй, здагадацца няцяжка. Іншая рэч — ці пагадзілася б ігуменьня расказаць гісторыю свайго першага каханьня, што, магчыма, і прывяло дванаццацігадовую Прадславу за манастырскія сьцены. Юны век князёўны не павінен залішне распальваць вашую фантазію. Тады жыцьцё было больш кароткае ды імклівае: якраз у такую пару княжыя дочкі рабіліся нявестамі, а ў трынаццаць гадоў ужо часта і нараджалі дзіця.

З Райнгальдам Гайдэнштайнам, храністам і сакратаром вялікага князя і караля Сьцяпана Батуры, мы размаўлялі б, уладкаваўшыся ў адной з заляў гарадзенскага Старога замку.

Няхай бы спадар каралеўскі сакратар адказаў: ці трымаў ён у 1579 годзе ў сваіх уласных руках кнігі зь бібліятэкі Сафійскага сабору пасьля вызваленьня Полацку ад маскоўскіх акупантаў? Ці, можа, апісваў кнігазбор з чужых словаў, падкрэсьліваючы, што ў вачах людзей адукаваных той меў ня меншую каштоўнасьць, чым уся астатняя здабыча. Якраз

тады бібліятэка зь летапісамі, фаліянтамі, перапісанымі рукою Еўфрасіньні, зь «Нябеснай і царкоўнай герархіяй» Дыянісія Арэапагіта, па сутнасьці, бясьследна прапала…

Генэрал Ордэну езуітаў Габрыель Грубэр у добра знаёмых яму анфілядах цяперашняй Полацкай мастацкай галерэі раскалоўся б і адкрыў мне таямніцу сканструяванай ягонымі майстрамі славутай мэханічнай галавы.

Той самай, якая, калі верыць III тому «Живописной России», наганяла на наведнікаў жах, круцячы жывымі вачыма і размаўляючы «на всех употребительных языках».

Напалеона я чакаў бы ў гулкім калідоры былога губэрнатарскага палацу ў Віцебску (праўда, зьдзейсьніць намер было б няпроста, бо ў старадаўніх мурах акапалася абласное ўпраўленьне КГБ). Там валадар Эўропы адзначаў у 1812 годзе дзень нараджэньня. Напярэдадні кінуў шпагу на завалены штабнымі мапамі стол і абвясьціў аб заканчэньні кампаніі.

Што змусіла яго праз некалькі дзён прыняць фатальную пастанову ісьці на Маскву, а на мапах намаляваць стрэлкі, якія пазначалі будучы паход на Індыю?

За адным разам, вядома, запытаўся б Банапарта і пра пакінутую недзе ў Беларусі карэту зь ягоным золатам, якая ўжо два стагодзьдзі не дае спакою шукальнікам скарбаў. А раптам зьдзейсьнілася б мая мара зьезьдзіць на пару тыдняў у Новую Зэляндыю?

Ігната Грынявіцкага я запрасіў бы ў полацкую кавярню «Даміян», каб пачаставаць тамтэйшай

мачанкаю і далікатна высьветліць, з чым былі тыя гарачыя піражкі, порцыю якіх ён зьеў з гарбатаю ў цукерні насупраць Гасьцінага двара, куды Соф'я Пяроўская сабрала бомбакідальнікаў, калі Аляксандар II у першы дзень вясны 1881 году нечакана зьмяніў маршрут руху па сталічных вуліцах…

А на разьвітаньне я падпісаў бы кожнаму з сваіх візаві кніжку, дзе пра іх напісана, і на ўсякі выпадак хуценька б адкланяўся.

# Падпольныя аборты і помнік СССР

*Прамінулі дваццатыя ўгодкі распаду СССР. Якім спадару Арлову бачыцца помнік Савецкаму Саюзу? І — пастарайцеся адказаць шчыра — няўжо ў вас усё ж няма ні кроплі настальгіі па той краіне, дзе вы нарадзіліся й вырасьлі?*

*Вашая чытачка з Манрэалю*

Помнік Савецкаму Саюзу?

Напачатку пытаньне здалося дзіўнаватым і нават парадаксальным.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы падае цэлы шэраг значэньняў слова «помнік».

«Архітэктурнае або скульптурнае збудаваньне ў знак ушанаваньня памяці якой-небудзь асобы або падзеі». Не падыходзіць.

«Прадмет матэрыяльнай культуры мінулага». Таксама ня тое.

«Твор старажытнай пісьменнасьці». І ня блізка.

«Тое, што нагадвае аб чыіх-небудзь справах». Гэта ўжо цяплей.

А вось, нарэшце, і значэньне, што выглядае збольшага прымальным: «Збудаваньне на магіле з граніту, мармуру і падобнага ў памяць памерлага».

Але дзе ўзводзіць тое збудаваньне ? Што лічыць магілай СССР? Дый ці такі ўжо мёртвы гэты «памерлы»…

Хацелася б памыліцца, аднак — калі глядзіш на праблему з нашых шыротаў — выглядае, што час для надмагільля, якое паставіць у гісторыі СССР апошнюю кропку, пакуль не прыйшоў.

Між тым — пакуль мы спрабуем уявіць, як выглядала б надмагільле — на абшарах былой савецкай імпэрыі ўжо можна знайсьці нямала спробаў мэмарыялізацыі яе, гэтае імпэрыі, асобных «велічных дасягненьняў».

Калі вы даўно не пераведвалі Бацькаўшчыны, то, прыехаўшы, зусім побач зь Менскам, ува ўрочышчы Курапаты, зможаце ўбачыць сотні драўляных крыжоў. Зрэшты, пра Курапаты вы, безумоўна, ведаеце. Як і пра тое, што ў 1930-я там кожную ноч нястомна працавалі каты з НКВД. Але ёсьць рэчы, пра якія варта нагадваць зноў і зноў. Паводле афіцыйных зьвестак дзяржаўнай камісіі, колькасьць расстраляных у Курапатах ацэньваецца на 30 тысяч чалавек. Археолягі, якія праводзілі эксгумацыю сотняў безыменных магілаў, кажуць пра чвэрць мільёну ахвяраў.

Віленскі музэй генацыду ў былым будынку КГБ Літоўскай ССР з камэрамі й расстрэльнымі сутарэньнямі. Колішняя савецкая турма ў латыскай Ліепаі, дзе наведнікі могуць на нейкі час ператварыцца ў вязьняў. Сьціплыя мэмарыяльныя знакі побач зь неспарахнелымі баракамі й калючым дротам былых астравоў архіпэлягу ГУЛАГу.

Хіба ўсё гэта — ня помнікі Савецкаму Саюзу?

Ёсьць і помнікі іншага кшталту. Вы ўбачыце іх у менскім мэтро і тралейбусе, у краме і на лавачцы ў парку, у кабінэтах самых розных узроўняў. Гэтыя помнікі ня проста жывыя, але — асабліва ў нашай

атмасфэры — надзіва жывучыя й маюць неблагія ўмовы для размнажэньня.

Ня так даўно мяне запрасілі на прэзэнтацыю кнігі «Імёны Свабоды» ў Салігорск. Была арандаваная заля ў Доме культуры. Калі ўжо былі заплачаныя належныя грошы за арэнду, дама, якая загадвае ДК, адправіла арганізатараў да ідэалягічнага начальства. Там ім паведамілі, што сустрэчы ня будзе ні пры якіх умовах, а мне вынесьлі страшны прысуд: «антысаветчык».

Думаю, што вы, хоць і даўно жывяце за акіянам, маеце ўяўленьне пра такі від тутэйшага насельніцтва, як *homo sovieticus.* Прапаноўваю, дарэчы, разам падумаць, якім мог бы стаць помнік згаданаму *homo*, калі від нарэшце канчаткова вымра і будзе прызнаны тупіковай галіной эвалюцыі.

А пакуль што нам, беларусам, велізарным і, на вялікі жаль, жывым помнікам Савецкаму Саюзу вельмі часта здаецца краіна, у якой мы жывем.

Разумею, што з адлегласьці некаторыя нашы падзеі і зьявы могуць успрымацца нечым кшталту фата-марганы, але вы, пэўна ж, ведаеце, што насамрэч можа чакаць таго, хто ня згодны зь цяперашнім рэжымам.

А ці чулі вы там, у Манрэалі, што ў сёньняшняй Беларусі ставяцца помнікі Сталіну? Адзін, зьняты з п’едэсталу ў 1960-я, праз сорак гадоў вярнуўся на ранейшае месца ў гарадку Сьвіслач на мяжы з Польшчай. Другі помнік «найвялікшаму палкаводцу» нядаўна зьявіўся недалёка ад Менску, дзе збудавалі псэўдагістарычны мэмарыял — «лінію Сталіна», што ў 1941 годзе не адыграла ў адпоры гітлераўцам практычна аніякае ролі.

«Лінію Сталіна» дыктатар намагаецца стварыць і ў галовах сваіх падданых...

Што да настальгіі, то яна, ведама ж, ёсьць.

Аднак краіна, па якой я сапраўды ўсё часьцей настальгую, называецца не СССР. Яна называецца Дзяцінства. Гэта краіна, дзе ня толькі я сам, але і бацькі былі бесьсьмяротныя. Дзе ў старэйшай групе дзіцячага садка я прыдумаў, што дзяўчынка, якая мне падабаецца, на выходныя ператвараецца ў матылька, і да таемных сьлёз баяўся, што нехта зловіць яе для калекцыі ў свой сачок і ў панядзелак па абедзе на суседнім ложачку пакладуць спаць іншую дзяўчынку. Дзе, ледзь навучыўшыся літары ператвараць у словы, мы зь сябрам напісалі на парэнчах моста цераз Дзьвіну: Вова + Вася = дружба да гроба...

Перапрашаю за гэты прыступ настальгіі.

А вось краіна юнацтва ўжо называлася Савецкім Саюзам. Там са мною, студэнтам гістарычнага факультэту і маладым літаратарам, праводзіў «прафіляктычныя гутаркі» літаратуразнаўца ў званьні маёра, які клапатліва папярэджваў, што калі не пагаджуся ім дапамагаць, сашлюць у салдаты кудынебудзь пад Магадан, і ў мамы, зь якой мы толькі што пахавалі тату, ня вытрымае хворае сэрца.

Пазьней была спроба міліцыі — безумоўна, на загад зь іншага ведамства — прышыць нам з жонкаю крымінальную справу. За тым «праектам» стаялі людзі з фантазіяй. Нас спрабавалі абвінаваціць не ў захоўваньні і пашырэньні самвыдату або ў тым, што ў нас праходзяць падазроныя сходкі. Сьледчы агаломшыў паведамленьнем, што, паводле іхніх зьвестак, у нашай кватэры... робяцца падпольныя

аборты. На пытаньне пра доказы нам прачыталі паказаньні суседзяў-алькаголікаў: «Ведут нелюдимый образ жизни, разговаривают на белорусском языке». Зразумела, што ад беларускай мовы да падпольных абортаў заставаўся адзін крок...

Хіба можна настальгаваць па немагчымасьці выехаць за мяжу нават у Беласток ці Варшаву? (Ня кажучы ўжо пра Манрэаль, да якога было далей, чым да Юпітэру.)

Па цэнзуры, пэрлюстрацыі, русіфікацыі? Пагатоў усё гэта вярнулася. Як і праслухоўваньне тэлефонных размоваў. Хіба што тэхналёгіі больш сучасныя, дый мову «суседзі» трохі падвучылі.

Памятаю, як пры канцы 1980-х гаварылі зь Сяргеем Навумчыкам па міжгорадзе, а на дроце разам з намі былі двое хлопцаў з «органаў». Адзін пытаецца: «Слышь, Витя, а красавик, это который месяц? Март или апрель?» А Витя: «Ну всё, ребята, зае.али своей мовой!» І — кароткія гудкі.

Што праўда, жыве ў маёй душы і настальгія па адной цалкам рэальнай краіне, абрысы якой я даволі ўпэўнена правяду на контурнай мапе. Назоў той краіны — Вялікае Княства Літоўскае. Ды тут я зусім не арыгінальны. Згадаем, да прыкладу, Чэслава Мілаша.

Цікавае пытаньне: колькі настальгіі трэба чалавеку?

Унівэрсальнага адказу, вядома, няма. У кожнага настальгія і яе «доза» — непаўторна свае. Лішні раз пераканаўся ў гэтым аднойчы ў Нью-Ёрку. Іду сабе па вуліцы, і раптам — помнік Уладзіміру Ільлічу. Балючы ўшчык ніякіх істотных зьменаў у краявід ня ўносіць: на даху прысадзістага дому насупраць

па-ранейшаму стаіць Ленін. Праўда, паказвае не на віна-гарэлачную краму, як пачасту бывала ў СССР, а на вітрыны сэкс-шопу. Мой праваднік, амэрыканскі беларус, патлумачыў, што з прычыны настальгіі помнік прывезьлі морам з Адэсы і ўсьцягнулі на дах яшчэ савецкія эмігранты.

Дык усё ж, колькі трэба чалавеку настальгіі? Відаць, столькі, каб захаваць аптымізм і ўбачыць гістарычную пэрспэктыву.

Мне хочацца верыць, што ўсё больш беларусаў, і найперш маладых, настальгуюць па той краіне, якая ўжо даўно жыве ў нашых мроях і снах.

Калі яна станецца явай, тады і падумаем, якога помніка заслугоўвае колішні «союз нерушимый республик свободных», які камусьці зноў соладка мроіцца.

# Пайсьці, як зь вялікай балюшкі

*Ці баіцеся вы сьмерці?*
*Валера*

Шапэнгаўэр сказаў, што натуральная мяжа чалавечага жыцьця — сто гадоў. Борхэс назваў ягоныя словы «лухтой, якая не пазбаўленая дасьціпнасьці».

Я ўжо знаёміўся зь сьмерцю, і мы адно аднаму не спадабаліся.

Сябар прыслаў тады ў рэанімацыю sms, што яшчэ ня ўсё выпілі.

Відаць, і напісалі ня ўсё, і не паўсюль, дзе хацелася б, заснулі і прачнуліся...

Наконт таго, што ня ўсё выпілі, успамінаецца, дарэчы, яшчэ адно выслоўе: «З гэтага жыцьця добра было б пайсьці, як зь вялікай бяседы — дасхочу наталіўшы смагу, але ня ўпіўшыся».

Карацей кажучы, не баюся, але пабойваюся.

Стараюся слухацца дактароў і піць сваю штодзённую жменьку лекаў.

Чэслаў Мілаш на дзясятым дзясятку пісаў, што рабіў прыкладна тое самае. А таксама згадваў сяброў, якія з рэкамэндацыяў мэдыкаў толькі сьмяяліся.

Аднак прачытаць тых радкоў мэтра сябры ўжо не маглі.

## Пытаньне самому сабе

*У чым сэнс жыцьця?*
*Ян зь Берасьця*

Баюся падацца банальным, але мне здаецца, што сэнс жыцьця ў тым, каб зразумець сваю ролю, зьліцца зь ёю і згуляць як належыць. Аднак — каб атрымалася — пытаньне, якое вы прыслалі мне, трэба зноў і зноў задаваць самому сабе.

# Паказьнік асобаў

**А**

Абіхт Рудольф *130—132*
Абрамчык Мікола *75*
Абрэмбска-Яблоньска Антаніна *229*
Аверчанка Аркадзь *233*
Авэйдэ Аскар *319*
Агінскі Міхал Клеафас *276*
Адамкус Валдас *357*
Адамовіч Антон *333—335*
Адамчык Вячаслаў *166*
Азбукін Мікола *332—334*
Аксак Валянціна *207*
Акудовіч Валянцін *161, 164—165, 237*
Акула Кастусь *347*
Алейнікаў Сяргей *266*
Алена *353—354*
Аліфаровіч Гаўрыла *126*
Альгерд *24, 53*
Аляксандар II *72, 196, 365*
Аляксандар Македонскі *31*
Аляксей I Камнін *363*
Аляксей Міхайлавіч *91, 120*
Аляхновіч Францішак *126*
Андрусішына Юля *65*
Андрыёлі Міхал *111*
Андрэеў Міхаіл *302*
Анна Іаанаўна *83*
Апалёній Радоскі *17*
Аркуш Алесь *153, 207*
Арлова Тацяна *177, 213, 289*
Арловы *104, 178*
Арлоў Аляксей *61, 176, 178—179*
Арлоў Багдан *33*
Арлоў Уладзімер, аднафамілец *61*
Арсеньнева Натальля *295, 298*
Арто Антанэн *162*

Арыстотэль *32, 55*
Асташонак Алесь *162, 165*
Астроскі Іван *58*
Аўрамчык Мікола *35*
Ашанін Леў *35*

**Б**

Бабіна Наталка *338*
Бабкова Вольга *58*
Багдановіч Максім *186, 222, 252—258, 349*
Багушэвіч Францішак *101, 111, 115, 318—319*
Бадунова Палута *346, 349*
Базанаў Дзьмітры *110*
Байкоў Мікалай *225*
Бандаровіч Юрась *150—151*
Бандарына Зінаіда *333*
Банольдзі Ахіла *111, 295—296, 299*
Барадулін Рыгор *60—61, 207, 226, 338*
Баркоў Іван *225*
Бартосік Зьміцер *37—38, 299*
Баршчэўскі Лявон *207—208*
Баршчэўскі Ян *330*
Барыс Усяславіч *68*
Барэйка Язэп *160*
Батура Сьцяпан *51, 222, 363*
Бахарэвіч Альгерд *338*
Бахцін Міхаіл *162*
Без-Карніловіч Міхаіл *199*
Беліковіч Людвік *311*
Белы Алесь *65*
Бжастоўскі Павал Ксавэр *70—72*
Бітэль Пятро *212*
Блэйк Ўільям *215*
Богша Лазар *303*
Борхэс Хорхэ *260, 280, 372*
Бохан Юрый *42*
Бразаўскас Альгірдас *357*
Брунэр *315*
Брыль Янка *207, 242*
Брэдбэры Рэй *158, 331*
Брэйгель Пітэр *250*

Будзінас Яўген *185, 344*
Будны Сымон *59*
Буйла Канстанцыя *311*
Булгакаў Міхаіл *152, 280*
Булгарын Фадзей *52, 107*
Бундзель Вова *202*
Бураўкін Генадзь *168, 207*
Быкаў Васіль *166, 169, 191, 225, 242, 338, 356*
Бэкет Сэм’юэл *162*
Бэнкендорф Аляксандар *133*
Бэрманты *199*
Бэрнадоты *94, 96*
Бэрштэйны *199*
Бядуля Зьмітрок *161*

**В**

Вадзіла *307*
Вазы *96*
Вазьнясенскі Андрэй *225*
Вайцюшкевіч Зьміцер *241*
Валеры Поль *254*
Валовіч Міхал *195*
Вальтар Віктар *75*
Валюа Гэнрых *94—95*
Валян Андрэй *46*
Варгас Льёса Марыё *352*
Варонін Васіль *45*
Васіль III *117—118, 133*
Васільеў *315*
Вася *144*
Ваулін Андрэй *301*
Верас Ларыса *160*
Вержбаловіч Барыс *311*
Вітаўт *24, 27—29, 39, 50, 53, 57, 63, 73, 293*
Вітгенштайн Людвіг *226*
Віткаўскас Вінцас *128—129*
Віцьбіч Юрка *163*
Вішнеўская Натальля *333—334*
Война Габрыель *59*
Вольскі Лявон *206, 229*
Вярыга-Дарэўскі Арцём *101*

Вячорка Аляўціна *236*
Вячорка Вінцук *147*

### Г

Габсбургі *94*
Гаворскі Ксэнафонт *301*
Гавэл Вацлаў *12, 15, 356*
Гайдэнштайн Райнгальд *363*
Галембёўскі Лукаш *80*
Галіна Барысаўна *235*
Галубовіч Леанід *163, 246*
Галчыньскі Канстанты Ільдэфанс *162*
Гальпяровіч Навум *206*
Гальшанская Настасься *58*
Гальшанская Соф'я *94*
Гамзатаў Расул *246*
Гамэр *9, 16—17, 30, 34, 261*
Ганзага *55*
Гарацый *53, 56*
Гарошка Леў *17*
Гарсія Лёрка Фэдэрыка *296*
Гарэлік Кацярына *236*
Гваніні Аляксандар *34—35, 119*
Гевара Эрнэста *267*
Гедзімін *24, 125, 348*
Геніюш Ларыса *75, 152, 191, 235, 346*
Геніюш Янка *75*
Геранім Праскі *73*
Герасімовіч Зьміцер *275*
Герцыковіч Залман *199*
Герцыковічы *199*
Герцэн Аляксандар *106*
Гесь Аляксандра *327*
Гілевіч Ніл *170, 172, 338*
Гільен Нікаля *296*
Гітлер Адольф *75, 78*
Глебка Пятро *333*
Глінка Міхаіл *107*
Глінка Фёдар *107*
Глоба Павел *293*
Глобус Адам *176, 206*

Гнеўка Эрнэст *236*
Голянд Ян Давід *130—131*
Гофэншэфэры *199*
Гоцманаў Сяргей *266*
Грабаў Андрэй *149—150*
Грабніцкі Отан *99*
Грубэр Габрыель *262, 364*
Грыб Тамаш *75*
Грыгарэнка Пётар *316*
Грынявіцкі Ігнат *362, 364*
Грыцкевіч Валянцін *84*
Гус Ян *73*
Гусоўскі Мікола *56*
Гутэн Ульрых фон *30*
Гутэнбэрг Ёган *133*
Гэмінгўэй Эрнэст *211*
Гэрадот *30*
Гэсіёд *17*
Гэсэ Гэрман *162*

**Д**

Дабрадзея *348*
Даву Люі Нікаля *88*
Далі Сальвадор *323*
Дамашэвіч Уладзімер *52, 234*
Дамейка Ігнат *194, 295*
Данчык (Багдан Андрусішын) *65*
Дарагастайская Соф'я *48*
Дарагастайскі Крыштоп Мікалай *48*
Дарвін Чарлз *201*
Дарожны Сяргей *333—334*
Дастаеўскі Фёдар *110, 295*
Даўгашэй *317*
Джэлал-ад-Дзін *28*
Джэфэрсан Томас *99*
Дзербіна Галіна *47*
Дзюма Аляксандр *84, 216*
Дзянікін Антон *122*
Дзянісава Грыпінка *292*
Дзянісава Аўгіньня *222, 292—293*
Дзянісава Вольга *191*

Дзянісава Марыя *176—178*
Дзянісавы *176*
Дзянісаў Максім *135, 222*
Длугаш Ян *28*
Дмахоўскі Гэнрык *99, 195*
Доўнар-Запольскі Мітрафан *26*
Дранько-Майсюк Леанід *162, 236, 340*
Дрэйзін Юльлян *332*
Дубавец Сяргей *147, 236*
Дубінка Вячаслаў *212*
Дубоўка Ўладзімер *161, 357*
Дубянецкая Галіна *162*
Дубянецкі Міхал *134*
Дудар Алесь *108, 312*
Дудзіцкі Ўладзімер *333—335*
Дуж-Душэўскі Клаўдусь *152*
Дук Дзяніс *67, 305*
Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт *101, 115, 349*
Дыянісій Арэапагіт *364*

**Е**

Ейтс Ўільям Батлер *162*
Ельцын Барыс *197*
Ермаловіч Мікола *152*
Еўлашоўскі Хведар *55*
Еўфрасіньня Полацкая *9, 193, 210, 221, 259, 303, 305, 345—346, 349, 363—364*

**Ж**

Жалігоўскі Люцыян *123—124*
Жанна д’Арк *195, 345—346*
Жарнасек Ірына *206*
Жук-Грышкевіч Вінцэнт *74*
Жыгімонт Аўгуст *42, 94, 180—182*
Жыгімонт Ваза *30*
Жыгімонт Карыбутавіч *73, 261—262*
Жыгімонт Стары *30*
Жыдліцкі Вацлаў *167*
Жылка Ўладзімер *75*
Жэня *340*

**З**

Забэйда-Суміцкі Міхал *74, 76*
Загорны Арсень *160*
Зайкоўскі Эдвард *150*
Залоска Юрась *162*
Замкоўскі Алесь *265*
Замойскі Ян *51*
Замяталін Уладзімер *240*
Зан Тамаш *194*
Запруднік Янка *160*
Заслаўскі Януш *58*
Захарка Васіль *74—75*
Зваршчыкі *145*
Зізаній Лаўрэн *59*
Зізаній Стафан *59*
Зорыч Сямён *85*
Зубкоўскі Вітаўт *160*
Зуёнак Васіль *236*
Зыгмантовіч Андрэй *266*
Зыкіна Людміла *157—158*
Зьвеніслава *349*
Зьвяждоўскі Людвік *99, 109, 296*
Зюскінд Патрык *162*

**І**

Іван ІІІ *117*
Іван Жахлівы *44, 50, 118—119, 271*
Іваноў Сямён *326*
Іваноўскі Вацлаў *123*
Ізяслаў Яраславіч *62, 228*
Ілжэдзьмітрый ІІ *85*
Ільля *353*
Ірачка *186—188*
Ірванец Аляксандар *245*

**Й**

Йыгі Олеў *239, 242—243*

**К**

Кавалеўская Соф'я *107*
Казімер Ягайлавіч *24, 117*
Казлоўскі Восіп *107*
Каліноўскі Віктар *318*
Каліноўскі Кастусь *100—101, 108, 115, 132, 173, 196, 296, 318—320*
Каліст III *119*
Калюга Лукаш *333—334*
Каменскі Ўладзімер *317*
Камю Альбэр *226, 288*
Кант Імануіл *140*
Канэці Эліяс *30, 33*
Карагодзін *317*
Карамзін Мікалай *116*
Караткевіч Уладзімер *31, 48, 110—111, 113, 138, 166—170, 191, 212, 214, 234—235, 280*
Карл VI Густаў *96*
Карл IX *94—95*
Кароль Уладзімер *317*
Касьцюшка Тадэвуш *72, 81, 99, 103, 123, 318—319*
Каханоўскі Ян *30*
Кацярына II *72, 79, 81, 85, 103—104, 223*
Качалаў Васіль *295*
Кашкурэвіч Арлен *221*
Каэлью Паўлу *343*
Кіпель Вітаўт *160*
Кіпель Зора *347, 349*
Кіраў Сяргей *133, 135*
Кісялёў Павел *195*
Кішка Ян *59*
Клімаў Іван *127*
Клінаў Артур *338*
Кляпацкая Натальля *316*
Козік Тацяна *207*
Колас Георгі *162*
Колас Якуб *232, 313, 332—333*
Конан Уладзімер *275, 278*
Корсак Зьміцер *312*
Кохан Адольф *313*
Кошалеў *155*
Красіцкі Ігнацы *80*

Краўцоў Макар *327*
Краўчук Леанід *197*
Крачэўскі Пётра *74*
Крашэўскі Язэп *295*
Крос Яан *239*
Кругляк Поля *199*
Крупскі Васіль *160*
Круцько Мікалай *156*
Крушына Рыгор *333—335*
Крывец Сяргей *266*
Крылоў Яўген *139*
Кудзіненка Андрэй *54*
Кузьміч Мікола *259*
Кулажанка Генадзь *150, 155—156*
Кульчыцкі Баляслаў *99*
Кундэра Мілан *280*
Купала Янка *176—177, 190, 225, 313, 333*
Купрын Аляксандар *233*
Купрэеў Мікола *162*
Курбскі Андрэй *117—118*
Курто Яўген *184*

**Л**

Лабадзенка Глеб *168*
Лао Цзы *26*
Лапатка Якуб *207, 209*
Лапінскене Альма *245*
Лапіцкі Расьціслаў *191*
Ластоўскі Вацлаў *26, 151—153, 225, 300*
Латышонак Алег *30*
Лаўксьмін Жыгімонт *55*
Лем Станіслаў *262, 362*
Ленін Уладзімір *13, 86, 103, 122, 132, 225, 370—371*
Лермантаў Юры *225, 298*
Лец Станіслаў Ежы *134*
Лёсік Язэп *332—334*
Ліньнікава Марына *306*
Лістапад Юрка *326*
Літвін Міхалон *46*
Ліўшыцы *199*
Лобач Уладзімер *310*

Лужанін Максім *333*
Лукашка *83, 85*
Лукашук Аляксандар *9, 162, 276*
Луцкевіч Антон *126—127, 131*
Луцкевіч Іван *297*
Луцкевічы *90, 115*
Людачка *339—340*
Лютэр Марцін *321*
Лявіцкі А. *47—48*
Лягендорф *42*
Лялевель Яўхім *194*
Лянкевіч Аляксандар *100*
Ляскоў Мікалай *111*
Ляхоўскі Ўладзімер *327*

**М**

Мазох Захер *247*
Мазько Эдуард *276*
Макавік Аляксандра *237*
Максімюк Ян *245—246*
Малаш Юрась *276*
Мальдзіс Адам *337*
Ман Гэнрых *95*
Ман Томас *162, 249*
Манлюк Блэз дэ *95*
Мантый *306*
Маракоў Валеры *333—334*
Марачкін Аляксей *240—241*
Маркес Габрыель Гарсія *296, 342—343*
Маркс Карл *86, 103*
Марозава Нінка *192—193*
Маўр Тэрэнтыян *170*
Мацур Генадзь *361*
Мацяш Ніна *346*
Машкевіч Марыюш *33*
Машэраў Пётар *190*
Маякоўскі Ўладзімір *225*
Мележ Іван *242*
Меншыкаў Аляксандар *63*
Мікалай I *106*
Мікалай II *196, 233*

Мікешын Міхаіл *107*
Мікола *331*
Мілаш Чэслаў *370, 372*
Мілер Артур *356*
Мілінкевіч Аляксандар *82*
Міндаўг *18*
Мінкін Алег *207, 209*
Мінкоўскі Герман *131*
Містраль Габрыеля *296*
Міхнюк Уладзімер *327*
Міцкевіч Адам *123, 216*
Мішле Жуль *359*
Молатаў Вячаслаў *125, 128*
Мор Томас *30, 71*
Мудні Густаў *314*
Мудроў Вінцэсь *148—150, 152—153, 158, 206, 209, 278*
Музыкант Сімачка *199*
Мураўёў Міхаіл *107—108, 195*
Мусарскі Мадэст *107*
Мэгваер Біл *159*
Мэдычы Кацярына *95*
Мэка Рыгор *126*
Мэнке Юліяна *297*
Мэрымэ Праспэр *54*
Мэтэрлінк Морыс *211*
Мяцельскі Нічыпар *326*

**Н**

Наварыч Алесь *162*
Навуменка Іван *189*
Навуменка Ядзьвіга *189—190*
Навумчык Ёсіф *208*
Навумчык Сяргей *370*
Надзя *230*
Назімаў Уладзімір *195*
Напалеон *311*
Напалеон І Банапарт *87—89, 231—232, 360, 364*
Нарбут Людвік *99, 111*
Нарымунт *50*
Настасься Слуцкая *346*
Астрадамус *293*

Наталя *153*
Некрашэвіч Сьцяпан *225*
Ніемі Мікаэль *337*
Ніцшэ Фрыдрых *162*
Новік Яўген *194—197*
Някляева Вольга *217*
Някляеў Уладзімер *161, 163—164, 338*
Някрасаў Мікалай *108*
Нямчын Васіль *293—294*
Нястука Юрай *126*

**О**

Орса-Рамана Ала *347*
Освальд Лі Гарві *159*

**П**

Павел I *72, 103*
Падбярэская Вульляна *45*
Пазьняк Зянон *196, 228*
Паланейчык Іна *236*
Паланецкі Алег *286*
Пальчэўскі Алесь *298*
Паморскі Адам *246*
Панятоўскі Станіслаў Аўгуст *64, 78—82, 130, 223*
Парандоўскі Ян *215*
Парфяновіч Уладзімер *39*
Паскаль Блэз *304*
Паўль *177*
Пац Людвік Міхал *52*
Пац Мікалай *59*
Пачобут-Адляніцкі Андрэй *59*
Пашкевіч Алесь *357*
Пестрак Піліп *212*
Пестэль Павел *194*
Пётар I *12—13, 63, 67, 182, 294, 314*
Пікарда Гай *163, 232*
Пілсудзкі Юзаф *122—123*
Пільштынова (Русецкая) Саламея *83—84, 349*
Піначэт Аўгуста *154*
Піятуховіч Міхайла *332—334*

Плятэр Лявон *99*
Плятэр Эмілія *195, 346, 350*
Пракапенка Аляксандар *266*
Пржавальскі Мікалай *295*
Пушкін Аляксандар *107, 225*
Пэрон Хуан *296*
Пэц Інга *131*
Пяроўская Соф'я *365*
Пятровіч Барыс *162, 226, 338*

**Р**

Рабо Франсўа *360*
Рагвалодавічы *66, 68, 345, 349*
Рагінскі Раман *99*
Рагнеда *305, 345*
Радзівіл Багуслаў *39, 51, 84*
Радзівіл Ганна Кацярына *346*
Радзівіл Дамінік *87*
Радзівіл Караль Станіслаў (Пане Каханку) *130*
Радзівіл Мацей *130*
Радзівіл Мікалай (Сіротка) *56*
Радзівіл Францішка Ўршуля *59, 346, 350*
Радзівіл Януш *59*
Радзівілы *30, 49*
Разанаў Алесь *162*
Разгон Леў *211—212*
Рамановіч Вольга *276, 279*
Раманюк Міхась *344*
Рандаў Норбэрт *245*
Рапапорт Павел *67*
Расьціслаў Рагвалодавіч *125*
Роза Саламонаўна *200*
Роза Сальватор *314*
Рубэнз Пітэр Паўль *56*
Русак Васіль *75—76*
Русо Жан-Жак *70, 211*
Руцкі Язэп *162*
Рыбак Алесь *236*
Рыбікаў Анатоль *148*
Рыбэнтроп Яахім *125, 128*
Рымша Андрэй *59—60*

Рысінскі Саламон *30—31*
Рэпін *144*

**С**

Саакашвілі Міхаіл *357—358*
Савачкін Пётар *156*
Сагановіч Генадзь *37, 120, 273*
Сад Данасьен Альфонс дэ *246*
Салжаніцын Аляксандар *151, 225*
Салтыкова Клаўдзія *252—258*
Салтыкоў-Шчадрын Міхаіл *239*
Сангушка Раман *59*
Санько Зьміцер *237*
Сапега Аляксандар *88—89*
Сапега Леў *25, 56, 59—60, 162*
Сапяжанка Ганна *52*
Сарбеўскі Мацей Казімір *55—56*
Сафія Валадараўна *349*
Сафокл *16, 332*
Серакоўскі Язэп *88*
Сергіевіч Пётра *126*
Сергіенка Натальля *313*
Сёмуха Васіль *167, 280*
Сідараў Валодзя *159*
Сідарэвіч Анатоль *163*
Сілівончык Анатоль *303*
Сіліцкі Віталь *275—276*
Сімураў Уладзімер *206, 208*
Сімяон Полацкі *31, 54, 93, 193, 228*
Скалабан Віталь *275—276*
Скарына Францішак *12, 31—32, 54, 56, 59, 73—74, 133, 162, 210, 307, 313, 349*
Скірмунт Раман *318—319*
Славацкі Юльюш *215*
Славук Валеры *22*
Снайдэр Тымаці *128*
Сокалава Францішка *245*
Сокалаў Апалон *110*
Сокалаў-Воюш Сяржук *147, 206*
Солтан Станіслаў *88*
Сом Лера *206*
Снарская Іна *206—207*

Сраіловічы *199*
Ставіцкая Леся *225*
Сталін Іосіф *19, 78, 135, 166, 225, 358, 368, 374*
Станкевіч Адам *126*
Станкевіч Юры *163*
Станкевічы *163*
Стопард Том *356*
Стральцоў Міхась *235*
Струкаў Дзьмітры *301*
Стрыйкоўскі Мацей *34—35, 119*
Стужынская Ніна *327*
Сувораў Аляксандар *103*
Сурвіла Івонка *347*
Сьлюнчанка Валеры *207*
Сьнядэцкі Ян *88*
Сьцяпан Уладзімер *206*
Сьцяцко Павал *225*
Сэн-Сымон Анры *70*
Сэнэка Люцый *322*
Сэрвантэс Мігель дэ *197*
Сяльковіч Мікола *126*
Сямашка Іосіф *134*
Сянкевіч Валяр’ян *312*
Сянкевіч Гэнрык *134*

**Т**

Такарчук Вольга *337*
Таквіль Алексіс дэ *359*
Талстой Фёдар *93*
Тамаш Аквінскі *31*
Тамашэвіч Лёнька *188*
Танк Максім *126*
Тапчэўскі Фэлікс *101*
Тарас Анатоль *120*
Тарас Валянцін *296*
Тарасаў Сяргей *207, 304*
Тарашкевіч Браніслаў *121, 123, 126*
Тарла Габрыель *42*
Топал Ёзэф *356*
Траўгут Рамуальд *132*
Трус Паўлюк *333*

Трусаў Антон *99*
Тубяліс Юозас *126*
Тураўскі Кірыла *162*
Тымінскі Станіслаў *49*

**У**

Уладзімір, князь *345*
Уласаў Андрэй *178*
Урбан VIII *56*
Усяслаў Чарадзей *62, 66—69, 193, 306—307, 348—349, 362—363*

**Ф**

Федарэнка Андрэй *226*
Фёдар Аляксеевіч *91*
Філіп Адольф *313*
Філіповіч Ян *55*
Філістовіч Янка *191*
Фіма *183*
Флегон А. *225*
Флябэр Гюстаў *216*
Фройд Зыгмунд *201*
Фур'е Шарль *70—71*
Фядкевіч Васіль *126*

**Х**

Хадановіч Андрэй *162—163, 338*
Храмцоў Васіль *276, 278*
Храпавіцкі *88*
Хрушчоў Мікіта *135, 225*

**Ц**

Цвайг Штэфан *359*
Цемушаў Віктар *275, 279*
Цётка *346*
Цімафеева Людачка *201—203, 339*
Цімохава Рыта *207*
Цімохаў Сяргей *207*
Цітоў Аляксандар *253*
Цулукідзэ Тамара *297—298*

Цымэрман Вова *198, 200*
Цымэрман Марыя *200*
Цыцэрон *31*
Цюліген *143*
Цютчаў Фёдар *107*
Цяпінскі Васіль *59*

### Ч

Чайка Павал *326—327*
Чаргінец Мікалай *338*
Чарняўскі Андрэй *169*
Чарняўскі Ігар *150*
Чартарыйскі Адам Юры *52*
Чачот Ян *194, 296*
Чорны Кузьма *161*
Чхарцішвілі Грыгоры (Барыс Акунін) *322*
Чыгрынаў Іван *52*

### Ш

Шамякін Іван *236*
Шапэнгаўэр Артур *152, 372*
Шастаковіч Дзьмітры *295*
Шатэрнік Алесь *222*
Шліман Гэнрых *261*
Шлыкаў Валеры *148*
Штакельбэрг фон *80*
Шуйскі *51*
Шуйскі Вася *137, 192—193*
Шукайла Паўлюк *86*
Шульжэнка *317*
Шумейка Тацяна *236*
Шушкевіч Станіслаў *194, 196*
Шчадрына Валянціна *243*
Шчукін Валеры *59—60*
Шылер Фрыдрых *215*
Шырма Рыгор *126*
Шэклі Робэрт *158*
Шэрман Карлас *296—297, 342—343*
Шэфы *199*

## Э

Эка Ўмбэрта *322*
Энгельс Фрыдрых *103*
Эпштэйны *199*
Эразм Ратэрдамскі *31, 168*
Эсхіл *16*
Эўрыпід *332*

## Ю

Ювэнал *30*
Юхан III *312*
Юхансан Тамара *159*

## Я

Явар Сьвятлана *276*
Ягайла *24, 27, 50, 53, 293*
Ягайлавічы (Ягелёны) *94*
Якаўлеў Іван *315*
Якаўлеў Якуб *92—93*
Якімовіч Алесь *333*
Ямант Марыя *319*
Ян з Мастоў *55*
Яндарбіеў Зэлімхан *246*
Янка *109—111*
Яраславічы *363*
Ясенін Сяргей *225*
Ясінскі Якуб *72*

# Пра аўтара

Уладзімер Арлоў нарадзіўся ў Полацку ў год Зьмяі паводле ўсходняга календара і ў год сьмерці Сталіна паводле календара савецкага. У дзяцінстве марыў стаць дзяўчынкай, потым — вадалазам, патолягаанатамам, журналістам, шпіёнам. Вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, якому ўдзячны не за атрыманыя веды зь беларускай мінуўшчыны, а за разуменьне таго, што якраз гэтых ведаў студэнтам там і не давалі.
Першыя творы надрукаваў у студэнцкіх самвыдавецкіх альманахах «Блакітны ліхтар» і «Мілавіца», пасьля чаго мусіў пазнаёміцца зь літаратуразнаўцамі ў цывільным. Працаваў настаўнікам, журналістам, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», адкуль у 1997 годзе быў звольнены «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы».
Дэбютны празаічны зборнік «Добры дзень, мая Шыпшына» выдаў у 1986-м, пасьля чаго выйшлі яшчэ трыццаць кнігаў прозы, эсэістыкі й паэзіі, у тым ліку «Таямніцы полацкай гісторыі», «Адкуль наш род», «Ордэн Белай Мышы», «Час чумы», «Каханак яе вялікасьці», «Сланы Ганібала», «Адкусі галаву вароне», «Фаўна сноў», «Імёны Свабоды», «Краіна Беларусь», «Паром праз Ля-Манш».
Ляўрэат міжнароднай прэміі «Эўрапейскі паэт свабоды» (Гданьск, 2010).
Марыць, каб ягонае эсэ «Незалежнасьць — гэта...», напісанае ў 1990 годзе і перакладзенае больш чым на дваццаць моваў, нарэшце страціла актуальнасьць.

# Summary

*As the Arrow Flies* is a collection of Uładzimier Arłoŭ's responses to 100 questions posed to him by sundry compatriots during his travels across Belarus — in library and university halls, under open skies, in private apartments. All touch upon the country's past, present and future — and mine the author's vast reserves of knowledge as a historian while denying none of his lively wit and lapidary poetic insights.

Uładzimier Arłoŭ is one of Belarus' most popular contemporary writers, whose oeuvre of some 30 volumes of prose and poetry has been translated into more than 20 languages and awarded numerous prizes, including the "European poet of Freedom" award in 2010.

A teacher, journalist and editor, in 1997 Arłoŭ was fired as editor in the state-run "Mastackaja Litaratura" publishing house for "publishing works of historical and other dubious merit". He lives in Minsk.

"Liberty Library" is a repository of selected programs produced by RFE/RL's Belarus service.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў
клясыка беларускай
літаратуры ў этэры
Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.